ШАРЛЬ ДЭ КОСТЭР

# ТЫЛЬ УЛЕНШПІГЕЛЬ



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА пры СНК БССР
РЭДАКЦЫЯ ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ
МІНСК — 1940



ЧАСТКА ПЕРШАЯ

# МАЛАДЫЯ ГАДЫ УЛЕНШПІГЕЛЯ

# Раздзел 1. Аб тым, як нарадзіўся Уленшпігель

Шмат гадоў таму назад у горадзе Даме, у Фландрыі нарадзіўся Уленшпігель.

Ужо канчалася ноч, і золак займаўся над зямлёю. Ластаўкі з крыкам лёталі ў паветры. Узыходзіла сонца.

Вугальшчык Клаас узяў нованароджанага на рукі і адчыніў акно.

— Сынок мой,—сказаў ён Уленшпігелю,—паглядзі, ужо сонца ўстае над зямлёй фландрскай. Будзь такім-жа добрым, як гэта сонца: яно дае нам святло і грэе нас сваімі праменнямі.

— Клаас, мужанёк мой,—сказала Саоткін,—што ты чытаеш пропаведзь глухому? Лепш я дам яму малака.

І яна пачала карміць свайго сына.

— Пра што ты задумалася, жонка?—спытаў Клаас.— Чаму ты такая сумная?

— Цяжка нам будзе з хлапчуком,—адказала Саоткін. У нашым-жа кашальку даўно не было ні патара.

Клаас зняў з сцяны кашалёк і адкрыў яго. Але кашалёк быў пусты з даўніх часоў.

— Не бяда, што ў нас няма грошай,—сказаў вугальшчык.—Зазірні-тка ў куфар, хіба там няма пірага, які ўчора прынесла суседка Катліна? А гэты кавалак мяса? Яго хопіць нам дні на тры. А гэты мех бобу, што ляжыць у кутку,—голад ён нам абяцае, ці што? А гэты збан з маслам,—не сасніў-жа я яго, сапраўды. А гэтыя яблыкі, што выстраіліся па тузіну ў рад,—можа быць, яны таксама мне прысніліся? А бачонак піўца з Бругеѕ. О-го-го! Мы яшчэ не такія бедныя.

— Калі мы панясем дзіця хрысціць,—сказала Саоткін,— трэба будзе падрыхтаваць два патары, свяшчэнніку, ды яшчэ фларын на пірушку.

— Папрабую вывудзіць гэтыя грошы з канала,—сказаў Клаас і, узяўшы з сабою вуды і нерат, вышаў на вуліцу.

Прабіла шэсць гадзін раніцы. На вуліцы не было ні душы. Клаас падышоў к каналу і закінуў нерат.

На другім беразе канала спаў таўсты чырвоношчокі хлопчык. На ім была прыгожая куртка і новыя боты. Пачуўшы крокі, хлопчык прабудзіўся і ўтаропіўся на Клааса спалоханымі вачыма. Мусіць, ён падумаў, што гэта стражнік, які зараз схопіць яго і адвядзе ў турму, быццам якога-небудзь валацужку.

— Хочаш атрымаць шэсць ліяраў?—крыкнуў яму Клаас.—Гані рыбу сюды!

Хлопчык усхапіўся на ногі, сарваў трысціну з пушыстай мяцёлкай наверсе і пачаў біць ёю па вадзе. Напалоханая рыба кінулася проста ў расстаўленую сецъ.

Клаас перайшоў па мастках на другі бераг і сказаў хлопчыку:—Я-ж ведаю, што цябе завуць Ламе, а мянушка твая Гудзак, што азначае Мех Дабра. Жывеш ты на вуліцы Цаплі, за саборам богамацеры. Бацькі ў цябе— людзі багатыя. Як-жа гэта здарылася, што ты начуеш на вуліцы пад адкрытым небам?

— Ах, пан вугальшчык,—адказаў хлопчык,—дома мяне крыўдзіць малодшая сястрычка. Учора на вячэру нам далі мяса з бобам і з падліўкай. Я схапіў міску і жвава ўзяўся за яду. Сястрычка таксама захацела падліўкі, а мне-ж і аднаму было мала. Я нічога ёй не даў. Яна накінулася на мяне і такога дала мне чосу, што я ледзь жывы застаўся.

— А што-ж бацька з маткаю глядзелі?—спытаў Клаас.

— Бацька сказаў: «Дай ёй назад, баязлівец!» Але я не захацеў біцца з дзяўчынкай і ўцёк.

Раптам Ламе збляднеў і задрыжэў ад страху. К берагу ішла якаясьці высокая жанчына, а следам за ёй бегла хударлявая дзяўчынка з панурым, злосным тварам.

Ламе захныкаў, трымаючыся за штаны Клааса.

Гэта маці з сястрычкай шукаюць мяне. Абараніце мяне, пан вугальшчык.

— Спачатку атрымай свае шэсць ліяраў за работу,— сказаў Клаас.—А цяпер пойдзем да іх насустрач.

Як толькі маці і сястра ўбачылі Ламе, яны кінуліся да яго і пачалі біць яго. Маці біла яго за тое, што ён прымусіў яе непакоіцца ўсю ноч, а сястра лупцавала па прывычцы.

— Я зарабіў шэсць ліяраў!—закрычаў Ламе.—Не чапайце мяне! Я зарабіў шэсць ліяраў!

Тады дзяўчынка схапіла яго за руку і пачала адбіраць грошы.

— Пайшла прэч! Гэта мае грошы!—закрычаў Ламе і яшчэ мацней сціснуў кулак.

Клаас схапіў дзяўчынку за вуха.

— Калі ты будзеш крыўдзіць брата,—сказаў ён ёй,—я пасаджу цябе ў чорную вугальную яму. Там жыве страшны зубасты чорт. Ён разарве цябе на кавалачкі.

Клаас па дарозе дадому зайшоў да знаёмага фермера, які звычайна купляў у яго рыбу, і прадаў яму свой ранішні ўлоў. Вярнуўшыся дадому, ён сказаў Саоткін:

— Вось што я знайшоў у бруху ў чатырох шчупакоў, дзевяці карпаў і тузіна вугроў.

І ён кінуў на стол два фларыны і патар.

— Чаму-б табе кожны дзень не лавіць рыбу?—сказала Саоткін.

— Баюся, што сам траплю на вудачку да стражнікаў,— адказваў Клаас.—Хіба ты не ведаеш, што лавіць рыбу ў канале забаронена?

---

Уленшпігеля панеслі хрысціць.

Раптам лінуў дождж. Уленшпігель змок да ніткі. Так Уленшпігель быў хрышчон у першы раз.

Прышлі ў царкву. Пасталі навокал купелі. А наверсе над купеллю, пад самым купалам царквы працаваў у гэты час каменшчык. Ён падвешваў да скляпення пазалочаную лампаду. Убачыўшы людзей, якія стаялі навокал купелі,

вясёлы каменшчык парашыў пажартаваць з іх і выплеснуў ім на галовы цэлае вядро вады. Так Уленшпігель быў хрышчоны ў другі раз.

Нарэшце прышоў свяшчэннік. Ён ўзяў хлопчыка ў рукі і распачаў хрышчэнне. Уленшпігель крычаў і курчыўся ў яго руках. Свяшчэннік даў яму імя «Тыльберт», што значыць «рухавы», «бойкі». Так Уленшпігель быў хрышчоны ў трэці раз.

Пасля хрышчэння ўсе пайшлі ў шынок «Бутэлечныя Чоткі». Над уваходам у шынок былі падвешаны незвычайныя чоткі—не з пацерак, а з бутэлек. Тут Клаас і яго госці выпілі семнаццаць кубкаў самага лепшага піва. Бо такі-ж фламандскі звычай: каб высахнуць і нагрэцца пасля дажджу, запальваюць у бруху піўное полымя. Так Уленшпігель быў хрышчоны ў чацверты раз.

Пайшлі дадому навесяле. Трэба было перайсці па мастках праз вялікую лужыну. Суседка Катліна, якая несла Уленшпігеля, паслізнулася і разам з дзіцем павалілася ў ваду. Так Уленшпігель быў хрышчоны ў пяты раз.

Уленшпігеля выцягнулі з лужыны і вымылі дома цёплай вадой. Гэта была яго шостае хрышчэнне.

---

## Раздзел 2. Аб штукарствах малога Уленшпігеля

Клаас цэлымі днямі вазіўся з вугалем і таму быў чорны, быццам арап. Гэта быў чалавек невялікага росту, шыракаплечы і дужы. З усімі быў ён ласкавы і ветлівы. Усмешка не зыходзіла з яго чорнага твара.

Увечары, пасля работы, любіў ён зайсці ў які-небудзь шынок, каб прапаласкаць піўцом сваё горла, засмечанае вугальным пылам. Дзяўчаты, сустракаючы яго па дарозе, крычалі:

— Добры вечар, вугальшчык!

— Добры вечар, свавольніцы!—адказваў Клаас, усміхаючыся. Дзеці здалёк пазнавалі яго па гучнаму голасу і стуку чаравікаў і цэлым натоўпам выскоквалі яму насустрач.

— Добры вечар, вугальшчык!—крычалі яны.

— Добры вечар, анёлачкі!—казаў ён. Толькі не падыходзьце да мяне, а то зробіцеся арапчатамі.

Але малышоў не так-та лёгка было напалохаць. Смеючыся, яны падбягалі да яго і тузалі яго за рукавы. Тады Клаас хапаў аднаго з іх, праводзіў сваёй чорнай рукой па яго ружовай шчацэ і адпускаў. Малыш уцякаў увесь перапэцканы, і ўсе навокал рагаталі.

Саоткін, жонка Клааса, была прыкладная гаспадыня. Яна ўставала разам з сонцам і цэлы дзень клапатала, нібы мурашка.

Яна дапамагала мужу ва ўсім. Увесну яны ўдваіх упрагаліся ў плуг і цягнулі яго па полі, быццам валы. Цяжка было цягнуць плуг, але барана была яшчэ цяжэйшая. Яе драўляныя зубы ледзь разбівалі цвёрдую зямлю. Але Клаас і Саоткін не сумавалі. Яны старанна працавалі, спяваючы якую-небудзь старадаўнюю баладу.

Так праходзілі гады. Уленшпігель, іх сынок, пачаў падрастаць. Калі яму мінула дзевяць гадоў, ён пачаў знікаць з дому.

— Паслухай, муж,—сказала аднойчы Саоткін Клаасу,— цяжка ў мяне на душы сёння. Ужо тры дні, як Тыль знік з дому. Дзе ён цяпер?

— Швэндаецца дзе-небудзь па дарозе з рознымі гультаямі,—з сумам адказваў Клаас.—Пакараў нас бог гэтым дзіцем. Я думаў, што ён будзе ўцехай нам пад старасць, а ён пра нас і не дбае.

— Чаго патрабаваць ад дзіцяці!—сказала Саоткін.— Вырасце—набярэцца розуму. Затое-ж сэрца ў яго добрае, і ён нас любіць.

Клаас паківаў галавой, але не сказаў ані слова. Саоткін плакала праз усю ноч. Пад раніцу ёй ужо пачало здавацца, што Уленшпігель захварэў і валяецца без памяці дзе-небудзь пад плотам. Яна села ля акна і пачала глядзець на вуліцу. Варта было прабегчы якому-небудзь хлопчыку— і яе сэрца пачынала моцна калаціцца. Але хлопчык прабягаў міма—гэта быў не Уленшпігель,—і зноў плакала засмучоная Саоткін.

А Уленшпігель у гэты час бегаў са сваімі прыяцелямі па рынку ў Брюге. Там кожную суботу быў кірмаш.

На кірмашы тоўпілася шмат людзей: шаўцы, птушкаловы з Антверпена, сабачнікі з жалезнымі кручкамі ў руках, кашатнікі з каціны мі скуркамі для пальчатак, гаражане, гаражанкі, кухары, кухарыхі... Велізарны натоўп галдзеў, шумеў, спрачаўся. Адны хвалілі свой тавар, другія ганілі яго і стараліся купіць, як мага танней.

На краі рынка стаяла прыгожая палатка. Перад ува-

ходам у палатку сядзеў здаровы маладзец, які за адзін патар паказваў народу ключыцу святой Марыі Егіпецкай. Ён запэўніваў, што гэтую ключыцу прынёс яму голуб, які злётаў па яго просьбе на магілу святой падвіжніцы і знайшоў там гэтую надзвычай каштоўную рэліквію. За спіною ў малайца стаялі два манахі і ківалі галавой у адзнаку таго, што ён гаворыць самую чыстую праўду.

Тут-жа стаяла гаспадыня завядзення—таўстая рыжая жанчына—і з усіх сіл дзьмула ў ахрыплую жалейку. Жалейцы падпявала звонкім галаском прыгожая дзяўчынка, але яе ніхто не слухаў. Над уваходам у палатку на жэрдцы вісела вялікае вядро з вадой. Гаспадыня запэўнівала, што гэта цудадзейная вада, асвечаная самім папам. Манахі важна ківалі галавой ў адзнаку таго, што ўсё гэта — чысцюткая праўда. Вядро ціха калыхалася з боку ў бок. Уленшпігель паглядзеў на яго і задумаўся.



Палатка трымалася на чатырох жэрдках. Да адной з гэтых жэрдак быў прывязан худы асёл. Ён стаяў панура і павольна пераж оўваў жорсткую салому. Відаць, даўно ўжо ў яго не было ў роце нічога лепшага.

— Рэбяты,—сказаў Уленшпігель сваім прыяцелям,—гаспадары пяюць так хораша; чаму-ж шэры не танцуе?

Тут Уленшпігель пабег у краму, купіў на шэсць ліяраў перцу і падсыпаў аслу ў корм.

Паспытаўшы перцу, асёл зароў, пачаў брыкацца ва ўсе бакі і з усёй сілы пацягнуў вяроўку. Шост, да якога ён быў прывязаны, пахіснуўся, вядро перакулілася і абдало бага-

мольцаў цудадзейнай вадой. Палатка павалілася. Уленшпігель з сваімі сябрамі падбег бліжэй. З-пад мокрай парусіны даносілася лютая лаянка... Багамольныя ханжы барахталіся на зямлі, лаяліся і тузалі адзін аднаго.

Напалоханы крыкамі асёл кінуўся бегчы і пацягнуў палатку за сабою. Манахі вылезлі з-пад парусіны і пачалі збіраць рассыпаныя грошы. Уленшпігель дапамагаў ім, і, вядома, не без карысці для самога сябе.

Ледзь не кожны дзень ён прыдумляў для сябе новыя забавы. Дадому ён заглядваў рэдка.

Толькі ўвесну ўдалося, нарэшце, прыстроіць яго да справы.

Вясна ў тым годзе выдалася цудоўная. Паўсюды цвіў баярышнік. У садзе пахлі ружы і язмен. І пчолы, збіраючы кветкавы мёд, пачыналі дружна роіцца. Усюды рыхтавалі для іх новыя вуллі.

Вуллі рабілі з сітняку, з саломы, з лазовых дубцоў, з дрэва. Карзіншчыкі, плотнікі, бачары працавалі дзень і ноч, не спыняючыся.

Гэтай вясны соты былі да таго добрыя і пахучыя, што канонік горада Даме паслаў іх у падарунак самому імператару Карлу. Карл паласаваўся мёдам, але, прыняўшы падарунак, не зрабіўся ад гэтага міласцівейшым і дабрэйшым.

Клаас, як і ўсе іншыя жыхары Даме, таксама нарабіў сабе вулляў. Адны з іх былі ўжо поўныя, а другія яшчэ чакалі крылатых жыхароў. Цэлыя ночы Клаас праводзіў на сваім пчэльніку: аберагаў ад валацуг сваё салодкае багацце. А калі вочы ў яго пачыналі зліпацца, ён клікаў на падмогу сына. І тады заставаўся вартаваць Уленшпігель.

У адну з такіх начэй Уленшпігель вельмі змёрз і залез пагрэцца ў пусты вулей. Скурчыўшыся там, ён глядзеў праз шчыліны на двор. Сон ужо пачынаў адольваць яго. Раптам ён пачуў нейчыя галасы. Уленшпігель паглядзеў у шчылінку і ўбачыў двух валацуг. Абое былі з доўгімі валасамі і з барадамі. Бароды ў той час насілі толькі адны дваране.



Валацугі пераходзілі ад вулля да вулля, выбіраючы самы вялікі і цяжкі. Нарэшце, яны дабраліся да таго, у якім сядзеў Уленшпігель.

— Ого, які цяжкі!—сказалі яны, прыпадымаючы вулей.—Вось гэта мы і захопім з сабой. У ім мёду многа.

Валацугі падчапілі вулей двума палкамі і панеслі.

Уленшпігель сядзеў, затоіўшы дыханне. Спачатку зладзеі ішлі моўчкі. Праз кожныя пяцьдзесят крокаў яны спыняліся, каб крыху адпачыць. Той, што ішоў наперадзе, пачаў голасна лаяцца: ноша была занадта цяжкая. А задні, відаць, быў плаксівы: ён толькі хныкаў ды скардзіўся.

Раптам Уленшпігель высунуў рукі з вулля, схапіў пярэдняга злодзея за валасы, а задняга за бараду.

— Ці пакінеш ты тузаць мяне за валасы?—закрычаў злосны злодзей плаксіваму. Я так стукну цябе па мазгаўні, што яна ўціснецца табе ў грудную клетку і ты будзеш глядзець праз уласныя рэбры, нібы злодзей праз турэмныя краты.

— Гэта ты мяне тузаеш за бараду, а не я цябе,—адказваў плаксівы.

— Ну, буду я тузаць цябе за тваю паршывую барадзёнку!

Так яны ішлі і сварыліся, а Уленшпігель у гэты час пакрыху разгойдваў вулей.

— Ой, не калышы вулей, мне не ўтрымаць яго,—закрычаў плаксівы.

— Гэта не я калышу, а ты,—сказаў злосны.—Зараз я цябе правучу, нягоднік!

Ён апусціў вулей на зямлю і кінуўся на свайго таварыша. Пакуль яны біліся, Уленшпігель вылез з вулля і пад шумок зацягнуў яго ў кусты. Потым ён добра зазначыў месца, дзе схаваў вулей, і шчасліва вярнуўся дадому.

Калі Уленшпігелю споўнілася пятнаццаць год, ён паставіў на плошчы маленькую палатку, залез у яе і пачаў заклікаць да сябе наведвальнікаў.

— Панове добрыя, заходзьце, калі ласка, да мяне!—спяваў Уленшпігель.—Я пакажу вам у плеценай раме ваша ўласнае аблічча, сучаснае і будучае. Вы ўбачыце яго так-жа выразна, як у люстэрку.

Важна выступаючы, падыходзіў да яго просты, як палка, надзьмуты і фанабэрысты гарадскі суддзя. Уленшпігель выстаўляў з рамы сваю галаву, рабіў грымасу малпы і казаў:

— Старая морда, вось да чаго ты падобна. Не відаць табе светлых дзён, хутка будзеш яшчэ страшнейшы. Ну, што, як вам спадабаўся ваш партрэт, пане доктар?

Потым падыходзіў здаравяка-салдат. Уленшпігель хаваўся і паказваў у раме кавалак ялавічыны.

— У бой пойдзеш—ні за грош загінеш,—прыгаварваў Уленшпігель.—Плаці за прадказанне, дубіна.

Падыходзіў заплыўшы тлушчам манах і таксама прасіў паказаць яму яго аблічча, цяперашняе і будучае.

— Зараз ты—мех з віндлінай,—адказваў Уленшпігель.—А калі ты вып'еш, ты ператворышся ў піўную бо-

чку. Ну, што, хіба-ж гэта не праўда, пузан?—Давай па-тар за прадказанне.

Так Уленшпігель пацяшаўся з шаноўных грамадзян Даме, Бруге, Бланкенберга і нават Остэндэ. Ён рабіў ім грымасы і прыгаварваў: «Ік бен улен шпігель!» (што значыць: «Я ваша люстэрка»).

З той пары і празвалі яго Уленшпігель.

---

## Раздзел 3. Аб тым, як нарадзіўся Філіп, кароль іспанскі

У тым-жа годзе, калі з'явіўся на свет Уленшпігель, у яго свяцейшай вялікасці імператара Карла Пятага нарадзіўся сын, дон Філіп, будучы кароль іспанскі.

У адзнаку нараджэння інфанта імператар таксама парашыў павудзіць рыбку, толькі не ў канале, як гэта рабіў вугальшчык Клаас, а ў кашальках у сваіх падданых. З гэтых кашалькоў каралеўскія вудачкі выцягваюць рыбак, якія называюцца «чырвонцы», «крузаты», «фларыны», і ўсе гэтыя рыбкі могуць, па жаданню рыбака, ператварацца ў аксамітныя сукенкі, каштоўныя камені, найлепшыя віны, тонкія стравы.

Імператар склікаў сваіх дарадцаў. Яны абмеркавалі, як лепей правесці гэтую рыбную лоўлю і адсвяткаваць нараджэнне інфанта.

Увечары яго высокасць інфанта панясуць хрысціць. Грамадзяне Вальядаліды ўсю ноч будуць за свой кошт піраваць на Вялікай плошчы і кідаць грошы ў натоўп беднякам. Гэта збавіць яго вялікасць ад неабходнасці раздаваць свае ўласныя грошы.

На пяці скрыжаваннях горада пяць вялікіх фантанаў будуць выкідваць струмені віна—за кошт горада. На іншых пяці скрыжаваннях на спецыяльных памостах будуць выстаўлены для ўсіх жадаючых тлустыя шынкі, каўбасы, копчаныя і вараныя, адменныя сасіскі, патрахі, бычыныя языкі і іншыя пачастункі—таксама за кошт горада.

Грамадзяне Вальядаліды на свае-ж грошы збудуюць некалькі трыумфальных арак, якія будуць славіць багацце і ваенную магутнасць яго вялікасці.

Для асвятлення царквы ў час маючай адбыцца цырамоніі свечнай гільдзіі быў дан усеміласцівейшы дазвол прынесці ў падарунак дваццаць з лішкам тысяч свечак, прычым агаркі гэтых свечак павінны былі застацца ў каралеўскай царкве.

І вось, нарэшце, адбылося хрышчэнне прынца. Прыдворныя дамы і кавалеры засыпалі нованароджанага падарункамі і пажаданнямі.

Пані дэ-ля-Кона павесіла яму на шыйку чорны каменьчык у залатой аправе. Гэты каменьчык павінен быў захаваць дзіця ад атруты. Пані дэ-Шафад абвязала яго жывот шоўкавай нітачкай і прывесіла да яе арэшак—для добрага страваварэння. Пан ван-дэр-Стын з Фландрыі паднёс яму генцкую каўбасу даўжынёю ў пяць лакцей і таўшчынёй у поўлокця. Гэтым падарункам пан ван-дэн-Стын хацеў заранiць у сэрца дзіцяці любоў да слаўнага горада Гента. Пан канюшы Жак Крыстоф Кастыльскі падарыў нованароджанаму пантофелькі, вышываныя зялёнай яшмай. Ёсць павер'е, што той, хто носіць абутак, аздоблены яшмай, бегае шпарка і лёгка.

Пры гэтым прысутнічаў Ян дэ-Паапе, каралеўскі камедыянт.

— Судар,—сказаў ён канюшаму,—яго высокасці няма патрэбы шпарка бегаць, ён павінен прымушаць уцякаць іншых.

А дзіця, акружанае ўсімі гэтымі падарункамі, раўло, як цялё.

Ішлі гады. Дзіця пачало падрастаць. Прыдворныя з страхам назіралі, як цяжка перасоўвае ён на няўстойлівых нагах сваё кволае цела з агідна вялікай галавой, віхрастай і белабрысай.

Больш за ўсё любіў ён забірацца ў які-небудзь цёмны карыдор і сядзець там у кутку, выцягнуўшы ногі. Так сядзеў ён цэлымі гадзінамі і чакаў, каб аб яго ногі спатыкнуўся хто-небудзь з слуг. Слугу за гэта лупцавалі, а прынц радаваўся, слухаючы яго крыкі і стогны. Але ён не смяяўся.

На наступны дзень ён садзіўся ў новым месцы і зноў падпільноўваў неасцярожных. Прыдворныя дамы, кавалеры, пажы, прабягаючы ўпоцемку, падалі і біліся. Гэта прыносіла прынцу прыемнасць, але ён не смяяўся.

А калі хто-небудзь спатыкаўся аб яго ногі і не падаў, Філіп вішчэў нібы ад болю—толькі для таго, каб напалохаць прыдворнага, які заваронiўся. Але ён не смяяўся.

Выхавальнікі прынца далажылі яго свяцейшай вялікасці пра дзіўныя забавы хлопчыка.

— Не звяртайце на яго ўвагі,—сказаў імператар.—Калі інфант хоча, каб яму наступалі на ногі,—гэта яго справа.

Філіпу не спадабаўся адказ імператара, але ён нічога не сказаў. З таго часу ён перастаў паказвацца людзям. Толькі зрэдку, у гарачыя летнія дні, выпаўзаў ён грэць на сонца сваё кволае цела.

— Сын мой,—казаў яму імператар,—ты зусім непадобен да мяне. У твае гады я ўзлазіў на дрэвы і ганяў вавёрак, я спушчаўся на вяроўцы з высокай скалы, каб дастаць з гнязда маленькіх арлянят. На паляванні драпежныя звяры ўцякалі прэч, убачыўшы мяне з добрым аркебузам у руках.

— Ах, у мяне баліць жывот, гасудар,—адказваў інфант.

— Добрае старое віно—лепшае лякарства для страўніка,—казаў Карл.

— Я не люблю віна, у мяне ад яго галава баліць, гасудар.

— Сын мой, ты павінен бегаць, скакаць, лазіць, як усе іншыя хлопчыкі

— У мяне ломіць ногі, гасудар.

— Іх таму ломіць,—адказваў Карл,—што ты цэлымі днямі сядзіш на месцы. Я загадаю прывязаць цябе да каня, каб прымусіць цябе выязджаць на прагулку.

Інфант пачынаў плакаць.

— О, не прывязвайце мяне,—у мяне баляць бёдры.

— Няўжо няма ў цябе ніводнага месца, якое-б не балела?

— Я папраўлюся, калі мяне пакінуць у супакоі.

— Ты, відаць, вырашыў усё сваё каралеўскае жыццё прасядзець не рухаючыся,—казаў разззлаваны імператар.—

У цябе павінна быць вогненная кроў, позірк рысі, хітрасць ліса, сіла Геркулеса. Што ты ўсё хрысцішся? Хіба прыстойна львёнку пераймаць ад старых баб, якія з рання да вечара мармычуць свае малітвы.

— Час ужо да вячэрні, гасудар,—адказваў інфант.

Аднойчы, вярнуўшыся з пахода, імператар заўважыў, што Філіп не вышаў да яго насустрач.

— Дзе мой сын?—спытаў імператар.—Чаму ён не сустракае мяне?

Архіепіскап, выхавальнік інфанта, не ведаў, што адказаць. Пайшлі шукаць прынца. Прайшлі доўгі рад пакояў, але яго нідзе не было. Нарэшце наткнуліся на якуюсьці каморку без падлогі, з адным слухавым акенцам пад самым дахам. Пасярод каморкі быў укапаны слуп, а да слупа была падвешана малпачка, прысланая з Індыі для ўцехі яго вялікасці. Ля яе ног дымілася яшчэ тлеючае галлё, і ў каморцы стаяў агідны пах паленай шэрсці.

Звярок так пакутаваў, здыхаючы ў агні, што яго скурчанае цельца было непадобна само на сябе. Яно цяпер нагадвала нейкі цёмны зморшчаны карэньчык. Яго рот, быццам застыглы ў прадсмяротным крыку, быў пакрыты крывавай пенай; па мордачцы каціліся буйныя слёзы.

— Хто гэта зрабіў?—спытаў імператар.

Выхавальнік ад страху не мог сказаць ні слова. Запанавала маўчанне.

Раптам з цёмнага кутка даляцеў да іх нейчы ціхі кашаль. Імператар павярнуўся і ўбачыў інфанта. Філіп быў у чорным адзенні. Ён смактаў лімон.

— Дон Філіп,—сказаў імператар,—падыйдзі і павітайся са мною.

Інфант не кратаючыся глядзеў на бацьку спалоханымі вачыма.

— Гэта ты спаліў звярка?—спытаў імператар.

Інфант схіліў галаву.

— Калі ты быў такім лютым, каб гэта зрабіць,—сказаў імператар,—будзь досыць мужным, каб прызнацца ў сваім учынку.

Філіп не адказаў ні слова.

Тады імператар вырваў лімон з рук інфанта і хацеў выцяць сына. Але архіепіскап спыніў яго вялікасць і шапнуў яму на вуха:

— Яго высокасць калі-небудзь уславіць сваё імя спальваннем ерэтыкаў.

Імператар усміхнуўся, і абодва вышлі, пакінуўшы інфанта з яго малпай.

---

## Раздзел 4. Аб тым, якія бедствы наваліліся на няшчасную Фландрыю

У гэтыя дні слаўны горад Гент адмовіўся плаціць новы падатак, устаноўлены імператарам Карлам. Горад не мог выканаць каралеўскую волю, бо быў ужо спустошаны шматлікімі падаткамі. І Карл вырашыў уласнай рукой пакараць непаслухмяны горад.

З чатырма тысячамі коннікаў з'явіўся ён пад сценамі Гента. Просты народ і рамеснікі не хацелі здаваць без бою свой родны горад і вырашылі выставіць супроць імператара цэлае войска ў восемдзесят тысяч чалавек. Але купцы перапалохаліся, што ў выпадку перамогі просты народ забярэ горад у свае рукі, і не дапусцілі бітвы.

Імператар Карл авалодаў Гентам.

Усюды была расстаўлена каралеўская варта. Дазоры ўсю ноч абыходзілі горад. Раніцой імператар Карл абвясціў свой прысуд.

Горад быў абвешчан вінаватым у мецяжы, непакорнасці, здрадзе і абразе яго вялікасці. Усе знатныя грамадзяне павінны былі з'явіцца з вяроўкай на шыі перад імператарам і заплаціць яму за сябе велізарны выкуп. Імператар зруйнаваў Сен-Бавонскае абацтва і пабудаваў на яго месцы крэпасць. У выпадку патрэбы ён мог з гэтай крэпасці бамбардыраваць горад у любую хвіліну. Але горад быў вельмі добра ўмацаваны. І вось імператар загадаў знесці ўсе яго ўмацаванні—Чырвоную Вежу, Жаб'ю Нару, вароты Брампаорт, Стынпаорт, Ваалпаорт, Кетэльпаорт і шмат якія іншыя прыгожыя пабудовы.

Калі пасля гэтага ў горад прыязджалі іншакраінцы, яны са здзіўленнем казалі грамадзянам:

— Нас запэўнівалі, што гэты горад надзвычай прыгожы і маляўнічы. На самой справе ён зусім не лепшы за іншыя гарады.

Генцкія грамадзяне адказвалі:

— Імператар Карл зняў з горада яго каштоўны пояс.

І яны дрыжэлі ад сораму і гневу, калі вымаўлялі гэтыя словы.

Карл хацеў спустошыць горад так, каб ён болей ніколі не здолеў аправіцца пасля свайго паражэння. На горад быў накладзен вялікі падатак у чатырыста тысяч фларынаў і, апрача таго, яшчэ другі—у сто пяцьдзесят тысяч. У старыя часы Гент некалькі разоў пазычаў імператару вялікія сумы грошай. Цяпер Карл загадаў вярнуць яму пазыковыя граматы і адмовіўся плаціць даўгі.

І, нарэшце, увагу імператара прывабіў «Раланд», надзвычай прыгожы звон, які вісеў на саборнай вежы. Кожны раз, калі Генту пагражала якая-небудзь небяспека, званар падымаўся на вежу і пачынаў біць у набат. Генцкія грамадзяне, пачуўшы Раланда, спяшаліся на плошчу, каб абараніць свой родны горад.

Так было і на гэты раз. Калі Карл з'явіўся з сваім войскам пад сценамі горада, званар пачаў біць у набат. За гэта Карл, увайшоўшы ў Гент, загадаў павесіць няшчаснага званара на языку звона. У апошні раз гудзеў горды Раланд. Не злітаваўся над ім імператар; ён вырашыў, што занадта голасна гаворыць яго язык. Звон знялі.

Гент памёр у тую самую гадзіну, калі імператар Карл вырваў у яго язык жалезнымі абцугамі,—казалі генцкія грамадзяне.

Хутка яшчэ большая бяда здарылася з Фландрыяй.

Аднойчы Саоткін убачыла, што Клаас ходзіць па кухні пануры і засмучаны.

— Чым ты засмучоны, мужанёк?—запытала яна.—Пра што ты так задумаўся?

— Цяжкія часы надыходзяць,—панура сказаў Клаас.— Зноў па горадзе пачынаюць рыскаць даносчыкі. Хапаюць

без разбору і вінаватага і невінаватага. Бо за кожнага ж абвінавачанага даносчык атрымлівае палову яго маёмасці, калі яна каштуе не больш за сто фларынаў.

— На нас не данясуць. Мы—бедныя,—сказала Саоткін.

— Не такія ўжо бедныя,—адказаў Клаас. Знойдуцца зладзюгі, якія з ахвотай нагавораць на нас, каб падзяліць з яго сьвяцейшай вялікасцю гэты мех вугалю, як быццам не вугалем ён напакаваны, а чыстым золатам. Успомні, што было ў няшчасная Танекін, удавы краўца Сейса, якую жыўцом закапалі ў зямлю? Лацінская біблія, тры фларыны ды крыху пасуды з англійскага волава, якая спадабалася яе суседцы. Іоану Мартэнс кінулі ў ваду, каб даведацца, ведзьма яна, ці не. Іоана не ўтапілася, і ў гэтым было адзінае яе злачынства. Вырашылі, што яна ведзьма, і спалілі яе на кастры. Пасля яе засталіся тры паламаныя крэслы і сем залатых, схаваных у панчосе. Даносчык хацеў атрымаць палову. О, так можна расказваць да заўтрашняга! Трэба выязджаць адгэтуль, жонка. Немагчыма стала жыць у Фландрыі.

— Не трэба мяне палохаць, мужанёк,—адказвала Саоткін.—Імператар—бацька Фландрыі і Брабанта. Ён не дапусціць несправядлівасці.

— Ты сама бачыш, як справядліва ён абышоўся з Гентам. Імператару невыгодна быць справядлівым. Ён пазбавіўся-б паловы маёмасці.

Раптам затрубіла труба і загрымелі цымбалы гарадскога герольда. Клаас і Саоткін вышлі на вуліцу.

Перад гарадской ратушай стаялі конныя герольды, якія трубілі ў трубы і білі ў цымбалы. Тут-жа сядзелі на конях профас з судзейскім жэзлам і гарадскі пракурор. Пракурор трымаў у руках імператарскі ўказ і рыхтаваўся прачытаць яго натоўпу.

І вось пачуў Клаас, што з гэтага часу ўсім наогул і кожнаму ў паасобку забараняецца друкаваць, чытаць і хаваць у сябе ўсе творы і кнігі Мартына Лютэра, Іоана Уікліфа, Яна Гуса, Ульрыха Цвінглі, Філіпа Меланхтона і шмат якія іншыя, бо яны напоўнены лютэравай ерассю і асуджаны ўсёй каталіцкай царквою.

Забараняецца таксама маляваць госпада бога, дзеву Марыю і святых угоднікаў у непадабаючым выглядзе. Роўным чынам забараняецца сціраць і разбіваць святыя вобразы, бо яны зроблены для ўслаўлення госпада бога і яго святых. Забаронена таксама разважаць пра свяшчэннае пісанне—усім, апрача вучоных багасловаў, зацверджаных святой каталіцкай царквою.

Западозраныя ў невыкананні гэтага закона пазбаўляюцца права займацца сумленным рамяством. Закаранелыя ерэтыкі будуць спальвацца на кастры. Іншым, калі яны дваране, будуць адсякацца галовы мечам; калі яны сяляне—павешаны; калі яны жанчыны—закапаны ў зямлю жывымі. Галовы пакараных будуць выстаўлены на слупе. Маёмасць пакараных ідзе ва ўласнасць імператара. Калі яна не перавышае сто фландрскіх чырвонцаў—палова яе пераходзіць даносчыку.

Клаас выслухаў гэты ўказ ад слова да слова і засмучаны пайшоў з плошчы разам з Саоткін.

## Раздзел 5. Аб тым, як Уленшпігель быў абвінавачаны ў ерасі і накіраваны ў Рым—прасіць у папы даравацць яму

А Уленшпігель між тым па-ранейшаму бяздзельнічаў. У канцы Саборнай вуліцы, каля сажалкі, стаялі, адна супроць адной, дзве высокія вярбы. У нядзелю Уленшпігель нацягнуў між іх канат і пачаў танцаваць на ім перад натоўпам народу. Натоўп ад няма-чаго рабіць глядзеў на танцора і смяяўся з яго жартаў. Пратанцаваўшы па канаце некалькі разоў, Уленшпігель злез на зямлю і пачаў абыходзіць гледачоў з талеркай у руках. Хутка талерка напоўнілася манетамі. Прышоўшы дамоў, Уленшпігель аддаў іх матцы, а сабе пакінуў толькі адзінаццаць ліяраў.

У наступную нядзелю Уленшпігель надумаў паўтарыць свой танец. Але ў яго знайшліся зайздроснікі—хлапчукі, якія самі былі не ад таго, каб зарабіць некалькі патараў. Яны залезлі на дрэва і надрэзалі канат. Як толькі Уленшпігель падскочыў два-тры разы,—канат трэснуў, і Уленшпігель зваліўся ў ваду.

На беразе падняўся рогат.

— Як ваша здароўе, пан Уленшпігель?—крычалі, здзекуючыся, хлапчукі.—Кажуць, у гэтай сажалцы многа карпаў. Ці не хочаце вы іх навучыць танцаваць на канаце?

Але Уленшпігель ужо вылазіў на бераг, і хлапчукі кінуліся хто куды.

— Чаго вы перапалохаліся!—закрычаў Уленшпігель.— Я нічога вам не зраблю. Прыходзьце сюды ў наступную нядзелю. Я пакажу вам новыя фокусы, а выручку мы падзелім пароўну.

У наступную нядзелю хлапчукі не толькі не надрэзалі канат, але, наадварот, самі сачылі за тым, каб хто-небудзь не сапсаваў яго.

— Хай кожны дасць мне па чаравіку,—сказаў Уленшпігель хлапчукам.—Магу пабіцца аб заклад, што ўсе вашы чаравікі заскачуць у мяне на канаце.

— Што ты ставіш?—спыталі хлапчукі.

— Сорак кубкаў піва,—сказаў Уленшпігель.—А калі я выйграю,—вы заплоціце мне тры патары.

— Добра,—сказалі хлапчукі і далі Уленшпігелю кожны па чаравіку.

Уленшпігель завязаў усе чаравікі ў фартух, залез з імі на канат і пачаў вытанцоўваць перад народам.

— Ты абяцаў, што чаравікі будуць танцаваць,—закрычалі знізу,—чаму-ж ты цягаеш іх у фартуху? Пастаў іх на канат, або плаці пройгрыш.

— Яны танцуюць у мяне ў фартуху,—адказваў Уленшпігель.—Я не абяцаў вам, што яны самі будуць скакаць па канаце. Ну, чаго ўтаропілі на мяне свае вочы? Плаціце мне тры патары.

— Аддавай чаравікі, падманшчык!—закрычалі хлапчукі.

— Атрымлівайце!—крыкнуў Уленшпігель і пачаў кідаць чаравікі ў натоўп. Хлапчукі кінуліся за сваім абуткам. Пачалася бойка, і ніхто не мог знайсці ўласных чаравікаў.

Так Уленшпігель адплаціў хлапчукам за іх учынак.

Хлапчукі моцна раззлаваліся на Уленшпігеля. Асабліва раззлаваўся адзін з іх, якому больш за ўсіх папала ў агульнай калатніне. Ён пагражаў адпомсціць Уленшпігелю. І ён сапраўды адпомсціў яму ў свой час.

У дзень памінання памёршых Уленшпігель разам з сваімі прыяцелямі вышаў з сабора богамацеры. З імі быў і той хлапчук, які ў час бойкі ля сажалкі пакляўся адпомсціць Уленшпігелю.

Прыяцелі накіраваліся ў шынок «Чырвоны Шчыт», дзе Ламе Гудзак абяцаў выставіць добры пачастунак. Ад

сваёй маткі ён атрымаў з прычыны свята тры патары, і вырашыў патраціць іх на добрае картрэйскае піва.

Выпіўка развесяліла ўсіх.

— Слаўны дзянёк!—сказаў Матысон, падмайстар.—Радуюцца і жывыя і мёртвыя.

— Жывыя, вядома, радуюцца: яны сядзяць за кубкамі. А мёртвым што за весялосць?—сказаў Уленшпігель.

— Па іх паніхіды служаць.

— Ёсць чаму радавацца!—засмяяўся Уленшпігель.— Вось папы ды манахі—тыя, сапраўды, задаволены: сёння перападзе ім нямала ўсякага дабра. А мёртвыя тут ні пры чым.

Навокал засмяяліся.

— Чаго смяецеся?—сказаў Уленшпігель.—Няўжо вы думаеце, ёлупы, што мерцвякі прыскокваюць на тым свеце, слухаючыя папоўскае выццё?

— Цішэй,—сказаў Матысон, азіраючыся.—Загубіць цябе твой доўгі язык.

Хлапчук, вораг Уленшпігеля, уважліва прыслухоўваўся да кожнага слова, але нічога не сказаў за ўвесь вечар.

Наступным днём Уленшпігеля схапілі і кінулі ў турму. Месяц і тры дні сядзеў ён за кратамі, галодны і адзінокі. Вартаўнік з'ядаў тры чвэрткі яго абеда.

А ў гэты час суддзі збіралі звесткі,—што за чалавек Уленшпігель, і якія чуткі пра яго ходзяць у народзе. Аказалася, што ён усяго толькі вясёлы свавольнік, што, праўда, ён не ад таго, каб пасмяяцца з людзей, але затое ніхто ніколі не чуў, каб ён ганьбіў госпада бога і яго свяцiцеляў. Таму і прысуд быў мяккі. Яму не наклалі на лоб кляйма напаленым жалезам, яго не пакаралі бізунамі.

Уленшпігеля прысудзілі ўсяго толькі да царкоўнага пакаяння. У час царкоўнага шэсця ён павінен быў ісці следам за папом,—босы, у адной кашулі, з запаленай свечкай у руках.

Гэта было на свята Ушэсця. Калі працэсія вярталася ў сабор, Уленшпігеля прымусілі спыніцца на прыступках і сказаць:

— Слава госпаду богу, слава панам свяшчэннікам! Малітвы іх сапраўды выратоўваюць бедных грэшнікаў, якія пакутуюць у агні пякельным. Бо кожнае „Ave"[1] ёсць вядро вады, якое выліваецца на іх спіны, а кожны „Pater"[2] цэлы цэбар.

Уленшпігель хоць і строіў цішком грымасы, але павінен быў вымавіць гэтыя словы голасна і выразна. Народ, пасмейваючыся слухаў яго пакаянную прамову.

— На Сёмуху гэтую цырамонію паўтаралі яшчэ раз.

Пасля гэтага Уленшпігеля выгналі з Фландрыі тэрмінам на тры гады. Юны грэшнік павінен быў накіравацца ў Рым і прынесці адтуль дараванне папы.

За гэты прысуд Клаас заплаціў суддзям тры фларыны ды адзін фларын даў Уленшпігелю на дарогу. Апрача таго, ён купіў яму паломніцкае адзенне—плашч з капюшонам і шырокаполы капялюш.

У дзень разлукі, абдымаючы сваіх бацькоў, якія плакалі, Уленшпігель быў засмучоны да глыбіні сэрца. Клаас і Саоткін праважалі яго далёка за горад, і разам з імі ішла яшчэ група суседзей, якія ведалі Уленшпігеля з дзіцячых год.

Быў у горадзе яшчэ адзін чалавек, які гараваў па Уленшпігелю не менш за Клааса і Саоткін. Гэта была прыгожая Неле, дачка суседкі Катліны. Неле вырасла разам з Уленшпігелем. Домікі іх стаялі побач, і дзеці кожны дзень гулялі адно з адным. Разам капаліся яны ў пяску, разам бегалі на канал збіраць чарапашынкі і лавіць рэшатам дробную рыбку.

Уленшпігель быў для Неле даражэй за брата, і горка ёй было разлучацца з ім. Здалёк ішла яна за праважаючымі—адна з сваім горам. Калі Уленшпігель развітаўся з бацькамі, яна пабегла за ім, дагнала яго і кінулася да яго на шыю, залiваючыся слязмі.

Доўга ішлі яны разам. Уленшпігель быў задуменны і толькі шаптаў іншы раз:

---

[1] Ave Maria—лацінская малітва багародзіцы.
[2] Pater noster—„Войча наш".

— Дорага яны заплоцяць мне за гэта.

— Хто і за што табе заплаціць?—спытала Неле.

— Усе канонікі, папы і абаты, якія ашукваюць нас. Калі-б я займаўся справай, гэта паломніцтва на тры гады адарвала-б мяне ад работы. Цяпер за гэта паплоціцца бедны Клаас. Цяжка яму будзе пракарміцца з Саоткін. Але прыйдзе час, і я адпомшчу гэтым святошам.

— Ох, Тыль, будзь асцярожней,—сказала Неле,—яны спаляць цябе на кастры.

— Не бойся, не спаляць,—адказаў Уленшпігель.— Я, нібы саламандра, і ў агні не гару.

Так яны і разлучыліся: яна—заплаканая і засмучоная, а ён—злосны і пануры.

---

## Раздзел 6. Аб тым, што бачыў Уленшпігель па дарозе ў Рым

У гэты час інквізітары і богасловы з'явіліся да імператара Карла і агаласілі наступнае:

— Царква гіне, магутнасць яе падае. Імператар павінен падтрымаць яе. Недарма свяшчэннікі, абаты і манахі штогадзінна малілі бога аб шчасці яго свяцейшай вялікасці. Гэтыя малітвы дапамаглі імператару атрымаць столькі слаўных перамог.

Адзін іспанскі архіепіскап патрабаваў, каб імператар адсек шэсць тысяч галоў або спаліў на кастры столькі-ж ерэтыкаў, каб знішчыць у Нідэрландах лютэранскую веру. Яго свяцейшая вялікасць прыхільна выслухаў архіепіскапа і знайшоў, што гэтага яшчэ занадта мала.

І вось пачаліся жорсткія ганенні на рэфарматаў.

І ўсюды, дзе праходзіў бедны Уленшпігель, ён сустракаў сляды жорсткай расправы. Галовы пакараных тырчэлі на слупах, целы забітых мужчын віселі на колах, закапаныя жывымі жанчыны задыхаліся ў сваіх магілах. А папы атрымлівалі па дванаццаць патараў з кожнага, хто паспеў у пару пакаяцца.

У Лувене Уленшпігель бачыў, як каты спалілі адразу трыццаць лютэран. Каб запаліць касцёр, у яго падклалі гарматнага пораху. У Лімбургу цэлая сям'я—мужчыны і жанчыны—пяючы псалмы ўзышла на касцёр. Але толькі адзін стары крычаў, калі полымя пачало лізаць яго ногі.

Гэта быў трыумф каталіцкай царквы...

Аднойчы на вялікай дарозе Уленшпігель сустрэў цэлы натоўп пілігрымаў. Уленшпігель пайшоў з імі і даведаўся, што ўсе яны ідуць на багамолле ў Альземберг.

Бедныя босыя старыя жанчыны ішлі па дарозе задам наперад. Якіясьці знатныя дамы нанялі іх замольваць свае грахі і прымусілі ісці задам да самага Альземберга. Багамольцы, якія былі багацей, не надта абцяжарвалі сябе цяжкім падарожжам. Часта яны прысаджваліся на палянкі па краях дарогі і весела піравалі пад гукі скрыпак і жалеек. Піва пенілася ў кубках. Пах смажанага мяса ўздымаўся да неба.

Сярод старых Уленшпігель заўважыў якогасьці лысага чалавека з вылупленымі вачыма. Твар у яго быў люты. Чалавечак скакаў задам наперад і цвярдзіў «Войча наш», не перастаючы ні на мінуту.

Уленшпігель дагнаў яго і пачаў скакаць побач з ім. Дудкі, скрыпкі, жалейкі і лемантаванні багамольцаў суправаджалі гэтыя скокі.

— Галава садовая,—сказаў Уленшпігель,—што ты скачыш? Хочаш у яму зваліцца?

Той нічога не адказаў і ўсё паўтараў сваю малітву.

— Быць можа, ты лічыш лісты на дрэвах?

Чалавечак махнуў на яго рукою, каб ён замаўчаў.

— Быць можа, ты звар'яцеў, што бегаеш па рачынаму?—казаў далей Уленшпігель, скачучы перад лысым.— Ці-ж не праўда, ваша аблезлая міласць?

Чалавечак не адказваў. Уленшпігель усё скакаў і так стукаў сваімі чаравікамі, што ўся дарога гула, быццам драўляная скрынка.

— Аглух ты, ці што? Зараз мы гэта ўбачым. Глухія не чуюць ні хвалы ні лаянкі. Няўжо і ты нічога не пачуеш? Стары ты дурань, лялька ты з рыззя, дубіна стаяросавая! Ну дзе яшчэ ўбачыш такую жоўтую морду, апрача, як у цябе? Дзе сустрэнеш такую шалудзівую мазгаўню? Хіба толькі на шыбеніцы. Прызнайся, ты ўжо вісеў на ёй калінебудзь?

Не адказваючы, чалавечак злосна скакаў і мармытаў сваю малітву.

— Паслухай вось, што я табе скажу,—казаў далей Уленшпігель.—Калі ты не абжора, то ты п'яніца. А калі не п'яніца, то абжора. А калі на тысячу мільёнаў жонак трапляецца адна задзірыстая, то гэта, мусіць, твая. Яна лупцуе цябе кожную нядзелю.

Пры гэтых словах Уленшпігель паваліўся на зямлю дагары нагамі,—чалавечак так выцяў яго кулаком у нос, што ў яго іскры з вачэй пасыпаліся. Потым ён кінуўся на Уленшпігеля і пачаў лупцаваць яго абедзьвума рукамі.

— Будзеш ведаць, як дурыць галаву прыстойным багамольцам!—сказаў чалавечак, пераводзячы дыханне. Я іду ў Альземберг прасіць божую матку, каб яна вярнула мне жонку, якая ўцякла ад мяне на тым тыдні. Каб атрымаць такую вялікую ласку, трэба, пачынаючы ад самага дома і аж да першай прыступкі царкоўнай лесніцы, прайсці задам наперад і не гаварыць ні з кім ні слова. Цяпер мне прыдзецца ўсё пачынаць спачатку.

— Я навучу цябе, нягоднік, як біцца на вялікай дарозе,—сказаў Уленшпігель і так адлупцаваў забіяку сваім кіем, што той пачаў маліць аб літасці.

А багамольцы ўсё лемантавалі, скрыпкі і жалейкі раўлі з усіх бакоў, і пах смажанага мяса, нібы бажэственны фіміам, узнімаўся да блакітнага неба.

---

## Раздзел 7. Аб тым, як звар'яцела Катліна

Катліна, хрэсная маці Уленшпігеля, лекавымі травамі вылечыла ў свайго суседа Спільмана быка, свінню і трох бараноў. Неўзабаве пасля гэтага захварэла карова ў Яна Белона. Паклікалі Катліну. Катліна не магла дапамагчы, як ні старалася, карова здохла. Ян Белон абвінаваціў Катліну ў чараўніцтве.

— Праклятая баба зачаравала маю карову,—расказваў ён суседзям.—Я сам бачыў, як яна гладзіла яе, калі давала ёй сваё зелле. Пры гэтым яна размаўляла з скацінай, быццам з чалавекам. Хіба добрая хрысціянка будзе гутарыць з жывёлінай?

Катліну схапілі і вырашылі катаваць. Катаванне павінна было цягнуцца да той пары, пакуль Катліна не прызнаецца ва ўсіх сваіх злачынствах.

Кат прывязаў Катліну вяроўкамі да лавы і пачаў уліваць ёй у рот гарачую ваду.

Калі пасля катавання Катліну адвязалі, яна не магла вымавіць ні слова і толькі біла сябе ў грудзі: гарачая вада апякла ёй усё ў сярэдзіне.

— Прызнайся, ведзьма, што ты зачаравала карову,— сказаў суддзя.

— Не,—адказвала Катліна,—я люблю ўсіх жывёлін і ніколі не раблю ім нічога благога: яны—стварэнні безабаронныя. Я лячыла карову лекавымі травамі.

— Ты давала карове атруту, каб яна здохла,—сказаў суддзя.

— Пан суддзя,—сказала Катліна,—ваша ўлада нада мной, але я ўсё-ж скажу вам, што жывёла таксама, як і чалавек, можа памерці ад хваробы, не гледзячы на дапамогу лекара. І я клянуся госпадам Ісусам Хрыстом, што я не зрабіла гэтай карове нічога благога і лячыла яе самымі простымі сродкамі.

Суддзя ледзь не задыхнуўся ад злосці.

— Я адвучу цябе адмаўляцца, чартоўка праклятая!— закрычаў ён.—Надзень на яе чаравікі, кат!

І ён выпіў вялікую шклянку віна.

Кат пасадзіў Каталіну на крышку дубовай труны. Верх яе быў востры, нібы лязо нажа. На ногі Катліне надзелі цесныя чаравікі з мокрай скуры і падсунулі яе да каміна. Камін горача паліўся. Быў месяц лістапад.

Астрыё покрыўкі труны ўпілося ў цела Катліны, а агонь так нагрэў вільготную скуру, што боты скурчыліся і з страшэннай сілай сціснулі ёй ногі.

— О, як мне баліць!—закрычала Катліна.—Хто дасць мне атруты?

— Падсуньце яе бліжэй да агню,—сказаў суддзя.

І ён распачаў допыт:

— А ну, скажы, ці часта ты лётала верхам на памяле? Як ты гнаіла збажыну ў полі, плады на дрэве, дзіцё ў чэраве маткі? Як ты сварыла братоў, як рабіла сёстраў злоснымі ворагамі?

Катліна не магла адказаць. Яна толькі сударгава паварушыла рукой, быццам хацела сказаць: не.

— Ты ў мяне загаворыш!—сказаў суддзя.—Падсуньце яе яшчэ бліжэй да агню.

Катліна голасна закрычала ад болю.

— Папрасі чорта, хай ён асвяжыць цябе,—сказаў суддзя.

Катліна паспрабавала скінуць чаравікі, якія ўжо дыміліся ад вялікай гарачыні.

— Папрасі чорта, хай ён разуе цябе.

Прабіла дзесяць гадзін. У гэты час суддзя зазвычай абедаў. Ён вышаў з катам і з судзейскім пісцом. Катліна засталася перад агнём, прывязаная да покрыўкі труны.

Праз гадзіну яны вярнуліся. Катліна ляжала застылая і нерухомая.

— Па-мойму, яна памерла,—сказаў пісец.

Суддзя загадаў зняць яе з труны і сцягнуць з яе боты. Але боты не здымаліся. Кат разрэзаў іх нажом. Ногі Катліны былі заліты крывёй.

Суддзя калупаў у зубах і роўнадушна глядзеў на Катліну. Яна пакрыху апрытомнела, павалілася на падлогу і болей не магла падняцца.

— Ты хацеў ажаніцца са мной,—сказала яна суддзі,— але гэта табе не ўдасца. Чатыры разы па тры—лічба свяшчэнная, а трынаццаць—мілы друг.

Суддзя хацеў ёй нешта сказаць, але Катліна перапыніла яго.

— Маўчы,—сказала Катліна,—ён пачуе цябе. Чаму ты прышоў так позна? Чатыры разы па тры—лічба свяшчэнная. Ён заб'е цябе, сцеражыся!

— Яна гаворыць з чортам,—сказаў суддзя.

— Яна звар'яцела ад катаванняў,—сказаў судзебны пісец.

Катліну зноў адвялі ў турму. Праз тры дні сабраўся суд. Разгледзелі справу Катліны і прысудзілі спаліць яе на кастры.

Кат з памочнікамі адвялі яе на Рыначную плошчу. Там ужо з вечара быў прыгатаван высокі памост. Асуджаную прымусілі ўзыйсці на яго. Профас, герольд і суддзі былі на сваім месцы.

Герольд тройчы пратрубіў у трубу. Потым ён звярнуўся да народу і сказаў:

— Магістрат горада Даме злітаваўся над асуджанай і адмяніў свой прысуд. Але, каб паказаць, што яна ўсё-ж такі ведзьма, ёй спаляць валасы. Затым яна заплаціць штраф у дваццаць фларынаў і будзе на тры гады выгнана

з горада Даме. Калі яна да гэтага тэрміну самавольна вернецца ў горад, ёй адсякуць правую руку.

Кат прывязаў Катліну да слупа, паклаў на яе пабрытую галаву жмук пакулля і падпаліў яго. Пакулле павольна гарэла, а Катліна плакала і крычала.

Потым яе адвязалі, пасадзілі ў каламажку і вывезлі з горада. Хадзіць яна не магла: так былі пакалечаны яе ногі.

---

## Раздзел 8. Аб тым, як Уленшпігель лётаў па паветры

Уленшпігель прышоў у Герцогенбуш, стары брабанцкі горад. Тут яго хацелі зрабіць гарадскім камедыянтам, але Уленшпігель не згадзіўся.

Непрыстойна паломніку быць камедыянтам аседлым,— сказаў Уленшпігель. Іншая справа дурэць па дарогах і ў шынках.

У гэты час кароль Філіп прыбыў у Нідэрланды, каб агледзець свае будучыя ўладанні. Яму было дваццаць дзевяць гадоў. У яго бескаляровых вачах затаіліся прывычны сум, злосная прытворнасць і ўпартасць. Галава ў яго была выцягнутая, пакрытая рыжаватымі валаскамі, твар халодны, цела кволае, ногі тонкія. Гаварыў ён павольна і невыразна, быццам рот яго быў напакаваны шэрсцю.

У гонар яго прыезду ў Антверпене былі збудаваны дваццаць тры аркі. Тысяча восемсот семдзесят дзевяць купцоў былі прыбраны ў яркачырвоны аксаміт. Чатырыста шаснаццаць лакеяў выступалі ў багатых ліўрэях. Чатыры тысячы грамадзян былі апрануты ў шоўк, і ўсе аднолькава. На ўсё гэта горад патраціў дзвесце восемдзесят тысяч фларынаў.

Мноства камедыянтаў і камедыянтак забаўляла святочны натоўп. Быў тут «Кароль дурняў» з Ліля, які трымаў каня за хвост і вёў яго перад сабой, пакрыкваючы і крыўляючыся. Быў тут «Вясёлы абат» з Араса, які пацягваў віно з бутэлькі, падобнай на царкоўны малітвенік. Быў тут «Запаслівы канонік» з Ата; замест курткі на ім былі адны толькі лахманы, затое ў руцэ трымаў ён вялізную каўбасу—у выгоду свайму бруху. Быў, нарэшце, «Правадыр смелякоў»—пацешны хлопец, які верхам на

палахлівай казе прабіваўся праз натоўп гуляк. Безліч тумакоў сыпалася на яго з усіх бакоў, але наш смяляк, учапіўшыся за казіную воўну, ляцеў наперад і ні на што не звяртаў увагі.

Уся гэта працэсія цешыла народ сваімі няхітрымі жартамі, але кароль быў пануры і маўклівы.

Увечары маркграф антверпенскі, бургамістры і канонікі сабраліся параіцца і пачалі думаць, як ім развесяліць Філіпа.

— У Герцогенбушы,—сказаў маркграф,—жыве славуты камедыянт П'еркін Якабсен. Чулі вы пра яго?

— Так,—сказалі яны.

— Пашлем па яго. Можа ён рассмешыць Філіпа.

— Пашлем,—вырашылі ўсе.

Калі ганец прыбыў у Герцогенбуш, яму сказалі, што камедыянт П'еркін лопнуў са смеху.

— У нас праездам госціць другі камедыянт, яго імя Уленшпігель,—сказалі тамашнія грамадзяне ганцу.—Паспрабуйце запрасіць яго.

Ганец знайшоў Уленшпігеля ў якімсьці шынку. Уленшпігель еў фрыкасе з чарапашынак і запіваў яго добрым вінам. Ён ласкава выслухаў ганца, сеў на каня і паскакаў разам з ганцом у Антверпен.

Хутка яны прыбылі ў горад і з'явіліся да маркграфа.

— Чым ты думаеш развесяліць караля?—спытаў маркграф.

— Я палячу па паветры,—сказаў Уленшпігель.

— Як-жа ты паляціш?

— Адкрытая таямніца каштуе танней за мыльны пузыр,—сказаў Уленшпігель.

Між тым герольды ездзілі на сваіх упрыгожаных конях па ўсіх вуліцах, плошчах і скрыжаваннях. Яны трубілі ў трубы і абвяшчалі грамадзянам, што Уленшпігель, камедыянт з Даме ў Фландрыі, будзе лятаць па паветры, і сам кароль Філіп будзе любавацца гэтым незвычайным відовішчам.

У дзень прадстаўлення Уленшпігель праехаў на асле па ўсяму гораду. Уленшпігель быў у яркачырвоным шоўкавым убранні. На галаве ў яго быў чырвоны каўпак з двума

аслінымі вушамі. На шыі ў яго матляўся дурацкі нашыйнік з гербам горада Антверпена. Наскі чаравік былі загнуты ўверх і ўпрыгожаны маленькімі пазалочанымі бубянцамі.

Асёл быў таксама прыбраны ў яркачырвоны шоўк, і на кожным баку ў яго быў вышыт золатам герб горада Антверпена.

Слуга Уленшпігеля бег збоку. У адной руцэ ён трымаў бычыны пузыр, напоўнены гарохам. У другой руцэ ў яго быў кій з кароўім званочкам.

Уленшпігель пакінуў на вуліцы слугу, злез з асла і з'явіўся на плошчу.

Проста перад памостам, дзе сядзеў кароль, стаяў дом, пабудаваны ў італьянскім гусце. Удоўж яго даху цягнуўся доўгі рышток. Проста на рышток выходзіла чардачнае акенца.

Уленшпігель падняўся на падстрэшша і вылез на дажджавы рышток.

Тут ён шырока расставіў рукі і замахаў імі нібы вятрак крыллямі. Гучны звон бубянцоў пранёсся над натоўпам.

— Сцеражыся! Лячу!—крыкнуў Уленшпігель і зрабіў выгляд, што гатоў скочыць з даху.

Увесь народ заціх і ўтаропіўся ў нябачнага лятуна. Старыя ў жаху шапталі свае малітвы. Салдаты схілілі алебарды: усім здавалася, што Уленшпігель павінен скочыць проста на іх. Нават кароль Філіп, гэты бяздушны ідал, і той, здавалася, пакасавурыўся на Уленшпігеля сваім абыякавым вокам.

Але Уленшпігель у гэтую хвіліну апусціў рукі і, перагнуўшыся ўніз, закрычаў на ўвесь голас:

— Я думаў, што, апрача мяне, няма дурняў у Антверпене, але, выходзіць, тут дурняў вялікае мноства. Калі-б вы сказалі мне, што паляціце па паветры,—я вам не даў-бы веры. Але варта камедыянту сказаць вам, што ён паляціць,—і вы верыце. Як-жа я палячу, калі ў мяне няма крылляў?

Адны смяяліся, другія лаяліся, але ўсе гаварылі:

— А дурань-жа гаворыць праўду.

Але кароль Філіп сядзеў як каменны ідал і нават не ўсміхнуўся на пацешныя словы Уленшпігеля.

Гарадскія старшыні гаварылі між сабой:

— Не варта было наладжваць свята для такой кіслай морды.

Яны далі Уленшпігелю тры фларыны і развіталіся з ім. Дарма прабаваў Уленшпігель пакінуць пры сабе сваё чырвонае шоўкавае адзенне, у якое яго апранулі гарадскія ўлады. Гэта яму не ўдалося: адзенне адабралі назад.

— Што такое тры фларыны?—разважаў Уленшпігель сам з сабой.—Лісты падаюць з дрэў і вырастаюць зноў, але фларыны, выслізгнуўшы з кішэні, на жаль, не вяртаюцца назад.

І ён уважліва разглядаў свае манеткі з малюнкам імператара Карла.

«Які горды твар у імператара,—думаў Уленшпігель.— На галаве ў яго шлем, на грудзях—латы, у руках—дзяржава і меч. З божай дапамогай ён імператар рымскі, кароль іспанскі і іншая, і іншая. А на адвароце—яго гербы з надпісам: «Дай мне мужнасць супроць тваіх ворагаў». І сапраўды, у яго хапіла мужнасці, каб праследаваць бедных рэфарматаў і прысвоіць сабе іх дабро. Ах, калі-б я быў імператарам Карлам, я нарабіў-бы столькі фларынаў, што іх хапіла-б для ўсіх жадаючых».

Разважаючы такім парадкам, Уленшпігель раптам адчуў, як нейчыя лёгкія рукі абхапілі яго галаву і закрылі яго вочы. Ён здагадаўся, што гэта Неле, і спытаў:

— Гэта ты?

— Так,—сказала яна,—я бягу за табой з таго часу, як ты вышаў з горада. Пойдзем са мной.

Неле жыла ў гэты час у Боргерхауце, пад Антверпенам. Калі яна пачула, што нейкі камедыянт збіраецца паляцець на Антверпенскай плошчы, яна адразу здагадалася, што гэта Уленшпігель, і паспяшалася ў горад.

— Дзе-ж Катліна?—спытаў Уленшпігель, ідучы побач з Неле.

— Ты яшчэ не ведаеш,—сказала яна, што яе абвінавацілі ў чараўніцтве, катавалі, палілі пакулле на галаве

і выгналі на тры гады з Даме. Не спалохайся, калі ўбачыш яе: яна звар'яцела ад нясцерпных пакут. Цэлымі днямі яна глядзіць сабе на ногі і ўсё ўспамінае нейкага Ганса. Мяне яна слухаецца, нібы малое дзіця. Але калі ўбачыць быка ці карову,—уцякае ад іх куды вочы глядзяць: усё ўспамінае катаванні. І тады нішто яе не спыніць—ні плот, ні ручэй, ні роў—бяжыць, пакуль не зваліцца з ног дзе-небудзь на дарозе. Тут я падбіраю яе і абмываю яе акрываўленыя ногі. Я думаю, што, калі палілі пакулле, ёй і мазгі спалілі ў галаве.

Засмучоныя, прышлі яны дадому. Катліна сядзела на сонцы перад домам.

— Ты пазнаеш мяне?—спытаў Уленшпігель.

— Чатыры разы па тры—лік свяшчэнны,—адказала яна,—але трынаццаць, гэта—лёс. Хто ты, дзіця смутку?

— Я,—адказаў ён,—Уленшпігель, сын Клааса і Саоткін.

Яна паківала галавой, але, угледзеўшыся, пазнала яго. Потым яна нахілілася да яго вуха і прашаптала:

— Калі ты ўбачыш Ганса, майго павяліцеля, скажы яму, Уленшпігель, каб ён вярнуўся да мяне.

Потым яна схапілася за галаву і прастагнала:

— Ах, як баліць мне! Яны ўзялі мой розум, але калі Ганс вернецца, ён напоўніць маю галаву. Цяпер яна зусім пустая. Чуеш, яна звініць, як звон. Гэта душа мая просіцца на волю. Мабыць, мала мне жыць засталося. І спаць болей не магу я: усё чакаю яго. Бо прыдзе-ж ён, нарэшце, і напоўніць маю галаву.

І яна са стогнам павалілася на зямлю.

Ужо вячэрні звон гудзеў у далечыні. Сяляне, вяртаючыся з палёў, праходзілі паўз домік Катліны і казалі адзін аднаму:

— Вось гаротная!

І набожна хрысціліся пры гэтым.

Неле і Уленшпігель плакалі. Але Уленшпігель не мог доўга заставацца на месцы. Ён павінен быў ісці далей.

---

## Раздзел 9. Аб тым, як Уленшпігель служыў гарадскім трубачом

Колькі не любаваўся Уленшпігель сваімі прыгожымі манеткамі, усе яны хутка зніклі з яго кішэні...

Уленшпігель адправіўся ў Аудэнаардэ. У гэтым горадзе стаяў фламандскі гарнізон, які ахоўваў горад ад французаў. У тыя часы французскія шайкі бадзяліся па ўсёй краіне і спусташалі яе, быццам саранча.

Камандаваў гарнізонам капітан Карнюін.

Яго рэйтары раз'язджалі па аколіцах і грабілі насельніцтва не горш за французаў. Так заўсёды бывала на вайне: сяляне цярпелі і ад тых і ад другіх.

Нічым не грэбавалі рэйтары—курамі, куранятамі, галубамі, цялятамі, свіннямі. Аднойчы, калі Карнюін і яго афіцэры, нагружаныя здабычай, вярталіся ў горад, яны ўбачылі на дарозе Уленшпігеля. Уленшпігель спаў пад дрэвам. Ён заснуў галодным і яму снілася смачнае жаркое.

— Што ты тут робіш?—спытаў Уленшпігеля капітан, штурхаючы яго канцом кап'я.

— Паміраю ад голаду,—адказаў Уленшпігель.

— Хто ты такі?—спытаў капітан.

— Няшчасны пілігрым, танцор на канаце і трубач.

Трубачом Уленшпігель назваў сябе таму, што ў замку Аудэнаардэ была вольнай пасада вартавога трубача і Уленшпігель чуў пра гэта.

— Добра,—сказаў капітан.—Ты будзеш гарадскім трубачом.

Уленшпігеля прывялі ў крэпасць і змясцілі на верхняй пляцоўцы самай высокай вежы. Наверсе было холадна: вецер прадзьмуваў вышку з усіх чатырох бакоў.

Уленшпігель павінен быў трубіць у трубу, як толькі заўважыць непрыяцеля. Каб яму не хацелася спаць, яго трымалі поўгалодным.

Капітан са сваімі рэйтарамі сядзелі ў вежы і піравалі за чужы кошт. Пах смажанага мяса даносіўся да Уленшпігеля, але яму не перападала ні кавалачка. Пра трубача ўсе забываліся, і мімаволі ён харчаваўся адной пустой пахлёбкай.

Аднойчы наляцелі французы і ўгналі з сабою шмат скаціны. Уленшпігель бачыў гэта, але не трубіў.

Капітан падняўся да яго на вежу.

— Чаму ты не трубіў, нягоднік?—спытаў ён.

— У мяне ўся сіла прапала ад вашых харчоў,—адказваў Уленшпігель.

На наступны дзень рэйтары зноў піравалі. Пра Уленшпігеля зноў ніхто не ўспомніў. І раптам труба гучна затрубіла.

Салдаты пакідалі віно і жаркое, ускочылі на коней і паімчаліся ў поле. Яны думалі, што трубач заўважыў французаў. Але ў полі нікога не было. Толькі адзін бык пасвіўся на сонцы, і рэйтары павялі яго з сабой, каб хоць чым узнагародзіць сябе за дарэмныя турботы.

Вярнуўшыся назад, капітан убачыў у сталовай Уленшпігеля. Уленшпігель, дажоўваючы апошні кавалак, нявёрда стаяў на нагах і з усмешкай глядзеў на капітана.

— Здраднік!—закрычаў капітан.—Калі непрыяцель быў пад носам, твая труба маўчала! А цяпер, калі на сто міль навокал няма ніводнага француза, ты трубіш на ўсю моц! Я загадаю павесіць цябе!

— Пан капітан,—сказаў Уленшпігель,—у мяне на вежы так дзьме, што, каб я не вытрубіў з сябе ўсё паветра, дык я лягчэй за шарык узляцеў-бы пад самыя воблакі.

Карнюін не сказаў ні слова і вышаў з пакоя.

Хутка па горадзе разнеслася чутка, што ўсеміласцівейшы імператар Карл прыбудзе ў Аудэнаардэ разам са сваёй знатнай світай. Уленшпігелю выдалі акуляры, каб ён здалёк мог заўважыць набліжэнне імператара. Заўважыўшы імператара за чвэрць мілі ад горада, Уленшпігель павінен быў тройчы пратрубіць у трубу. Такім парадкам, гра-

мадзяне паспеюць зазваніць у званы, прыгатаваць пацешныя агні, паставіць мяса на ачаг і адкаркаваць вінныя бочкі.

Каля поўдня на дарозе з Лупегема Уленшпігель убачыў мноства коннікаў. Іх султаны развяваліся на ветры. У паветры калыхаліся каралеўскія сцягі. Наперадзе ехаў коннік з горда ўзнятай галавой. На ім быў расшыты золатам капялюш з доўгімі пёрамі і карычневы аксамітны плашч.

Уленшпігель надзеў акуляры і ўбачыў, што гэта імператар Карл, які спяшаўся ў горад, каб велікадушна дазволіць грамадзянам Аудэнаардэ пачаставаць сябе далікатным абедам.

Коннікі набліжаліся да горада. Яны парадкам прагаладаліся з дарогі. Але Уленшпігель парашыў, што яны не памруць, калі папосцяцца адзін разок. Яны-ж піруюць кожны дзень, колькі душы зажадаецца. І ён спакойна глядзеў на бліскучую кавалькаду і не думаў трубіць у трубу.

Коннікі набліжаліся і, смеючыся, балбаталі між сабой. Яго вялікасць імкнуўся здагадацца, якім яго сёння пачаступоць абедам. Аднак званы ў горадзе чамусьці не званілі, і гэта здзіўляла імператара.

Раптам у горад прыскакаў нейкі селянін.

— Французы ідуць!—закрычаў ён.—Цэлы атрад грабежнікаў!

Вартаўнік зараз-жа зачыніў вароты і паслаў свайго памочніка да ўсіх іншых варот, каб іх таксама зачынілі. А рэйтары ў гэты час спакойна сядзелі ў сваёй вежы, пакурвалі і чакалі трубнага сігналу, які павінен быў абвясціць аб набліжэнні імператара. Чым бліжэй пад'язджаў імператар да горада, тым больш злаваўся ён, бо не чуў ні гарматных стрэлаў, ні гукаў званоў. Што здарылася? Чаму горад не сустракае свайго ўладара?

Імператар пад'ехаў да варот і пастукаў у іх кулаком. Світа незадаволена бурчэла.

— Калі вы там не пакінеце шумець,—закрычаў зверху вартаўнік,—вы атрымаеце добрую порцыю карцечы.

— Сляпая свіння!—закрычаў на яго раз'юшаны Карл.— Хіба ты не пазнаеш свайго імператара?

— Не дуры мне галаву,—адказаў вартаўнік.— Імператар Карл зараз у Італіі, гэта ўсім вядома.

— Калі ты не адчыніш вароты ў гэтую-ж хвіліну,— закрычаў імператар,—мы сасмажым цябе на кап'і без усякай літасці. А перад тым ты праглынеш свае ключы, нягоднік!

Тут імператара ўбачыў са сцяны нейкі стары салдат, які раней служыў у імператарскім войску.

— Гэта імператар!—закрычаў ён.—Адчыняй, вартаўнік!

Ад жаху вартаўнік у непрытомнасці зваліўся на зямлю. Салдат схапіў ключы і адчыніў гарадскія вароты.

Карл гнеўна спытаў, як гэта адважыліся яго, імператара, трымаць так доўга перад зачыненымі варотамі. Салдат растлумачыў, як мог. Імператар загадаў замкнуць вароты і прывесці з вежы рэйтараў. Пасля гэтага пад гукі труб і барабанаў ён накіраваўся ў горад.

Хутка адзін за адным прачнуліся званы, і пачаўся вялікі перазвон. Бургамістры выбеглі на вуліцу, каб сустрэць свайго імператара. Слугі пабеглі па горадзе, каб прыгатаваць пацешныя агні, паставіць на агонь дзічыну і адкаркаваць бочкі.

— Слаўна сустракаеце вы свайго імператара!—закрычаў Карл на бургамістраў,—Ці не ўзнагародзіць вас вяроўкай за добры прыём?

Бургамістры, калоцячыся ад страху, паваліліся на калені перад імператарам.

— У гэтым вінават вежавы трубач Уленшпігель,— сказалі яны.—Яму далі акуляры, пасадзілі на вежу і растлумачылі, што ён павінен тры разы пратрубіць у трубу, як толькі заўважыць вашу вялікасць. Але гэты абібок дазволіў сабе прамаргаць нават вашу свяшчэнную асобу, абкружаную шматлікай і пышнай світай.

Імператар загадаў прывесці Уленшпігеля.

— Чаму ты не трубіў?—спытаў ён.—У цябе-ж былі акуляры?

Пры гэтым імператар захінуўся ад сонца рукою і праз пальцы глядзеў на Уленшпігеля.

Уленшпігель таксама прыкрыўся рукой і сказаў:

— Ваша вялікасць, нават вы глядзіце на святло праз пальцы. Вось і я таксама праз пальцы глядзеў на вашу вялікасць і на ўсіх гэтых светласцей, не карыстаючыся акулярамі.

— Ты будзеш павешаны,—сказаў імператар.

Бургамістры так напалохаліся, што не сказалі на гэта ні слова.

Кат схапіў Уленшпігеля за каршэнь і пацягнуў яго міма сотні рэйтараў на шыбеніцу. Уленшпігель не супраціўляўся і толькі мармытаў сам сабе малітвы.

— Што, трубач?—смеючыся крычалі рэйтары.—Датрубіўся да шыбеніцы?

З усіх бакоў на плошчу бег народ.

— Як гэта жорстка—за такое глупства асудзіць юнака на смерць!—казалі жанчыны.

— Не дадзім вешаць Уленшпігеля!—крычалі мужчыны.—Гэта супроць нашых законаў!

Дайшлі да Шыбенічнага поля. Уленшпігеля паднялі на лесніцу, і кат накінуў яму на шыю вяроўку. Народ тоўпіўся вакол шыбеніцы. Верхам на кані сядзеў дзябёлы профас. У руцэ ў яго быў судзейскі жэзл. Гэтым жэзлам, па загаду імператара, ён павінен быў падаць знак да выканання пакарання.

Народ крычаў:

— Памілуйце Уленшпігеля! Памілуйце Уленшпігеля!

— Памілуйце, гасудар,—паўтарыў Уленшпігель, стоячы на лесніцы.

Імператар падняў руку і сказаў:

— Калі гэты абібок папросіць у мяне што-небудзь такое, што я не магу зрабіць, я захаваю яму жыццё.

— Гавары, Уленшпігель!—крычаў народ.

— Што-ж прасіць яму, небараку?—казалі, плачучы, жанчыны.—Наш-жа імператар усё можа зрабіць.

— Кажы, Уленшпігель! Прасі!

— Ваша свяцейшая вялікасць,—сказаў Уленшпігель,— я не буду прасіць у вас ні грошай, ні зямель, ні жыцця.

Я ў вас папрашу нешта іншае. Толькі не калясуйце і не бічуйце мяне, пакуль не выйдзе з мяне апошні дух.

— Добра,—сказаў імператар.

— Ваша вялікасць,—сказаў Уленшпігель,—дазвольце мне перад смерцю пстрыкнуць вас па носе пры ўсёй шаноўнай публіцы.

Народ разрагатаўся.

— Гэтага я не магу дазволіць,—усміхаючыся сказаў імператар.—Ты памілаваны, Уленшпігель.

Але бургамістрам ён загадаў цэлых поўгода насіць на патыліцы акуляры.

— Калі аудэнаардцы не ўмеюць глядзець перадам, то хай яны глядзяць задам,—сказаў імператар.

Вось чаму да гэтай пары на гербу горада Аудэнаардэ намаляваны круглыя акуляры.

---

## Раздзел 10. Аб тым, як Уленшпігель быў слугой у Ламе Гудзака

У Льежы, на рыбным рынку, Уленшпігель сустрэў маладога таўстуна з двума кошыкамі ў руках. Правы кошык быў даверху напоўнены дзічынай, а левы ён напаўняў фарэлямі,312грамі, шчупакамі і камбаламі.

Угледзеўшыся, Уленшпігель пазнаў свайго земляка, Ламе Гудзака.

— Што ты тут робіш, Ламе?—спытаў ён.

— Нідзе няма такога добрага рынка, як у гэтым слаўным горадзе,—сказаў Ламе.—Вось я і жыву тут. А ты?

— Шукаю, дзе-б зарабіць кавалак хлеба,—сказаў Уленшпігель.

— Нельга пазайздросціць такой ежы,—сказаў Ламе.— Лепш-бы табе паглынаць жаўранкаў ды заядаць іх драздамі.

— Ты зрабіўся багатым?—спытаў яго Уленшпігель.

— Мае бацькі памёрлі,—адказаў Ламе,—і я атрымаў спадчыну. Цяпер я жыву адзін са сваёй служанкай. Яна хоць і аднавокая і старая, але затое—вялікі знаўца па кулінарнай частцы.

— Давай я аднясу твае кошыкі.

— Вазьмі.

І яны пабрылі па рынку.

— Ведаеш, чаму ты дурань?—спытаў Ламе.

— Не ведаю,—сказаў Уленшпігель.

— Таму, што носіш ежу не ў страўніку, а ў руках.

— Гэта правільна, Ламе. Але з таго часу, як я не маю хлеба, на мяне і дразды не глядзяць.

— Ты дасыта паясі іх, Уленшпігель, калі мая служанка дазволіць табе служыць у маім доме.

Па дарозе ім сустрэлася прыгожанькая маладая дзяўчына ў шоўкавай сукенцы. Дзяўчына паглядзела на Ламе сваімі хітраватымі вочкамі і прайшла міма. За ёй ішоў яе стары бацька і нёс два кошыкі, адзін з дзічынай, другі з рыбай.

Ламе паказаў Уленшпігелю на дзяўчыну.

— Вось хто будзе маёй жонкай,—сказаў ён.

— Я яе ведаю,—сказаў Уленшпігель,—яна родам з Цотэгема, і ўсе гавораць—вялікая белаeduchка. Маці замест яе мяце вуліцу, і стары бацька прасуе яе сарочкі.

— Яна паглядзела на мяне. Ты заўважыў?—радасна гаварыў Ламе, не слухаючы Уленшпігеля.

Яны падышлі к дому Ламе і пастукалі ў дзверы. Адчыніла старая, сляпая на левае вока служанка.

— Санжына,—сказаў ёй Ламе,—ці не хочаш узяць гэтага малайца сабе ў памочнікі?

— Можна папрабаваць,—сказала яна.

— Папрабуй, хай спазнае ўсё хараство тваёй кухні.

Санжына падала на стол тры чорныя каўбасы, кубак піва і вялікі круглы хлябок.

Уленшпігель і Ламе ўзяліся за ежу.

— Ці ведаеш ты,—сказаў Ламе,—дзе знаходзіцца наша душа?

— Не, Ламе.

— У нашым страўніку. Яна без утомы спусташае яго, каб зноў можна было яго напоўніць. Што лепш за ўсё ў жыцці? Добрая закуска ды салодкае мааскае вінцо. Хіба-ж гэта не праўда?

— Так,—сказаў Уленшпігель,—тлустая каўбаса—лепшы друг для адзінокай душы.

— Ён яшчэ не пад'еў,—сказаў Ламе.—Дай яму яшчэ чаго-небудзь, Санжына.

Служанка на гэты раз падала тры белыя каўбасы.

— Калі я памру,—задуменна сказаў Ламе,—мой страўнік памрэ разам са мной. На тым свеце прыдзецца

мне папасціцца. Якаво мне будзе цягаць там сваё пустое галоднае бруха!

— Чорная каўбаса была смачней,—сказаў Уленшпігель.

— Хопіць з цябе,—заявіла Санжына.—І так з'еў шэсць штук.

— У гэтым доме добра кормяць,—сказаў Ламе.—Ты будзеш есці тое-ж самае, што і я.

— Я запомню гэтыя словы,—сказаў Уленшпігель.

Пасля сытнай яды ён прышоў у добры настрой і ўзяўся за работу. У гэты дзень ён вычысціў усе кацялкі і патэльні так, што яны блішчэлі ў яго, як сонейка.

Пачалося прывольнае жыццё. Часта наведваўся ён на кухню, нярэдка спускаўся ў склеп; затое падстрэшша ён пакінуў катам—там нічога спажыўнага не было.

Аднойчы Санжына загадала яму сасмажыць двух куранят, а сама пайшла на рынак за карэннямі.

Калі кураняты падрумяніліся, Уленшпігель, не думаючы доўга, з'еў адно куранё.

Вярнуўшыся дадому, Санжына закрычала:

— Дзе другое куранё? Ты з'еў яго, нягоднік!

— Расплюшчы другое вока—убачыш абодвух,—сказаў Уленшпігель.

Аднавокая Санжына пабегла да Ламе скардзіцца.

— Нашто ты здзекуешся з маёй служанкі?—сказаў Ламе, уваходзячы ў кухню.—Было-ж два кураня?

— Сапраўды, Ламе, іх было два. Але, калі я наймаўся да цябе на службу, ты сам сказаў мне, што я буду піць і есці тое-ж самае, што і ты. Мне загадалі сасмажыць двух куранят—я з'еў адно, ты з'ясі другое. Мая асалода ўжо скончылася, а твая яшчэ наперадзе. Хіба ты не шчаслівейшы за мяне?

— Так,—сказаў Ламе, усміхаючыся,—толькі, калі ласка, надалей слухай, што табе кажа Санжына, і не рабі нічога лішняга. Тады на тваю долю прыдзецца толькі палова работы.

— Добра, я запомню гэтыя словы,—сказаў Уленшпігель.

І з таго часу, што-б ні загадвала яму Санжына, ён рабіў роўна палову. Яна пашле яго прынесці два вядры вады,—ён прынясе адно. Пашле нацадзіць з бочкі збан піва,—ён прынясе поўзбана, астатняе вып'е па дарозе.

Нарэшце Санжыне надаелі гэтыя штукі, і яна заявіла Ламе, што, калі гэты абібок застанецца ў доме, яна адмаўляецца працаваць.

Ламе спусціўся да Уленшпігеля ў кухню.

— Прыдзецца табе пайсці, сын мой, хоць ты нядрэнна ад'еўся ў гэтым доме,—сказаў Ламе.—Чуеш, пяе певень, а зараз дзве гадзіны па поўдні, значыць, справа ідзе к дажджу. Не хацелася-б мне выганяць цябе з дому ў непагадзь, але рабіць няма чаго. Падумай сам—Санжына сваім гатаваннем ахоўвае маё здароўе. Я не магу адпусціць яе. Я рызыкую жыццём. У імя бога, ідзі адсюль, сын мой. Вось табе тры фларыны і каўбасныя чоткі, каб ты не сумаваў па дарозе.

І Уленшпігель пайшоў, лаючы сябе за безразважнасць, якая назаўсёды пазбавіла яго цёплай кухні і тлустых каўбас Ламе Гудзака.

---

## Раздзел 11. Аб тым, што прывёз Клаасу чорны коннік

Надышоў лістапад, але зіма ўсё яшчэ не прыходзіла. Сонца ззяла ад ранку да вечара. Дрэвы стаялі зялёныя; на дахах дамоў сядзелі буслы; ластаўкі яшчэ не думалі ляцець у цёплыя краі. Тры разы цвілі ружы, і бутоны з'явіліся на кустах у чацверты раз.

Пасля вячэры гаражане выходзілі на вуліцу, глядзелі на сіняе неба і гаварылі між сабой:

— Памёрла зіма! Спалім зіму!

І яны зрабілі вялізнае чучала Зімы з мядзвежай мордай і доўгай барадой са стружак. Чучала прыбралі ў белае адзенне і потым спалілі яго на плошчы, весела прытанцоўваючы навокал кастра.

Аднаго Клааса не радавала гэтае доўгае лета. Пакупнікоў на вугаль не было. У печках не палілі, а між тым на вугаль Клаас патраціў усе свае зберажэнні.

Адзін толькі Грыпстувер, старшыня рыбнікаў, быў не ад таго, каб купіць вугаль у Клааса. Але ён быў скупы і ледзь даваў поўцаны. Клаас не згаджаўся аддаць яму за грашы свой вугаль.

Хутка ў яго хацінцы стала нехапаць хлеба.

Каб як-небудзь пракарміцца, Клаас пачаў хадзіць на паляванне. Адзін пакупнік не мог заплаціць яму даўнейшага доўгу і замест грошай прынёс яму арбалет з дванаццаццю добра завостранымі стрэламі. Вось гэтым арбалетам Клаас і здабываў сабе харчы. Увечары ён вяртаўся з лесу дадому і прыносіў пару-другую зайцоў.

Пасля ўдачнага палявання Клаас з прагнасцю паглынаў за абедам сваю порцыю, а Саоткін усё глядзела на пустэльную дарогу і гаравала аб бедным Уленшпігелі.

Але хутка лёс іх змяніўся.

Аднойчы к дому Клааса пад'ехаў нейкі незнаёмы. Ён быў апрануты ва ўсё чорнае. Твар у яго быў хударлявы і пануры.

— Ці ёсць хто дома?—спытаў ён.

— Госпадзі памілуй,—адказала Саоткін,—а я хто-ж— здань, ці што?

— Дзе твой муж?

— Ён у полі, сее збожжа. Едзь па гэтай дарозе—і ты ўбачыш яго.

Коннік паехаў. Саоткін таксама вышла з дому. Сумная і ўстурбаваная, пайшла яна да булачніка; ужо ў шосты раз прыходзілася ёй браць у яго хлеб напавер.

Вярнулася яна з пустымі рукамі,—булачнік болей не даваў хлеба. І раптам яна ўбачыла, што Клаас, задаволены і ззяючы, едзе з поля верхам на кані чорнага чалавека, а той ідзе пеша і вядзе каня за повад. У руках Клааса быў скураны туга напакаваны мяшочак.

— Няхай жыве мой брат Іос, добры пустэльнік!—ускрыкнуў Клаас, уваходзячы ў дом і кідаючы мяшочак на стол.—Дай бог яму здароўя і ўсякага шчасця!

— Мужанёк, мы сёння без абеда,—сказала Саоткін,— булачнік болей не дае напавер хлеба.

— Хлеба!—закрычаў Клаас і патрос мяшочкам. З мяшочка пасыпаліся на стол залатыя манеты.—Хлеба! Вось табе хлеб, вось табе масла, вось табе мяса, піва, віно! Вось шынкі, шпікавыя косці, дразды, паштэты з чаплі і ўсё, што ядуць самыя знатныя паны! Булачнік не дае хлеба! Дурань! Мы самі болей не будзем нічога купляць у гэтага машэнніка!

— Што-ж гэта такое?—сказала Саоткін, збянтэжана гледзячы то на золата, то на Клааса.

— Слухай і радуйся,—сказаў Клаас.—Катліна разам з Неле пераехалі жыць у Мейбург. Там Неле сустрэла майго брата, пустэльніка Іоса, і расказала яму, як цяжка

нам прыходзіцца. Вось Іос і парашыў выручыць нас. Яму-ж грошы больш непатрэбны. Ён выракся святой каталіцкай царквы і далучыўся да лютэравай ерасі.

— Ерэтыкі не мы, а каталікі,—сказаў чорны чалавек.—Папа рымскі—здраднік, ён гандлюе благадаццю божай.

— Ах, судар,—ускрыкнула Саоткін,—гаварыце цішэй: нас усіх спаляць за такія словы.

— Такім чынам,—казаў далей Клаас,—Іос паступіў у войска рэфарматаў, каб ваяваць з імператарам і каталіцкай царквою. Нашто яму грошы? Бо ў выпадку няўдачы яны трапяць у лапы якому-небудзь абібоку ландскнехту. І вось Іос прыслаў нам семсот чырвонцаў. «Перадай Клаасу,—сказаў ён гэтаму добраму чалавеку,— хай жыве ён у страху божым і помніць аб выратаванні душы».

— Так,—сказаў коннік,—час для гэтага прыспеў. Кожнаму гасподзь дасць па справах яго.

— Ваша праўда, судар,—сказаў Клаас,—але пакуль што давайце адсвяткуем разам наша сёнешняе свята. На абед у нас будуць адменныя патрахі, шынкі і баранніяножкі. Я праходзіў паўз крамкі мясніка і бачыў, як яны вісяць на кручках. У мяне слінкі пацяклі, клянуся вам, судар.

— Ці не вар'яцтва аддавацца асалодам,—сказаў чорны чалавек,—калі вока божае сочыць за намі?

— Няўжо вы не хочаце закусіць на дарогу?—спытаў Клаас.

— Калі загіне папа і падзе Вавілон яго, тады і мы аддадзімся земным радасцям.

Клаас і Саоткін перахрысціліся. Коннік сеў на каня і крануў павадамі.

— Перадайце, прынамсі, Іосу мой брацкі пацалунак і ахоўвайце яго ў баі,—крыкнуў Клаас.

— Так,—адказваў коннік,—я зраблю гэта.

І ён паехаў.

Неўзабаве ўвесь горад загаварыў аб нечаканым шчасці, якое звалілася на галаву Клааса. Святар за-

пэўніваў, што гэтыя грошы атрыманы ад ерэтыка і таму не прынясуць Клаасу ніякай радасці. Да таго-ж ён не афяраваў у царкву ні ліяра.

Клаас і Саоткін зажылі шчаслівым жыццём. Цяпер ужо ім не прыходзілася класціся спаць нашча. Але па-ранейшаму сумавала Саоткін і ўсё глядзела на дарогу: ці не вяртаецца дадому не бяспутны Уленшпігель?

## Раздзел 12. Аб тым, як Уленшпігель быў у папы рымскага

Доўга ішоў Уленшпігель. Усё цела яго ныла ад утомы, і нават кроў выступіла ў яго на нагах. На шчасце, у Майнцкім епіскапстве ён дагнаў фурманку з багамольцамі, і яны, пашкадаваўшы яго, давезлі яго да Рыма.

У горадзе на парозе нейкага шынка ён убачыў маладую шынкарку.

— Гаспадыня, ці не дасі прытулку багамольцу?— спытаў у яе Уленшпігель.

— Мы пускаем усіх, хто плоціць,—адказвала гаспадыня.

— У маім кашальку сто дукатаў,—сказаў Уленшпігель, не гледзячы на тое, што ў яго быў усяго толькі адзін дукат,—і першы з іх я патрачу на бутэльку даўняга рымскага віна.

— Віно ў нас недарагое,—адказвала гаспадыня,—зайдзі, нап'ешся і на адзін сальдо.

Уленшпігель загадаў падаць сабе бутэльку.

— Скажы, малады багамолец, нашто ты прыехаў у Рым?—спытала гаспадыня.

— Пагутарыць з папам,—адказваў Уленшпігель.

— Што ты,—ускрыкнула яна.—Пагаварыць з папам! Я жыву ўсё жыццё ў гэтым горадзе і то ні разу не магла пагутарыць з ім.

— А я пагутару,—сказаў Уленшпігель.

— Хіба ты не ведаеш, як цяжка да яго дайсці? У яго няма звычая прымаць у сябе першага сустрэчнага.

— Ведаю я яго звычаі,—сказаў Уленшпігель.—Юлій Трэці жыве весела. Не вельмі ён сароміцца пры сваім бажэнственным званні.

— Ці,—сказала яна,—і не гавары так голасна.

— Кажуць, калі аднойчы яму не пакінулі на вячэру халоднага паўліна, ён лаяўся самымі брыдкімі словамі, як просты салдат. І пры гэтым казаў, што можа сварыцца з-за паўліна колькі яму зажадаецца, бо сам гасподзь бог, яго гаспадар, у свой час раззлаваўся на Адама за з'едзены яблык. Бачыш, гаспадынька, я вельмі добра ведаю, хто такі ваш папа.

— Ах, толькі не балбачы пра гэта з іншымі. А ўбачыць—ты яго ўсё-такі не ўбачыш.

— Убачу і пагутару з ім.

— Іду з табой у заклад на сто фларынаў.

— Я ўжо выйграў.

На наступны дзень Уленшпігель пайшоў у горад, каб даведацца, у якой царкве будзе служыць папа. Папа служыў у гэты дзень у царкве святога Іоана Латэранскага. Уленшпігель адправіўся туды, прабраўся наперад і стаў так, каб усе яго бачылі, перад самым алтаром. Як толькі папа падымаў чашу або святыя дары, Уленшпігель паварочваўся да яго спіной.

Побач з папам стаяў тлусты кардынал. На плячы ў яго сядзела маленькая малпачка,—яго любіміца. Кардынал забаўляўся ёю і ў той-жа час прычашчаў народ святымі дарамі. Раптам ён заўважыў Уленшпігеля і паказаў на яго папе. Пасля абедні да Уленшпігеля падышлі чатыры папскія салдаты і адвялі яго ў папскую прыёмную.

— Якой ты веры?—спытаў яго папа.

— Ваша свяцейшаства,—сказаў Уленшпігель,—я той самай веры, што і мая гаспадыня.

Папа загадаў прывесці гаспадыню.

— Якой ты веры?—спытаў ён яе.

— Той самай, што і ваша свяцейшаства,—адказала яна.

— І я таксама,—сказаў Уленшпігель.

— Чаму-ж ты адварочваўся ад святых дараў?—спытаў папа.

— Я нявярты, каб на іх глядзець.

— Ты багамолец?—спытаў папа.

— Я прышоў з Фландрыі маліць ваша свяцейшаства, каб вы адпусцілі мае грахі.

Папа благаславіў Уленшпігеля і адпусціў дадому. Уленшпігель пайшоў разам з гаспадыняй, і яна заплаціла яму сто фларынаў. З туга напакаваным кашальком ён пакінуў Рым, каб вярнуцца ў Фландрыю.

Але за пергаментную грамату аб адпушчэнні грахоў яму прышлося заплаціць сем фларынаў, бо папа нятанна цаніў свае благаславенні.

---

## Раздзел 13. Аб тым, як Клаас купіў сабе індульгенцыю

У гэты час у Даме прыбылі два манахі—прадаваць індульгенцыі. Зверху іх манашаскага адзення былі надзеты прыгожыя палярыны, абшытыя кружавам.

У добрае надвор'е манахі сядзелі каля царквы, а калі ішоў дождж—у прытворы. Там вісеў доўгі спіс цэн на індульгенцыі. Былі індульгенцыі цаной у шэсць ліраў, былі ў патар, былі ў палову парыжскага ліўра. Грахі адпускаліся, гледзячы па цане, на сто, дзвесце, трыста, чатырыста гадоў, а таксама давалася і поўнае шчасце на тым свеце—за немалую плату, вядома.

Пакупнікам, якія заплоцяць цалкам, выдаваліся індульгенцыі—кавалачкі пергамента з адпушчэннем грахоў на пэўны лік год.

Адзін з манахаў часта прапаведваў народу. У яго быў тлусты твар, трайны падбародак і важкі жывот. Аднак, гэта яго ніколечкі не турбавала.

— Няшчасны!—гаварыў ён, утаропіўшыся на якога-небудзь гаражаніна.—Няшчасны! Вось ты памёр і гарыш у пякельным агні. Зірні на самога сябе. Якое страшнае полымя пячэ тваё цела! Ты—каўбаса на агні Люцыфера, ты баранова ножка ў зубах Гільгірота, вялікага д'ябла. А якая да цябе прыправа? Серка ды смала. І ўсе мы, няшчасныя грэшнікі, будзем гарэць на пякельным агні. Вось дзе яны, сапраўдныя слёзы! Вось дзе ён, скрыгат зубоў! Госпадзі, памілуй! Госпадзі, памілуй! У самым пекле ты, грэшнік няшчасны, і няма канца тваім пакутам. А варта толькі адзін дэн'е заплаціць за цябе, і—ужо

лягчэй зрабілася тваёй правай руцэ; яшчэ поў-дэн'е— глядзіш, і абедзве рукі вызваліліся з полымя. А астатняе цела? Усяго толькі адзін фларын, і вось благадатная раса льецца на цябе з неба. Скончыліся твае пакуты. О сладэчная прахлада! О райскае шчасце!

Гаворачы гэта, манах падштурхнуў свайго сябра, які трымаў у руках срэбранае блюда з грашыма. Той апусціў вочы і страсянуў блюда, заклікаючы слухачоў не шкадаваць грошай на благачасцівыя афяраванні.

— Успомні,—казаў далей манах,—хіба няма ў гэтым пякельным агні твайго сына, дачкі, любімага дзіцяці? Яны крычаць, яны плачуць, яны заклікаюць цябе на дапамогу. Няўжо ты не адгукнешся на іх стогны? Не, не можа гэтага быць! Тваё сэрца пачынае мякчэць—і гэта абыйдзецца табе ўсяго толькі ў адзін фларын. І як толькі ён са звонам упадзе на наша блюда,—пры гэтым сябра манаха зноў страсянуў сваё блюда,—адна няшчасная душа вырвецца з вогненнага бяздоння. І вось, вольная, шчаслівая, яна ўдыхае ў сябе свежае, халаднаватае паветра. Куды падзеліся яе пакуты! Перад ёй рассцілаюцца свежыя воды мора. Яна апускаецца ў іх, плавае то на спінцы, то на жывоціку, куляецца, нырае. Анёлы клічуць яе на неба, але яна ніяк не можа развітацца з морам. Яна-б хацела зрабіцца рыбай. Яна не ведае, што там, наверсе, для яе нарыхтаваны цудоўныя халаднаватыя азёры, па якіх, нібы ільдзіны, плаваюць велізарныя крыгі з цукровага ледзянца. Яна не ведае гэтага, для яе і звычайнае мора— велізарнае шчасце. Вось падплывае акула, але душа не баіцца яе. Яна ўлазіць ёй на спіну і апускаецца разам з ёю ў марскую бездань. Там сустракаюць яе марскія анёлкі. Яны сядзяць на пяску і ядуць свежых устрыц з перламутравых талерак. Але анёлы ўсё клічуць яе на неба. І вось, узроджаная і радасная, яна падымаецца да іх, нібы жаўранак, і трапляе ў рай, дзе сам гасподзь бог засядае ў славе сваёй. У раі яна сустракае ўсіх сваіх зямных сяброў і знаёмых, якія ў свой час купілі нашы індульгенцыі і атрымалі адпушчэнне грахоў, і разам з імі аддаецца вечнаму шчасцю.

— Купляйце індульгенцыі, браты! Прадаем за крузаты, за чырвонцы, за англійскія саверэны. Прымаем і дробную манету. Купляйце! Купляйце! Гэта святы гандаль. У нас досыць нарыхтавана—для багатага і для беднага. На жаль, напавер мы не даем, бо купляць і не плаціць наяўнымі,— гэта вялікі грэх перад госпадам богам.

Манах усё трэс сваім блюдам. І манеты, залатыя, срэбраныя, буйныя, дробныя, сыпаліся з усіх бакоў.

Разбагацелы Клаас заплаціў фларын і атрымаў адпушчэнне грахоў тэрмінам на дзесяць тысяч год. Пералічыўшы грошы, манахі выдалі яму вялікі кавалак пергамента—індульгенцыю.

Клаас накіраваўся дадому. Па дарозе ён сустрэў Ламе Гудзака. Ламе стаяў перад шынком і глытаў слінкі, прынюхваючыся да паху смажанага мяса.

— Ці ты гэта, сын мой?—сказаў Клаас.—Я чуў, што ты цяпер жанаты і жывеш у Льежы.

— Ох!—адказаў Ламе.—Жыць там стала неспакойна. У Льежы жыве занадта многа ерэтыкаў, і святым айцам увесь час прыходзіцца спальваць іх. Я прыехаў да вас разам са сваёй жонушкай.

Каб адсвяткаваць сустрэчу, яны зайшлі ў шынок.

У шынку іх сустрэлі сябры Ян ван-Раозебеке і Матэйс ван-Асхе. Неўзабаве прышоў і Грыпстувер, скупы старшыня рыбнікаў. Ён, як і заўсёды, сядзеў паблізу ад Клааса, за суседнім сталом, але піва выпіваў не больш за палову кубка. Закусваў ён адным салёным селядцом і турбаваўся аб сваім багацці больш, чым аб выратаванні душы.

Што датычыць Клааса, дык ён піў кубак за кубкам і весела балбатаў з сябрамі.

— Дастанецца табе за п'янства на тым свеце,—сказаў яму Ян Раозебеке, калі Клаас заказаў сабе яшчэ адзін кубак.

— За лішні кубак,—сказаў Клаас,—п'яніцу пякуць у пекле не болей за палову дня, а ў мяне ў кішэні індульгенцыя на дзесяць тысяч год. Хто хоча выратавацца год

на сто? Я магу адрэзаць кавалачак, і тады ні колькі душы зажадаецца.

— Па колькі прадаеш?—смеючыся закрычалі сябры.

— Сто гадоў—за кубак піва,—адказваў Клаас,—а за кавалак шынкі не пашкадую і паўтараста.

— Вось табе кубак піва,—сказаў адзін,—адрэж мне на сто.

— Вось табе кавалак шынкі,—сказаў другі,—адрэж на паўтараста.

Іншыя таксама паднеслі Клаасу хто піва, хто закускі, і кожнаму з іх Клаас адрэзаў ад сваёй індульгенцыі па вузенькай палосцы пергамента.

Зноў закіпела весялосць. Ламе так пад'еў, што стаў у два разы таўсцейшы. А Клаас пахаджваў па шынку і распрадаваў сваю індульгенцыю.

— А на дзесяць дзён ты можаш прадаць?—спытаў Грыпстузер, павярнуўшы да яго свой кіслы твар.

— Не,—адказваў Клаас,—занадта цяжка адрэзаць такую дробязь.

Усе засмяяліся. Рыбнік злосна паглядзеў на Клааса, але не сказаў ні слова.

Нарэшце Клаас падаўся дадому. Ламе цягнуўся за ім, і ногі ў яго былі нібы драўляныя.

---

# Раздзел 14. Аб тым, як Філіп уступіў на іспанскі прастол

Філіп пажаніўся з Марыяй Партугальскай, але не быў шчаслівы са сваёй жонкай. У іх нарадзіўся сын дон Карлос. Хутка пасля гэтага каралева моцна захварэла. Яна ляжала ў пасцелі, абкружаная фрэйлінамі, але Філіпа не было каля яе.

Філіп быў заняты барацьбой з ерэтыкамі. Ён сам прысутнічаў пры іх пакараннях. Здарылася так, што інквізітары абвінавацілі аднаго фламандскага скульптара-католіка ў святатацтве. Нейкі манах заказаў яму драўляную статую мадонны, але, калі работа была скончана, не хацеў заплаціць столькі, колькі абяцаў. Раз'юшаны скульптар пацягнуў разцом па твары статуі і сказаў:

— Я лепш знішчу статую, чым згаджуся на нікчэмную плату.

Манах данёс аб гэтым інквізіцыі. Скульптара схапілі, яго жорстка катавалі і прысудзілі спаліць.

Весь двор прыбег глядзець на пакаранне няшчаснага скульптара. Фрэйліны пакінулі каралеву: яны хацелі адчуць асалоду ад відовішча пакарання. Каралева засталася адна.

Асуджанага прыкулі да слупа. Вакол слупа наклалі снапоў саломы і вязак галля. Бліснуў агонь. Кароль Філіп і яго світа з цікаўнасцю назіралі за гаротным.

У гэты час каралеве Марыі захацелася піць. Яна з цяжкасцю ўзнялася на пасцелі і ўбачыла на стале дыню. Але падаць яе не было каму. Хворая сяк-так дацягнулася да стала, узяла дыню і з прагнасцю з'ела яе.

Каралеву кінула ў дрыжыкі. Пакрытая потам, яна павалілася на падлогу.

— Холадна!—стагнала яна.—Холадна мне! Аднясіце мяне ў пасцель! Я сагрэюся ў пасцелі!

І ў гэты час пачула яна крыкі скульптара.

— Адсячыце ногі!—крычаў няшчасны.—Адсячыце ногі! Гарачае полымя ўжо лізала яго падэшвы.

— Ах,—застагнала каралева,—які сабака там вые? Няўжо блізка мая смерць?

У гэтую хвіліну ачнуўся скульптар ад сваіх нечалавечых пакут, расплюшчыў вочы і ўбачыў навокал сябе адны варожыя твары іспанцаў. І ўспомніў ён сваю Фландрыю, краіну сілы і вялікай мужнасці, і выпрастаўся ён, стаў цвёрдай нагой на палаючае галлё, склаў на грудзях свае рукі крыж-на-крыж і ўскрыкнуў:

— Вось як паміраюць фламандцы перад тварам іспанскіх катаў. Не мне адсячыце ногі, але ім, каб не маглі больш гэтыя каты тыраніць нявінных. Няхай жыве Фландрыя! Хай вечна квітнее яна на страх сваім прыгнятальнікам!

І фрэйліны рукаляскалі яму, бачачы яго мужнасць.

І ён памёр.

А каралева Марыя дрыжэла ўсім целам. Зубы яе ляскалі ад смяртэльнага холаду. Яна рыдала, працягваючы рукі, і крычала:

— Аднясіце мяне ў пасцель! Дайце мне сагрэцца!

Але ніхто не прыходзіў на яе крыкі.

І яна памерла.

Кароль Філіп ажаніўся другі раз—з англійскай каралевай Марыяй Уродлівай. Але і з другой жонкай ён не быў шчаслівы.

Англічане не любілі яго. Яны не прызнавалі яго сваім каралём. Яны здзекваліся з яго і распаўсюджвалі пра яго злосныя памфлеты. У гэтых памфлетах гаварылася, што кароль падкуплен папай рымскім для таго, каб кастрамі і катаваннямі давесці да спустошэння англійскае каралеўства.

На сценах лонданскіх дамоў невядома хто расклейваў гравюры, якія ганьбілі караля. На іх было намалявана, як кароль грае на клавесіне. У клавесіне, у цесныя скрынкі, замкнуты каты. Хвасты іх высоўваюцца з круглых дзірак. Філіп падпальвае хвасты распаленым жалезам, каты енчуць ад болю і б'юць лапамі па клавішах. Клавесін грае.

Філіп рваўся з Англіі і не раз скардзіўся на англічан свайму бацьку, імператару Карлу. Але Карл быў ужо не былы магутны імператар. Яго час адыходзіў. Старасць і хваробы праследавалі яго. Здрадзіла яму і ваеннае шчасце. Пад Мецем ён быў разбіты ўшчэнт і страціў сорак тысяч чалавек. Генрых Другі, кароль французскі, заўзяты вораг каралеўства англійскага, пагражаў яму новай вайной. І Карл вырашыў зняць з сябе цяжар каралеўскай улады і адрачыся ад усіх сваіх прастолаў у карысць свайго сына.

Адрачэнне ад нідэрландскага прастола адбылося ў Бруселі. Калі-б мы маглі перанесціся ў тыя далёкія часы, каб прысутнічаць на брусельскіх урачыстасцях, мы ўбачылі-б там цікавае відовішча.

Вось у маленькай залі, разрысаванай зялёнай фарбай, сядзіць чалавек гадоў пяцідзесяці чатырох, лысы, сівы, з бялявай барадой на адвіслым падбародку. У яго шэрых вачах затаілася хітрасць, жорсткасць, прыкіднное дабрадушша. Гэты чалавек—яго свяцейшая вялікасць Карл Пяты, імператар Рымскай імперыі. Ён хворы і кашляе.

Побач з ім стаіць другі, малады, агідны і вялікагаловы, быццам малпа. Гэта кароль Філіп.

Яго вялікасць лае Філіпа за тое, што ён быццам занадта мяккі да англійскіх пратэстантаў.

— Трэба выконваць свой абавязак і знішчаць ерэтыкаў без літасці,—гаворыць імператар.—Не давай літасці нікому—ні мужчынам, ні жанчынам, ні дзяўчатам, ні дзецям. На жаль, да мяне дайшлі чуткі, што каралева, твая жонка, занадта часта праяўляе да іх сваю каралеўскую ласку.

Кароль адказвае яго вялікасці імператару, што надалей ён будзе рабіць па яго жаданню.

Яго вялікасць кашляе і выпівае некалькі глыткоў віна.

— Зараз ты ўбачыш генеральныя штаты,—кажа ён Філіпу,—усіх гэтых прэлатаў, дваран і гаражан. Сярод іх ты ўбачыш маўклівага Вільгельма Оранскага, гордага Эгмонта, нікім не любімага Горна, смелага, як леў, Брэдэродэ і ўсіх рыцараў Залатога Руна. Ад гэтага часу ты будзеш іх уладаром. Больш за ўсё паважаюць яны свае бразгушкі. Яны ахвотна дадуць адрэзаць сабе нос, абы атрымаць на грудзі такую бразгушку ў адзнаку вышэйшага гонару.

— Сын мой,—кажа далей імператар сумным голасам,— ты ведаеш,—я адракаюся ў тваю карысць. Мне прыдзецца гаварыць перад натоўпам, хоць я ікаю і кашляю. Я занадта многа еў у сваім жыцці, сын мой. Жорсткае ў цябе мабыць сэрца, калі ты не пусціш слязу, слухаючы мае словы.

— Я буду плакаць, бацька мой,—адказвае кароль.

Імператар кліча да сябе слугу, якога завуць Дзюбуа.

— Дай мне кавалачак цукру, змочаны ў мадэры: у мяне ікаўка. Няўжо яна перашкодзіць мне гаварыць? Гэты ўчарашні гусь так і сядзіць у мяне ў глотцы. А можа выпіць арлеанскага? Не, не трэба: яно занадта кіслае. А можа з'есці пару анчоусаў? Не, яны вельмі тлустыя. Дзюбуа, дай мне салодкага віна.

Дзюбуа падае імператару віно. Потым ён апранае Карла ў імператарскае адзенне: пакрывае яго плечы залатой мантыяй, апаясвае мечам, дае ў рукі скіпетр і дзяржаву, надзяе на галаву карону.

Імператар са сваім сынам ідуць у палац.

Там сустракае іх высокі стройны чалавек—прынц Оранскі.

— Ну, як я сёння выглядаю, кузен Вільгельм?— пытае яго імператар.

Той маўчыць.

— Што-ж ты маўчыш, кузен?—поўсмехам, поўсур'ёзна пытае яго вялікасць. Не хочаш сказаць праўду старой руіне, ці-ж не так? Цараваць мне ці адрачыся? Што ты мне параіш, Маўклівы?

— Ваша свяцейшая вялікасць,—кажа прынц Аранскі,—калі прыходзіць зіма—нават самыя моцныя дубы трацяць сваё лісце.

Імператар са сваёй світай уваходзіць у раскошную залу і садзіцца пад балдахінам на высокім памосце. Тут падрыхтаваны крэслы. Сярэдняе з іх—з імператарскай каронай, яно для імператара; левае—для каралевы, правае—для наследніка, караля Філіпа. З абодвух бакоў, на лаўках, пакрытых дыванамі, сядзяць знатныя паны, апранутыя ў чырвонае адзенне. На шыі ў іх вісіць ордэн Залатога Руна. Ззаду тоўпіцца мноства знатных асоб: усё гэта князі і высакародныя сен'ёры. Унізе, каля памоста, сядзяць людзі ў простым суконным адзенні. Гэта купцы і розныя гандлёвыя людзі, за кошт якіх наладжана святкаванне. Пры з'яўленні імператара ўсе ўстаюць са сваіх месц. Імператар усаджваецца і загадвае ўсім сесці.

Потым ён пачынае гаварыць пра сябе, пра сваю працу, пра свае войны. Ён кажа, што цяпер ён стаміўся, састарэўся і вырашыў перадаць карону Іспаніі свайму сыну, а разам з ёй—усе герцагствы, графствы і іншыя свае ўладанні.

Ён плача. І ўсе плачуць разам з ім.

Тады ўстае кароль Філіп і падае на калені перад імператарам.

— Ваша свяцейшая вялікасць,—кажа ён,—ці магу я прыняць гэту карону з вашых рук, калі вы яшчэ самі можаце насіць яе?!

Тут імператар шэпча яму на вуха, каб ён звярнуўся з прамовай да прысутных.

— Я не настолькі добра разумею па-французску, каб размаўляць з гэтымі панамі,—кажа Філіп кіслым тонам.—Паслухайце, што скажа за мяне епіскап Араскі.

— Няўдала сказана, сын мой,—гаворыць імператар.

Сапраўды, нараканні прабягаюць па залі: занадта высокамерны малады кароль. Пасля Філіпа гаворыць епіскап Араскі, потым каралева, потым адзін старэнькі доктар. Нарэшце ўсе цырамоніі скончаны. Імператар абвяшчае сваіх падданых вольнымі ад прысягі, падымаецца

з трона і садзіць на яго сына. У залі ўсе плачуць. Імператар са світай вяртаецца ў свае пакоі.

Там, у зялёнай залі, застаўшыся з сынам сам-на-сам, імператар пачынае рагатаць. Ён рагоча, ікаючы, і гаворыць Філіпу:

— Бачыш, як мала трэба, каб расчуліць гэтых людцаў? Які патоп-слёз! Яны раўлі нібы цяляты. Ды і ты як быццам расчуліўся, але недастаткова. Сын мой, вучыся ўладарыць народамі. Чым больш грошай мы з іх выціскаем, тым больш яны нас любяць. Дзякуючы мне ў Нідэрландах загінула пяцьдзесят тысяч чалавек. Цяпер я адыходжу ад улады,—яны плачуць. Я выціснуў з іх столькі грошай, колькі не атрымаеш з Індыі або Перу,—а яны засмучаны, што трацяць мяне. Я ўсмірыў Гент, знішчыў іх вольнасці і прывілеі,—а гэтыя дурні ўсё яшчэ лічаць сябе вольнымі, таму што я дазваляю ім страляць з арбалетаў і насіць у працэсіях свае цэхавыя сцягі. Сын мой, будзь з імі добры на словах, але жорсткі на справе. Кляніся захоўваць іх вольнасці і прывілеі, але, калі ўбачыш, што гэта для цябе невыгодна, знішчай іх без усякага страху. Ерэтыкаў трэба знішчаць не за тое, што яны здрадзілі каталіцкай веры, а за тое, што яны не хочуць нашай улады і змагаюцца з намі ў Нідэрландах. Тыя, хто паўстаюць супроць папы з яго патройнай каронай,—паўстануць і супроць караля, у якога толькі адна карона. Знішчай іх без літасці і будзь наследнікам іх маёмасці. Памятай, што, калі ты памрэш, гэтыя дурні скажуць: «О, які добры быў гасудар»—і горка заплачуць.

Нарагатаўшыся, імператар валіцца на ложак і засынае. Кароль Філіп глядзіць на яго моўчкі, высокамерны і горды. Позірк яго халодны. Ён не любіць свайго бацьку.

---

## Раздзел 15. Аб тым, як Уленшпігель зрабіўся жывапісцам

Ужо тры гады прайшло з таго часу, як Катліну прагналі з Даме. Улетку ў канцы трэцяга года яна вярнулася на радзіму.

— Душа сумуе,—няўтомна паўтарала яна,—прабіце дзірку, выпусціце душу на волю.

І па-ранейшаму, убачыўшы карову, яна ўскаквала і бегла прэч.

Часам яна садзілася на лаўцы каля дома і, ківаючы галавой, глядзела на тых, што праходзілі паўз яе. Але яна нікога не пазнавала. Гаражане праходзілі міма і казалі адзін аднаму:

— Вось няшчасная!

А Уленшпігель усё яшчэ бадзяўся па дарогах і ўжо даўно не меў прытулку.

І вось аднойчы ён убачыў на дарозе асла ў прыгожай збруі, упрыгожанай меднымі бляшкамі. Каля асла стаяла некалькі старых жанчын.

— Не падыходзь блізка,—крычалі яны Уленшпігелю,— не чапай гэтага асла! Гэта асёл барона Дэ-Рэ, вялікага чараўніка і бязбожніка. Калі барона спалілі на кастры, асёл кінуўся наўцёкі. Стражнікі схапілі яго на дарозе, але ён так завыў, што гэтыя палахліўцы разбегліся ва ўсе бакі. Відаць, у нашай краіне не засталося ніводнага смелага мужчыны.

Аднак варта было аслу падняць галаву, як гэтыя смелыя кумушкі з крыкам кідаліся ад яго—хто куды. Потым яны зноў збіраліся навокал, балбаталі, як сарокі, і зноў кідаліся ў розныя бакі, ледзь толькі асёл падымаў сваю морду.

«Вось балбатухі,—падумаў Уленшпігель.—Што яны баяцца гэтага дуралея? Сяду вось я на яго ды паеду паціханьку. А то прадам яго пры выпадку».

Уленшпігель сарваў бярэмца аўса, даў яго аслу і, спрытна ўскочыўшы да яго на спіну, паскакаў па дарозе. Затым ён павярнуўся да старых і некалькі разоў благаславіў іх рукой, як гэта робяць манахі, сустракаючы на шляху багамольных падарожнікаў. Старыя ў жаху паваліліся на калені і доўга потым расказвалі суседзям, як з'явіўся ім анёл у лямцавым капелюшы з фазанавым пяром, благаславіў іх і па божаму загаду павёў з сабой зачараванага асла.

А Уленшпігель тымчасам ехаў сабе наперад па зялёных палях і пашах. Навокал яго, паскубваючы траву, пасвіліся каровы і гарэзліва скакалі жарэбчыкі. Уленшпігель празваў свайго асла Іеф.

На адным лужку асёл спыніўся і пачаў есці чартапалох. Страўнік Уленшпігеля таксама патрабаваў ежы, але, на жаль, дарожная торба яго была пустая.

— Шанцуе табе, пан асёл,—казаў Іефу Уленшпігель,—ніхто не перашкаджае табе атрымліваць асалоду. А якжа мне—ты аб гэтым не думаеш? Бедныя мае кішэні! Усе яны з дзіркамі. Не трымаюцца ў іх ні дукаты, ні фларыны, ні талеры. Не ведаю, за што мяне грошы так не любяць. Ды ты, пан асёл, бачу я, не слухаеш мяне. Табе і гора мала, абжора няшчасны.

І ён сцебануў асла дубцом. Асёл зароў.

— Ну, пайшоў далей,—сказаў Уленшпігель.

Але асёл не крануўся з месца. Здавалася, ён вырашыў з'есці ўвесь прыдарожны чартапалох да апошняй калючкі. Тады Уленшпігель злез на зямлю і сарваў бярэмца чарта-

палоху. Потым ён зноў ускочыў на асла і стаў махаць гэтым калючым букетам перад аслінай мордай. Асёл, стараючыся схапіць траву губамі, хутка пабег наперад.

Так Уленшпігель даехаў да замка ландграфа гесенскага.

На лесніцы замка два афіцэры ігралі ў косці. Адзін з іх паглядзеў на Уленшпігеля.

— Чаго табе, галодны ханжа?—спытаў ён.

— Праўда твая,—адказаў Уленшпігель.—Я галодны, як сабака. Але я-ж вандрую не па сваёй волі.

— Адкуль ты?—спытаў афіцэр.

— З Фландрыі,—адказаў Уленшпігель.

— Што табе патрэбна?

— Я жывапісец, хачу паступіць да ландграфа на работу.

Афіцэр адвёў Уленшпігеля да ландграфа.

— Ваша высокасць,—сказаў яму Уленшпігель,—я быў жывапісцам у многіх знатных асоб, і ўсе яны былі задаволены маёй работай. Зараз я жадаў-бы паслужыць сваім мастацтвам к услаўленню вашага вялікадушша. Ці не патрэбен вам прыдворны жывапісец?

— Патрэбен,—сказаў ландграф.—Вазьму цябе на спробу.

— І вы не будзеце каяцца,—сказаў Уленшпігель.

— Ты, бачу я, схуднеў,—сказаў ландграф, разглядваючы Уленшпігеля.

— Сапраўды, ваша высокасць,—адказваў Уленшпігель,—мой асёл вельмі добра паабедаў чартапалохам, я-ж цэлых тры дні харчаваўся толькі дымам надзеі.

— Ну, зараз ты павячэраеш пасмачней,—сказаў ландграф.—А дзе-ж твой асёл?

— Я яго пакінуў на плошчы перад самым палацам,—адказваў Уленшпігель.—Я буду вельмі рады, калі майго Іефа адвядуць пад страху і дадуць яму на вячэру торбу аўса.

Ландграф загадаў пажу адвесці Іефа ў стайню.

Надышоў час вячэры. Вячэру падалі раскошную. Смажанае мяса дымілася, і бакалы безупынна напаўняліся віном.

Уленшпігель і ландграф расчырванеліся ад яды. Уленшпігель хутка развесяліўся. Ландграф сядзеў, глыбока задумаўшыся.

— Вось што, жывапісец,—раптам сказаў ён,—ты павінен намаляваць мой партрэт. Я хачу пакінуць яго на ўспамін патомству.

— Ваша воля для мяне закон, ваша высокасць, але, мне, вашаму нікчэмнаму служцы, здаецца, што вас патрэбна намаляваць не ў адзіноцтве, а разам з паняй ландграфіняй, вашай благароднай супругай, з прыдворнымі дамамі і кавалерамі, а таксама з вашымі капітанамі і іншымі храбрымі афіцэрамі. І сярод усіх вашых прыдворных, нібы два сонцы сярод ліхтароў, будзеце красавацца вы, ваша высокасць, і ваша шаноўная супруга.

— Правільна, пан жывапісец,—сказаў ландграф,—а колькі ты возьмеш за сваю работу?

— Сто фларынаў,—сказаў Уленшпігель.

— Вось вазьмі іх наперад,—сказаў ландграф.

— Судар,—усклікнуў Уленшпігель,—вы падліваеце алівы ў маю лампаду, і ад гэтага часу яна яшчэ ярчэй заззяе ў гонар вашай міласці.

На наступны дзень граф прадставіў яму ўсіх тых, каго трэба было намаляваць на карціне.

Быў сярод іх герцаг люнебургскі, начальнік графскіх ландскнехтаў. Гэта быў вялізны таўстун, які з цяжкасцю насіў сваё тлустае бруха. Ён падышоў к Уленшпігелю і прахрыпеў яму на вуха:

— Калі ты, малюючы мой партрэт, не знімеш з мяне палову тлушчу, мае салдаты цябе павесяць.

Потым з'явілася знатная дама з горбам на спіне.

— Пан жывапісец,—сказала яна,—калі ты, малюючы мяне, не знімеш з маёй спіны гэты горб, цябе чацвяртуюць, як атручвальніка.

Потым з'явілася маладзенькая прыгожая фрэйліна, у якой нехапала трох пярэдніх зубоў.

— Пан жывапісец,—сказала яна,—калі ты намалюеш мяне бяззубай, мой жаніх пасячэ цябе на кавалкі.

Нарэшце Уленшпігель застаўся адзін з ландграфам.

— Калі ты намалюеш каго-небудзь не такім, як ён ёсць,—сказаў ландграф,—я адсяку табе галаву, як кураняці.

«Як быць?—падумаў Уленшпігель.—Таго і глядзі, на самай справе павесяць або чацвяртуюць. Лепш ужо нікога не маляваць. Так яно будзе спакайней».

Уленшпігеля прывялі ў велізарную залу з голымі сценкамі. На адной з гэтых сценак ён павінен быў намаляваць сваю карціну.

— Гэтую сцяну трэба завесіць вялікай заслонай,—сказаў Уленшпігель.—Інакш мая работа папсуецца ад пылу.

Занавес павесілі.

— Дайце мне трох памочнікаў,—сказаў Уленшпігель.—Яны будуць расціраць фарбы.

Памочнікі з'явіліся. Уленшпігель цэлы месяц нічога не рабіў і толькі піраваў з імі ад рання да вечара. Па загаду графа ім падавалі самыя лепшыя стравы і віны.

Праз месяц ландграф пастукаў у дзверы.

— Ну, Тыль, як работа?—спытаў ён.

— Яшчэ далёка да канца,—адказваў Уленшпігель.

— Можна паглядзець?

— Нельга яшчэ.

Прайшло яшчэ некалькі дзён. Ландграф зноў пастукаўся ў пакой.

— Ну, Тыль?

— Канчаем, пан ландграф.

Праз два месяцы цярпенне ландграфа лопнула. Ён уварваўся ў залу і закрычаў:

— Знімайце заслону! Я хачу зараз-жа бачыць карціну!

— Адну хвіліну, ваша грозная высокасць,—сказаў

Уленшпігель.—Спачатку трэба запрасіць усіх дам і кавалераў. Як толькі яны збяруцца, я зніму заслону.

— Згодзен,—сказаў ландграф.

Па загаду ландграфа ўсе сабраліся ў залу.

Уленшпігель стаў перад заслонай і сказаў:

— Пан ландграф і вы, пані ландграфіня, і вы, герцаг люнебургскі, і вы, прыгожыя дамы і бясстрашныя кавалеры! Я, як толькі змог, намаляваў тут вашы чароўныя або ваяўнічыя твары. Кожны з вас лёгка пазнае свой партрэт. Усе дваране благароднай крыві сёння ўбачаць маю карціну і будуць з захапленнем сузіраць яе. Але калі сярод вас ёсць хоць адзін чалавек нізкага паходжання,— ён не ўбачыць нічога, апрача белай сцяны, бо невуцкая чэрнь па сваёй прыродзе сляпая да высокага мастацтва. І так, зрабіце ласку, расплюшчце і вашы благародныя вочы!

Уленшпігель падняў заслону, і гледачы ўбачылі пустую голую сцяну.

— Памятайце,—казаў далей Уленшпігель,—маю карціну бачаць адны благародныя, мужыкі не бачаць нічога.

Усе шырока расплюшчылі вочы і ўтаропіліся на голую сцяну. Усе прыкідваліся, што бачаць карціну. Яны паказвалі адзін аднаму на паасобныя постаці, пазнавалі сваіх знаёмых, меркавалі,—ці добра яны намаляваны. На самай справе яны нічога не бачылі і былі вельмі збянтэжаны гэтай акалічнасцю.

Толькі адзін графскі камедыянт падскочыў, загрукацеў бразгушкамі і закрычаў на ўсё горла:

— Хай я буду самы пагарджаны мужык, але ўсё-ж скажу ўсім: «Тут няма нічога, апрача белых і зусім пустых сцен»... І хай будзе са мной божая ласка!

— Калі пачынаюць гаварыць дурні, разумныя ўходзяць,—сказаў Уленшпігель і вышаў з залы.

У варотах дагнаў яго сам ландграф.

— Дурань ты, дурань,—сказаў ён.—Ці хутка ты пакінеш здзекавацца з дваран? Павесяць цябе калі-небудзь за твае дурацкія штукі.

— Калі вяроўка будзе залатая,—сказаў Уленшпігель,— яна ад страху парвецца на кавалкі, як толькі ўбачыць, што я падыходжу да яе.

— У такім выпадку,—сказаў ландграф,—вось табе першы кавалачак.

І ён адлічыў яму пятнаццаць фларынаў.

— Дзякую вам, ваша высокасць,—сказаў Уленшпігель,—кожны шынок на маім шляху атрымае ад гэтага кавалка па залатой нітачцы.

І, памахаўшы на развітанне сваім капелюшом з фазанавым пяром, ён ускочыў на асла і паскакаў па дарозе.

---

## Раздзел 16. Аб тым, як Уленшпігель абдурыў вандруючых фламандцаў

У герцагстве Люнебургскім Уленшпігель сустрэў кампанію вясёлых фламандцаў, якія ездзілі павесяліцца ў Германію і цяпер вярталіся назад на радзіму. Седзячы ў фурманцы, яны спявалі песні і гралі на дудках і жалейках. Побач з фурманкай ішоў таўстун: ён спадзяваўся схуднець пасля сваёй прагулкі.

У вандраўнікоў ужо выходзіў апошні фларын, калі яны ўбачылі перад сабой Уленшпігеля. Уленшпігель, бразгочучы сваімі грашыма, весела ішоў па дарозе. Яны запрасілі яго ў шынок і добра пачаставалі. Уленшпігель піў ды пасмейваўся. Але раптам ён заўважыў, што фламандцы пераміргваюцца між сабой і смяюцца, наліваючы яму віно.

«Тут нешта нядобра»,—падумаў Уленшпігель.

Ён вышаў за дзверы і прыслухаўся да іх гутаркі.

— Гэта жывапісец ландграфа,—казаў таўстун сваім таварышам,—ён зашыб на сваёй карціне немалыя грошы. Наладзім яму папойку, а потым раздзенем і кінем на дарозе.

— Амін,—сказалі іншыя.

Уленшпігель адвёў свайго асла на суседні двор, а сам вярнуўся ў шынок і моўчкі падсеў да кампаніі. Змоўшчыкі зноў налілі яму віна і заплацілі гаспадару. Уленшпігель пабразгваў сваім туга напакаваным кашальком і казаў, што прадаў свайго асла нейкаму фермеру за семнаццаць срэбраных дэльдэраў.

Між тым таўстун падышоў да шынкара і сказаў, паказваючы на Уленшпігеля:

— Гэта жывапісец ландграфа. Ён заплаціць за ўсіх.

Гаспадар навалок на стол усякай ежы. Уленшпігель накладаў за абедзве шчакі і ўсё пазвоньваў сваімі манеткамі.

Часамі ён сцягваў з галавы свой капялюш і, трасучы ім, гаварыў субутэльнікам:

— Вось дзе зашыта маё галоўнае багацце.

Піравалі цэлых два дні і адну ноч. Нарэшце фламандцы сказалі Уленшпігелю:

— Плаці гаспадару. Час дадому ўжо.

— Хіба пацук, залезшы ў сыр, спяшаецца ў сваю нару?—спытаў Уленшпігель.

— Не,—сказалі яны.

— А калі чалавек тлуста есць, соладка п'е,—цягне яго на пыльную вуліцу ці да сточнай канавы?

— Не,—сказалі фламандцы.

— Дык і мы не пойдзем адсюль,—сказаў Уленшпігель.—Будзем піць, пакуль віно льецца ў нашы глоткі

І ён загадаў гаспадару прынесці яшчэ віна і каўбас.

— Я плачу за ўсё,—казаў Уленшпігель,—калі мой кашалёк апусцее, мы возьмемся за мой капялюш. У ім у мяне зашыта нямала добрых каролусаў.

— Дай нам памацаць!—закрычалі яны ўсе разам.

— І, схапіўшы капялюш, яны намацалі ў ім манеты велічынёй з каролус. Адзін з іх так любоўна прыціскаў да сябе каштоўны капялюш, што Уленшпігель узяў яго назад і перадаў шынкару.

— Патрымай яго ў сябе за прылаўкам,—сказаў Уленшпігель.—Тут вельмі горача. Я выйду на двор.

Шынкар узяў капялюш, а Уленшпігель вышаў на вуліцу, сеў на свайго асла і паскакаў па дарозе ў Эмдэн.

Фламандцы доўга чакалі Уленшпігеля. Але яго ўсё не было. У шынку падняўся шум.

— Няўжо ён збег?—закрычалі фламандцы. Хто цяпер заплоціць за пачастунак?

Гаспадар напалохаўся і разрэзаў нажом капялюш Уленшпігеля. Але ў ім замест каролусаў былі зашыты простыя медзячкі.

Тады шынкар наваліўся на п'яную кампанію:

— Машэннікі, вы не выйдзеце адсюль, пакуль цалкам не разлічыцеся са мной! Знімайце ўсё, што на вас надзета! Дарэчы, вашы брудныя кашулі можаце пакінуць у сябе: я не такі, каб знімаць з чалавека апошнюю кашулю.

І яны пакінулі яму замест грошай сваё адзенне. У адных кашулях селі яны ў сваю фурманку і пацягнуліся далей. Дарогай сустрэчныя падавалі ім хлеб, піва, а часамі і мяса; усе думалі, што іх абрабавалі разбойнікі.

Так яны і вярнуліся дадому ў адных кашулях.

---

## Раздзел 17. Аб тым, як Уленшпігель вылечыў хворых у Нюрэнбергскай больніцы

Прыехаўшы ў Нюрэнберг, Уленшпігель абвясціў гаражанам, што ён—славуты доктар, збавіцель ад хвароб, вялікі ачышчальнік страўніка, смелы пераможац чумы і ліхаманкі, праслаўлены змагар з каростай.

У гарадской больніцы было столькі хворых, што не ведалі, куды іх падзець. Галоўны лекар прыбег да Уленшпігеля.

— Ці праўда, што вы вялікі ўрач і вылечваеце ад усіх хвароб?—спытаў ён.

— Гэта так,—адказваў Уленшпігель.—Абяцайце мне дзвесце фларынаў, калі я вылечу ўсіх вашых хворых. Яны самі скажуць, што паправіліся, і пойдуць з больніцы.

Лекар абяцаў заплаціць грошы. Уленшпігель, надзьмуты і важны, быццам сапраўдны вучоны, пачаў абыходзіць хворых.

— Пакляніся, што ты будзеш маўчаць,—казаў ён на вуха кожнаму хвораму.—Я выратую цябе ад вернай гібелі.

Хворы абяцаў маўчаць.

— Ведай,—казаў яму Уленшпігель,—аднаго з вас я павінен спаліць. З попелу я прыгатую цудоўную мікстуру для ўсіх астатніх. Спаліць прыдзецца таго, хто не можа хадзіць без чужой дапамогі. Заўтра я вярнуся з вашым лекарам, стану пад акном і закрычу: «Эй, хлопцы, выходзь на вуліцу!» І гора таму, хто застанецца тады ў пасцелі.

Раніцой Уленшпігель з'явіўся на двор больніцы і пачаў клікаць хворых.

Ледзь толькі пачуўся яго голас, як усе хворыя—кульгавыя, кашлюны, каросліўыя—кінуліся на вуліцу. Нават тыя, хто год дзесяць не ўставаў з ложка.

— Усе паправіліся?—спытаў у іх лекар.

— Усе! Усе!—закрычалі яны, думаючы, што выратаваліся ад вернай гібелі.

— Плаці дзвесце фларынаў,—сказаў Уленшпігель лекару.—Бачыш, усе паправіліся.

На наступны дзень лекар убачыў, што яго хворыя з скаргамі і стогнамі кандыбаюць назад у больніцу. Толькі адзін з іх сапраўды паправіўся—ад свежага паветра. Ён напіўся п'яным і бегаў па вуліцах, крычучы на ўвесь голас:

— Няхай жыве вялікі доктар Уленшпігель!

---

# Раздзел 18. Аб тым, як Уленшпігель уваскрасіў мёртвага сабаку

Надышоў красавік. Спачатку стаяла адліга, потым пайшлі маразы. Ужо даўно скончыўся трэці год выгнання Уленшпігеля. Неле з дня на дзень чакала свайго друга дадому.

А Уленшпігель між тым прагуляў свае грошы, прадаў асла і зноў бадзяўся галодны і скалелы ад марозу. Праўда, ён нікому не скардзіўся на свой лёс. Наадварот, ён стараўся рассмяшыць людзей, каб яны падалі яму хлеба. Але смех у яго быў невясёлы. І людзі праходзілі паўз яго, не звяртаючы на яго ўвагі.

Аднойчы Уленшпігель паглядзеў на неба і ўбачыў над сабой велізарную хмару. Пасыпаў град. Градзіны, цвёрдыя, як камень, ударылі ў спіну бяздомнага.

— Охці,—стагнаў Уленшпігель,—хіба я сабака, каб у мяне кідалі каменнямі?

І ён кінуўся бегчы. І бегучы разважаў сам з сабой:

— Хіба я вінават, што ў мяне няма ні палаца, ні простай хаціны, каб схавацць ад непагоды маё беднае цела? О паганыя градзіны! Яны цвёрдыя, як ядры. Ах, чаму я не імператар!

І ён усё хутчэй бег па дарозе.

— Бедны мой носік,—казаў ён,—ты зрабіўся ўвесь на дзірках і можаш цяпер служыць за перачніцу на чыёй-небудзь знатнай пірушцы. О, салодкія ўспаміны! Як я галодны! Не скардзься, пустое бруха, не бурчыце, галодныя кішкі! Куды ты падзелася, маё былое шчасце?

Між тым неба ачысцілася ад хмар, і град перастаў. На чыстым небе заззяла сонца.

— Добры дзень, сонца!—сказаў Уленшпігель.—Добры дзень, мой адзіны друг! Ты хочаш мяне высушыць, ці-ж не праўда?

Але ўсё яшчэ было холадна, і Уленшпігель бег, падганяемы марозам. Раптам насустрач яму выскачыў сабака, белы з вялікімі чорнымі плямамі. Высунуўшы язык з пашчы, ён бег прама на Уленшпігеля.

«Гэта шалёны сабака»,—падумаў Уленшпігель. Ён падняў з дарогі камень і палез на дрэва. Сабака падбег бліжэй. Уленшпігель кінуў у яго камнем і разбіў яму чэрап. Сабака паваліўся і здох.

Уленшпігель злез на зямлю і нахіліўся над мёртвай жывёлінай. Морда ў сабакі была зусім не сухая, як гэта бывае заўсёды ў шалёных жывёл. І Уленшпігель пашкадаваў сваю бедную афяру. Прыгожая скурка сабакі спадабалася Уленшпігелю. Яе можна было каму-небудзь прадаць. Ён аблупіў сабаку, высушыў скурку на сонцы і схаваў яе ў сваю торбу.

Голад мучыў Уленшпігеля. Ён праходзіў па наваколічных фермах, але баяўся прадаваць скурку; яе мог убачыць гаспадар сабакі. Ён прасіў хлеба, але яму ніхто не падаваў. Ужо вечарэла. Ён валіўся з ног ад стомы. Нарэшце ён зайшоў на пастаялы двор. Там на парозе сядзела старая гаспадыня. Каля яе ног ляжаў хворы сабака, вельмі падобны да таго, якога забіў Уленшпігель. Сабака ўвесь час кашляў. Гаспадыня лашчыла яго і гладзіла па спіне сваімі зморшчанымі рукамі.

— Адкуль ідзеш ты, вандраўнік?—спытала старая Уленшпігеля.

— З Рыма,—адказваў Уленшпігель.—Там я вылечыў ад кашлю любімага папскага сабачку.

— Значыць, ты бачыў самога папу?—спытала старая, наліваючы яму з бочкі кубак піва.

— Само сабой зразумела,—адказваў Уленшпігель, вы-

піўшы піва.—Я прыклаўся да яго прэпадобнай нагі, абутай у свяшчэнную пантофлю.

А сабака ўсё кашляў і кашляў.

— Калі-ж гэта здарылася?—спытала старая.

— Два месяцы назад. У Рыме мяне даўно чакалі. Я падышоў да папскага палаца і пастукаў у дзверы. «Хто там?»—спытаў мяне галоўны кардынал, найвялікшы і самы сакрэтны прыбліжаны яго свяцейшаства. «Гэта я, пан галоўны кардынал,—адказаў я,—я прыехаў з Фландрыі, каб пацалаваць папскую нагу і вылечыць папскага сабачку ад шкоднага кашлю». «А, гэта ты, Уленшпігель!—сказаў папа з-за маленькай дзверкі.—Хацелася-б мне пабачыцца з табой, але гэта зараз немагчыма. Мне забаронена паказваць іншакраінцам свой твар, калі мяне голіць цырульнік». «Вось гора якое,— адказаў я,—я-ж прыехаў для таго толькі, каб пацалаваць ножку вашага свяцейшаства і вылечыць ад кашлю вашага сабачку. Няўжо я пайду адсюль ні з чым?» «Не,—адказаў святы айцец.—Гэй, кардынал, падсунь маё крэсла да дзвярэй і адчыні ніжнюю засланку». Засланка адчынілася, і з яе высунулася нага ў залатой пантофлі. У гэты момант я пачуў голас, падобны на грукат грому: «Вось нага найвялікшага ўладара, караля каралёў, імператара імператараў. Цалуй яе, хрысціянін. Цалуй святую пантофлю». Я пацалаваў пантофлю, і ў нос мне шыбанулі нябесныя пахі, якія зыходзілі з папскай нагі. Потым засланка зачынілася, і той-жа страшны голас загадаў мне пачакаць у пярэднім пакоі. Вось зноў адчынілася заслонка, і з яе вылез сабака,—аблезлы, кашляючы, з гнойнымі падслепаватымі вачыма. У гэтага сабачкі так раздуло жывот, што ён ледзь-ледзь рухаўся на сваіх раскірэчаных лапках. І тут зноў пачуўся голас свяцейшага айца. «Уленшпігель,—сказаў ён,—вось перад табой мой сабачка. Ён кашляе і вечна хварэе таму, што харчуецца касцямі ерэтыкаў. Вылечы яго, сын мой, я ўзнагароджу цябе па-царску».

— Пі,—сказала старая.

— Налівай,—адказаў Уленшпігель і расказваў далей.—Я даў сабаку цудоўнага зелля, якое сам прыгатаваў на

папскай кухні. Тры ночы яго трэсла, на чацвертую ён папраравіўся.

— Госпадзі Ісусе!—выгукнула здзіўленая старая.— Значыць, ты і майго сабаку можаш вылечыць?

— Дай мне смажанага мяса ды збан піва, і твой сабачка адразу перастане хрыпець і кашляць. Голас у яго будзе такі чысты, што яму можна будзе спяваць «Багародзіцу» ў царкоўным хоры.

— Калі гэта будзе так, я дам табе цэлы фларын,—сказала старая.—Так яно і будзе, але толькі пасля вячэры.

Старая прынесла яму ўсё, што ён прасіў. Уленшпігель наеўся і напіўся колькі хацеў. Сабака старой сядзеў пад сталом і стараўся пакласці да яго на калені свае брудныя лапы. Уленшпігель даў яму пару касцей і спытаў гаспадыню:

— Калі-б у цябе хто-небудзь павячэраў і не заплаціў табе ні патара,—што-б ты з ім зрабіла?

— Я зняла-б усё адзенне з гэтага машэнніка!

— Добра,—адказаў Уленшпігель і, падхапіўшы сабаку пад паху, пайшоў з ім на стайню. Там ён зачыніў яго, кінуў яму яшчэ адну косць, а сам выняў з торбы сабачую скурку і вярнуўся да старой.

— Значыць, ты знімаеш адзенне з таго, хто табе не заплаціць?—спытаў ён.

— Вядома,—сказала яна.

— Ну, вось,—сказаў Уленшпігель,—твой сабака з'еў палову майго абеда і нічога мне не заплаціў. Я пакараў яго па-твойму: садраў з яго яго лепшае, яго адзінае адзенне.

— Ах,—залемантавала старая,—як гэта жорстка з твайго боку, пан доктар! Бедны сабачка! Ён быў для мяне ўсёроўна што дзіця роднае. Нашто ты забіў яго? Цяпер мне толькі памерці застаецца.

— Я ўваскрашу яго. Прынясі мне гарачай вады, варэння, каб склеіць беражкі скуркі, іголку, нітку і падліўку ад жаркога. А сама ідзі прэч.

Старая, вохкаючы, прынесла ўсё, што ён прасіў. Ён узяў скурку мёртвага сабакі і пайшоў на стайню.

Там ён вымазаў морду сабакі падліўкай і правёў на яе бруху варэннем доўгія палосы. Лапы ён таксама намачыў варэннем, а канец хваста запэцкаў падліўкай.

Затым ён схаваў сваю скурку ў торбу і адчыніў дзверы стайні.

— Слухай мяне! Слухай мяне!—закрычаў ён дзікім голасам.—Уваскрэсні! Уваскрэсні! Жвава!

І, выцяўшы сабаку нагой, выкінуў яго са стайні проста пад ногі гаспадыні.

Старая кінулася яго цалаваць, але Уленшпігель не дазволіў.

— Не чапай сабачку, пакуль ён не зліжа з сябе ўсё варэнне. Тады толькі зрасцецца па-сапраўднаму яго скурка. А цяпер давай мне дзесяць фларынаў.

— Я абяцала адзін,—сказала старая.

— Адзін за аперацыю, дзевяць за ажыўленне,—сказаў Уленшпігель.

Старая вынесла грошы. Уленшпігель развітаўся з ёй і пайшоў з дому.

Але на парозе ён прыпыніўся, кінуў на падлогу сабачую скурку і сказаў старой:

— Вось яна, яе старая скурка. Беражы яе. Калі новая зносіцца—зробіш латкі.

---

# Раздзел 19. Аб тым, як чорны коппік з'явіўся ў другі раз

На свята святой крыві ў Бругe была наладжана вялікая царкоўная працэсія. Саоткін і Неле накіраваліся ў Бругe. Яны спадзяваліся сустрэць там Уленшпігеля. Клаас застаўся вартаваць хаціну.

Жанчыны пайшлі. Клаас сеў на парозе і задумаўся. На вуліцы не было ні душы. У паветры разносіліся частыя ўдары вясковага звона. Часамі вецер даносіў з Бругe святочны перазвон і стрэлы з фальканетаў.

Клаас усё глядзеў—ці не ідзе Уленшпігель. Але нікога не было. Сіняе бязвоблачнае неба ззяла над галавой. Сабакі, высалапіўшы языкі, ляжалі на сонцы. Вераб'і, шчабечучы, купаліся ў пылу, і вялікі шэры кот, асцярожна ступаючы, краўся да іх. Сонечныя праменні ліліся ў акно, ігралі на медных кацялках і алавяных кубках, расстаўленых на паліцы.

Але сонца не цешыла Клааса. Вочы яго шукалі сына. У далёкім тумане палёў ён стараўся разгледзець Уленшпігеля, у радасных спевах птушак пачуць яго голас. Раптам ён убачыў на дарозе нейкага чалавека. Але—дарма!—гэта быў не Уленшпігель.

Чалавек ішоў па самым ускрайку дарогі. Ён раз за разам нагінаўся, рваў з град, якія цягнуліся ўдоўж дарогі, моркву і з прагнасцю еў яе.

— Мабыць, надта выгаладаўся,—сказаў Клаас.

На мінуту ён згубіў яго. Але вось незнаёмы зноў з'явіўся на рагу вуліцы Чаплі, і Клаас адразу пазнаў яго.

Гэта быў пасланец брата Іоса, той самы чорны коннік, які прывёз яму калісьці семсот фларынаў.

Клаас пабег да яго насустрач.

— Калі ласка,—сказаў ён, запрашаючы падарожніка ў дом.

— Хай будуць благаславенны прымаючыя бяздомных,—адказаў пасланец.

На падаконніку былі накіданы крошкі хлеба. Гэта Саоткін пакінула для птушачак. Чалавек сабраў крошкі ў руку і прагна з'еў іх.

— Ты галодны?—спытаў Клаас.

— Вось ужо восем дзён, як мяне абрабавалі разбойнікі,—адказаў пасланец.—З таго часу я харчуюся толькі морквай ды рознымі карэннямі.

— Значыць, надышоў час пад'есці,—сказаў Клаас.— Вось міска бобу, вось яйкі, вось вяндліна і генцкія каўбаскі. У склепе дрэмле вінцо, чырвонае і белае, дрэмле і чакае, калі прачнуцца шкляначкі. Вось ужо і агеньчык запалаў. Чуеш, як пяюць каўбасы на патэльні!

І, пакуль тлустая каўбаса шыпела на патэльні, Клаас распытваў гасця.

— Ці не сустракаў ты дзе-небудзь майго сына Уленшпігеля?

— Не,—адказаў той.

— А што чуваць пра брата майго Іоса?

З гэтымі словамі Клаас паставіў на стол смажаную каўбасу, яечню з вяндлінай, сыр і чырвонае лувенскае віно ў бліскучай бутэльцы.

— Твой брат памёр на коле. Яго пакаралі за тое, што ён быў ерэтыкам і падняў зброю супроць імператара.

Ашалеўшы ад гора, Клаас глядзеў на свайго гасця.

— О каты праклятыя!—прастагнаў ён, калоцячыся ўсім целам.—Ах, Іос, бедны мой брат!

— Нашы радасці і бядоты не ад гэтага свету,—сурова праказаў пасланец і ўткнуўся ў сваю талерку.

— Я быў у твайго брата ў турме,—сказаў ён, пад'еўшы.—Я назваўся яго сваяком. Іос сказаў мне: «Калі ты

не пампрэш за веру таксама, як я, пайдзі да майго брата Клааса, скажы яму, каб ён жыў у міры божым, дапамагаў бедным і ўпотайкі навучаў свайго сына Хрыстову закону. Грошы, якія я яму паслаў, хай пойдуць на выхаванне Тыля: трэба, каб хлопчык стаў сапраўдным хрысціянінам».

Сказаўшы гэта, пасланец абняў і пацалаваў Клааса.

— Памёр на коле! Бедны брат мой! Бедны брат мой!— з слязмі на вачах паўтараў Клаас.

Слёзы не давалі яму гаварыць. Аднак, бачачы, што пасланец хоча піць, ён наліў яму віна, але сам ледзь дакрануўся губамі да сваёй шклянкі.

Саоткін і Неле цэлых сем дзён былі на багамоллі. Увесь гэты час пасланец Іоса жыў у Клааса.

Кожную ноч чулі яны, як крычала Катліна:

— Агонь, агонь! Прабіце дзірку! Душа на волю просіцца.

Клаас ішоў да яе, супакойваў яе добрымі словамі і вяртаўся да сябе.

На сёмы дзень госць пайшоў і не захацеў прыняць ад Клааса на дарогу больш за два каролусы.

## Раздзел 20. Аб тым, як Клаас трапіў у рукі інквізіцыі

Аднойчы раніцой Клаас сядзеў на падлозе ў кухні і прышываў гузік да старых штаноў. Неле клапацілася па гаспадарцы, а Саоткін сядзела каля акна і ўсё глядзела на вуліцу—ці не з'явіцца на дарозе Уленшпігель.

Раптам яна сказала:

— Вось профас з чатырма стражнікамі. Куды гэта яны накіраваліся? Глядзі, Клаас, двое абыходзяць нашу хаціну.

Клаас узняў галаву.

— А двое спыніліся каля дзвярэй,—казала далей Саоткін.

Клаас устаў.

— Каго гэта яны шукаюць на нашай вуліцы?—задуменна гаварыла Саоткін.—Госпадзі Ісусе! Мужанёк, яны ідуць сюды!

Клаас выбег з кухні ў сад. Неле кінулася за ім.

— Схавай грошы,—ціха сказаў ён ёй.—Яны ў задняй сценцы ачага, пад каменем.

Неле зразумела. Клаас хацеў пералезці праз плот, але тут яго схапілі стражнікі. Ён люта адбіваўся ад іх.

— Не чапайце яго!—закрычала Неле.—Ён не зрабіў нічога дрэннага. Не крыўдзіце яго! Не біце Клааса! Уленшпігель, дзе ты?

Яна кінулася на аднаго з стражнікаў і падрапала яму пазногцямі ўвесь твар. Потым яна павалілася на траву і моцна заплакала.

— Яны заб'юць яго!—крычала яна.

На шум прыбегла Катліна.

Убачыўшы стражнікаў, яна спалохалася і схапілася за галаву.

— Агонь, агонь! Прабіце дзірку! Душа на волю просіцца.

А Саоткін засталася ў доме. Раптам дзверы адчыніліся, і ў пакой увайшлі два стражнікі.

— Што вам патрэбна тут, панове?—сказала Саоткін.— Вы шукаеце майго сына? Ён далёка адсюль, не дагоніце. Ногі кароткія.

У гэтую хвіліну яна пачула крык Неле. Саоткін кінулася ў сад і ўбачыла, як, хапаючыся за плот, Клаас адбіваўся ад стражнікаў.

— Бі іх!—закрычала яна.—Бі! Уленшпігель, дзе ты?

І яна кінулася на дапамогу мужу. Але адзін з стражнікаў схапіў яе за руку і адцягнуў яе ад Клааса.

Клаас, мабыць, здужаў-бы стражнікаў, калі-б да іх не прыбеглі тыя два, што гаварылі з Саоткін.

Звязанага прывялі яго на кухню, дзе плакалі абедзве жанчыны.

— Пан профас,—сказала Саоткін,—завошта вы яго звязалі? Што ён вам зрабіў?

— Ён ерэтык,—сказаў адзін з стражнікаў.

— Ерэтык!—закрычала Саоткін.—Сам ты ерэтык, нягоднік! Як ты можаш паклёпнічаць на майго мужа!

— Аддадзімся на волю божую,—ціха сказаў Клаас.

Яго павялі ў турму. Жанчыны ішлі следам за ім і плакалі. Суседзі, даведаўшыся, што Клааса абвінавацілі ў ерасі, разбегліся па дамах і замкнулі за сабой дзверы. Толькі некалькі маленькіх дзяўчынак адважыліся падыйсці да Клааса і запытаць яго:

— Вугальшчык, куды ідзеш ты з звязанымі рукамі?

— Куды мне загадаюць, дзетачкі,—адказваў Клаас.

Яго пасадзілі ў турму. Саоткін і Неле селі на турэмным парозе і плакалі. Толькі пад вечар Неле пайшла дадому— паглядзець, ці не вярнуўся Уленшпігель.

А Уленшпігель у гэты час набліжаўся к Даме. Ужо недалёка быў вечар. Уленшпігель ішоў шпарка: яму хацелася трапіць дадому да змяркання. Што там робіцца ў яго дома? Неле, мусіць, сядзіць і шые, Саоткін рыхтуе вячэру, а Клаас носіць вязкі дроў і моцна грукае па ўсходках сваімі чаравікамі.

— Куды ты спяшаешся?—спытаў яго знаёмы разносчык.

— Дадому ў Даме.

— Ну дык ведай-жа, што ў горадзе неспакойна,—сказаў разносчык.—Там вялікія змены.

Уленшпігель паскорыў крокі.

Па дарозе яму папаўся шынок «Чырвоны Шчыт». Уленшпігель зайшоў у яго, каб выпіць кубак піва.

— Ці не Клааса ты сын?—спытаў шынкар.

— Так, я яго сын,—адказаў Уленшпігель.

— Спяшайся да бацькі,—сказаў шынкар.—У вас няшчасце ў доме.

Уленшпігель пачаў распытваць яго, але шынкар маўчаў і толькі раіў пасляшацца.

Уленшпігель пабег далей.

Вось ён ужо ў горадзе. Сабакі з брэхам кінуліся яму насустрач. Жанчыны выбеглі з дамоў і абкружылі Уленшпігеля.

— Што будзе з тваім бацькам!—паўтаралі яны ўсе разам.—Дзе твая маці, добрая Саоткін? Няўжо таксама ў турме? Ах, толькі-б яны не спалілі Клааса! Судзіць Клааса будзе інквізітар Тытэльман. Ён суровы і няўмольны. У яго сэрцы няма ніякай літасці.

Уленшпігель бег яшчэ хутчэй.

Вось ён убачыў Неле.

— Тыль, не ідзі дадому,—сказала Неле,—там стражнікі.

— Гэта праўда, што бацька ў турме?—спытаў ён, спыняючыся.

— Праўда. І Саоткін плача на парозе.

Тут сэрца Уленшпігеля напоўнілася вялікім смуткам.

— Я пайду да іх,—сказаў ён.

— Не рабі глупства,—сказала Неле.—Бацька загадаў нам схаваць грошы. Яны ляжаць пад каменем, у задняй сценцы ачага. Выратуй іх, Тыль. Яны—адзінае багацце тваёй маткі.

Але Уленшпігель, не слухаючы яе, пабег да турмы. Саоткін абняла яго, і яны заплакалі разам.

Каля турмы сабраўся народ. З'явіліся стражнікі і загадалі Уленшпігелю і Саоткін ісці дадому.

Але перад іх домам сядзеў ландскнехт,—адзін з тых ландскнехтаў, якіх выклікалі з Бруге. Улады баяліся непарадкаў у час суда: жыхары Даме вельмі любілі Клааса.

Ландскнехт цягнуў вінцо з дарожнай фляжкі і нешта мармытаў сабе пад нос. Спаражніўшы фляжку, ён адкінуў яе прэч, выцягнуў з ножнаў цясак і пачаў калупаць ім брук.

Уленшпігель, Неле і Саоткін пайшлі да Катліны. Яе дом стаяў побач з домам Клааса.

Катліна сустрэла іх на парозе.

— Агонь, агонь!—мармытала яна.—Прабіце дзірку! Душа на волю просіцца!

---

## Раздзел 21. Аб тым, як судзілі Клааса

У горадзе Даме на плошчы стаяла старая ліпа, якая называлася судовай, бо пад ценем яе галін заўсёды разглядаліся судовыя справы. І на гэты раз сюды сабраліся суддзі, каб асудзіць няшчаснага вугальшчыка. Галоўны суддзя горада Даме сядзеў пад спецыяльным балдахінам. З бакоў сядзелі бургамістр, старшыні і судзейскі пісец. Моцна гудзеў гарадскі звон. Народ бег на плошчу з усіх бакоў.

Стражнікі прывялі звязанага Клааса.

Устаў пісец і заявіў, што суд пачнецца з допыту сведак.

Сведкі—цырульнік Ганс і Ян ван-Раозебеке—пад прысягай заявілі, што Клаас—чалавек добрадзейны, што жыве ён па законах каталіцкай царквы, лютэравых кніг у сябе не трымае, у царкву ходзіць, і нічога дрэннага за ім ніколі не заўважалі.

Тут суддзя спытаў Яна ван-Раозебеке, ці быў ён у шынку, калі Клаас распродваў сваю індульгенцыю і здзекваўся з каталіцкай царквы.

Ян ван-Раозебеке адказаў, што Клаас, сапраўды, прадаваў сваю індульгенцыю, але гэта ён рабіў без усякіх здзекаў і кпінаў з царквы. Адзін кавалачак індульгенцыі купіў ён, Ян ван-Раозебеке, а другі хацеў купіць Грынстувер, старшыня рыбнікаў, які таксама прысутнічаў пры гэтым.

Потым устаў суддзя і абвясціў, у чым абвінавачваецца падсудны.

— У дзень свята святой крыві ўсе грамадзяне Даме накіраваліся ў Бруге,—сказаў суддзя. Абвінавацца Клааса,

чалавек беражлівы, не жадаючы траціць грошай на сvaltочную пірушку, застаўся дома. Ён стаяў каля парога, цешачыся вячэрнім халадком. Раптам ён убачыў незнаёмага чалавека, які ішоў па вуліцы Чаплі. Насустрач яму вышаў Клаас і павёў яго за сабой. Незнаёмы быў у чорным адзенні. Яны ўвайшлі ў дом, але дзверы зачынілі за сабой няшчыльна. Даносчык парашыў даведацца, аб чым гаворыць Клаас з незнаёмым. Ён непрыкметна падкраўся да дзвярэй і падслухаў іх гутарку. Яны гаварылі пра брата Клааса Іоса, які быў узяты ў палон у час бітвы з пратэстантамі і скончыў жыццё сваё на коле. Незнаёмы пераконваў Клааса кінуць улонне маці нашай, святой каталіцкай царквы, і вымаўляў пры гэтым нечасцівыя словы. «О каты лютыя!—адказваў Клаас.—Бедны мой брат!» Такім парадкам, абвінавачваемы назваў катамі святога айца нашага папу і яго каралеўскую вялікасць, бо яны караюць усялякую ерась. Потым даносчык чуў, як Клаас усклікнуў: «Бедны Іос, цяпер ты ў царстве божым. Але як люта гэтыя каты абыйшліся з табой!» Такім парадкам, ён абвінаваціў у богахульстве самога госпада бога, бо толькі адны богахульнікі могуць лічыць ерэтыка вартым вечнага шчасця. Тут незнаёмы ўсклікнуў з гневам: «Загінеш ты, Вавілон, рымская блудніца, і д'яблы зробяць цябе жыллём сваім!» «Ах, судар,—сказаў Клаас:—гнеўны вашыя вусны; але скажыце, ці хутка прыдзе такі час, калі людзі будуць спакойна жыць на зямлі?» «Пакуль пануе антыхрыст—не будзе гэтага,—адказваў незнаёмы.— Антыхрыст — гэта папа—вораг ісціны». «Ах,—сказаў Клаас,—вы гаворыце без павагі пра нашага святога айца. Ён, вядома, не ведае, як тут прыгнятаюць бедных рэфарматаў». «Ён усё ведае,—сказаў незнаёмы,—ён і ёсць галоўны вінавайца нашых пакут. Імператар дзейнічае па яго ўказанню і атрымлівае сабе ў спадчыну маёмасць пакараных». «Так усе гавораць,—адказваў Клаас,—мабыць гэта і сапраўды так». Такім парадкам, Клаас прызнаў, што імператар праследуе ерэтыкаў з-за грошай. Незнаёмы збіраўся яшчэ гаварыць, але Клаас сказаў: «Ці не лепей, судар, скончыць гэтую

гаворку. Бо калі яе хто-небудзь пачуе, мне дрэнна будзе». Тут Клаас схадзіў у склеп і прынёс кубак піва. «Замкнуў дзверы на засаўку»,—сказаў ён. Болей даносчык не пачуў нічога. Яму прышлося хутка выбегчы з дому. Уначы дзверы зноў адчыніліся. Незнаёмы вышаў быў з дому, але хутка вярнуўся і, пастукаўшы, сказаў Клаасу: «Холадна, я хачу застацца ў цябе на ноч. Ніхто не бачыў, як я ўвайшоў да цябе. На вуліцы пуста». Клаас запаліў ліхтар і павёў гасця на падстрэшша, адкуль акно выходзіць на поле.

— Хто гэта данёс на мяне?—выгукнуў Клаас.—Ґэта, бясспрэчна, ты, гад-рыбнік! Я бачыў, як у нядзелю ты тырчэў на парозе і рабіў выгляд, што глядзіш на ластавак.

Рыбнік злосна ўсміхнуўся, пачуўшы, што Клаас выдаў сябе.

— Няшчасны, дарага ён паплаціцца за гэтыя словы,—загаманілі ў народзе.

— У гэтую ноч,—казаў далей суддзя,—Клаас і незнаёмы доўга гутарылі адзін з адным. Тое-ж было і ў наступныя шэсць начэй. Незнаёмы то трос кулакамі, пагражаючы камусьці, то ўздымаў рукі к небу, як гэта робяць некаторыя ерэтыкі, і Клаас, здавалася, згаджаўся з яго словамі. Вядома, яны здзекваліся са святой месы, споведзі, індульгенцыі, а таксама лаялі яго каралеўскую вялікасць.

— Ніхто не чуў гэтага!—закрычаў Клаас.—Хіба можна абвінавачваць чалавека без доказаў?

— Затое чулі што-небудзь іншае,—адказваў суддзя.— Калі незнаёмы вышаў ад цябе на сёмы дзень, ты праводзіў яго да самага поля. Тут ён спытаў цябе, што ты зрабіў са сваімі ідаламі.—Пры гэтых словах суддзя перахрысціўся.—Пад словам «ідалы» незнаёмы разумеў вобразы богамацеры,—святога Нікалая і святога Мартына. Ты сказаў, што разбіў іх і кінуў у студню. Сапраўды, мінулай ноччу мы знайшлі ў студні іх абломкі. Цяпер яны ляжаць у турэмнай кладавой.

Клаас, прыгнечаны гэтымі словамі, сядзеў, схіліўшы галаву.

— Ці не жадаеш ты што-небудзь сказаць на гэта?— запытаў яго суддзя.

Клаас памахаў галавой.

— Ці прызнаеш ты святога айца нашага папу намеснікам божым?—казаў далей суддзя.

— Не,—адказваў Клаас.

— Ці прызнаеш служэнне святым абразам?

— Гэта ўсёроўна што ідалапаклонства,—сказаў Клаас. Ён спакойна адказваў на пытанні суддзі, але ў глыбіні душы быў засмучаны і напалоханы.

Прабіла восем гадзін. Вечарэла. Суддзі адклалі прысуд на заўтра і пайшлі.

На наступны дзень суддзі зноў сабраліся і спыталі Клааса, ці адракаецца ён ад сваіх заблуджэнняў.

— Усё жыццё я сумленна працаваў і зарабляў зусім мала,—адказваў Клаас.—Я быў добры да бедных і заўсёды дапамагаў чалавеку ў яго бядзе. Я пакінуў рымскую царкву, падпарадкуючыся голасу майго сумлення. Аб адным прашу вас: не паліце мяне на кастры. Лепш вышліце мяне з Фландрыі на ўсё жыццё. І гэта будзе для мяне занадта вялікім няшчасцем.

— Злітуйцеся над ім, паны суддзі!—закрычаў народ.— Памілуйце яго!

Адзін толькі Іос Грыпстувер маўчаў і не прасіў аб памілаванні. Суддзя загадаў усім замаўчаць і абвясціў, што закон забараняе заступацца за ерэтыкаў. У выпадку, калі Клаас адрачэцца ад сваіх памылак, ён будзе павешаны; калі-ж будзе ўпартым—яго спаляць на кастры.

— Агонь ці вяроўка—усёроўна смерць,—казаў народ. Жанчыны плакалі. Мужчыны глуха наракалі.

Клаас сказаў:

— Я ні ад чаго не адракаюся. Рабіце з маім целам усё, што вам зажадаецца.

Тут падняўся Тытэльман, інквізітар з горада Рэнэ, і выгукнуў:

— Як гэта можна дапусціць, каб гэты нікчэмны ерэтык задзіраў галаву перад суддзямі! Занадта мала—спаліць яго цела. Трэба душу яго выратаваць і лютымі катаваннямі прымусіць яе адрачыся ад заблуджэнняў. Занадта небяспечна паказваць народу такіх упартых ерэтыкаў.

Яшчэ мацней зарыдалі жанчыны, а мужчыны закрычалі:

— Няма патрэбы яго катаваць: ён і так прызнаўся ва ўсім.

Суд адхіліў катаванні і яшчэ раз спытаў Клааса, ці згодзен ён адрачыся ад заблуджэнняў.

— Не,—адказаў Клаас.

Тады яго абвінавацілі ў богаганьбаванні, ерасі і ўкрыванні ерэтыкаў. За ўсе гэтыя віны суд прыгаварыў Клааса да спалення на кастры—паслязаўтра, на плошчы, прама перад гарадской ратушай.

Суд прысудзіў даносчыку Іосу Грыпстуверу, імя якога, дарэчы, не ўпаміналася, пяцьдзесят фларынаў з першай сотні спадчыны і дзесятую частку ўсяго астатняга.

Пачуўшы прысуд, Клаас павярнуўся да рыбніка.

— Памяні мае слова, злодзей,—сказаў ён,—ты памрэш нялёгкай смерцю. За што зрабіў ты ўдавой маю жонку і сіратой майго беднага сына?

Суддзі дазвалялі Клаасу гаварыць, бо ўсе яны, апрача Тытэльмана, пагарджалі рыбнікам за яго данос.

Рыбнік пазелянеў ад сораму і гневу.

І Клааса зноў адвялі ў турму.

---

# Раздзел 22. Пакаранне Клааса

У доміку Катліны, звар'яцеўшы ад гора, плакала бедная Саоткін.

— Муж мой, бедны мой муж!—паўтарала яна.

Уленшпігель і Неле даглядалі яе. Абняўшы іх, яна плакала яшчэ мацней. Нарэшце, змучаная горам, Саоткін заснула. Тады Неле сказала Уленшпігелю:

— Пойдзем, паспрабуем выратаваць чырвонцы.

І яны выйшлі.

Домік Клааса быў побач з домікам Катліны. Перад ім быў маленькі садок, так што сам дом адступаў назад і хаваўся ў зеляніне дрэў. Перад домам Катліны былі зроблены градкі, засаджаныя бобам, і вакол градак зелянела жывая агарожа. Калі Уленшпігель і Неле былі яшчэ дзецьмі, яны зрабілі дзірку, каб хадзіць адзін да аднаго, не выходзячы на вуліцу.

Уленшпігель прасунуў галаву ў дзірку і зазірнуў на двор Клааса. Пасярод двара проста на зямлі сядзеў салдат і са злосцю плёваў у паветра. Каля яго валялася плеценая фляжка.

— Насёрбаўся, — сказаў Уленшпігель. — Чуеш, як плюецца?

Наплёваўшыся ў ахвоту, салдат пацягнуўся да фляжкі. Ён прысмактаўся да горлачка і выліў сабе ў глотку ўсё, што там было. Потым ён пастукаў па донцу і ўпэўніўся, што фляжка парожняя. Салдат вылаяўся, кінуў фляжку і заснуў, мармычучы сабе пад нос нейкую малітву.

Уленшпігель ведаў, што гэты сон нямоцны і што салдата трэба падпаіць мацней. Ён пралез праз агарожу,

узяў фляжку і перадаў яе Неле. Неле напоўніла яе гарэлкай.

Салдат па-ранейшаму хроп. Уленшпігель паклаў яму на калені поўную фляжку. Пасля гэтага ён зноў вярнуўся ў агарод Катліны і прытаіўся там разам з Неле.

Фляжка, напоўненая халоднай гарэлкай, прабудзіла салдата. Ён працягнуў руку, намацаў яе і ўстрасянуў раздругі. Фляжка была поўнай. Салдат здзівіўся і пакаштаваў гарэлку. Потым ён выпіў да паловы і паклаў фляжку на зямлю. Потым зноў узяў яе і пачаў цягнуць гарэлку маленькімі глыткамі.

Фляжка зноў апусцела. Салдат схіліў галаву набок і пачаў пакрыху засынаць.

— Яны ў задняй сценцы ачага, пад каменнем,—шапнула Неле Уленшпігелю, і салдат ужо не чуў яе.

Уленшпігель пракраўся праз свінарнік на кухню Клааса, выняў камень з задняй сценкі ачага, знайшоў гаршок з чырвонцамі і вярнуўся назад. Салдат усё гэтак-жа гучна хроп і нічога не бачыў.

Тут, у гародзе Катліны, Уленшпігель закапаў грошы ля самай сценкі студні.

Потым яны вярнуліся дадому і ўсю ноч клапаціліся каля Саоткін.

Раніцой яны пайшлі ў турму, каб у апошні раз пабачыцца з асуджаным.

Клаас быў прыкуты да сцяны даўгім жалезным ланцугом. Убачыўшы каля сябе жонку і сына, ён абняў іх і заплакаў. Але потым ён стрымаўся і выцер вочы. Яму—мужчыне і галаве сям'і—не да твару было ўпадаць у роспач.

Саоткін плакала, а Уленшпігель гаварыў:

— Я разаб'ю гэтыя праклятыя ланцугі!

— Я пайду да караля Філіпа,—сказала Саоткін,—вымалю ў яго дараванне.

— Кароль атрымлівае ў спадчыну маёмасць пакараных,—сказаў Клаас.

— Дарагая жонка мая і ты, сын мой,—казаў ён далей,—у суме і горы я адыходжу ад вас. Вялікія чакаюць

мяне пакуты. Але горш за ўсё для мяне тое, што вы застанецеся беднякамі. Кароль-жа адбярэ ў вас усю маёмасць.

— Учора мы з Неле схавалі грошы,—шэптам сказаў Уленшпігель.

— Дзякуй богу,—сказаў Клаас,—значыць, даносчык нічога не атрымае.

— Будзь ён праклятьі,—з нянавісцю сказала Саоткін.

— Лоўка зрабіў ты, сынок!—сказаў Клаас.—Цяпер не будзе галадаць, састарэўшыся, бедная Саоткін.

І Клаас моцна абняў яе, і зноў зарыдала Саоткін.

— Сын мой,—сказаў Клаас Уленшпігелю,—доўга бадзяўся ты па вялікіх дарогах. Не рабі гэтага больш, мой любы. Не пакідай дома тваю бедную маці. Ты—мужчына. Ты павінен дапамагаць ёй і суцяшаць яе ў няшчасці.

— Я больш не пакіну маці,—адказваў Уленшпігель

— О, бедны мой муж,—плакала Саоткін, абдымаючы Клааса.—Чым мы з табой правінаваціліся перад суддзямі? Жылі мы ціха і спакойна, нікому не рабілі благога. Уставалі на світанні, працавалі ўвесь дзень да вечара. Пайду да караля, раздзяру яго пазногцямі. Хіба мы ў чым-небудзь вінаваты, госпадзі?

Але ўвайшоў турэмшчык і загадаў ім выходзіць.

Саоткін не магла адарвацца ад Клааса. Слёзы беглі па яе шчоках, і ўся яна дрыжэла, прыціскаючыся да мужа. І Клаас таксама прасіў турэмшчыка пакінуць яе з ім.

Але турэмшчык адцягнуў Саоткін ад мужа.

— Глядзі-ж, клапаціся аб ёй,—сказаў Клаас сыну.

Уленшпігель і Саоткін вышлі. І сын падтрымліваў маці.

А наступным днём прышлі суседзі і замкнулі Уленшпігеля, Неле і Саоткін у доме Катліны. У гэты дзень каралі Клааса.

Роўна ў дзевяць гадзін яго вывелі з цямніцы—звязанага, у адной кашулі. Касцёр быў раскладзены на вуліцы Богамацеры, каля слупа, проста супроць ратушы. Кат са сваімі памочнікамі яшчэ не скончыў складаць дровы.

Клаас, абкружаны стражнікамі, цярпліва чакаў, калі яны скончаць сваю работу. Недалёка ад кастра верхам на

кані сядзеў дзябёлы профас. Стражнікі і дзевяць ландскнехтаў, выкліканых з Бруге, ледзь стрымлівалі ўсхваляваны народ.

Раптам усе сталі на калені і пачалі маліцца. Са званіцы сабора богамацеры пачуўся пахавальны перазвон.

Саоткін і Неле пачулі ў сябе ў доміку гукі званоў і перахрысціліся.

Але Уленшпігель крыкнуў:

— Не буду маліцца! Не буду пакланяцца богу катаў і гвалтаўнікоў!

Ён падбег да акна і хацеў выскачыць на вуліцу. Але акно было замкнута, а дзверы ахоўвалі суседзі.

Раптам Саоткін закрычала і закрыла твар фартухом.

— Дым!

Сапраўды, вялікі дымны слуп у гэтую хвіліну падняўся над дахамі. Кат ужо запаліў касцёр у імя айца і сына і святога духа. Клаас паглядзеў навокал і не ўбачыў нікога—ні Саоткін, ні Уленшпігеля. І гэта ўзрадавала яго: родныя не ўбачаць яго пакут. Аднак толькі Катліна стаяла ў першым радзе, глядзела на Клааса вар'яцкімі вачыма і мармытала:

— Згасіце агонь! Прабіце дзірку! Душа на волю просіцца!

Чуваць было, як наракаў народ, як плакалі жанчыны. Пахавальны звон званіў безупынна.

Раптам Саоткін збялела як снег, задрыжэла ўсім целам і паказала на акно. Доўгае вузкае полымя вырвалася з клубоў дыму і ўзнялося над домам. Уленшпігель абняў маці і хацеў адцягнуць яе ад акна. У гэтую хвіліну яны пачулі гучны крык Клааса і затым гнеўны вокліч натоўпу:

— Раздзьміце касцёр! Не смейце мучыць Клааса! Задушы яго, кат!

Некалькі каменняў паляцела ў профаса.

— Агонь, агонь!—закрычала Саоткін.

Сапраўды, чырвонае полымя ўзнялося да неба.

— Зараз ён памрэ,—прастагнала Саоткін.—Божа прымі яго душу! Дзе кароль? Я пазногцямі вырвала-б яго сэрца!

Чуваць было, як крычаў і свістаў народ, як кідалі ў стражнікаў каменне і як у апошні раз пачуўся голас Клааса:

— Саоткін! Тыль!

Гучны жаласны енк пачуўся з доміка Катліны, і ўсё сціхла. Толькі бедная дурніца трэсла галавой і мармытала сама сабе:

— Душа на волю просіцца!

Клаас памёр. Ля падножжа слупа, на якім вісела чорнае, абвугленае цела, яшчэ дагараў касцёр. Званы сабора богамацеры званілі па памёршаму.

Уначы Уленшпігель і Саоткін пайшлі да месца пакарання. Ноч была вельмі цёмная. Па небу імчаліся воблакі, якія гнаў паўночны вецер. Толькі зрэдку зорачка мільгацела між імі.

Ля кастра хадзіў стражнік. Ён ахоўваў цела пакаранага. Уленшпігель і Саоткін чулі яго цяжкія крокі. Крумкаў крумкач. Аднекуль здалёк у адказ таксама чулася крумканне.

Калі Уленшпігель і Саоткін падышлі да кастра, крумкач ужо апусціўся на плячо Клааса. Два другія круціліся над яго галавой.

Уленшпігель хацеў было адагнаць птушак, але яго спыніў стражнік.

— Табе тут што трэба?—сказаў ён.—Калі ты чараўнік і шукаеш рукі мерцвяка, то ты памыляешся. Рука павешанага, сапраўды, робіць чалавека нябачным, але тут не павешаны, а спалены. Ідзі прэч!

— Пан стражнік,—адказваў Уленшпігель,—я не чараўнік, а сын таго, хто вісіць перад намі, а гэта—яго ўдава. Мы хочам развітацца з яго целам і ўзяць на памяць крыху попелу. Дазвольце нам гэта. Вы-ж не чужаземец, а такі-ж фламандзец, як і мы.

— Ідзіце, развітвайцеся,—сказаў стражнік.

Ступаючы па абвугленых дровах, яны падняліся да беднага мучаніка і плачучы цалавалі яго твар. На месцы

сэрца ў целе Клааса ззяла чорная ўпадзіна. Уленшпігель узяў з яе крыху попелу.

Потым, стаўшы на калені, яны пачалі маліцца. Набліжалася світанне. Стражнік падышоў да кастра і загадаў ім ісці дадому. І яны пайшлі, змярцвелыя ад гора.

Дома Саоткін знайшла кавалачак чырвонага і кавалачак чорнага шоўку, пашыла з іх ладонку з двума стужкамі і паклала ў яе попел Клааса. Потым яна надзела ладонку на шыю Уленшпігеля і сказала:

— Няхай гэты попел, гэтае загінуўшае сэрца майго беднага мужа, ад сёнешняга дня ляжыць на тваіх грудзях і напамінае табе аб помсце.

— Хай будзе так!—сказаў Уленшпігель.

І ўдава пацалавала сірату. І сонца ў гэтую хвіліну ўзнялося над зямлёй.

---

## Раздзел 23. Аб тым, як каталі Уленшпігеля і Саоткін

На наступны дзень распрадавалася маёмасць Клааса. Саоткін бачыла, як выносілі з дому жалезную калыску з меднымі прутамі. У сям'і Клааса гэта калыска пераходзіла ад бацькі да сына; у ёй ляжаў Клаас, калі быў маленькі, у ёй ляжаў і Уленшпігель. Потым вынеслі ложак, скрыню для хлеба, банку для масла, патэльні і кацялкі. Некалі ўся гэтая пасуда блішчэла на сонцы, ярка начышчаная,— цяпер яна пацямнела і запылілася.

Пасля гэтага выцягнулі бачонак віна, потым яшчэ поўбачонак і кошык з трыма дзесяткамі бутэлек. Ужо нічога не заставалася ў доме. Апошні цвік—і той выцягнулі са сцяны.

У маўклівай роспачы глядзела Саоткін, як выносяць яе скромнае багацце. Глашатай запаліў свечку і пачаў торг. Свечка ўжо дагарэла, калі старшыня рыбнікаў скупіў за поўцаны ўсю маёмасць Клааса. Ён збіраўся пусціць яго ў перапродаж і наперад радаваўся ўдачнай здзелцы.

— Пачакай, нядоўга ты будзеш смяяцца, забойца!— мармытаў сам сабе Уленшпігель.

Калі торг скончыўся, стражнікі агледзелі ўвесь дом, але нідзе не маглі знайсці чырвонцаў.

— Дрэнна шукаеце,—крычаў рыбнік,—шэсць месяцаў назад у Клааса было семсот фларынаў!

— Ты не знойдзеш іх, забойца!—прамармытаў Уленшпігель.

Раптам Саоткін сказала:

— Даносчык!

І паказала Уленшпігелю на рыбніка.

— Я гэта ведаю,—сказаў Уленшпігель.

— Няўжо ты дапусціш, каб ён атрымаў грошы Клааса?

— Лепш катаванне, чым такая ганьба,—сказаў Уленшпігель.

— І для мяне таксама. Глядзі-ж, маўчы, што-б яны мне не зрабілі.

— Але, ты—жанчына,—сказаў Уленшпігель.

— Дурны,—сказала яна,—жанчыны цярплівейшыя за мужчын.

І, плачучы, яна ласкала Уленшпігеля.

Так грошай і не знайшлі. Але рыбнік зноў з'явіўся да суддзі і заявіў, што нябожчык толькі некалькі месяцаў назад атрымаў у спадчыну семсот каролусаў і, вядома, не мог патраціць такую вялікую суму, бо быў вельмі беражлівы. Грошы недзе схаваны.

Суддзя спытаў яго, за што ён так люта праследуе Уленшпігеля і Саоткін. Ён адабраў у іх Клааса, цяпер хоча адабраць грошы. Што яны яму зрабілі?

Рыбнік адказаў, што ён, як старанны слуга яго вялікасці, хоча прымусіць народ паважаць імператарскія законы. Апрача таго, ён жадае заслужыць міласць імператара. Пры гэтым ён падаў суддзі пісьмовы данос на Уленшпігеля і Саоткін.

Суддзі разгледзелі данос і вырашылі, што прыдзецца прыбегнуць да катавання. Было загадана яшчэ раз абшукаць дом Клааса, а ўдаву з сынам пасадзіць у турму. З Бруге быў выкліканы кат.

Калі Уленшпігеля і Саоткін вялі па вуліцы са звязанымі рукамі, рыбнік стаяў каля свайго дома і глядзеў на іх.

Іншыя грамадзяне Даме таксама вышлі на вуліцу. Матысон, сусед рыбніка, чуў, як Уленшпігель сказаў даносчыку:

— Будзь ты праклятьі, кат!

А Саоткін дадала:

— Ты дрэнна скончыш, рабаўнік!

Гаражане з нянавісцю глядзелі на рыбніка і ўвечары выбілі ў яго доме ўсе шыбы. І рыбнік не адважваўся высунуць нос на вуліцу.

На наступную раніцу, у дзесяць гадзін, Уленшпігеля і Саоткін прывялі ў засценак. Тут іх чакалі галоўны суддзя горада, пісец, старшыні, кат з Бруге са сваім памочнікам і цырульнік, які выконваў абавязкі турэмнага лекара.

Суддзя спытаў Саоткін, ці не схавала яна маёмасць, якая цяпер належыць імператару. Саоткін адказала, што ў яе нічога няма і хаваць ёй няма чаго.

— А ты?—спытаў суддзя Уленшпігеля.

— Сем месяцаў назад,—сказаў Уленшпігель,—мы атрымалі ў спадчыну семсот餘 каролусаў. Частку з іх мы пражылі, дзе астатнія—мне невядома. Думаю, што незнаёмы, які, на няшчасце, жыў у нашым доме, узяў гэтыя грошы з сабой.

— Суд лічыць, што вы захавалі грошы,—сказаў суддзя.—Калі вы не прызнаецеся самі, вас прымусяць катаваннем сказаць праўду.

— Злітуйцеся над удавой,—сказаў Уленшпігель.—Рыбнік купіў усё, што ў нас засталося.

— Дурнянькі!—сказала Саоткін.—Чаго ты баішся за мяне?

— Злітуйцеся над удавой,—бледны, як смерць, паўтарыў Уленшпігель.

— Вазьміце мяне замест яго,—сказала Саоткін.

Суддзя спытаў ката, ці ўсё гатова для катавання.

— Усё гатова,—сказаў кат.

Суддзі, параіўшыся, вырашылі спачатку катаваць Саоткін.

— Няма такога жорсткага сына,—сказаў адзін са старшын,—які не прызнаўся-б ва ўсім, каб збавіць сваю маці ад пакут. І кожная маці зробіць усё, каб выратаваць ад катавання сваё дзіцянё.

— Вазьмі гэтую жанчыну,—сказаў кату суддзя.

Вялікія пакуты выпалі на долю Саоткін. Кат уклаў яе

рукі і ногі ў ціскі і сціснуў іх. Яна закусіла губы і маўчала. Уленшпігель тузаў звязанымі за спіной рукамі, але вяроўка не паддавалася.

— Асцярожней, паны суддзі, вы зламаеце ёй костачкі,—гаварыў ён.

— Рыбнік!—сказала Саоткін.

І Уленшпігель замаўчаў.

Вось затрашчэлі ў цісках яе косці, і кроў пацякла на зямлю.

— Жаночыя косці, паны суддзі! Не расцісніце іх!—паўтараў Уленшпігель, дрыжучы ад гора і гневу.

— Рыбнік!—прастагнала Саоткін.

— Прызнайся за яе,—сказаў суддзя Уленшпігелю.

Але Саоткін паглядзела на яго сваімі змярцвелымі вачыма. І ён зразумеў, што не павінен гаварыць ні слова. І ён моўчкі заплакаў.

— Гэтая жанчына ўпартая як мужчына,—сказаў суддзя.—Паспрабуем катаваць Уленшпігеля. Яна не вытрымае яго катавання.

Саоткін паклалі на зямлю і прывялі ў прытомнасць. Узяліся за Уленшпігеля. Уленшпігель маўчаў.

Саоткін глядзела на сына, але ўжо не магла крычаць. Яна толькі выцягвала наперад свае акрываўленыя рукі, быццам просячы суддзяў злітавацца над яе сынам.

А катаванне ўсё працягвалася. Прынеслі гарачых вугалляў.

— Прыміце агонь!—закрычала Саоткін.—Пашкадуйце хлопчыка, пан суддзя!

— Рыбнік!—крыкнуў Уленшпігель, убачыўшы, што яна слабне.

— Скажы, дзе ты схавала грошы, і ён будзе вольны,—сказаў суддзя Саоткін.

— Рыбнік!—прастагнаў Уленшпігель і павіснуў на рамнях нібы нябожчык.

— Ён памёр,—мой бедны хлопчык!—закрычала Саоткін.—Яны забілі Клааса! І яго таксама забілі! Прыміце агонь, паны суддзі! Дайце мне абняць сына перад яго

смерцю. Вы ведаеце, што я нікуды не магу ўцячы на сваіх разбітых нагах.

— Дайце ўдаве яе сына,—сказаў суддзя.

Кат развязаў Уленшпігеля і паклаў яго на калені Саоткін. Саоткін плакала, схіліўшыся над ім.

І паколькі яны ні ў чым не прызналіся, не гледзячы на свае пакуты, суд пастанавіў абвінавачанне лічыць недаказаным і абодвух абвінавачаных вызваліць ад зняволення.

— Памілуй вас, божа, паны суддзі!—сказала Саоткін.

— Рыбнік!—прастагнаў Уленшпігель.

Іх паклалі ў каламажку і адвезлі да Катліны.

---

## Раздзел 24. Аб тым, як чэрці панадзіліся ў госці да Катліны

Прайшло некалькі месяцаў. Уленшпігель і Саоткін папрыху паправіліся. Затое Катліна з кожным днём худзела і сохла, як быццам нейкі ўнутраны агонь з'ядаў яе цела.

Яна больш не паўтарала: «Агонь! Прабіце дзірку! Выпусціце душу». Яна як быццам зрабілася больш разважлівай. Затое яна ўсё часцей паглядвала на Неле і паўтарала сама сабе:

— Я знайду табе жаніха, Неле. Сам д'ябал, мой павялісцель, прывядзе яго да нас.

Аднойчы ўвечары, седзячы за сталом, Катліна сказала:

— Ёсць жанішок для Неле. Прыгажунчык-кавалер, у шэрым камзоле. Будзе ёй верны друг, са шпагай на баку. Твар яго свеціцца ў цемры.

— Вось як,—сказаў Уленшпігель.—Цэлае фрыкасе з жаніхоў! А соус я зраблю сваім нажом.

Неле ўсміхаючыся зірнула на Уленшпігеля і сказала:

— Не трэба мне ніякага жаніха.

— У гэтага шэрага,—зноў казала Катліна,—слаўныя боцікі з срэбранымі шпорамі.

— Маліцеся богу за гэтую вар'ятку,—сказала Саоткін.

— Уленшпігель,—сказала Катліна,—пайдзі, прынясі чатыры літры піва, а я напяку блінцоў.

— Хіба свята сёння?—спытала Саоткін.—Нашто такія прыгатаванні?

— Цеста ўжо гатова—адказала Катліна.

Уленшпігель стаяў з вялікім алавяным збанам у руцэ.

— Што мне рабіць, маці?—запытаў ён.

— Ідзі,—сказала Катліна.

Саоткін не хацела спрачацца з Катлінай: тая тут была гаспадыняй.

— Ідзі, сын мой,—сказала яна.

Уленшпігель схадзіў у шынок і прынёс чатыры літры піва.

Пах блінцоў пашыраўся на кухні, і ўсе захацелі есці, нават засмучаная горам Саоткін.

Уленшпігель наеўся дасыта. Катліна дала яму самы вялікі кубак і сказала, што ён цяпер галава дому і таму павінен піць больш за астатніх.

І з хітрым выглядам Катліна паглядзела на Уленшпігеля. Уленшпігель выпіў. Саоткін і Неле сядзелі бледныя і сумныя. Адна Катліна была вясёлай і гаваркой.

Пасля вячэры Уленшпігель і Саоткін пайшлі наверх: яны спалі на падстрэшшы. Катліна і Неле спалі на кухні.

Уначы Уленшпігель спаў як забіты. Галава яго зрабілася вельмі цяжкой ад піва. Саоткін ляжала з расплюшчанымі вачыма і прасіла багародзіцу паслаць ёй сон. Але багародзіца не слухала Саоткін.

Раптам яна пачула арліны крык. Унізе, з кухні нехта адказаў таксама, па-арлінаму. Затым здалёку, з палёў пачуліся новыя крыкі, і зноў нехта адказаў з кухні.

Саоткін падумала, што гэта начныя птушкі, і не звярнула на іх увагі. Але вось яна пачула конскае іржанне і стук капытоў на бруку. Саоткін выглянула ў чардачнае акенца. Два асядланыя кані пасвіліся на лужку каля дарогі.

Раптам унізе на кухні пачуўся жаночы крык, потым мужчынскі голас, потым пачуліся ўдары і зноў жаночыя крыкі. Ляпнулі дзверы, і нехта пабег па лесніцы ўгару.

Уленшпігель спаў і нічога не чуў. Дзверы на падстрэшшы расчыніліся, і Неле, рыдаючы, убегла ў пакой. Яна зачыніла за сабой дзверы і пачала завальваць іх усім, што трапляла пад рукі: падсунула стол, крэслы, старую

жароўню і ўсё, што было з мэблі. Набліжалася раніца. На пабялелым небе згасалі апошнія зоркі. Спявалі пеўні.

Пачуўшы шум, Уленшпігель павярнуўся з боку на бок і зноў заснуў.

— Саоткін, мне страшна, запалі свечку,—рыдаючы, прамовіла Неле.

Саоткін запаліла свечку. Уленшпігель прачнуўся і, прыжмурыўшыся, узняў галаву.

— Хто там унізе?—спытала Саоткін.

— Маўчы,—сказала Неле,—гэта той, каго яна выбрала мне за мужа.

Тут пачуўся знізу крык Катліны. Саоткін і Неле з жахам паглядзелі адна на адну.

— Ён б'е яе! Ён б'е яе з-за мяне!—закрычала Неле.

— Хто ў нас у доме?—крыкнуў Уленшпігель і саскочыў з ложка.

— Нікога,—сказала Неле.—Не хадзі туды, Тыль.

Але ён схапіў качаргу, адкінуў сталы і крэслы і выскачыў на лесніцу. Неле і Саоткін схапілі яго—адна за шыю, другая за ногі—і крычалі:

— Не хадзі туды, Тыль! Там чорт!

— Ведаю, хто там,—адказаў ён.—Гэта жаніх Неле. Пусціце, я павянчаю яго з качаргой! Пусціце мяне!

Але яны ўчапіліся ў яго з усіх сіл, і ён працягнуў іх па двух ці трох прыступках. Нарэшце яны выпусцілі яго. Ён вялізнымі скачкамі збег з лесніцы і ўварваўся на кухню. На кухні, апрача Катліны, нікога не было. Катліна, бледная і разбітая, сядзела на лаўцы і прымаўляла:

— Нашто ты пакінуў мяне, Ганс, мой павяліцель? Не мая віна, што Неле такая непаслухмяная.

Уленшпігель выскачыў на ганак. Там нікога не было. Уленшпігель кінуўся ў гарод, потым на дарогу. Там ён убачыў двух коней, якія імчаліся ўдалечыні, знікаючы ў ранішнім тумане. Ён кінуўся за імі, але яны імчаліся, як вецер, і дагнаць іх было немагчыма.

У роспачы ён вярнуўся назад. Неле кінулася яму насустрач.

— Не выдай нас, Уленшпігель,—сказала яна.—Я табе раскажу ўсё. У нашым доме з'явіўся д'ябал, чорны, зграбны, у чорнай аксамітнай вопратцы і ў высокіх ботах з срэбранымі шпорамі. Твар яго свіціцца бледным, мігатлівым святлом. Кожную суботу мая маці бачыцца з ім на кухні. Перад тым, як увайсці, ён дае аб сабе ведаць арлiным крыкам. І Катліна адказвае яму. Ён называе сябе д'яблам і кожны раз бярэ ў маці грошы. Сёння ўночы ён прывёў для мяне жаніха. Я дрымала ў кутку і не чула, як яны ўвайшлі. Раптам я адчула, што нехта хапае мяне за рукі. Я адплюшчыла вочы і ўбачыла перад сабой нейкага чалавека ў шэрай вопратцы. «Я Гільберт, твой жаніх,— шаптаў незнаёмы,—выходзь за мяне замуж, я зраблю цябе багатай». Я адштурхнула яго, але ён яшчэ мацней схапіў мяне. Тады я ўчапілася пазногцямі ў яго шчокі, так што ён закрычаў ад болю. Тут я вырвалася ад яго і ўцякла наверх да Саоткін.

— Непаслухмяная Неле,—сказала Катліна.—Я сядзела з Гансам, раптам прыбягае гэты шэры, і ўвесь твар у яго акрываўлены. «Пойдзем адсюль,—гаворыць ён Гансу,—у гэтым доме небяспечна. Мужчыны тут лютыя, а жанчыны драпаюцца, нібы кошкі». Яны пабеглі да сваіх коней і зніклі ў тумане. Непаслухмяная Неле!

У сераду чэрці зноў з'явіліся да Катліны. Неле дома не было: яна начавала ў суседкі-ўдавы ван дэн-Гаутэ. Катліна завяла гасцей у пральню, і там яны піравалі да самага рання.

— Нам для адной справы патрэбна шмат грошай,— сказаў Катліне чорны д'ябал.—Дай нам, колькі ў цябе ёсць.

Катліна хацела даць фларын, але чэрці прыстрашылі, што заб'юць яе, калі яна не дасць больш. Прышлося даць ім два каролусы і сем дэн'е.

— У суботу больш не прыходзьце,—сказала яна ім.— Уленшпігель будзе на варце, ён заб'е вас.

— Мы прыдзем у наступны аўторак,—адказалі госці.

Аднак у аўторак іх не было да позняй начы. Калі

згаслі ўсе агні, Катліна вышла з дому і раптам пачула ў полі арліны крык. Яна пабегла туды і супынілася каля высокай грэблі. З другога боку грэблі пачуліся знаёмыя галасы. Гутарылі чорны і шэры.

— Палова грошай мая,—гаварыў шэры.

— Ты не атрымаеш ні патара,—адказваў чорны,—усё, што мы здабудзем у Катліны, маё.

І яны пачалі сварыцца. Потым схапіліся за шпагі. Напалоханая Катліна толькі і чула, як прастагнаў шэры:

— Паміраю.

Пачуўся перадсмяротны хрып, і цяжкое цела павалілася на зямлю. Напалоханая Катліна кінулася дадому.

Наступным днём яна зноў пайшла на грэблю і ўбачыла, што зямля на гэтым месцы запырскана крывёй і правальваецца пад нагой, як быццам тут некага закапалі. Аднак пад вечар пайшоў дождж, змыў кроў, і ўжо нічога не было прыкметна.

А ў наступную сераду арліны крык зноў пачуўся пад яе вокнамі.

## Раздзел 25. Аб тым, як памерла Саоткін

Кожны раз, калі патрэбны былі грошы, Уленшпігель уначы прабіраўся да студні, паднімаў камень, пад якім былі закапаны грошы, і вынімаў з гаршка адзін каролус.

Аднойчы ўвечары ўсе тры жанчыны пралі. Уленшпігель сядзеў за сталом і рабіў шкатулку, якую яму заказаў гарадскі суддзя. На сценках шкатулкі ён выразаў нажом карціну палявання: была тут гонка генегаускіх сабак, медэлянскіх псоў з Кандыі, вельмі лютых, брабанцкіх хартоў, якія бегаюць заўсёды парамі, і шмат розных іншых парод.

Пераматваючы прадзіва, Неле спытала Саоткін, ці добра яна схавала свае грошы. Катліна чула гэтыя словы.

— Яны ў надзейным месцы,—адказвала Саоткін.—Каму прыдзе ў галаву шукаць іх каля студні?

У чацвер уночы ў гародзе завыў сабака. Саоткін прачнулася, але выццё хутка сціхла, і Саоткін зноў заснула.

Раніцой Уленшпігель вышаў у гарод і ўбачыў там Катліну. Катліна стаяла пад дажджом, змоклая і жалкая, і не адважвалася ўвайсці ў дом.

— Што ты там робіш пад дажджом?—спытаў Уленшпігель.

— Паглядзі, што здарылася,—сказала яна.

І яна паказала на сабаку, які ляжаў у гародзе мёртвы і здранцвелы. Уленшпігель кінуўся да студні. Зямля каля студні была рскапана. Яма, дзе былі схаваны грошы, апусцела.

— Дзе грошы?—крыкнуў Уленшпігель, кідаючыся на Катліну.

— Злітуйся, злітуйся, Уленшпігель!—закрычала Неле, засланяючы сабой Катліну.

Уленшпігель апамятаўся.

— Што здарылася?—падбягаючы, спытала Саоткін.

Уленшпігель паказаў ёй на зарэзанага сабаку і пустую яму, дзе былі схаваны іх грошы. Саоткін пабялела і сказала:

— І за што толькі карае нас бог! Бедныя мае ногі!

Яна сказала гэта і ўспомніла аб катаваннях, якія дарэмна выцерпела дзеля сваіх каролусаў. І ногі яе забалелі яшчэ мацней.

Неле рыдала ў роспачы, а Катліна трэсла нейкім кавалкам пергамента і гаварыла:

— Так, вялікае цуда здарылася! У гэту ноч Ганс прышоў да мяне і гаворыць: «Цяпер я разбагацеў, Катліна, я хутка прынясу табе тысячу залатых фларынаў. Ці няма ў вашым доме другіх беднякоў, якім патрэбны грошы?» «Не,—сказала я,—тут ніхто не адчувае нястачы». «Хіба Саоткін і Уленшпігель багатыя?»спытаў ён. «Жывуць,—сказала я,—нястачы не адчуваюць». «Але-ж у іх усё адабралі?» «Яны выцерпелі ўсе катаванні, але грошай усё-ж не аддалі»—адказала я. «Так я і ведаў»,—сказаў Ганс і пачаў здзекавацца над суддзямі, якія не змаглі вызнаць у вас праўду. Я смяялася разам з ім. «Яны, вядома, не дома хаваюць свой скарб?» спытаў ён. Я засмяялася. «І не ў склепе?» «Не». «І не ў гародзе?» Я змаўчала: «Так,—сказаў ён,—гэта было-б неразумна». «Не так ужо неразумна,—сказала я,—студня—не чалавек, не выдасць». Ён усё смяяўся—мой павяліцель. Потым ён загадаў мне выпіць некалькі глыткоў са сваёй фляжкі і пайшоў. Я выпіла і заснула. Сёння раніцой прачнулася і бачу: яма пустая, сабака зарэзаны. Вось якое няшчасце на мяне навалілася! Але я аддам вам усё, што ў мяне ёсць, і буду працаваць на вас, колькі сілы хопіць.

— Цяжкія ўдары божыя!—сказала Саоткін.—Загубіў нас гэты разбойнік.

— Няпраўда,—сказала Катліна,—ён не разбойнік. Ён д'ябал, мой павяліцель. Вось яго пергамент. Ён пакінуў яго каля раскапанай ямы. Слухайце, што тут напісана: «Памятай, што ты служыш д'яблу. Пройдуць тройчы два тыдні і пяць дзён, і ты атрымаеш багацце двойчы большае за страчанае. Не сумнявайся ні ў чым, інакш ты памрэш». Ён стрымае сваё слова. Я ў гэтым упэўнена.

— Бедная дурніца,—сказала Саоткін.

І гэта быў яе адзіны папрок.

Пачынаючы з гэтага дня пачала слабнуць Саоткін. Яна ўжо не працавала. Цэлымі днямі сядзела яна перад ачагом і кашляла, задыхаючыся. Неле паіла яе настоем з лепшых лекавых траў. Але ёй нічога не дапамагала. Уленшпігель ужо не выходзіў з дому. Ён баяўся, каб Саоткін не памерла ў яго адсутнасць.

Праз некалькі дзён Саоткін ужо не магла ні піць, ні есці. Прышоў цырульнік і пусціў ёй кроў. Ад гэтага Саоткін яшчэ больш аслабла і ўжо не ўставала з ложка. Аднойчы ўвечары, адплюшчыўшы памутнелыя вочы, яна прамармытала:

— Клаас, муж мой! Тыль, дзіця маё! Дзякуй табе, божа, што ты збаўляеш мяне ад гэтых пакут.

Потым яна ўздыхнула і памерла.

---

## Раздзел 26. Аб тым, як Уленшпігель задумаў выратаваць зямлю Фландрскую

Пасля смерці Саоткін Уленшпігель засумаваў. Цэлымі днямі сядзеў ён у глыбокім задуменні, не чуў, што яму гавораць, і еў, не бачучы, што яму даюць. То раптам пачынаў ён блукаць па кухні і нідзе не мог знайсці сабе спакою. Дарэмна Неле суцяшала яго, дарэмна паўтарала Катліна, што Саоткін цяпер у раі, дзе няма ні суму, ні пакут.

— Попел паліць маё сэрца,—адказваў Уленшпігель.

Ён зрабіўся падобным да вар'ята, і Неле плакала, гледзячы на яго.

Тым часам рыбнік цэлыя дні сядзеў у сваім доме. Толькі ўвечары адважваўся ён выйсці на вуліцу. Суседзі паказвалі на яго пальцамі і называлі забойцам. Дзеці ўцякалі ад яго. Адзінокі ён блукаў па горадзе і не адважваўся зайсці ні ў адзін шынок. А калі і здаралася яму з'явіцца ў шынку,—усе наведвальнікі зараз-жа ўставалі і выходзілі. Шынкары пачалі замыкаць перад ім дзверы.

Змучаны адзіноцтвам, рыбнік ішоў за горад, у карчомку «Чырвоны Сокал», што каля Слейскага канала. Гаспадары гэтай карчомкі, людзі бедныя і абяздоленыя, былі рады ўсякаму заработку і таму, з болем у сэрцы, пускалі рыбніка да сябе. Але яны ніколі з ім не размаўлялі.

Аднойчы ўвечары Уленшпігель стаяў на парозе свайго дома ў глыбокім задуменні.

— Узяўся-б ты за якую-небудзь справу,—сказаў яму Матысон, бачар.—Толькі работай можна заглушыць гора.

— Попел Клааса паліць маё сэрца,—адказваў Уленшпігель.

— Рыбніку яшчэ горш жывецца,—заўважыў Матысон.—З ім ніхто не гаворыць, усе яго цураюцца. Кожны вечар цягнецца ён у «Чырвоны Сокал», за горад, каб у адзіноцтве выпіць свой кубак піва. Гэта нялёгкае пакаранне, Уленшпігель.

— Попел паліць маё сэрца,—паўтараў Уленшпігель.

У той-жа вечар, калі на званіцы сабора богамацеры прабіла дзевяць гадзін, Уленшпігель накіраваўся да «Чырвонага Сокала». Рыбніка яшчэ не было ў шынку. Уленшпігель пайшоў пабадзяцца па беразе канала. Была месячная, светлая ноч.

Праз поўгадзіны ён убачыў забойцу.

Рыбнік прайшоў паўз яго. Які і ўсякі чалавек, які прывык да адзіноцтва, ён голасна разважаў сам з сабой.

— Куды яны маглі схаваць гэтыя каролусы?—мармытаў ён.

— У тое самае месца, дзе іх адшукаў д'ябал!—крыкнуў Уленшпігель і ўдарыў рыбніка ў твар.

— Ах,—застагнаў рыбнік,—я ведаю цябе, ты—сын Клааса. Не чапай мяне! Не па сваёй злосці я праследаваў вас, а таму, што хацеў услужыць яго вялікасці. Я аддам табе назад усю тваю маёмасць. Яна каштуе сем залатых фларынаў. Але я вярну табе яе бясплатна. І, апрача таго, ты атрымаеш яшчэ поўфларына. Я-ж не багаты, не вер казкам!

І ён хацеў было паваліцца перад Уленшпігелем на калені.

Уленшпігель схапіў яго і кінуў у канал. І пайшоў прэч.

Але смутак не пакідаў яго. Цені замучаных бацькоў уставалі перад ім, а за імі і ўся Фландрыя—бедная, змучаная, заняволеная.

— Попел Клааса паліць маё сэрца,—гаварыў, смяртэльна сумуючы, Уленшпігель.—Смерць навісла над Фландрыяй і ў імя папы косіць невінаватых. Законы Фландрыі ў загоне, вольнасці знішчаны, усюды голад і запусценне.

Ткачы і суконшчыкі бягуць у чужыя землі, каб знайсці сабе прахарчаванне. Загіне радзіма, калі не дапамагчы ёй.

І слёзы залівалі твар Уленшпігеля.

«Што-ж мне рабіць? Як дапамагчы маёй радзіме?— думаў Уленшпігель.—Нарадзіўся я бедняком, жыў дрэнна і неразумна, не ведаючы ні ісціны, ні добрадзейнасці. Але Саоткін, маці мая, памерла ад гора і катаванняў. Клаас, мой бацька, спалены на кастры. Я хачу адпомсціць за іх! Я хачу бачыць шчаслівай гэтую бедную зямлю! Я хачу звергнуць забойцаў і вызваліць усіх прыгнечаных! Я хачу выратаваць зямлю Фландрскую!»

Так Уленшпігель вырашыў пакінуць Даме і далучыцца да паўстаўшых, каб змагацца за вызваленне сваёй радзімы.

---

## Раздзел 1. Аб тым, як Тыль Уленшпігель і Ламе Гудзак выправіліся ў далёкае падарожжа

У адну вераснёвую раніцу, з кіем у руках, з дарожнай торбай за плячыма, Уленшпігель вышаў з горада. Ніхто не праводзіў яго. Катліна пайшла на рынак, а Неле яшчэ спала.

Па дарозе да яго прычапіўся нейкі сабака. Уленшпігель прабаваў адагнаць яго, але дарэмна: сабака не адставаў.

— Дурненькі,—гаварыў яму Уленшпігель,—сядзеў-бы ты дома, а не бегаў дарэмна па дарогах. Дома цябе чакаюць слаўныя шпікавыя костачкі, а ад мяне што ты атрымаеш? Хутка мне самому не будзе чым паснедаць. Паслухайся мяне, дурненькі, вярніся да свайго гаспадара!

Але сабака не слухаўся Уленшпігеля. Ён круціў хвастом, скакаў і лашчыўся да яго. Уленшпігель думаў, што знайшоў сабе новага друга. Ён забыўся пра свіную пячонку, якая ляжала ў яго торбе. Яе і пачуў сабачка.

Так прайшлі яны цэлую мілю і раптам заўважылі на дарозе каламажку. Запрэжаны ў яе асёл дрымаў, схіліўшы галаву. У кустах каля дарогі сядзеў нейкі таўстун. У адной руцэ ён трымаў баранюю ножку, у другой—бутэльку з віном. Снедаючы, таўстун голасна стагнаў і аглушальна ўздыхаў.

Уленшпігель спыніўся. Сабака пачуў пах бараніны, кінуўся да таўстуна і тузануў яго за куртку. Таўстун штурхнуў яго локцем і адсунуў ад яго сваю бараніну. Сабака завыў, гледзячы на ласы кавалак. Асёл прачнуўся і таксама зароў: ён ніяк не мог дацягнуцца да чартапалоху.

Але таўстун еў і ні на каго не звяртаў увагі. Толькі калі ён чыста абгрыз сваю костку, ён кінуў яе сабаку і глянуў на Уленшпігеля. Гэта быў Ламе Гудзак.

— Што ты тут робіш, Ламе?—запытаў Уленшпігель.—Чаго ты стогнеш, абжора няшчасны? Ці не пакрыўдзіў цябе хто-небудзь?

— Ох, жонка мая!—голасна прастагнаў Ламе і зноў прыклаўся да бутэлькі.

— Без толку п'еш,—сказаў Уленшпігель,—лепш падзяліся з тым, у каго глотка перасохла.

Ламе падаў яму бутэльку. Уленшпігель закінуў галаву і пачаў ліць віно ў рот.

— Можаш зваць мяне іспанцам, калі тут што-небудзь засталося,—сказаў ён, вяртаючы бутэльку гаспадару.

Ламе паглядзеў бутэльку на святло і з жаласным стогнам палез у сваю торбу. Адтуль ён дастаў другую бутэльку, непачатую. Потым ён дастаў кавалак каўбасы, нарэзаў яе на лустачкі і з панурым выглядам пачаў жаваць іх.

— Што-ж ты ясі без перадышкі?—запытаў Уленшпігель.

— Каб разагнаць сумныя думкі,—адказваў Ламе.—Дзе ты, жонка мая, любімая мая жонушка?

Ламе выцер слёзы і адрэзаў сабе яшчэ дзесяць лустачак.

— Не спяшайся, Ламе,—сказаў Уленшпігель.—Пашкадуй галоднага падарожніка.

Залiваючыся слязмі, Ламе падаў яму чатыры кавалачкі. Уленшпігель узяўся есці. А Ламе ўсё ўздыхаў і жаласна хныкаў.

— Жонка мая,—прычытаў ён,—бедная мая жонушка! Якая яна была мілая і лёгкая, быццам матылёк. І спявала яна, нібы жаўранак. А як яна любіла прыбірацца! Ах, Тыль, я ніколі не дазваляў ёй працаваць: у яе былі вельмі далікатныя ручкі. Я сам падмятаў дом, перамываў пасуду, мыў бялізну і нават прасаваў. Выпі, Тыль, глыток, я вып'ю пасля цябе. Часта яна пазнілася к абеду, але я заўсёды

цярпліва чакаў яе, і ўсё было ў мяне гатова. Еш, Тыль, гэта генцкая каўбаса. Пі, Тыль, гэта брусельскае.

— Яна пайшла ад цябе?—спытаў Уленшпігель.—Як гэта здарылася?

Скуль я ведаю?—адказаў Ламе.—Мы жылі з ёй у міры і ніколі не сварыліся. І заўсёды яна была вясёлая і ласкавая. Тыль, ёсць яшчэ віно ў бутэльцы?

— Так,—адказваў Уленшпігель.

— Была яна нібы дзіця,—казаў далей Ламе, выпіўшы,—нават у цацкі гуляла. Была ў яе шафачка, і ў ёй—слаўная лялька, апранутая ў шоўкавую сукеначку. Яна гуляла з ёй, слова гонару. Я сам бачыў. Дзе яны, мае радасныя дзянькі? Паглядзі, Тыль, ці не засталося ў нас вяндліны?

— Тут палова шынкі,—сказаў Уленшпігель.

Ламе ў адну мінуту з'еў усё да рэшткі.

— Я вельмі люблю вяндліну,—сказаў Уленшпігель, сумна назіраючы за абжорай.

— І я таксама,—адказаў Ламе, калупаючы ў зубах.—Але, ах, не бачыць мне больш маёй душанькі. Яна ўцякла з Даме. Тыль, паедзем разам шукаць яе?

— Паедзем.

— А ў бутэльцы нічога не засталося?

— Нічога.

Яны селі ў каламажку. Асёл уздрыгануўся і пайшоў па дарозе. А сабака, наеўшыся пячонкі, пабег назад у Даме і нават хвастом не вільнуў на развітанне.

---

## Раздзел 2. Аб тым, як у Нідэрландах упершыню з'явіліся гёзы

Пры імператары Карле ў турмах і на кастрах загінулі сотні тысяч рэфарматаў. Філіпу гэтага здалося мала. Ён прызначыў новых епіскапаў і ўвёў у краіне іспанскую інквізіцыю. Нідэрланды захваляваліся.

Пятага красавіка, перад Вялікаднем, трыста знатных дваран, у ліку якіх быў і прыгажун Брэдэродэ, з'явіліся ў палац правіцельніцы Нідэрландаў, герцагіні Пармскай. Выстраіўшыся па чатыры ў рад, яны падняліся па лесніцы палаца і ўвайшлі ў залу. Тут яны падалі правіцельніцы сваё прашэнне, прызначанае для караля Філіпа. Дваране прасілі караля адмяніць указ аб увядзенні іспанскай інквізіцыі. Яны баяліся, што ў краіне ўзнікне ўсеагульнае нездавальненне, народ збяднее, пачнуцца мецяжы і хваляванні.

— Не бойцеся, ваша высокасць! Што яны разумеюць, гэтыя жабракі!—шапнуў правіцельніцы адзін з яе прыдворных.

Гэтымі словамі ён хацеў сказаць, што фламандскія дваране—жабракі ў параўнанні з іспанцамі, і баяцца іх няма чаго.

Дваране заявілі, што многія з іх, сапраўды, разарыліся на каралеўскай службе, але яны не толькі не саромяцца гэтага, але, наадварот, ставяць гэта сабе ў заслугу. Таму, калі кароль хоча, яны гатовы называцца жабракамі, па-французску гёзамі. Няхай гэта будзе іх ганаровай назвай.

З гэтага часу яны пачалі насіць на шыі залатыя медалі; на іх з аднаго боку быў малюнак караля, а з другой—

дзве рукі, пацiскаючыя адна другую, над жабрачай торбай. Вакол гэтай эмблемы быў выбіты подпіс: «Верныя каралю да жабрачай торбы». І на свае капелюшы яны начапілі залатыя какарды з малюнкам жабрачых місак і капелюшоў.

Яны яшчэ спадзяваліся заслужыць давер'е караля.

Хутка пасля гэтай падзеі Уленшпігель разам з Ламе пад'ехалі на сваёй каламажцы да замка Брэдэродэ.

— Тут,—сказаў Уленшпігель,—жыве адна знатная і магутнейшая персона. Нам трэба зайсці да яе і засведчыць сваю пашану.

— Гэта персона скажа мне, куды падзелася мая жонка?—спытаў Ламе.

— Можа быць, калі яна гэта ведае.

І яны ўвайшлі ў замак. Брэдэродэ сустрэў іх каля ўваходу.

— Чаго табе трэба?—спытаў ён Уленшпігеля.

— Хачу сказаць вам два словы, судар.

— Кажы.

— Вы славуты і магутны рыцар,—сказаў Уленшпігель.—Аднойчы вы схапілі француза, апранутага ў жалезныя даспехі, і расціснулі яго, нібы слімака ў чарапашынцы. Вы моцны і храбры, але, апрача гэтага, вы яшчэ і разважлівы. Чаму-ж з вашым розумам вы носіце гэты медаль? На ёй-жа напісана: «Верныя каралю да жабрачай торбы».

— Сапраўды, чаму, судар?—спытаў Ламе.

Брэдэродэ маўчаў.

— Чаму,—казаў далей Уленшпігель,—усе вы, знатныя паны, хочаце быць вернымі каралю да жабрачай торбы? Хіба вы не бачыце, што робіцца ў Фландрыі? Трэба ўціхамірыць іспанскага вырадка. Няхай ён сам даведаецца, што такое жабрачая торба.

Ламе ў знак згоды сцвярджальна ківаў галавой.

Брэдэродэ, вялізны як Геркулес, весела глядзеў на Уленшпігеля і ўсміхаўся.

— Калі ты не шпіён караля Філіпа,—сказаў ён,—то ты сумленны фламандзец. Зараз ты атрымаеш ад мяне за тое і за другое.

Ён павёў Уленшпігеля ў буфетную. Ламе ішоў за імі.

Там Брэдэродэ пацягнуў Уленшпігеля за вуха і сказаў:

— Гэта—узнагарода шпіёну.

Уленшпігель нават не пікнуў. Затым Брэдэродэ загадаў нацадзіць яму поўны кубак пахучага віна, прыгатаванага з карыцай.

— Гэта фламандцу,—сказаў Брэдэродэ.

Уленшпігель выпіў кубак да паловы і перадаў Ламе.

— А гэтаму таўстуну за што?—спытаў Брэдэродэ.

— Гэта мой друг Ламе,—сказаў Уленшпігель.—Калі ён п'е віно, яму здаецца, што жонка зноў да яго вернецца.

— Так,—сказаў Ламе і з благагавейнасцю спаражніў залаты кубак.

---

## Раздзел 3. Аб тым, як антверпенскія грамадзяне разгр011амілі сабор богамацеры

У Бруселі Уленшпігель даведаўся, што нейкія падазроныя людзі, вярней за ўсё наёмнікі і шпіёны караля Філіпа, задумалі загубіць горад Антверпен. 15 жніўня, у дзень успення богамацеры, у час царкоўнага шэсця, яны вырашылі разбіць статую богамацеры, а потым узваліць віну на антверпенскіх рэфарматаў. Пасля такога кашчунства вайна з рэфарматамі будзе няўхільнай, і войскі Філіпа ўтаргнуцца ў Нідэрланды.

Уленшпігель і Ламе паспяшаліся ў Антверпен, каб папярэдзіць грамадзян.

Па дарозе—галодныя і змучаныя—яны спыніліся ў Бруге каля аднаго шынка.

— Вось ужо два дні мы жывем адным чэрствым хлебам ды рэдкім півам,—сумна сказаў Ламе.

— У мяне ёсць поў-фларына,—сказаў Уленшпігель.—Пойдзем закусім і вып'ем.

Ламе засмяяўся ад радасці.

Яны паставілі каламажку каля павеці, а асла адвялі на стайню. Там яму засыпалі добрую порцыю аўса. Потым яны ўвайшлі ў шынок, заказалі сабе добры абед, наеліся дасыта, а пасля абеда задрамалі і, прачнуўшыся, патрабавалі вячэру.

Ламе ўвесь расплыўся ад задавальнення.

— Я чую ў маім страўніку нябесную музыку,—гаварыў ён.

— Вы мне вінаваты дзесяць патараў,—сказаў гаспадар пасля вячэры.

— Заплаці яму, Тыль,—сказаў Ламе.

— Няма чым,—сказаў той.

— А твае поў-фларына?

— Я пажартаваў,—сказаў Уленшпігель.

— Вельмі добра,—сказаў гаспадар.—Скідайце курткі і сарочкі.

— Ах, нягоднік!—заенчыў п'янаваты Ламе.—Па-твойму, нам і есці не трэба! А ты ведаеш, колькі грошай патраціў я на сваё бруха! Дзякуй богу, да гэтага часу я спраўна напакоўваў яго ўсякай ежай. Ніколі ў цябе не будзе такога бруха! У ім аднаго тлушчу пальцы на тры. А твой тлушч—дзе ён у цябе? Хіба што на каўняры: ён у цябе сальны ад бруду.

Шынкар быў заіклівы. Ён вар'яцеў ад злосці. Але чым больш ён злаваўся, тым мацней заікаўся і не мог вымавіць ні слова.

Уленшпігель смяяўся і страляў ў яго хлебнымі шарыкамі.

— Ты думаеш, у нас няма грошай!—крычаў Ламе.—Ты думаеш, нам няма чым заплаціць за трох тваіх худых курыц, ды за чатырох паскудных куранят, ды за вялікага дурня-паўліна з яго брудным хвастом! Ведай, нахабнік, што калі-б ты сам быў крыху тлусцейшы, я зжор-бы і цябе самога, і смаркатага твайго лакея, і крывую служанку, і караслівага кухара—і за ўсіх вас расплаціўся-б чыстай манетай.

Гаспадар усё больш злаваў, але Ламе ўжо не баяўся яго.

— Ці ведаеш ты, агідная морда,—крычаў ён,—колькі каштуе цудоўны асёл, мой дзіўны асёл з яго ветлівай мордай, даўгімі вушамі, шырокімі, багатырскімі грудзьмі? Восемнаццаць фларынаў, заіка няшчасны, восемнаццаць фларынаў! А ў тваім паскудным кашальку ці ёсць хоць патар, каб заплаціць за такую цудоўную жывёлу?

Шынкар, вылупіўшы вочы, глядзеў на Ламе, але ўжо не прабаваў вымавіць ні слова.

— А каламажка?—крычаў Ламе.—Надзвычайная каламажка, з дзіўнага ясеня, пафарбаваная чырвонай фарбай, з цудоўнымі палатнянымі фіранкамі ад дажджу і сонца? Якая ёй цана, як ты думаеш? Дваццаць чатыры фларыны, машэннік, і нічуць не менш. Вось цяпер і падлічы, колькі гэта будзе—восемнаццаць і дваццаць чатыры? Адказвай, непісьменная морда! Сёння кірмаш, народу многа, вось я і зраблю ўсё, як хачу. Ты мяне яшчэ не ведаеш!

І ён сапраўды прадаў свайго асла і каламажку за сорак чатыры фларыны і дзесяць патараў. Доўг гаспадару быў заплочаны.

Пакуль Ламе ваяваў з гаспадаром, нейкая маладая слаўная жанчына некалькі разоў заглядвала ў акно і зноў хавалася, як толькі Ламе паварачваўся ў яе бок. Увечары, праходзячы па цёмным карыдоры, Ламе раптам адчуў, што яго нехта абняў і моцна пацалаваў. Ламе дрэнна разумеў, што з ім робіцца: ён добра выпіў і вельмі хацеў спаць. Так ён і не дазнаўся, хто гэта быў.

Наступным днём, у Генце, Ламе шукаў сваю жонку па карчмах і шынках, а Уленшпігель хадзіў па горадзе і балагурыў з народам.

На рынку, непадалёку ад шынка, ён лёг жыватом на зямлю і ляжаў так, не рухаючыся з месца.

Каля яго прайшоў вугальшчык.

— Што ты тут робіш?—запытаў ён Уленшпігеля.

— Мачу нос, каб даведацца, адкуль дзьме вецер,—адказваў Уленшпігель.

За вугальшчыкам прайшоў столяр.

— Ты чаго на зямлі разлёгся?—спытаў ён.

— Я ляжу на зямлі, а другія хутка будуць ляжаць пад зямлёй,—адказваў Уленшпігель.

Потым спыніўся каля яго манах.

— Што тут робіць гэты гультай?—спытаў ён.

— Лежучы на бруху, прасіць вашага благаслаўлення, айцец мой.

Манах, усміхаючыся, благаславіў яго і пайшоў далей.

А Уленшпігель прыклаў вуха да зямлі і зрабіў выгляд, што прыслухоўваецца да нейкіх далёкіх гукаў.

— Што ты тут слухаеш, лежучы на зямлі?—спытаў селянін, які праходзіў паўз яго.

— Слухаю, як растуць дрэвы,—адказваў Уленшпігель.—Хутка іх ссякуць, каб зрабіць касцёр для ерэтыкаў.

— А што яшчэ чуеш?—спытаў, падыходзячы, другі.

— Чую, як ідуць іспанскія каты,—адказаў Уленшпігель.—Хавайце маёмасць, грамадзяне, закапвайце яе ў зямлю, пакуль не позна.

— Звар'яцеў ён, ці што?—сказаў селянін.

— Мабыць, што так,—адказваў другі.

Увечары Уленшпігель сядзеў у шынку сярод рэфарматаў. Гутарка ішла пра караля Філіпа.

— Кароль вырашыў, што мы захварэлі на ерась,—гаварыў ён,—і таму прыпісаў нам замест слабіцельнага—інквізіцыю. Толькі наўрад ці тут наша вера вінавата. Хутчэй за ўсё, кароль палюе за нашымі кашалькамі. Што-ж нам рабіць—прымаць слабіцельнае ці не прымаць? А раптам яно нам не спадабаецца? Тады мы можам і за мечы ўзяцца. І кароль гэта вельмі добра ведае. Убачыўшы, што мы не хочам слабіцельнага, ён пусціць у ход гарматы, фальканеты, кулеўрыны. Пасля такога лякарства ў Фландрыі не застанецца ніводнага фларына.

Гаражане перасмейваліся, слухаючы Уленшпігеля.

— Можаце цяпер смяяцца,—гаварыў Уленшпігель.—Усяму свой час. Але калі ў вас здарыцца што-небудзь у саборы багамацеры,—забудзьце пра смех. Уцякайце тады з горада, або ўзбройвайцеся, чым пападзе. Грозны набліжаецца час.

Пятнаццатага жніўня, раніцой, ля варот горада Антверпена было разбіта вялікае каменнае распяцце. Яго разбіў нейкі італьянец, які быў на жалаванні ў кардынала Гранвела.

Як звычайна бывала ў гэты дзень, працэсія вышла з сабора і накіравалася па вуліцах горада. Але па дарозе

кучка нейкіх невядомых людзей спыніла працэсію і асыпала статую богамацеры яраснай лаянкай. Статую аднеслі назад у сабор і замкнулі на хорах.

Уленшпігель і Ламе ўвайшлі ў сабор.

Нейкія малайцы, падазроныя на выгляд і нікому невядомыя, стаялі перад хорамі. Яны выкрыквалі лаянкі, шумелі, крыўляліся і падміргвалі адзін аднаму. Ніхто ніколі не бачыў іх раней у Антверпене. Невядома, адкуль яны ўзяліся.

Адзін з іх, малады хлапец з абсiвераным чырвоным тварам, шумеў больш за іншых. Гэта быў правадыр шайкі.

— Што, Машка,—крычаў ён, звяртаючыся да статуі богамацеры,—спалохалася? Пачакай, ці гэта яшчэ будзе? Мы табе пакажам сябе!

— Ці не ты яе спужаў?—сказаў Уленшпігель.

Хлапец палез было з кулакамі, але Уленшпігель схапіў яго за каршэнь.

— Калі ты хоць пальцам кранеш мяне, я звярну на бок тваю дурную морду,—сказаў Уленшпігель.—Грамадзяне,—гаварыў ён далей, павярнуўшыся да антверпенцаў, якія стаялі вакол яго,—сцеражыцеся гэтых малойчыкаў. Гэта не фламандцы. Гэта здраднікі. Яны падкуплены для таго, каб наклікаць на ваш горад вялікія беды.

— Эй, Машка!—крычалі здраднікі.—Злязай з хор, гультайка! Не злезеш дабром, дык мы цябе за падол сцягнем!

— Замаўчыце, нягоднікі!—сказаў Уленшпігель.—Не смейце ламаць крату!

У гэты час старая, прадаваўшая свечкі, кінула ў твар зачыншчыкам жменьку попелу. Старую павалілі на падлогу і надавалі ёй кухталёў. У сабор уварвалася гарадская варта. Але яе выціснулі вон і замкнулі ўсе дзверы.

— Гэй, брабантцы!—закрычаў правадыр.

— Ламайце статуі! Досыць ім стаяць у нішах! Кідайце іх у рэчку! Не бойцеся, дрэва ў вадзе не патоне.

Завываючы, шайка кінулася на хоры. Народ моўчкі стаяў у баку.

Тады Уленшпігель узбег на кафедру.

— Дурні вы, вар'яты!—закрычаў ён народу.—Што вы глядзіце? Няўжо не бачыце далей свайго носа? Гэта-ж за ўсё гэта кашчунства адкажаце вы, а не хто-небудзь іншы! Вас асудзяць, абрабуюць, пашлюць на касцёр. І кароль забярэ сабе вашу маёмасць. Не верце, грамадзяне, падбухторшчыкам! Пакіньце статуі ў нішах. Не ламайце іх! Інакш вы будзеце абвешчаны ерэтыкамі і мяцежнікамі, і герцаг Альба люта расправіцца з вамі.

— Не граміце царквы, грамадзяне!—заклікаў Ламе.— Кароль і так ужо разгневаўся на нас. Пакіньце статуі ў спакоі!

Але народ ужо рушыў на хоры.

— Ламай крату!—крычаў прадвадзіцель.—За справу, брабантцы! У ваду праклятых ідалаў!

Уленшпігеля сцягнулі з кафедры, падралі на ім куртку, падрапалі твар. Кроў цякла ў яго па шчоках, але ён не пакідаў крычаць.

— Апамятайцеся, грамадзяне! Не наклікайце пагібелі на горад!

Але ўсё было дарэмна.

— Няхай жывуць гёзы!—зароў натоўп і кінуўся на крату.

Так пачаўся разгром Антверпенскага сабора. Пад поўнач гэты велізарны храм з яго дзіўнай жывапіссю і каштоўнымі рэчамі быў цалкам спустошаны. Алтары былі разбіты, статуі паскіданы, замкі ўзламаны. Вельмі цікава, што пры разгроме не было ні аднаго рабаўніцтва. Нянавісць да каталіцкай царквы была вялікай: разграмілі ўсё, але зладзеяў у натоўпе не аказалася.

Пасля разгрому сабора богамацеры натоўп накіраваўся да іншых цэркваў і таксама разграміў іх. Праз некалькі дзён хваляванні перакінуліся ў Гаагу і іншыя гарады.

А Уленшпігель хадзіў па Антверпену і гаварыў грамадзянам:

— Паспела жніво для іспанскіх жняцоў! Крывавы герцаг ідзе на нас! Гора нам, фламандцы! Уцякайце.

жанчыны і дзяўчаты: вас закапаюць у магілу жывымі. Уцякайце, мужчыны: шыбеніца, касцёр і плаха чакаюць вас. Філіп задумаў давяршыць крывавую справу свайго бацькі. Уцякайце, грамадзяне! Кат і магільшчык ужо недалёка!

Народ слухаў яго і цэлымі натоўпамі пакідаў горад. Усе дарогі былі запруджаны вазамі ўцекачоў. Надыходзіў грозны час.

---

## Раздзел 4. Аб тым, як Уленшпігель выратаваў ад зруйнавання два нідэрландскія гарады

Пераапрануўшыся сялянамі, верхам на аслах, Уленшпігель і Ламе бадзяліся па гарадах і сёлах. Яны таўкліся на рынках, прадавалі гародніну, слухалі, пра што гаворыць народ, і папярэджвалі ўсіх аб іспанскім нашэсці.

Аднойчы, вяртаючыся з Бруселя, яны спыніліся на адпачынак каля дома графа Мегема. Графская кухарка запрасіла іх да сябе на кухню і добра пачаставала.

— Тыль, хто ты такі?—запытала яна Уленшпігеля, падкладваючы яму тлустыя кавалачкі.

— Сын шчасця і ўдачы,—адказваў Уленшпігель.

— Я бачу, ты нядрэнна пра сябе думаеш.

— Каб другія не захвальвалі.

— Ты хочаш вызваліць нашу краіну ад іспанцаў?

— Попел Клааса паліць маё сэрца.

— Вось як!—сказала кухарка.—А хто такі гэты Клаас?

— Мой бацька, спалены за веру.

— Граф Мегем зусім не падобны да цябе,—задуменна сказала кухарка.—Ён хоча заліць крывёй нашу радзіму. Я-ж нарадзілася ў Антверпене, Тыль. Ведай, што граф у змове з брабанцкім дарадцам Схейфам. Яны хочуць упусціць у Антверпен дзевяць атрадаў іспанскай пяхоты.

— Трэба папярэдзіць грамадзян,—сказаў Уленшпігель.—Да пабачэння.

Ён паскакаў у Антверпен, і на другі-ж дзень горад быў гатоў да абароны.

Граф дазнаўся, што нейкі ерэтык апярэдзіў яго замыслы. Кінуліся шукаць Уленшпігеля. Абшукалі ўсю

акругу, але яго не знайшлі. А Уленшпігель разам з Ламе хаваліся на падстрэшшы графскага дома, і жаласлівая кухарка кожны дзень прыносіла ім ежу і віно.

Аднойчы ўвечары граф прагаварыўся, што раніцой выступае са сваімі салдатамі ў Герцогенбуш. Кухарка расказала пра гэта Уленшпігелю. Пераапрануўшыся багамольцам, Уленшпігель пусціўся ў дарогу. Тут, па дарозе, ён разлічваў зайсці да аднаго знаёмага рэфарматара, узяць у яго каня і імчацца ў Герцогенбуш, каб своечасова папярэдзіць грамадзян.

На вялікай дарозе ён убачыў перад сабой калону салдат. Салдаты ішлі ў Герцогенбуш. Уленшпігель спалохаўся: за пазухай у яго былі пісьмы да вядомых рэфарматаў. І вось ён вырашыў прыкінуцца багамольцам. Мармычучы малітву, ён далучыўся да атрада і пайшоў у нагу з салдатамі.

Шэсце адкрываў атрад валонаў. Ім камандаваў капітан Ламот. Капітана абкружалі целаахоўнікі, узброеныя даўгімі алебардамі. За імі рухаліся: сцяганосец, профас са сваёй вартай, кат з памочнікам і, нарэшце, трубачы і барабаншчыкі.

Далей ішоў атрад фламандцаў са сваім капітанам. Фламандцы былі падзелены на дзве сотні. На чале кожнай сотні стаяў сержант—стары, загартаваны ў баях служака. Былі тут і музыканты; яны гралі на дудках і гучна барабанілі.

Апрануты багамольцам, Уленшпігель ішоў разам з атрадам і мармытаў свае малітвы.

Раптам Ламот глянуў на яго і крыкнуў:

— Куды ты ідзеш, багамолец?

— Пан капітан,—сказаў Уленшпігель.—У час юнацтва я зрабіў вялікі грэх і быў пасланы ў Рым прасіць у папы даравання. Цяпер, атрымаўшы благаславенне святога айца, я вяртаюся ў родную зямлю. Папа адпусціў мае грахі і загадаў мне прапаведваць слова божае ўсім салдатам, якіх толькі я сустрэну па дарозе. За маю пропаведзь

салдаты павінны даваць мне хлеба і мяса. Дазвольце мне на бліжэйшай стаянцы выканаць свой абавязак

— Дазваляю,—сказаў Ламот.

Каля Бархема быў зроблены прывал. Тут, каля самай дарогі, рос невялікі дуб з абсечанымі сучкамі. Толькі адзін сук застаўся цэлы: на ім у мінулым месяцы павесілі нейкага анабаптыста.

Салдаты размясціліся каля дарогі. З'явіліся маркітанты і навезлі ўсякай ежы: хлеба, віна, смажанага мяса. Уленшпігель глянуў на гэтыя багацці, і страўнік яго заныў ад нясцерпнага голаду.

Уленшпігель узлез на дрэва, сеў верхам на сук і пачаў сцябаць сябе вузенькім раменным бізуном. Салдаты абкружылі яго.

— У імя айца і сына і святога духа, амін!—пачаў Уленшпігель сваю пропаведзь.—Сказана ў пісанні: хто падае нямаючаму—падае самаму богу. Храбрыя воіны! Падайце госпаду богу, гэта значыць падайце мне. Падайце мне хлеба, мяса, віна, піва, піражкоў і ўсяго, што ў вас ёсць. Гасподзь бог зверне вам больш у сто раз. Ён пашле вам кучу ўсякай ежы, мора віна і цэлую гару марожанага, якое вы будзеце есці ў раі срэбранымі лыжкамі.

— Гэта што за вар'ят?—пыталі салдаты адзін у аднаго.

— Сябры мае,—гаварыў Уленшпігель.—Я не вар'ят, я проста галодны. Вы ясцё вяндліну, каўбасу, віно, піва, пернікі... Няўжо вы нічога не ахвяруеце беднаму багамольцу?

— Лаві!—закрычаў адзін з салдат і кінуў яму кавалак мяса.

Уленшпігель падхапіў мяса наляту і еў, седзячы верхам на сучку.

— Сцеражыся!—крыкнуў сержант і кінуў Уленшпігелю бутэльку з рэшткамі чырвонага віна.

Уленшпігель схапіў яе і, адпіваючы па глытку, гаварыў:

— Дрэнна быць галодным, але яшчэ горш быць п'яным, паны салдаты. А ці доўга ап'янець беднаму багамольцу? У яго страўніку так мала ежы.

Тут ён злавіў наляту гусіную лапку і выгукнуў:

— Добры дзень, паветраная рыбка! Але як хутка ты знікла ў маёй глотцы. Што можа быць больш пражэрліва за галоднае бруха!

У гэты час яго ўкалола ў зад нейчая алебарда.

— Няўжо багамольцы цяпер не ядуць бараніны?—пачуўся знізу дабрадушлівы голас.

І Уленшпігель убачыў баранюю нагу, працягнутую яму на кончыку алебарды.

— Дзякую цябе, мой добры алебардшчык,—сказаў Уленшпігель, хапаючы бараніну.—З гэтай костачкі я зраблю флейту, каб зайграць табе ўдзячны гімн. Але чаго каштуе трапеза без дэсерта? Дзе вы, піражкі з цукровым варэннем?

У гэту мінуту два піражкі паляцелі яму проста ў твар.

— Дзякую, пане сцяганосец!—закрычаў Уленшпігель, але піражкоў злавіць не паспеў: яны пападалі на зямлю.

Раптам загрымелі барабаны, задудзілі дудкі, і салдаты зноў пайшлі ў дарогу. Уленшпігелю загадалі ісці за атрадам, але ён зрабіў выгляд, быццам спатыкнуўся, і паляцеў у роў.

— Злітуйцеся, паны салдаты!—заенчыў ён.—Я зламаў сабе нагу. Я не магу больш ісці. Пакладзіце мяне ў каламажку.

Салдаты, смеючыся, прайшлі паўз яго. Некаторыя з іх пашкадавалі небараку і пакінулі яму хлеба і мяса.

Калі атрад адышоў, Уленшпігель ускочыў на ногі, здабыў каня і кружным шляхам паімчаўся ў Герцогенбуш.

Восемсот чалавек грамадзян, даведаўшыся аб небяспецы, зараз-жа ўзброіліся і паўсталі на абарону горада. Пераапрануты вугальшчыкам, Уленшпігель кінуўся ў Антверпен, да Брэдэродэ, прасіць дапамогі.

Так войска Ламота і не ўвайшло ў Герцогенбуш. Горад быў папярэджаны і вельмі добра падрыхтаваўся да асады.

---

## Раздзел 5. Аб тым, што даведаўся Уленшпігель, седзячы ў коміне печкі

Аднойчы Сімон Праат, друкар, які служыў сваім майстэрствам справе рэфарматаў, спытаў Уленшпігеля:

— Ці праўду кажа народ, што ты—смелы чалавек, Уленшпігель?

— Можа быць і смелы, калі трэба расправіцца з іспанцам ці пакараць якога-небудзь забойцу.

— Трэба ўлезці ў комін печкі і падслухаць, аб чым будуць гаварыць у пакоі.

— У мяне здаровыя ногі і гнуткае тулава. Пралезу ў комін, як кошка, і пратрымаюся ў ім колькі будзе патрэбна.

— А ці хопіць у цябе памяці і цярпення?

— Попел Клааса паліць мае грудзі,—сказаў Уленшпігель.

— Выслухай мяне ўважліва,—сказаў друкар.—Бачыш гэтую карту для гульні? На ёй я намаляваў каменны дом. Ідзі ў Дэндэрмондэ, адшукай гэты дом і пастукай у дзверы—два разы моцна і адзін раз ціха. Дзверы адчыняцца, і цябе спытаюць, ці не камінар ты. Ты адкажаш, што ты худы, але карту сваю не згубіў. І пакажаш гэтую карту гаспадару. Потым, Тыль, зрабі ўсё так, як табе скажуць. Камін будзе ўжо чыста вымецены. У коміне ты знойдзеш два выступы для ног і маленькую дошчачку—для сядзення. Палязай туды і сядзі, не рухаючыся. Благародныя паны збяруцца ў пакоі: прынц Оранскі—Вільгельм Маўклівы, графы Эгмант, Горн, Гаохстратэн і Людвіг Насаускі, брат Маўклівага. Мы, рэфарматы,

хочам ведаць, што хочуць зрабіць гэтыя паны для таго, каб выратаваць краіну.

Першага красавіка Уленшпігель сядзеў у коміне.

Хутка дзверы залы адчыніліся, і подых халоднага ветру пранізаў Уленшпігеля.

— Гэта нічога,—сказаў сабе Уленшпігель,—холад толькі асвяжыць мяне.

І ён пачаў слухаць, не прапускаючы ні слова.

У пакой увайшлі прынц Оранскі, Эгмант і іншыя. Яны загаварылі пра гнеў караля, аб падатках і дрэнным кіраванні. Адзін з іх гаварыў з гаркотай, высокамерна і рэзка,—гэта быў Эгмант. Гаохстратэна Уленшпігель пазнаў па яго ахрыпламу голасу. Горна—па яго салдацкаму басу, графа Людвіга Насаускага—па яго ваяўнічаму задору, а прынца Оранскага—Вільгельма Маўклівага—па тым, што ён гаварыў ціха і павольна, быццам кожнае слова ўзважваў на вагах.

— Для чаго мы тут сабраліся?—запытаў Эгмант.

— Кароль разгневаны,—адказаў Горн.—Трэба вырашыць, што рабіць.

— Краіна ў небяспецы. Трэба абараняць яе ад нападу іспанцаў,—сказаў Маўклівы.

— Кароль Філіп зусім не збіраецца нападаць на Нідэрланды,—адказаў Эгмант.—Ён задаволены намі. Мы—дваране—падтрымліваем у краіне мір і спакой.

— У Філіпа ў Нідэрландах нямала войска, і ўсё яно аддана вам, граф Эгмант,—сказаў Маўклівы.

— Не разумею, нашто вы гэта гаворыце,—сказаў Эгмант.

— Я не скажу больш ні слова,—адказаў прынц.

— Паслухайце, што нам пішуць з Іспаніі.

Няшчасны Монтыні, пасланы да Філіпа і схоплены іспанцамі, пісаў: «Даведаўшыся аб тым, што адбылося ў Нідэрландах, кароль прышоў у найвялікшы гнеў. Калі прыдзе час, ён бязлітасна пакарае мяцежнікаў».

Тут граф Эгмант уздрыгануўся і сказаў, што ў пакоі холадна і трэба запаліць у каміне. У каміне запалілі, але

паколькі ў коміне сядзеў чалавек, агонь разгараўся дрэнна, і ўвесь пакой напоўніўся дымам.

Граф Гаохстратэн, гучна кашляючы, прачытаў перахопленыя пісьмы іспанскага пасланніка Алавы да правіцельніцы. Пасланнік паведамляў, што тры чалавека вінаваты ў нідэрландскіх хваляваннях: Оранскі, Эгмант і Горн. Аднак, пакуль не прышоў час, з імі належыць абыходзіцца ласкава і рабіць выгляд, што кароль цэніць іх заслугі перад іспанскім прастолам.

Дым еў вочы Уленшпігелю. Ён задыхаўся, плакаў, але ўважліва прыслухоўваўся да кожнага слова.

А граф Гаохстратэн чытаў далей: «Кароль Філіп сказаў аднойчы: «Тое, што адбываецца ў Нідэрландах, наносіць страты нашай каралеўскай уладзе і падрывае асновы нашай рэлігіі. Мы вырашылі асабіста прыбыць у Нідэрланды, каб пакараць мяцежнікаў і аднавіць там нашы каралеўскія правы».

— П'ю за нашу радзіму,—сказаў Гаохстратэн і падняў свой келіх.

Усе выпілі разам з ім.

— Рашучая гадзіна прабіла для нашага дваранства,— сказаў Гаохстратэн.—Час падумаць аб тым, як мы будзем абараняцца.

— Мы вытрымаем,—сказаў Маўклівы,—калі Эгмант, якому падначальваецца армія, захоча прыйсці да нас на дапамогу і перашкодзіць іспанцам увайсці ў нашу краіну.

— Я не мяцежнік,—сказаў Эгмант.—Я верны слуга майго гасудара.

— Кароль бязлітасна адпомсціць вам,—сказаў Маўклівы.

— Я давяраю яму,—адказаў Эгмант.

— І галаву сваю давяраеце?—спытаў Людвіг Наcаускі.

— Так, і галаву,—сказаў Эгмант.

— І я таксама,—сказаў Горн.

— Падумайце, што вас чакае,—сказаў Маўклівы.

— Я павесіў дваццаць чалавек рэфарматаў!—ускрыкнуў Эгмант.—Калі яны спыняць свае бясчынствы, кароль пакіне гневацца.

— Ці можна спадзявацца на гэта?!—сказаў Маўклівы.

— Узброімся давер'ем,—сказаў Эгмант

— Жалезам трэба ўзбройвацца, а не давер'ем,—запярэчыў Гаохстратэн.

Маўклівы накіраваўся да выхаду.

— Бывайце, прынц без зямлі,—кпліва сказаў Эгмант.

— Бывайце, граф без галавы,—адказаў Маўклівы.

— Будзь ты пракляты, каралеўскі прыслужнік!—дадаў ад сябе Уленшпігель

Як толькі дваране разышліся, ён вылез з коміна печкі і кінуўся да Сімона Праата.

— Эгмант—здраднік,—сказаў Праат,—Прынц Аранскі—наша абарона.

---

## Раздзел 6. Аб тым, як Уленшпігель служыў вартаўніком у абацтве святога Мартына

Збыліся прадраканні Оранскага. Герцаг **Альба** з вялікім войскам уварваўся ў Нідэрланды. Эгмант і Горн былі кінуты ў турму. Аднойчы ў цёплы чэрвеньскі дзень у Брусэлі, на рыначнай плошчы, проста перад ратушай, быў зроблены высокі эшафот, пакрыты чорным сукном. Каля эшафота ўзвышаліся два слупы, а пасярэдзіне стаяў столік з невялікім срэбным распяццем. На гэтым эшафоце былі пакараны Эгмант і Горн. Галовы іх уваткнулі на астрыі слупоў і пакінулі на плошчы—каб застрашыць мяцежнікаў. І спадчыну пакараных атрымаў кароль.

Прынц Оранскі ўцёк у Германію. Але нядоўга быў ён на чужыне. Хутка на чале вялікага наёмнага войска ён вярнуўся на радзіму, каб вызваліць яе ад іспанцаў. І ўсе незадаволеныя збіраліся ў яго войска. Так пачалося паўстанне гёзаў. Але гэта былі ўжо не вернападданыя дваране, называўшыя сябе гёзамі ў адзнаку вернасці каралю да жабрачай торбы,—гэта быў увесь паўстаўшы народ, усе, каму ўжо не было сілы цярпець самавольства караля і каталіцкай царквы. І ў адрозненне ад гёзаў-дваран яны называлі сябе «дзікімі гёзамі». Усе тыя, хто яшчэ не паспеў далучыцца да прынца, хаваліся ў лясах. Уночы яны выходзілі са свайго прытулку, нападалі на манастыры і адбіралі ў манахаў каштоўныя рэчы: падсвечнікі, залатыя і срэбраныя ракі для мошчаў, дарахавальніцы і іншыя сасуды. І ўсе гэтыя каштоўнасці ішлі на патрэбы свяшчэннай вайны. А сяляне забяспечвалі гёзаў харчамі.

У гэты час Уленшпігель быў у Іпры. Тут ён вербаваў салдат для прынца Оранскага. Але сышчыкі герцага Альбы праследавалі яго. Ратуючыся ад іх, Уленшпігель паступіў царкоўным вартаўніком у абацтва святога Мартына.

Настаяцель абацтва быў тоўсты і тлусты, як добры вяпрук. З кожным днём ён рабіўся ўсё тлусцейшым і тлусцейшым, і Уленшпігель хутка даведаўся, як яму гэта ўдаецца.

У палову дзевятай раніцы настаяцель паднімаўся з ложка і ішоў у царкву. Тут ён заглядаў у кружку для бедных і палову грошай адсыпаў у свой кашалёк.

У дзевяць ён абедаў: выпіваў збанок малака, з'ядаў палову бараняй нагі, невялікі паштэт з чаплі і запіваў усё гэта брусельскім віном.

У дзесяць гадзін ён высмактваў некалькі сліў, піў арлеанскае віно і маліў бога, каб ён не даў яму захварэць на чэравадагодніцтва. У дванаццаць гадзін ён абгрызаў курынае крылца, а часамі далучаў да яго яшчэ і ножку.

У гадзіну ён пачынаў марыць аб вячэры і з гэтага выпадку прапускаў шклянку іспанскага. Потым ён на хвіліну клаўся і засыпаў.

Прачнуўшыся, ён з'ядаў кавалачак салёнай ласосіны— для ўзбуджэння апетыта—і запіваў яго кубкам піва. Пасля гэтага ён спускаўся на кухню і садзіўся перад ачагом. Там адбываліся цудоўныя справы: смажылася для манахаў бычыная пячонка, і павольна паварачвалася на вярцелі паджарыстае, выкармленае малаком парасё. Настаяцель удыхаў пах смажаніны, але сапраўдны голад яшчэ не прачынаўся ў ім. Ад няма чаго рабіць ён пачынаў разглядаць верцел. Верцел быў хітра змайстраваны і, здавалася, пакручваўся сам па сабе. Яго вынайшоў Пітэр ван-Стэенкіст, каваль, і настаяцель заплаціў яму за цудоўную машынку цэлых пятнаццаць парыжскіх ліўраў.

Потым настаяцель адпачываў і, прачнуўшыся, каштаваў свіны халадзец, заліты салодкім віном, бочка якога каштавала не менш за дзвесце сорак фларынаў.

У тры гадзіны ён з'ядаў жаўранка ў мадэры, а ў палове чацвертай—поўгаршка варэння з мёдам. Пасля гэтага ён прыходзіў у бадзёры настрой, зноў клаўся ў пасцель і адпачываў да самай вячэры.

Роўна ў чатыры падавалі вячэру. У гэту прыемную гадзіну з'яўляўся кюрэ царквы святога Іоана, і яны ўдваіх сядалі за стол. Часта яны спрачаліся—хто больш з'есць рыбы, дзічыны і мяса. Той, хто прайграваў, павінен быў пачаставаць пераможцу раскошнай смажанінай. Да смажаніны належала дадаць сем сартоў гародніны і чатыры сарты прысмакаў. Апрача гэтага, падавалі тры сарты гарачага віна—самай вышэйшай якасці.

За вячэрай яны размаўлялі аб ерэтыках, прычым абое лічылі, што колькі іх не бі, усё будзе мала. Потым яны схілялі свае мудрыя галовы на свае шчаслівыя жываты і пачыналі дзяўбсці носам. І часта праз сон хто-небудзь з іх мармытаў, што жыццё—вельмі добрая штука і беднякі зусім дарэмна скардзяцца на яго. Але пасля гэтых кароткіх слоў вочы іх зноў зліпаліся, і прыяцелі без усякіх перашкод зноў пачыналі прыемна дрымаць.

Быў у настаяцеля званар—дабрадушны чырвонашчокі таўстун, які зваўся Пампіліус Нюман.

— Дзе ты адгадаваў сваё бруха?—спытаў яго аднойчы Уленшпігель.—Няўжо на службе ў настаяцеля?

— Так, сын мой,—адказаў Пампіліус.—Прычыні-тка дзверы шчыльней, я раскажу табе, як гэта робіцца. Ты бачыў, якая ў нас вялізная скрыня стаіць на кухні? У гэтую скрыню айцец настаяцель замыкае мяса і розную дзічыну, а віно і піва трымае ў склепе. Але справа ў тым, што айцец настаяцель ніколі не разлучаецца са сваімі ключамі. Ён заўсёды носіць іх на поясе, і нават уночы, калі спіць, трымае іх пры сабе. У поўнач я падкрадаюся да яго, знімаю ключы з яго бруха, а потым вешаю іх назад. Але бачыць бог, сын мой, я раблю гэта з вялікім страхам: бо калі айцец настаяцель зловіць мяне, ён зварыць мяне жыўцом.

— Зусім не патрэбна хадзіць да яго кожную ноч,—

сказаў Уленшпігель.—Я зніму з яго ключы толькі адзін раз і зраблю па іх новыя. А старыя мы пакінем у яго на бруху.

— Зрабі гэта, сын мой,—сказаў Пампіліус.

Уленшпігель зрабіў ключы. У тую-ж ноч прыяцелі адчынілі скрыню і ўзялі там усяго, што ім спадабалася. Уленшпігель нёс бутэлькі, а Пампіліус—мяса: палахлівы званар дрыжэў усім целам і мог ад страху разбіць шкляную пасуду. Пасля гэтага яны наладзілі вялікае піраванне, і з тых часоў піравалі кожную ноч.

Аднойчы пасля абеда настаяцель паклікаў іх да сябе. З пагрозлівым выглядам ён смактаў шпігавую костку і грозна глядзеў на сваіх прыслужнікаў. У Пампіліуса ад страху затрэсліся паджылкі, і бруха захвалявалася ў прасторных штанах. Уленшпігель быў спакойны і толькі абмацваў у кішэні ключы ад гаспадарскага склепа.

— Нейкі д'ябал п'е маё віно і есць маю страву,—сказаў настаяцель, гледзячы на Уленшпігеля.—Ці не ты гэта, сын мой?

— Не,—сказаў Уленшпігель.

— А гэты званар?—гаварыў настаяцель.—Ен бледны, як мярцвяк. Крадзенае віно, як відаць, не ідзе яму на карысць.

— Ах, айцец настаяцель,—сказаў Уленшпігель,—дарэмна абвінавачваеце вы званара. Ён бледны таму, што вельмі мала п'е і есць. Ён слабее з кожным днём і, мабыць, нядоўга пражыве.

— Няшчасны,—сказаў настаяцель і перакуліў у горла бакал віна.—Але скажы, сын мой,—у цябе-ж рысіныя вочы,—няўжо ты ніколі не заўважаў злодзея?

— Я буду ўважліва наглядаць за склепам, айцец настаяцель,—адказваў Уленшпігель.

— Госпадзі хай благаславіць вас, дзеці мае,—сказаў настаяцель,—не забывайце аб устрыманні і памятайце, што чэравадагодніцтва—маці ўсіх парокаў. Ідзіце з мірам!

Настаяцель благаславіў іх. Потым ён узяў новую костку, высмактаў з яе шпік і запіў шклянкай віна.

Уленшпігель і Пампіліус вышлі.

— Вось скнара!—сказаў Уленшпігель.—Ён нават не даў нам па чарцы. Ну добра-ж, я зраблю яму штуку!.. Але што з табой, чаму ты дрыжыш? Глядзі весялей! Сёння ўночы будзе справа. Напоім усіх гарадскіх вартаўнікоў і добра пагуляем з імі. Ну і будзе-ж пацеха!

Так яны і зрабілі.

Набліжаўся дзень святога Мартына. Царкву упрыгожылі для свята. Позна ўночы Уленшпігель і Пампіліус прабраліся ў царкву, запалілі ўсе свечкі і зрабілі ўсё так, як задумалі. Пасля гэтага яны вярнуліся дадому. Не гледзячы на позні час, настаяцель яшчэ не спаў. Ён грыз крылца дразда і запіваў яго рэйнскім.

— Айцец настаяцель,—сказаў Уленшпігель,—я даznаўся, хто расцягвае вашы прыпасы. Паглядзіце-ка ў акно.

Настаяцель паглядзеў у акно і ўбачыў ярка асветленую царкву.

— Госпадзі божа!—ускрыкнуў ён,—няўжо гэта святы Мартын паліць па начах нашы свечкі і нічога за гэта не плоціць?

— Ён і яшчэ нешта прарабляе,—сказаў Уленшпігель.—Пойдзем вось з намі.

Настаяцель узяў посах, і ўсе ўтрох накіраваліся ў царкву.

Там у алтары яны ўбачылі дзіўнае відовішча. Статуі святых вышлі са сваіх ніш і сабраліся ў кола. Святы Мартын—на галаву вышэй за іншых—стаяў пасярод іх, і ў руцэ, паднятай для благаслаўлення, трымаў смажаную індычку. Іншыя святыя прыціскалі да сябе курэй, гусей, а ў некаторых з рота тырчэлі кавалкі каўбасы і смажанай рыбы. І каля падножжа кожнай статуі стаяла бутэлька віна.

Настаяцель ашалеў ад злосці. Твар яго набрыняў і пачырванеў. Ён падышоў да святога Мартына (мабыць, ён прымаў яго за зачыншчыка), вырваў у яго індычку і з

усёй сілы ўдарыў яго посахам. У статуі адвалілася рука, разбіўся нос і ўшчэнт разляцелася мітра.

Астатнія святыя таксама атрымалі па заслугах. Адзін страціў свае рукі, другі—ногі, трэці—мітру, чацверты—посах, пяты—крыж. Потым настаяцель кінуўся да падсвечнікаў і пачаў гасіць свечкі адну за адной.

Калі ўсё было скончана, ён сабраў мяса, птушак і каўбасу і вярнуўся дадому, знемагаючы ад цяжару. Ён быў так расхваляваны, што выпіў запар тры вялікіх бутэлькі віна.

Як толькі ён заснуў, Уленшпігель прабраўся да яго ў спальню і ўсё, што было адабрана ў святых, занёс у шынок. Там ён наладзіў з прыяцелямі добрую пірушку. Пасля пірушкі ён сабраў усе аб'едкі, занёс іх у царкву і паклаў каля статуй.

На наступную раніцу, калі Пампіліус званіў к заутрані, Уленшпігель зноў прывёў настаяцеля ў царкву.

— Дарэмна вы стараліся, айцец настаяцель,—сказаў ён, паказваючы на аб'едкі,—яны ўсё-ж павячэралі.

— Так,—сказаў настаяцель,—гэтыя зладзеі ўлезлі да мяне ў спальню і сцягнулі ўсё, што я ў іх адабраў. Дык вось вы як, паны святыя! Я буду скардзіцца на вас папе.

— Айцец настаяцель,—сказаў Уленшпігель,—паслязаўтра ў нас працэсія ў гонар святога Мартына. Збяруцца ўсе прыхаджане. Што падумаюць яны, убачыўшы гэтых разбітых святых? Каб вас хаця не абвінавацілі ў іконаборстве!

— О, святы Мартын,—з жахам прамармытаў настаяцель,—выратуй мяне ад кастра! Я не ведаў, што рабіў!

— Айцец настаяцель,—сказаў Уленшпігель,—да нядзелі паправіць статую мы ўсё адно не паспеем. Прыдзецца пайсці на хітрасць. Мы прыклеім Пампіліусу бараду, апранем на яго мітру, сціхар і ўсё аблачэнне, і ён цалкам сойдзе за святога.

Настаяцель пайшоў да Пампіліуса, які ўсё яшчэ званіў у званы.

— Пакінь званіць,—сказаў ён.—Хочаш зарабіць пятнаццаць дукатаў? У нядзелю, у дзень працэсіі, ты будзеш

святым Мартынам. Уленшпігель апране цябе ў адзенне святога. Цябе паставяць на насілкі і панясуць чатыры насільшчыкі. Калі ты хоць раз зварухнешся, я звару цябе жыўцом у кіпячым масле.

У нядзелю, у цёплы сонечны дзень, працэсія выйшла з царквы.

Уленшпігель так-сяк паправіў святых, і цяпер яны гойдаліся на сваіх насілках, сярод цэхавых сцягоў. За імі неслі статую багамацеры, за багамацер'ю ішлі дзяўчаты ў белых сукенках, потым стралкі з лука, і, нарэшце, разгойдваўся на насілках Пампіліус, апрануты ў цяжкую мантыю святога Мартына.

Незадоўга да працэсіі Уленшпігель выпрасіў у знаёмага аптэкара банку свярбучага парашку. Даволі было толькі злёгку пасыпаць ім скуру, як у чалавека пачынаўся нясцерпны сверб. Уленшпігель лётаў па царкве, апранаў Пампіліуса ў епіскапскае аблачэнне, падаваў адзенне святарам—на аднаго накінуў эпітрахіль, другому папраўляў расу, на дыяканаў апрануў сціхары. Ён лётаў туды і сюды, тут папраўляў складку камзола, там падцягваў пражкі штаноў. Не забываўся ён і брацтва стралкоў: ён уважліва разглядаў іх вялізныя самастрэлы і страшныя выгнутыя лукі. І ўсім ён нязменна сыпаў свой парашок—аднаму за каўнер, другому ў рукаў. Больш за ўсіх атрымалі парашку сам настаяцель і чатыры насільшчыкі святога Мартына. Толькі над дзяўчатамі ў белых сукенках злітаваўся Уленшпігель і нават блізка не падыходзіў да іх са сваім д'ябальскім зеллем.

З развяваючыміся харугвямі, у поўным парадку, працэсія рухалася па вуліцах горада. Народ набажна хрысціўся. Сонца пачынала прыпякаць.

Настаяцель раней за іншых адчуў на сабе дзеянне парашку і злёгку пачухаў за вухам. За ім пачалі чухацца астатнія—папы, насільшчыкі і стралкі. Чухаліся асцярожна, каб другія не заўважылі гэтага. Больш за ўсіх пакутваў званар. Ён стаяў вышэй за ўсіх, сонца пякло яго мацней і ўсё цела ў яго нясцерпна свярбела. Але званар не

адважваўся паварушыцца: ён баяўся, што яго зварацъ жыўцом. Ён моршчыў нос, страшэнна крыўляўся і ледзь стаяў на нагах.

Дрыготкімі ад нясцерпнага свербу галасамі спяваў царкоўны хор. Сонца пякло ўсе мацней. Настаяцель і чатыры насільшчыкі больш ужо не стрымліваліся—яны чухаліся так, што раздрапалі сабе ўсю скуру.

І раптам усе разам спыніліся—стралкі, папы, насільшчыкі—і пачалі чухацца. Адзін Пампіліус стаяў нерухома. Народ гаварыў, што святы Мартын злосна вылупліваё вочы і з жахам глядзіць на натоўп.

Начухаўшыся ўдосталь, працэсія накіравалася далей. Але хутка сонца пачало так пячы, што дзеянне парашку зрабілася нясцерпным. І вось народ убачыў, што папы, арбалетчыкі, насільшчыкі і дыяканы збіліся ў кучу, быццам стада малп, спыніліся і, забыўшыся на сорам, пачалі чухацца, дзе папала. Адны дзяўчаты спявалі свае гімны, і свежыя іх галасы ўзнімаліся да яснага неба.

Пакрыху ўсе разбегліся. Настаяцель сяк-так выратаваў чашу з прычасцем, народ занёс у царкву харугві. Што-ж датычыцца Пампіліуса, дык яго насільшчыкі шпурнулі на зямлю і пакінулі ляжаць пасярод вуліцы. Бедны званар ляжаў, не адважваючыся ні пачухацца, ні паварушыцца. Вочы яго былі заплюшчаны.

Два хлапчукі хацелі занесці яго ў царкву, але ён быў вельмі цяжкі для іх. Хлапчукі паставілі яго на ногі і прыхінулі да сцяны. Буйныя слёзы каціліся па шчоках небаракі.

Народ сабраўся вакол яго. Жанчыны выціралі яму твар насавымі хустачкамі, каб сабраць у іх цудатворную вільгаць.

— О, святы Мартын, як вам горача!—гаварылі яны.

Званар жаласна пазіраў на іх, і твар у яго торгаўся сам па сабе. Слёзы градам ліліся з яго вачэй.

— О, святы Мартын,—казалі жанчыны,—няўжо вы плачаце па нашым грэшным горадзе? Чаму так мор-

шчыцца ваш благародны нос? Якія буйныя ў вас слёзы! Яны падобны да бліскучых жамчужын.

Раптам нехта крыкнуў:

— Дай дарогу, вартаўнік ідзе!

Уленшпігель падышоў, узваліў Пампіліуса на плечы і панёс. Натоўп багамольцаў пайшоў услед за ім.

— Ох,—сказаў на вуха Уленшпігелю бедны званар,— я паміраю ад гэтага свербу, сын мой.

— Трымайся роўна,—адказаў Уленшпігель,—хіба ты забыўся, што ты статуя святога Мартына?

Дома іх сустрэў настаяцель, раздрапаны да крыві ад безупыннага чухання.

— Званар,—сказаў ён,—чухаўся ты ці не?

— Не, айцец настаяцель, не чухаўся.

— Можа быць, ты гаварыў ці варушыўся?

— Не, айцец настаяцель, не варушыўся.

— У такім выпадку,—сказаў настаяцель,—атрымлівай свае пятнаццаць дукатаў. І ідзі чухацца.

У наступны дзень Уленшпігель расказаў прыхаджанам аб сваім жарце. Увесь горад даведаўся, як расправіўся настаяцель са святым Мартынам і як ён наняў яму намесніка за пятнаццаць дукатаў. І многія з таго часу зрабіліся ерэтыкамі і разам са ўсёй сваёй маёмасцю перайшлі ў армію прынца Оранскага.

---

## Раздзел 7. Аб тым, як, зрабіўшыся гарбатым, Уленшпігель вылечыўся ад сваёй хваробы

У верасні прынц Оранскі са сваёй наёмнай арміяй пераправіўся праз Рэйн. Але дарэмна спрабаваў ён сустрэцца з Альбай. Альба ўпарта ўхіляўся ад бітвы. Даўгімі пераходамі ён умела стамляў праціўніка і чакаў, калі наёмнікі прынца разбягуцца па дамах. Толькі аднойчы брат Оранскага, Людвіг, сутыкнуўся з іспанцамі, але і тут пацярпеў страшнае паражэнне. Перад самым боем наёмнікі патрабавалі зарплату і, не атрымаўшы яе, адмовіліся біцца. Людвіг страціў дваццаць сцягоў, шаснаццаць гармат і паўтары тысячы коней.

Уленшпігель у гэты час бадзяўся на зямлі валонскай і дарэмна прабаваў падняць грамадзян на барацьбу з іспанцамі. Валонцы не слухалі яго: яны былі за Філіпа.

На дарозе, у ваколіцах горада Бульёна, Уленшпігель сустрэў мноства гарбатых. Багатыя і бедныя, старыя і маладыя, мужчыны і жанчыны,—усе яны ішлі, набажна перабіраючы чоткі. І малітвы іх нагадвалі жабінае кваканне.

— Куды ідуць гэтыя няшчасныя?—запытаў Уленшпігель аднаго багамольца.

— Да труны святога Рэмакля,—адказваў той.—Мы ідзем маліць святога, каб ён збавіў нашы спіны ад гэтага ганебнага цяжару.

— Крывавы герцаг для нашай краіны—усё адно што свінцовы горб,—сказаў Уленшпігель.—Ці не зможа святы Рэмакль збавіць нас ад яго светласці?

— Гарбы, пасланыя нам у пакаранне, святы Рэмакль не знімае,—адказваў багамолец.

— Якія-ж ён знімае?—запытаў Уленшпігель.

— Усе іншыя, калі яны яшчэ не вельмі зацвярдзелі. І кожны раз, як адбываецца цуда, у горадзе спраўляюць вялікае свята. Кожны багамолец дае вылечанаму срэбную ці залатую манету, таму што вылечаны сам робіцца святым і яго малітва пачынае дапамагаць іншым гарбатым.

— Значыць, пан Рэмакль патрабуе за вылячэнне плату, быццам які-небудзь аптэкар?—спытаў Уленшпігель

— Гэта богахульства!—закрычаў багамолец, і горб у яго на спіне затросся.—Святы Рэмакль пакарае цябе, паскудны бязбожнік!

— Гора мне!—ускрыкнуў Уленшпігель і, згорбіўшыся, паваліўся на зямлю.

— Глядзіце, глядзіце!—закрычаў багамолец, паказваючы на Уленшпігеля.—Вось як святы Рэмакль карае за богахульства!

А Уленшпігель валяўся на зямлі, чухаў сваю спіну і стагнаў:

— Святы Рэмакль, злітуйся нада мной! Адчуваю тваё пакаранне! О, як баліць мая спіна! Ай-ай, даруй мне, святы Рэмакль! Адыйдзі ад мяне, багамолец! Пакінь мяне аднаго! Дай мне, вялікаму грэшніку, пакаяцца ў адзіноцтве!

Багамолец з жахам пабег у горад і расказаў усім гарбатым, якое вялікае цуда адбылося на яго вачах.

— Святы Рэмакль!—закрычалі багамольцы.—Калі ты можаш зрабіць чалавека гарбатым, значыць, можаш і вылечыць яго. Знімі нашы гарбы, пан святы Рэмакль!

Уленшпігель тым часам падыходзіў да ўскраіны горада. Каля ўваходу ў адзін шынок матляліся на палцы два свіныя пузыры. Уленшпігель сарваў адзін пузыр, напусціў у яго крыху крыві, надзьмуў і завязаў ніткай. Потым ён падабраў з дарогі аб'едзены хрыбет камбалы і ўсё гэта—і пузыр, і хрыбет—прывязаў сабе на спіну і схаваў пад вопраткай. У такім выглядзе, згорблены і няшчасны, ён прышоў на гарадскую плошчу.

— Вось гэты богахульнік!—закрычаў, убачыўшы яго, знаёмы багамолец і паказаў на яго пальцам.

Гарбатыя сабраліся з усіх бакоў, каб паглядзець на свайго новага таварыша.

А Уленшпігель матляў галавой і жаласна прыгаварваў:

— Ах, не шкадуйце мяне, добрыя людзі! Забіце мяне, як шалёнага сабаку.

— Вось і яшчэ адзін малойчык у нашу кампанію,— радасна гаварылі гарбатыя, паціраючы рукі.

— Пачакайце вы ў мяне, агідныя стварэнні,—мармытаў праз зубы Уленшпігель і зноў пачынаў плакаць, жаласна лемантуючы:

— Не буду я ні піць, ні есці, пакуль святы Рэмакль не вылечыць мяне!

Чутка пра вялікае цуда дайшла да каноніка. Гэта быў высокі чалавек, шчытны і велічны. Падняўшы свой нос, ён, нібы карабль, урэзаўся ў натоўп і спыніўся перад Уленшпігелем.

— Дык гэта цябе, небараку, уразіў гнеў святога Рэмакля?—запытаў ён.

— Мяне, айцец канонік,—адказаў Уленшпігель,—і я малю святога Рэмакля, каб ён зняў з мяне гэты горб: ён-жа яшчэ зусім мяккі.

Канонік адразу адчуў, што ў гэтых словах захавана нейкая хітрасць.

— Дай-жа, я абмацаю твой горб,—сказаў ён.

— Абмацайце, айцец канонік,—адказаў Уленшпігель.

— Сапраўды, ён яшчэ зусім свежы,—сказаў канонік, усунуўшы руку пад куртку Уленшпігеля.—Спадзяюся, што святы Рэмакль дапаможа табе. Ідзі за мной.

Яны ўвайшлі ў царкву. Гарбатыя беглі за Уленшпігелем і крычалі:

— Вось ён! Вось богахульнік! Ці добра табе з тваім гарбом, прыгажун! Усё жыццё ты смяяўся з нас, бо сам быў просты, як жэрдка. Цяпер наша чарга смяяцца з цябе. Слава пану святому Рэмаклю!

Канонік увёў Уленшпігеля ў маленькую капліцу. Пасярод капліцы стаяла вялікая мрамарная грабніца. Паміж

сцяной і грабніцай ішоў вузкі праход, чалавек ледзь мог праціснуцца праз яго. Па гэтым праходзе, вакол грабніцы, цягнулася доўгая чарада гарбатых. Кожны стараўся пацёрціся гарбом аб мрамарную пліту. Шчаслівцы, якім гэта ўдавалася, ні завошта не хацелі пускаць на сваё месца наступных. І яны бясшумна біліся і балюча шчыпалі адзін аднаго: шумець у гэтым свяшчэнным месцы ніхто не адважваўся.

Канонік загадаў Уленшпігелю ўзлезці на пліту, каб яго бачылі ўсе, хто маліўся.

— Мне аднаму не ўзлезці,—сказаў Уленшпігель.

Канонік дапамог яму, узлез сам і загадаў Уленшпігелю стаць на калені.

— Дзеці і браты ў Хрысце!—сказаў ён.—Вось вы бачыце перад сабой агіднага богахульніка, якога святы Рэмакль пакараў сваім гневам.

— Confiteor! [1]—б'ючы сябе ў грудзі, ускрыкнуў Уленшпігель.

— Быў час,—гаварыў канонік,—калі гэты чалавек быў роўны і стройны, як дрэўка алебарды. Ён ганарыўся і хваліўся гэтым. І вось, паглядзіце, якім ён зрабіўся цяпер. Ён згорбіўся і сагнуўся пад ударамі нябеснага пракляцця.

— Confiteor! —ускрыкнуў Уленшпігель.—Памілуйце мяне, грэшнага.

— О свяціцель Рэмакль!—працягваў канонік.—Пасля сваёй слаўнай канчыны ты зрабіў трыццаць дзевяць цудаў! Збаў-жа ад гарба гэтага грэшніка! Мы будзем усхваляць цябе ва векі вякоў. Пазбаў гарбатых ад іх гарбоў!

— Пазбаў гарбатых ад іх гарбоў!—ускрыкнулі хорам гарбуны.—Дай адпачыць ад калецтва і насмешак! Знімі з нас гарбы, пан святы Рэмакль!

Канонік загадаў Уленшпігелю злезці з пліты і пацёрціся гарбом аб край грабніцы.

— Confiteor! —мармытаў Уленшпігель, злязаючы. І на

[1] Першае слова лацінскай пакаяннай малітвы: „каюся!"

вачах усіх багамольцаў ён пачаў цёрціся гарбом аб камень.

— Глядзіце на горб, ён паддаецца!—закрычалі багамольцы.

— Глядзіце, ён памяншаецца з правага боку!

— Ён лезе ў грудзі!

— Няпраўда! Ён лезе ў страўнік і пераварваецца там замест ежы!

І раптам пачуўся страшэнны крык. Уленшпігель націснуў на камень, пузыр лопнуў. Кроў вялікімі плямамі выступіла на куртцы. Уленшпігель выпрастаўся на ўвесь рост, выцягнуў рукі і закрычаў:

— Вылечаны!

— Цуда!—закрычалі багамольцы.—Цуда!—святы Рэмакль пачуў яго малітву. Чаму ты не чуеш нас, святы Рэмакль? Пазбаў нас ад гарбоў!

— Я афярую табе цялё!—абяцаў адзін.

— Я прывяду сем бараноў!—гаварыў другі.

— А я ўсё, што прынясу з палявання за цэлы год!

— Я—поўтузіны шынак!

— А я аддам царкве свой маленькі домік!

— Зніміі нашы гарбы, пан святы Рэмакль!

І ўсе з зайздрасцю і павагай тоўпіліся навокал Уленшпігеля. Адзін гарбун хацеў паглядзець, што цяпер у вылечанага паміж лапаткамі, але канонік спыніў яго:

— Там цяпер рана,—сказаў ён.—Нельга выстаўляць яе на святло.

— Я буду маліцца за вас,—сказаў Уленшпігель гарбатым.

— Так, так,—сказалі яны.—Даруй нам за тое, што мы насміхаліся з цябе.

— Я вам дарую,—міласціва сказаў Уленшпігель.

— Вось табе патар, вось фларын. Вось вам рэал, вось крузат. Працягніце руку, ваша стройная міласць, прыміце ад нас гэта прынашэнне.

— Давайце мне чырвонцы так, каб нельга было заўважыць,—ціхенька сказаў ім Уленшпігель.—Няхай левая рука не ведае, што робіць правая.

Ён гаварыў так таму, што канонік не зводзіў вачэй з яго грошай і, здавалася, лічыў кожную манетку.

Амаль усе багамольцы што-небудзь падалі Уленшпігелю. Толькі некалькі скупых не падышлі да яго. Яны ўпарта цёрліся гарбамі аб грабніцу і панура маўчалі.

Увечары Уленшпігель пайшоў у шынок і наладзіў там добрую пірушку. Толькі перад сном ён успомніў, што канонік мабыць з'явіцца да яго па грошы. Уленшпігель падлічыў здабычу. Манеты былі ў большасці залатыя: іх было не менш за трыста каролусаў.

Уленшпігель узяў з акна вазон, дастаў з яго кветку разам з зямлёй і паклаў на дно сваё золата. Поўфларыны, патары і іншыя дробныя манеты ён рассыпаў перад сабой па стале і пачаў чакаць каноніка.

Канонік прышоў у шынок і падняўся да Уленшпігеля.

— Ці вы гэта, пан канонік?—ускрыкнуў Уленшпігель.—Што прывяло вас у маю ўбогую келлю?

— Твая маёмасць, сын мой,—адказаў канонік.

— Ах,—уздыхнуў Уленшпігель,—ці не гэтая маемасць, што ляжыць на стале?

— Гэта самая,—сказаў канонік і высыпаў усе грошы ў свой кашэль. Толькі адзін фларын даў ён Уленшпігелю, і Уленшпігель жаласна стагнаў для выгляду, растаючыся са сваім багаццем.

Канонік спытаў Уленшпігеля, што ў яго было схавана пад курткай. Уленшпігель паказаў яму свіны пузыр і косці камбалы. Канонік узяў адно і другое і вышаў з шынка. Яшчэ доўга бег за ім Уленшпігель і маліў вярнуць яму частку здабычы. Канонік пайшоў, не кажучы ні слова.

Уленшпігель вярнуўся ў шынок, паставіў гаршок з кветкай каля ложка і заснуў.

На світанні ён забраў свае грошы і паспяшыўся ў лагер Маўклівага. Ён перадаў прынцу свае чырвонцы і расказаў, як яны яму дасталіся.

— Вось лепшы спосаб збіраць ваенную кантрыбуцыю,—смеючыся гаварыў Уленшпігель.

Прынц даў яму дзесяць фларынаў.

Што-ж да хрыбта камбалы, то яго паклалі ў хрустальны каўчэжац, які павесілі на вялікім распяцці ў алтары Бульёнскага сабора.

І кожны ў горадзе быў упэўнены, што ў гэтым каўчэжцы ляжыць горб вылечанага богахульніка.

---

## Раздзел 8. Аб тым, як Уленшпігель выратаваў прынца Оранскага

У лагеры Оранскага было неспакойна. Сярод прыбліжаных прынца з'явіліся рознагалоссі. Оранскі прыдумваў складаныя маршы, стараючыся ашукаць іспанцаў і пераправіць сваю армію праз Маас. Пачалі гаварыць, што Оранскі робіць гэта не без мэты. У лагеры ўтварыліся варожыя партыі.

— Прынц—здраднік,—запэўнівалі ворагі Оранскага.

— Хлусня,—адказвалі яго сябры,—гэта вы здраднікі, бо вы паклёпнічаеце на абаронцу свабоды.

Часта справа даходзіла да бойкі. Здаралася, што пускалі ў ход зброю і стралялі адзін у аднаго з аркебузаў.

Аднойчы самому прынцу давялося разводзіць ворагаў. Ён прайшоў паміж імі, і куля сарвала з яго шпагу. Оранскі абышоў увесь лагер, каб усе ўбачылі яго жывым і здаровым. Інакш чутка аб яго смерці загубіла-б усю справу.

Аднаго разу, у туманную поўнач, Уленшпігель вяртаўся з суседняй вёскі ў свой лагер. Раптам з дзвярэй аднаго доміка пачулася крумканне вароны. Яно паўтарылася тры разы. Здалёк нехта адказаў такім-жа крумканнем. На парог доміка вышаў чалавек у сялянскім адзенні. На дарозе пачуліся крокі.

Два чалавекі, размаўляючы па-іспанску, падышлі да селяніна.

— Ну, як справы?—спытаў ён.

— Вельмі добрыя,—адказалі яны.—Мы толькі што з лагера. Справа наладжваецца. Па лагеры паўзуць цёмныя

чуткі: «Прынц Оранскі хоча нагнаць сабе цану,—гавораць адны.—Калі ён дастаткова напалохае іспанцаў,—ён за пяцьсот тысяч фларынаў пакіне паўстаўшае войска. Герцаг абяцаў дараваць і яму і яго сябрам і звярнуць ім усю іх маёмасць. Оранскі заключыў з ім тайны догавар». «Не,—гавораць другія,—Оранскі не пойдзе на гэтую вудачку. Ён вельмі добра помніць, што здарылася з Эгмантам і Горнам. А пакуль Оранскі з намі,—справа яшчэ не загінула».

— А ці вялікі разлад у лагеры?—спытаў селянін.

— Вялікі і расце з кожнай хвілінай. Дзе пісьмы?

Яны ўвайшлі ў домік і запалілі ліхтар. Уленшпігель падкраўся пад акенца і ўбачыў, што абодва чытаюць нейкія пісьмы і п'юць мёд.

Потым зноў усе вышлі на ганак.

— Як толькі лагер распадзецца,—сказалі тыя двое,—Оранскі будзе ў нашых руках.

Яны развіталіся з селянінам, узялі ў яго ліхтар і пайшлі далей.

Святло ліхтара мігцела на дарозе і часта засланялася нейчым чорным ценем. Уленшпігель зразумеў, што здраднікі ідуць адзін за адным.

Ён зарадзіў свой аркебуз і стрэліў у цень. Ліхтар апусціўся да самай зямлі, падняўся і апусціўся зноў. Як відаць, адзін здраднік паваліўся, а другі разглядаў яго рану. Уленшпігель зноў зарадзіў свой аркебуз. Ліхтар, калыхаючыся, пачаў хутка аддаляцца ў кірунку да лагера. Уленшпігель стрэліў зноў. Ліхтар пахіснуўся, упаў і згас.

Уленшпігель кінуўся ў лагер. Насустрач яму, пабуджаныя стрэламі, беглі салдаты, з профасам на чале.

— Я—паляўнічы,—сказаў профасу Уленшпігель.—Пойдзем, падбярэм дзічыну.

— Вясёлы фламандзец,—сказаў профас,—ты, бачу я, умееш не толькі языком размаўляць.

— Што нашы словы? Вецер!—адказваў Уленшпігель.—Свінцовыя-ж словы застаюцца ў целе здраднікаў. Пойдзем за мной.

Пры святле ліхтароў яны ўбачылі здраднікаў. Адзін быў ужо мёртвы, другі трапятаў у прадсмяротнай агоніі. У руцэ ў яго быў скамечаны лісток паперы. Як відаць, здраднік хацеў знішчыць яго, але ўжо не здолеў зрабіць гэтага. Абодва здраднікі былі ў дваранскім адзенні.

Профас загадаў падняць трупы і аднесці іх да палаткі Маўклівага. Сабраўся вялізны натоўп ландскнехтаў і рэйтараў. Усе шумелі і хваляваліся.

Прынц спыніў нараду са сваімі ваеннaчальнікамі і выйшаў з палаткі. Профас выступіў наперад і, адкашляўшыся, пачаў абвінаваўчую прамову супроць Уленшпігеля. Але Уленшпігель перапыніў яго на першым слове.

— Ваша светласць,—сказаў ён Маўкліваму,—я паляваў на варон, але замест іх падстрэліў двух здраднікаў-дваран з вашай світы.

І ён расказаў, як гэта адбылося.

Оранскі не сказаў ні слова. Перад тварам усіх знатных паноў, у прысутнасці ландскнехтаў і салдат, сярод якіх быў і Ламе Гудзак, што ўвесь дрыжэў ад страху, трупы былі старанна абшуканы. У падкладцы плашчоў былі знойдзены іспанскія пісьмы, з загадам здраднікам сеяць разлад у лагеры прынца. «Трэба дзейнічаць з вялікай хітрасцю,—гаварылася ў адным пісьме,—трэба гаварыць намёкамі і недамоўкамі, але так, каб у людзей узнікла падазрэнне, што Маўклівы гатоў купіць сабе памілаванне цаной здрады. Калі мы дасягнем гэтага, салдаты самі схопяць Маўклівага і расправяцца з ім. Кожнаму з іх у ўзнагароду будзе выдана па пяцісот дукатаў. Грошы для гэтага ўжо высланы з Іспаніі ў Антверпен».

Гэта пісьмо расплюшчыла вочы ўсім, хто сумняваўся ў сумленнасці прынца. Змова ворагаў была выкрыта. Прынц вярнуўся да афіцэраў і салдат і моўчкі паказаў ім на трупы, быццам папракаючы сваіх саратнікаў у недавер'і. І гром крыкаў захаплення пачуўся ў адказ Оранскаму.

— Няхай жыве прынц!—крычалі паўстаўшыя.—Няхай жыве Оранскі, друг нашай радзімы!

— Прыміце трупы,—загадаў Оранскі.

— А я?—сказаў Уленшпігель.—Як загадаеце зрабіць са мной? Калі я вінаваты—няхай мяне пакараюць, калі я зрабіў правільна—мне належыць узнагарода.

— Гэты аркебузір,—сказаў Маўклівы, паказваючы на Уленшпігеля,—атрымае пяцьдзесят розак за тое, што ён парушыў дысцыпліну і забіў двух дваран. Пасля гэтага яму будзе выдана трыццаць фларынаў за тое, што ён добра бачыў і чуў.

— Ваша светласць,—сказаў Уленшпігель,—калі мне дадуць спачатку трыццаць фларынаў, мне будзе лягчэй выцерпець пакаранне.

— Так, так,—прыгаварваў Ламе Гудзак,—дайце яму спачатку трыццаць фларынаў. Яму будзе лягчэй вытрываць астатняе.

— Да таго-ж,—казаў далей Уленшпігель,—сумленне маё спакойна, а цела зусім не заслугоўвае зялёнага пачастунку.

— Так,—стагнаў Ламе Гудзак,—ён невінаваты, паны афіцэры. Не біце яго, прашу вас, не біце!

Калі Уленшпігель атрымаў свае трыццаць фларынаў, да яго падышоў палачны майстар.

— Ты гатоў?—спытаў ён Уленшпігеля.

— Гатоў?—паўтарыў Уленшпігель.—Да чаго гатоў? Да розаг? Не, не гатоў і не хачу быць гатовым, пан палачны майстар. У вас рыжая барада і страшны выгляд, але я ўпэўнены, што сэрца ў вас добрае і вы зусім не любіце мучыць такіх небарак, як я.

— Паварачвайся хутчэй!—сказаў палачны майстар.

— Не трэба спяшацца, ваша высокасць!—сказаў Уленшпігель прынцу.—Гэтыя розгі яшчэ зусім сырыя. Іх трэба спачатку высушыць. Інакш, пранікаючы ў жывое мяса, яны могуць заразіць мяне смяротнай атрутай. Хіба ваша светласць жадае, каб я загінуў такой ганебнай смерцю? Здаецца, я верна служыў вашай светласці?

— Памілуйце яго, прынц,—сказалі Гаохстратэн і іншыя прыбліжаныя.

І Ламе таксама крычаў з натоўпу:

— Даруйце яму, ваша высокасць! Сырыя розгі—сапраўдная атрута для цела!

— Дарую,—сказаў прынц.

Тут Уленшпігель падскочыў да Ламе і пляснуў яго па жываце.

— Дзякуй прынца, таўстун,—закрычаў Уленшпігель,—ён вызваліў мяне ад розаг.

Уленшпігель пусціўся ў скокі па дарозе.

І Ламе таксама спрабаваў скакаць з Уленшпігелем, але тоўстае бруха замінала яму. Тады Уленшпігель пацягнуў яго ў шынок і пачаставаў добрай выпіўкай.

---

## Раздзел 9. Аб тым, як быў пакараны Рызенкрафт, аматар наядынкаў

Армія Маўклівага падышла да Мааса. Пачалі шукаць брод. Але на ўсіх пераправах іспанцы паставілі пад вадой жалезныя пасткі, якія хапалі коней за ногі і моцна ранілі іх. Толькі каля Стакема брод быў не заняты. Прынц аддаў загад пачынаць пераправу.

Першай пайшла конніца. На тым беразе яна пастроілася ў баявы парадак, каб ахоўваць пераправу. Потым ад берагу да берагу, перасякаючы раку ўпоперак, выстраіліся конныя стралкі і аркебузіры. Яны сталі шчыльным строем, у дзесяць радоў, каб затрымаць сабой плынь ракі. Сярод іх быў і Уленшпігель. Вада даходзіла яму да бёдраў, і хвалямі яго не раз падымала ўверх разам з канём.

Пад гэтым прыкрыццем пачала перапраўляцца пяхота. Салдаты ішлі, прывязаўшы парахаўніцы да капелюшоў і падняўшы аркебузы высока над галавой. За імі рухаліся фурманкі, абозная варта і, нарэшце, артылерыя. Цяжка грукацелі вялікія і малыя кулеўрыны, фальканеты, мартыры, гарматы простыя, падвойныя і лёгкія, якія маглі хутка перасоўвацца з аднаго месца на другое. У ар'ергардзе, ахоўваючы калону з тылу, ішлі ландскнехты і фламандскія рэйтары.

Уленшпігель прамок да касцей і думаў толькі аб тым, як было-б добра глынуць зараз моцнай гарэлкі. Побач з ім, пагойдваючыся на сядле, хроп стралок Рызенкрафт, немец з паўднёвай Германіі, чалавек вялізнага росту і лютага нораву. Ад яго тхнула гарэлкай. Уленшпігель заўважыў яго фляжку: яна вісела на шнурку і была немалога

размеру. Не думаючы доўга, Уленшпігель разрэзаў шнурок і прыклаўся да гарэлкі.

— І нам дай!—закрычалі суседзі.

Уленшпігель перадаў ім фляжку. Калі гарэлка была выпіта, ён зноў звязаў шнурок і хацеў павесіць фляжку на старое месца. У гэты момант Рызенкрафт прачнуўся і прывычным рухам пацягнуўся за гарэлкай. Убачыўшы, што фляжка пустая, немец пачырванеў ад злосці і закрычаў на Уленшпігеля:

— Гэта ты выпіў маю гарэлку, нягоднік?

— У паходзе гарэлка—агульнае дабро,—адказваў Уленшпігель.—Скнарам не месца ў нашай кампаніі.

— Я скрышу цябе на кавалкі!—сказаў Рызенкрафт.— Выклікаю цябе заўтра на паядынак!

— Згодзен,—сказаў Уленшпігель.—Будзем секчы адзін аднаму галовы, рукі, ногі і ўсё астатняе. Толькі май на ўвазе, што шпагі з сабой я не вазьму. Такіх малойчыкаў, як ты, вучаць проста кіем.

— Паспрабуй,—злосна ўсміхаючыся, сказаў Рызенкрафт.

Яны згаварыліся аб сустрэчы.

Між тым армія перайшла праз раку.

— Наперад, на Льеж!—скамандаваў Маўклівы.

— На Льеж!—радасна падхапілі фламандцы.—Няхай жыве Вільгельм Оранскі!

Але іншакраінныя салдаты, галоўным чынам немцы, адмовіліся ісці ў наступленне, раней чым добра не абсушацца і не адагрэюцца каля кастроў. Дарэмна запэўняў іх Оранскі, што перамога забяспечана, што гаражане самі адчыняць вароты,—немцы былі няўмольны. Яны расклалі кастры і размясціліся на адпачынак.

Наступленне было адкладзена да наступнага дня. Гэта выкарыстаў Альба. Ён узброіў у Льежы ворагаў Оранскага, і прынц падышоў занадта позна. І віной усяму былі немцы, якія з-за мокрых штаноў не паслухаліся своечасова свайго начальніка.

Надышоў час паядынка. Выбралі секундантаў. Секунданты вырашылі, што праціўнікі будуць біцца пешымі. Месцам паядынка была выбрана маленькая палянка, зарослая верасам.

Рызенкрафт прыехаў верхам на сваім кані ў поўным баявым узбраенні. Яго сядло было акута жалезам, на галаве каня развяваліся баявыя пер'і. Сам ён быў у нагрудніку і кальчузе. Твар яго закрываў суцэльны шлем з маленькімі дзіркамі для вачэй. Са зброі ў яго быў добры арбалет з трыццацю стрэламі, шпага і шырокі кінжал.

Што датычыцца Уленшпігеля, то ён з'явіўся верхам на асле. Замест сядла пад ім была падаслана нейчая брудная спадніца. Галаву асла ўпрыгожваў кошык, набіты стружкамі, а на грудзях, замест панцыра, быў прывязаны вялікі кавалак сала.

Замест шлема Уленшпігель надзеў на галаву салатны лісток і ўпрыгожыў яго пасярод лебядзіным пяром. Шпагу яму замяняў моцны даўгі кій з маленькай мяцёлкай на канцы. Злева да яго сядла быў прывешаны драўляны нож, а справа—матлялася паліца: вялізная рэпа, насаджаная на драўляную рукаятку.

Убачыўшы Уленшпігеля ў такім убранні, секунданты зарагаталі. Адзін Рызенкрафт не ўсміхнуўся. Ён сядзеў на сваім жалезным сядле нахмурыўшыся і панура маўчаў.

Секунданты заявілі, што немец павінен зняць свой шлем, бо на Уленшпігелі няма нічога, апрача лахманоў. Рызенкрафт згадзіўся.

— Чаму ў цябе мятла замест шпагі?—спыталі секунданты Уленшпігеля.

— Вы дазволілі мне замест шпагі ўзяць кій,—сказаў Уленшпігель.—Я ўпрыгожыў яго гэтым маленькім букецікам.

— Твая справа,—сказалі секунданты.

Рызенкрафт маўчаў і ў нецярпенні збіваў шпагай кусцікі вераса. Секунданты прапанавалі яму замяніць шпагу мятлой, такой-жа, як у Уленшпігеля.

— Гэты абібок сам выбіраў для сябе зброю,—сказаў Рызенкрафт.—Мабыць, ён думае, што яму і мятлы хопіць.

— Правільна,—сказаў Уленшпігель,—з мяне хопіць і мяцёлкі.

Праціўнікі моўчкі паглядзелі адзін на аднаго—Рызенкрафт, закуты ў панцыр, верхам на кані, і Уленшпігель—на сваім асле, прыкрыты кавалкам сала.

Уленшпігель выехаў на сярэдзіну поля, падняў мяцёлку, нібы кап'ё, і сказаў:

— Горш за чуму для мяне гэтая кіслая морда, якая прымазалася да нашага дружнага лагера. Дзе толькі яна ні з'явіцца—сам па сабе спыняецца смех, і сціхае вясёлая песня. І ўсё гэты нягоднік з кім-небудзь лаецца ды б'ецца. Замест таго, каб біцца з ворагамі, ён робіць паядынкі і, на радасць праціўнікам, губіць сваіх таварышоў. Гэты самы Рызенкрафт, які зараз стаіць перад намі, забіў на паядынках дваццаць аднаго чалавека, забіў з-за дробязей, у той час як сам ні ў адной бітве не даказаў сваёй храбрасці. Таму мне будзе вельмі прыемна пачасаць супроць шэрсці гэтага злоснага сабаку.

— Гэты п'яніца адважваецца абвінавачваць мяне ў забойствах!—сказаў Рызенкрафт.

— Пусціце мяне, я рашчаплю яму галаву! Кожны ўбачыць, што яна ў яго пустая!

Па знаку секундантаў праціўнікі спешыліся. Злязаючы з асла, Уленшпігель упусціў салатны ліст на зямлю. Асёл зараз-жа з'еў яго. Адзін з секундантаў ударыў асла нагой, і вось абодва—і асёл, і конь—пацягнуліся на ўскраек лесу шчыпаць траву.

Пачуўся свісток. Гэта быў сігнал да бою.

Рызенкрафт і Уленшпігель кінуліся адзін на аднаго. Рызенкрафт калоў шпагай. Уленшпігель адбіваўся мяцёлкай. Ён спрытна выкручваўся, бегаў туды і сюды, паказваў Рызенкрафту язык, строіў яму грымасы, а той задыхаўся і, як шалёны, сек паветра сваёй даўгой шпагай. Вось, нарэшце, ён дагнаў Уленшпігеля, але той хутка павярнуўся і з усёй сілы ўдарыў яго ў нос сваёй мяцёлкай.

Распластаўшыся быццам задыхаючая жаба, Рызенкрафт паляцеў на зямлю.

Уленшпігель падскочыў да Рызенкрафта і пачаў церці яго па твары мяцёлкай, прыгаварваючы:

— Прасі прабачэння, а не дык сажрэш у мяне ўсю мяцёлку.

Секунданты рагаталі, гледзячы на іх. А Уленшпігель цёр не спыняючыся.

— Прасі прабачэння,—паўтараў ён,—а не дык усю мяцёлку сажрэш!

Але Рызенкрафт не мог сказаць ні слова: ён памёр у прыпадку злосці.

— Даруй табе, госпадзі, дурань няшчасны,—сказаў Уленшпігель і, засмучоны, пайшоў з поля бойкі.

---

## Раздзел 10. Аб тым, як Уленшпігель вызваліў іспанскіх палонных

Быў канец кастрычніка. У прынца нехапала грошай. Армія галадала. Салдаты наракалі. Прынц рухаўся ў напрамку да Францыі і стараўся ўступіць у бой з герцагам. Але герцаг упарта ўхіляўся ад яго.

Толькі аднойчы Оранскаму ўдалося ўступіць у бітву з каралеўскімі войскамі. Гэта быў атрад, які знаходзіўся пад камандай дона Руфеле Генрыцыс, сына герцага Альбы.

У гэтым баі Уленшпігель моцна параніў самога дона Руфеле. Іспанцы былі разбіты.

Пасля бітвы Уленшпігель шукаў Ламе па ўсім лагеры: яго нідзе не было.

— Ох,—гаварыў. Уленшпігель,—дзе ты, Ламе, дружа мой! Мабыць, ты забыўся на сваё бруха і кінуўся праследаваць непрыяцеля. І, мабыць, як мех паваліўся ты на дарозе і трапіў у палон да праклятых іспанцаў. Ах, Ламе, што ты нарабіў! Куды ты падзеўся, мой тоўсты дружок?

У лістападзе прынц паклікаў да сябе Уленшпігеля.

— Слухай уважліва, што буду я табе гаварыць,— сказаў Маўклівы.—Цябе чакае вялікая дарога. Абыйдзі Фландрыю, Генегау, Брабант, Антверпен, Намюр, Гельдэрн, Оверысель і паўночную Галандыю і ўсюды абвяшчай жыхарам: калі шчасце здрадзіць нам на сухазем'і, мы не пакладзем зброі і будзем біцца на моры. Калі прыдзеш у Антверпен, з'явіся да майго друга Бейса і раскажы яму аб усім, што зрабіў. Вось тры прапускі, падпі-

саныя самім Альбай. Іх знайшлі чыстымі на трупах забітых. Мой сакратар запоўніў іх. Магчыма, па дарозе ты знойдзеш сабе добрых таварышоў, якім можна даверыцца. Ведай: хто на крык жаўранка адкажа спевам пеўня—той свой чалавек. Вось табе пяцьдзесят фларынаў. Будзь адважным і выканай усё да канца.

— Попел паліць маё сэрца,—адказаў Уленшпігель.

Ён апрануў на сябе падраны жупан, штаны, знятыя з забітага іспанца, стары дзіравы плашч і, распусціўшы пяро на сваім капелюшы, выправіўся ў дарогу. Са зброі ён узяў з сабой добры аркебуз з запасам пораху і куль і старую шпагу.

Надыходзіла зіма, і птушкі-каралькі, пырхаючы, хаваліся пад дахі хатак. Ужо трэці дзень ішоў снег.

Уленшпігелю часта прыходзілася паказваць варце свой пропуск. Яго прапускалі, і ён ішоў далей, да Льежа

У вялікім пустэльным полі яго заспела снежная завіруха. Рэзкі вецер біў проста ў твар і заляпляў вочы клоччамі снегу. Тры галодныя ваўкі ішлі па слядах Уленшпігеля. Уленшпігель стрэліў з аркебуза і забіў аднаго з іх. Двое другіх зараз-жа разарвалі таварыша і, з акрываўленымі кавалкамі ў зубах, зніклі ў лесе.

Глянуўшы навокал, Уленшпігель заўважыў воддаль нейкае дзіўнае шэсце. Бледныя цені людзей, нібы шэрыя статуі, рухаліся ў снежнай завеі. За імі віднеліся чорныя постаці коннікаў. Уленшпігель залез на дрэва. Вецер данёс да яго далёкія жаласныя стогны.

«Можа быць, гэта багамольцы ў белым адзенні,— падумаў Уленшпігель.—Іх, мабыць, вельмі занесла снегам».

Але яшчэ праз момант ён убачыў, што гэта бягуць голыя людзі, цэлы натоўп голых людзей, і два коннікі бізунамі падганяюць іх наперад. Уленшпігель зарадзіў свой аркебуз. Сярод гэтых няшчасных былі і маладыя, і зусім старыя людзі. Адубелыя ад холаду, збітыя, жалкія, яны імкнуліся пазбегнуць удараў і беглі з апошніх сіл.

А рэйтары, цёпла апранутыя, чырвоныя ад гарэлкі і сытнага абеду, ехалі за імі і забаўляліся, б'ючы няшчасных.

— Я адпомшчу за цябе, попел Клааса,—сказаў Уленшпігель і стрэліў проста ў твар пярэдняму конніку. Коннік упаў з каня. Другі, не ведаючы, адкуль узялася гэтая смертаносная куля, вырашыў, што ў лесе іх падпільноўвае шматлікі праціўнік. Ён схапіў за повад каня свайго таварыша і сабраўся ўцякаць. Але ў гэту-ж хвіліну другая куля прабіла яму шыю, і ён мёртвым паваліўся на зямлю.

Палонныя парашылі, што гэта сам анёл у выглядзе аркебузіра з'явіўся да іх на дапамогу, і ўсе, як адзін, паваліліся перад ім на калені. Уленшпігель злез з дрэва, і тут яго пазналі тыя, якія раней служылі ў арміі прынца Оранскага.

— Нас гналі ў Маастрыхт,—сказалі яны Уленшпігелю.—Там зараз знаходзіцца герцаг Альба. Усе мы былі прысуджаны—хто да катавання, хто да пакарання смерцю, хто да галер,—за тое, што адважыліся змагацца супроць іспанскага панавання.

Уленшпігель аддаў аднаму старому свой плашч і сказаў:

— Хадземце, я правяду вас да Мез'ера. Толькі спачатку распраніце гэтых салдат і злавіце коней.

Камзолы, штаны, боты і капелюшы рэйтараў падзялілі паміж сабой самыя старыя і хворыя.

— Пойдзем па лесе,—сказаў Уленшпігель.—Там не такі вецер. Бяжым, браты.

Раптам адзін з няшчасных з крыкам паваліўся на зямлю.

— О, як холадна мне!—закрычаў ён.—Іду да бога, скажу яму, што папа рымскі—антыхрыст.

І ён памёр.

У гэты час па дарозе ехаў селянін. Ён злітаваўся над няшчаснымі і пусціў іх у сваю фурманку. Яны забраліся ў сена, пакрыліся пустымі мяхамі і пакрыху пачалі са-

гравацца. Уленшпігель ехаў верхам на салдацкім кані. Другога каня ён вёў за повад.

У Мез'еры яны спыніліся. Тут ім далі гарачай пахлёбкі, хлеба і піва. Іх рассялілі па хатах, апранулі і за кошт абшчыны забяспечылі новай зброяй. І ўсе радаваліся і благаслаўлялі Уленшпігеля за яго адвагу.

А Уленшпігель прадаў сваіх коней, падзяліўся грашмі з палоннымі і пайшоў далей.

---

## Раздзел 11. Аб тым, як Уленшпігель і Ламе спынілі „стальны вецер“

У сакавіку Уленшпігель прышоў у гарадок Намюр, што стаіць на Маасе. Тут на рацэ ўбачыў ён тоўсценькага рыбака, які сядзеў у лодцы і лавіў цудоўную мааскую фарэль. Гэта быў Ламе Гудзак. Як выявілася, ён заплаціў гільдыі рыбакоў пяцьдзесят фларынаў і заняўся рыбным промыслам. Частку рыбы ён прадаваў, частку з'ядаў,—і ад гэтага бруха ў яго зрабілася яшчэ тлусцейшым, а ў мяшочку зазвінелі новенькія чырвонцы.

Убачыўшы Уленшпігеля, Ламе пад'ехаў да берагу і кінуўся насустрач да свайго друга.

— Ах, сын мой,—мармытаў ён, ледзь варочаючы языком ад шчасця.—Нарэшце, мы зноў разам! Куды ты ідзеш? Ці не бачыў маю жонку? Пойдзем, пакаштуй маціскай рыбы. Гэта самая смачная рыба на свеце. Тут робяць такія падліўкі, што пальчыкі абліжаш. Пажывеш у мяне, зноў зробішся здаровым і бадзёрым, як малады арол. Пацалуй мяне, дурненькі. Ух, як я рад, што ты зноў знайшоўся!

Ламе скакаў і, задыхаючыся, прытанцоўваў вакол Уленшпігеля.

Дома ён прыгатаваў цудоўны абед і расказаў Уленшпігелю аб сваіх прыгодах. Аднойчы каля лагера ён убачыў нейкую дзяўчыну, якую палічыў за сваю жонку. Ён пагнаўся за ёй, і так гнаўся да Намюра. Дзяўчына аказалася незнаёмай, але Ламе падумаў, што гэта лёс, і вырашыў застацца ў Намюры.

— Чуе маё сэрца, што жонка мая ў Даме,—задуменна гаварыў ён.—Едзем у Фландрыю, сын мой. У мяне поўны кашалёк фларынаў. Купім сабе па аслу і паедзем на радзіму.

Так яны і зрабілі.

Праз некалькі дзён, стомленыя і галодныя, яны прыехалі на пастаялы двор. Ён стаяў на скалістым беразе Самбры, і вакол яго не было ніякага іншага жылля.

На абед ім падалі свежую рыбу і некалькі бутэлек маскага віна. Тут-жа за сталом сядзеў гаспадар. Ён быў добра падпіўшы і, размаўляючы, увесь час хітра падміргваў Уленшпігелю. Гэта быў стары, пераканаsuccessfully папіст.

Уленшпігель парашыў, што гаспадар хавае нейкую таямніцу, і пачаў пакрыху яго падпайваць. Той піў, рагатаў і раптам пусціўся ў скокі па пакоі. Потым ён зноў сеў за стол і напоўніў свой бакал.

— Ваша здароўе, добрыя каталікі!—прамовіў ён.

— Тваё таксама,—адказалі Уленшпігель і Ламе.

— П'ю за знішчэнне праклятых ерэтыкаў!

— Правільна,—адказалі Уленшпігель і Ламе і зноў напоўнілі бакал гаспадара.

— Вы слаўны народ,—сказаў ён.—П'ю за вашу шчодрасць. Дзе вашы пропускі?

— Вось яны,—сказаў Уленшпігель.

— Падпісаны герцагам. П'ю за герцага!

— За герцага!—адказалі Уленшпігель і Ламе.

— Чым мы ловім пацукоў і мышэй?—казаў далей гаспадар.—Мышалоўкамі і пасткамі. А хто сярод іх галоўны нетапыр, які наводзіць жах на ўсё наша каралеўства? Гэта Оранскі, вялікі ерэтык, аранжавы, як агонь у пекле[1]. Хо-хо-хо! А хто там ідзе, хацеў-бы я ведаць? Ха-ха! Піць! Налі мне! Гэта слаўныя рэфармацкія прапаведнічкі. Наліце-тка мне яшчэ віна, сябры! Хочаце з імі прабрацца ў лагер Оранскага? У мяне ёсць пропускі. Там убачыце, як дзьме «стальны вецер».

[1] Prince d'Orange, прынц Оранскі, г. зн. Аранжавы.

— Добра,—сказаў Уленшпігель.—Мы пойдзем у лагер.

— Яны зробяць усё, як нельга лепш. Падпільнуюць яго ўночы і—раз!—Тут гаспадар зрабіў выгляд, што коле шпагай.—«Стальны вецер» садзьме яго і—канец. Вып'ем-жа за «стальны вецер»!

— Ты, бачу я, вясёлы, хоць і жанаты,—сказаў Уленшпігель.

— Я не жанаты,—сказаў гаспадар.—Мне давяраюць важныя дзяржаўныя таямніцы. Жонка можа выказаць іх і паслаць мяне на шыбеніцу. Вып'ем! Дзе мае новыя прапускі? Яны тут, на маім хрысціянскім сэрцы. А дзе нашы прапаведнічкі? Вунь яны, вунь, за трыста крокаў адсюль, на дарозе ў Марш-ле-Дам. Бачыце іх? Вып'ем!

— Вып'ем!—ускрыкнуў Уленшпігель.—Вып'ем за караля, за герцага, за прапаведнікаў, за «стальны вецер»! Вып'ем за маё здароўе, за тваё здароўе, вып'ем за віно, за бутэльку! Я бачу, ты зусім не п'еш!

Уленшпігель усё наліваў і наліваў гаспадару, і той залпам асушаў свае бакалы. Нарэшце Уленшпігель паставіў бутэльку і некаторы час пільна глядзеў на гаспадара.

— Ён спіць,—сказаў ён, устаючы.—Пойдзем адсюль, Ламе.

Яны вышлі на дарогу.

— Ён не жанаты,—сказаў Уленшпігель.—Нас ніхто не бачыў. Ты зразумеў, што гэта за прапаведнікі, аб якіх гаварыў гэты п'яніца?

— Так,—сказаў Ламе.

— Яны ідуць ад Марш-ле-Дам па беразе Мааса. Іх трэба спыніць раней, чым падзьме «стальны вецер».

— Так,—сказаў Ламе.

— Мы павінны выратаваць прынца.

— Так,—сказаў Ламе.

— Вазьмі мой аркебуз, зарадзі яго двума кулямі і схавайся вунь у тых кустах, каля скал. Калі я пракрумкаю крумкачом,—страляй.

— Добра,—сказаў Ламе.

Ён знік у хмызняку і зарадзіў свой аркебуз.

— Бачыш іх?—спытаў Уленшпігель.

— Так, бачу. Іх трое. Яны ідуць салдацкім крокам, і адзін з іх на галаву вышэй за сваіх таварышоў.

Уленшпігель сеў на дарозе і, быццам жабрак, мармычучы малітвы, пачаў перабіраць свае чоткі. Капялюш ляжаў у яго на каленях.

Калі прапаведнікі праходзілі паўз яго, ён працягнуў ім капялюш, але тыя нічога ў яго не паклалі.

— Памажыце, добрыя людзі,—жаласна застагнаў Уленшпігель.—Я—бедны каменшчык.—Нядаўна я зваліўся ў шахту і пераламаў сабе ногі. Ніхто мне не дапамагае, і я вымушаны памерці з голаду. Памажыце няшчаснаму. Вечна за вас буду бога маліць.

— Сын мой,—сказаў адзін з прапаведнікаў.—Мы—бедныя служкі царквы, і грошай у нас так мала, што ледзь хопіць на дарогу.

— У такім разе прашу вас, благаславіць мяне,—сказаў Уленшпігель і стаў на калені.

Тры прапаведнікі працягнулі над ім рукі, і тут Уленшпігель убачыў, што жываты ў іх тоўстыя, хоць усё цела мускулістае і хударлявае. Устаючы, Уленшпігель зрабіў выгляд, што паслізнуўся і ўдарыўся галавой у жывот высокага прапаведніка. Пачуўся вясёлы звон грошай.

Тут Уленшпігель выпрастаўся, выцягнуў сваю шпагу і сказаў:

— Прэпадобныя айцы, на дварэ халаднавата, а я апрануты вельмі дрэнна. Падайце-тка сюды тое, што звініць у вас на бруху. Я, ці бачыце, жабрак, інакш кажучы, гёз. Няхай жывуць гёзы!

— Ты, бачу я, не толькі гёз, але і вялікі задзірака,—сказаў высокі прапаведнік.—Прыдзецца цябе правучыць, прыяцель.

— Правучыць?—ускрыкнуў Уленшпігель, адступаючы крок назад.—А «стальны вецер»? Глядзіце, ён падзьме на вас раней ,чым на прынца. Няхай жывуць гёзы!

— Адкуль ён усё гэта ведае?—загаварылі паміж сабой

збянтэжаныя прапаведнікі.—Нам здрадзілі. Смерць яму! Смерць праклятаму гёзу!

І яны выцягнулі з-пад адзення даўгія бліскучыя шпагі.

Уленшпігель адступіў да кустоў, у якіх хаваўся Ламе. Прапаведнікі кінуліся на яго. Як толькі яны падбеглі на адлегласць стрэлу, Уленшпігель крыкнуў:

— Сцеражыцеся, крумкачы! Зараз падзьме «свінцовы вецер»!

І ён крумкнуў крумкачом.

З-за кустоў грымнуў стрэл. Высокі ўпаў на зямлю ніцма. Яшчэ стрэл. Паваліўся другі.

У хмызняку паказаўся дабрадушлівы твар Ламе, які спяшаўся перазарадзіць свой аркебуз. Над яго галавой віўся сіняваты дымок.

Трэці прапаведнік, выцягнуўшы сваю шпагу, кінуўся на Уленшпігеля.

— Развітвайся з жыццём, подлы забойца!—крыкнуў Уленшпігель, адбіваючы ўдары.

Так стаялі яны на дарозе тварам да твара і біліся з лютасцю. Уленшпігель увесь быў акрываўлены: прапаведнік быў спрытны рубака, і параніў ужо яго ў галаву і ў нагу. Але Уленшпігель біўся, як леў. Кроў цякла па яго твары і перашкаджала глядзець. Ён адбег убок, каб выцерці кроў, і раптам адчуў, што слабее. Але тут грымнуў трэці стрэл, і прапаведнік паваліўся на зямлю. Уленшпігель чуў, як, паміраючы, ён захлынаўся крывёй і вымаўляў апошнія праклёны.

Ахутаны сіняватым дымком, з кустоў зноў паказаўся твар Ламе.

— Усё скончана?—спытаў ён.

— Так, сын мой,—адказаў Уленшпігель,—ідзі да мяне хутчэй...

І ён цяжка апусціўся на зямлю.

Не гледзячы на сваё бруха, Ламе стралой кінуўся да яго.

— Ты паранены, сын мой, паранены гэтым забой-

цам,—жаласна ўскрыкнуў ён і ўдарам абцаса выбіў зубы забітаму прапаведніку.

— Чаму ты мне не адказваеш? Ці не паміраць ты ўжо сабраўся, Уленшпігель? Дзе наша мазь? Ах, так, яна ў торбе пад каўбасамі. Вады-б сюды! Зараз прынясу. Вось яна, халодная, толькі што з Самбры. Ага, вось ён і апрытомнеў! Гэта я, сын мой! Твой сябра! З імі ўсё скончана. Палатна-б сюды, перавязаць твае раны. Зараз разарву кашулю. На кавалкі яе! Вось ужо кроў і спынілася.

Перавязаўшы Уленшпігеля, Ламе падбег да забітых.

— Ах, колькі ў іх фларынаў,—мармытаў ён, агледаючы іх адзенне.—Вось—каролусы, фларыны, патары. Сын мой, у іх нейкія пісьмы. Якія мы цяпер багатыя! Тут больш за трыста каролусаў. Возьмем грошы і пісьмы з сабой. «Стальны вецер» больш не падзьме на Маўклівага.

Ляпаючы зубамі ад холаду, Уленшпігель падняўся на ногі.

— Ого, вось ты і на нагах,—сказаў Ламе.

— Мазь дапамагла,—сказаў Уленшпігель.

Ламе знёс трупы да абрыву і скінуў іх уніз разам з вопраткай і зброяй.

У небе ўжо крумкалі крумкачы, адчуваючы багатую здабычу.

Потым пайшоў снег і змыў кроў.

І ўсё-ж вялікі цяжар лёг на іх сэрцы.

— Чалавека забіць—не куранё зарэзаць,—сказаў Ламе.

Яшчэ каля варот Гюі цякла кроў з галавы Уленшпігеля. Таму сябрам прышлося разыграць сварку. Яны злезлі з аслоў і, размахваючы шпагамі, напалі адзін на аднаго. Потым яны зноў селі на аслоў, паказалі ў варотах свае прапускі і ўехалі ў горад. Жанчыны, бачучы акрываўленага Уленшпігеля, пагражалі Ламе кулакамі і крычалі:

— Гэты нягоднік параніў свайго таварыша!

А Ламе ўсё паглядаў, ці не ўбачыць паміж імі жонкі. Але жонкі не было. І Ламе сумна працягваў сваю дарогу.

---

## Раздзел 12. Аб тым, як Уленшпігель абдурыў герцага Альбу

— Куды цяпер мы накіруемся?—спытаў Ламе.

— У Маастрыхт,—сказаў Уленшпігель.

— Гэта немагчыма. Там войска Альбы. Нашых прапускоў будзе мала. Калі іспанцы дазнаюцца аб гібелі прапаведнікаў, нам будзе кепска.

— Крумкачы цяпер ужо так абезабразілі забітых, што іх ніхто не пазнае,—сказаў Уленшпігель.—Але, зразумела, калі іспанцы пранюхаюць пра забойства,—мы загінулі. І ўсё-ж нам неабходна быць у Маастрыхце.

— Яны нас павесяць,—сказаў Ламе.

— Не павесяць,—сказаў Уленшпігель.

На другі дзень яны паехалі ў Ландэн. Там, каля адной вялікай фермы, Уленшпігель засвістаў жаўранкам, і зараз-жа ў адказ яму пачуўся пявуновы спеў. З варот фермы вышаў гаспадар і радасна вітаў падарожных.

— Хто гэта?—спытаў Ламе.

— Гэта Томас Утэнгове, верны рэфармат,—сказаў Уленшпігель.—Ён са сваімі работнікамі змагаецца за вызваленне нашай радзімы.

— Мы ўсе служым адной справе,—сказаў Утэнгове.—Заходзьце, сябры, у дом, закусіце, чым бог паслаў.

Хутка вяндліна засквarчэла на патэльні. На стале з'явілася віно і заграла ў шклянках. Ламе накінуўся на ежу. Рабочыя і служанкі заглядвалі ў дзверы і дзівіліся яго магутнаму апетыту.

— Сто чалавек сялян пойдуць адсюль у Бруге на дапамогу прынцу,—сказаў Томас Утэнгове.

— Яны зробяць выгляд, што ідуць рамантаваць пла-ціны. У Бруге яны сядуць на баржы і пераедуць у Эмдэн, дзе стаяць караблі Оранскага.

— Ці ёсць у іх грошы і зброя?—спытаў Уленшпігель.

— У кожнага з іх вялікі нож і дзесяць фларынаў гро-шай,—сказаў Томас Утэнгове.

— Бог і прынц узнагародзяць цябе,—сказаў Уленшпі-гель.

— Я гэта раблю не для ўзнагароды,—сказаў Томас Утэнгове.

— Дарагі гаспадар,—сказаў Ламе, жуючы кавалак смажанай каўбасы.—Як гэта вы робіце, што каўбаса ў вас атрымліваецца такая сакавітая і пахучая?

— Мы прыпраўляем яе карыцай,—адказаў гаспадар.

— Ці не ведаеш ты, граф фрысландскі ўсё яшчэ друг нашаму прынцу?—спытаў ён Уленшпігеля.

— Ён не разгалашае гэтага, але ўсё-ж Эмдэн надзейны прытулак для караблёў Оранскага,—адказаў Уленшпігель.

— Нам трэба прайсці ў Маастрыхт, каб здабыць там зброю і правіянт для нашага флота,—дадаў ён.

— Аб гэтым і думаць няма чаго,—сказаў гаспадар.—Войска герцага стаіць вакол горада.

Ён павёў Уленшпігеля на падстрэшша і адчыніў слу-хавое акенца. Воддаль, у полі, віднеліся сцягі пяхоты і павольна перасоўваліся атрады конніцы.

— Я пайду туды, калі вы мне наладзіце вяселле,—ска-заў, падумаўшы, Уленшпігель.—Трэба падшукаць ня-весту, якая для выгляду згодзіцца выйсці за мяне замуж.

— Не рабі гэтага, сын мой,—уздыхнуўшы, сказаў Ламе.—Яна ўцячэ ад цябе, і ты будзеш вечна нудзіцца ў адзіноцтве.

— Не, гэта неабходна,—сказаў Уленшпігель.

Ламе нічога не сказаў і пачаў шукаць па талерках—чым-бы закусіць яшчэ. Але ўсё ўжо было з'едзена. Ламе засумаваў. Тут яму прынеслі нейкага пячэння, і ён зноў узяўся за ежу.

— Такім чынам,—сказаў Уленшпігель,—вы мне зда-будзеце нявесту, мы з ёй пойдзем у царкву і павянчаемся.

Кюрэ дасць нам шлюбнае пасведчанне, але яно-ж не мае сілы, бо кюрэ той-жа папскі інквізітар. У пасведчанні будзе сказана, што абодва мы—верныя хрысціяне, жывем па законах маткі нашай рымскай царквы, і іншае, і іншае. З гэтым пасведчаннем мы і наладзім наша вясельнае падарожжа. Нам неабходна знайсці дзве фурманкі, убраць іх хвойнымі галінкамі і папяровымі кветкамі, і забраць з сабой некалькі верных таварышоў.

— Але дзе-ж мы знойдзем жонку?

— Яе патрэбна знайсці. У першую фурманку я запрагу пару тваіх коней, а ў другую—нашых аслоў. У першай сядзем я, мая жонка, мой друг Ламе і шлюбныя сведкі; у другой сядуць музыканты са сваімі дудкамі і жалейкамі. З гэтай музыкай, вясёлыя, п'яныя, размахваючы вясельнымі сцягамі, мы паімчымся наперад, а там хай будзе, што будзе.

— Я дапамагу табе,—сказаў Томас Утэнгове.—Але-ж і жанчыны захочуць ехаць з вамі.

— Вядома,—сказала нейкая дзяўчына, прасунуўшы галаву ў дзверы,—мы паедзем разам з мужчынамі.

— У такім выпадку,—сказаў Томас Утэнгове,—мы збяром чатыры фурманкі. У іх сядуць дваццаць пяць чалавек.

— О, як абдураны будзе герцаг!—ускрыкнуў Уленшпігель.

— А флот прынца атрымае слаўнае падмацаванне,— дадаў Томас Утэнгове.

Ён ударыў у вялікі звон, які вісеў на дварэ фермы, і хутка ўвесь двор напоўніўся работнікамі.

— Сябры,—сказаў ім Томас Утэнгове,—усе вы з Зеландыі. Вось стаіць перад вамі Уленшпігель, фламандзец. Ён хоча пад выглядам вясельнага падарожжа праехаць разам з вамі праз усё войска герцага.

— Мы згодны,—сказалі работнікі.—Тут рабства, там свабода! Едзем з Уленшпігелем.

— І мы едзем з нашымі мужамі,—сказалі жанчыны.— Зеландыя, наша айчына, прытуліць нас.

Уленшпігель заўважыў у натоўпе прыгожую маладую дзяўчыну і жартуючы, сказаў ёй:

— Я хачу з табой ажаніцца, красуня.

— Паспрабуй,—адказвала яна, чырванеючы.

— Гэта нявеста Ганса Утэнгове, сына гаспадара,— смеючыся, гаварылі паміж сабой жанчыны.—Мабыць, і жаніх яе едзе разам з Уленшпігелем.

— Так,—сказаў Ганс.

— Добра,—сказаў бацька,—едзь.

Тут мужчыны апранулі сваё святочнае адзенне: аксамітныя курткі і штаны, зверху—даўгія плашчы, і на галаву—шырокаполыя капелюшы. Жанчыны прывесілі на лоб авальныя залатыя бляшкі, дзяўчаты—з левага боку, замужнія жанчыны—з правага. Потым яны ўбраліся ў белыя брыжжы, вышываныя нагруднікі і чорныя шарсцяныя спадніцы з шырокімі аксамітнымі палосамі. Панчохі ў іх былі таксама чорныя, а туфлі аксамітныя, з срэбранымі пражкамі.

Потым усе пайшлі ў царкву, і тамашні кюрэ за два залатых ахвотна павянчаў Тыльберта, сына Клааса, з прыгожанькай Танекін Пітэрс, свежанькай і чырвонашчокай, быццам спелае яблыка. Пасля вянчання наладзілі выдатную пірушку, і Уленшпігель весяліўся, спяваў і жартаваў увесь вечар.

На наступны дзень было цудоўнае надвор'е: ярка свяціла сонца, дзьмуў свежы ветрык. Пад поўдзень з музыкай, са сцягамі чатыры ўпрыгожаныя фурманкі рушылі ў дарогу.

У лагеры Альбы ўзнялася трывога. Дазорныя прыбеглі да герцага і заявілі:

— Непрыяцель блізка. Мы чулі грукат барабанаў і бачылі калыханне сцягоў. Моцны атрад кавалерыі набліжаецца да нас. Гэта, мабыць, перадавы атрад. Галоўныя сілы арміі яшчэ далёка.

Зараз-жа войска было пастроена ў баявы парадак, і моцныя атрады разведчыкаў накіраваліся насустрач праціўніку.

І вось чатыры вясельныя фурманкі з грукатам выскачылі на дарогу. Фурманкі былі поўныя народу. Мужчыны і жанчыны крычалі, спявалі, гралі на жалейках і пілі віно, перадаючы бутэлькі адзін аднаму.

Вясельны поезд спыніўся, і Альба ўбачыў маладую. Побач з ёй сядзеў Уленшпігель, яе муж, увесь убраны кветкамі. Госці саскочылі на зямлю, танцавалі і частавалі салдат віном.

Гледзячы на гэтых прасцякоў, Альба дзівіўся ад усяго сэрца. Усё навокал рыхтавалася да крывавага бою, толькі гэтыя дурні, нічога не ведаючы, танцавалі і весяліліся.

Між тым госці пачаставалі салдат віном, селі ў фурманкі і пад гукі жалеек паімчаліся далей. І салдаты ў іх гонар далі залп з аркебузаў.

Так Уленшпігель прабраўся праз войска Альбы ў Маастрыхт і ўмовіўся там з сябрамі рэфарматаў аб дастаўцы зброі і правіянта на караблі Оранскага.

Хутка пра гэта даведалася ўся краіна. Нехта склаў песеньку і паслаў яе герцагу Альбе. У гэтай песеньцы была прыпеўка:

Вось дык нявеста! Вось дык жаніх!
Звар'яцеў наш герцаг, убачыўшы іх!

Герцаг кусаў кулакі ад злосці. А салдаты, насміхаючыся з яго, спявалі гэтую песеньку і бясконца паўтаралі яе прыпеўку.

---

## Раздзел 13. Аб тым, як Ламе Гудзак у сумленным баі перамог славутага Стэрке Піра

Верхам на сваіх аслах Ламе і Уленшпігель набліжаліся да Мааса.

— Слухай, Ламе,—сказаў Уленшпігель.—Дваранства здраджвае нам. Эгмант і Горн зрабіліся здраднікамі і загінулі. Памёр мужны Брадэродэ. Спадзявацца больш няма на каго. Сам народ фландрскі і брабанцкі павінен пастаяць за сябе.

— Бачу, што мы танцуем паміж кастром і вяроўкай,— адказаў Ламе.—На адпачынак няма ніякай надзеі.

— Гэта яшчэ толькі пачатак,—сказаў Уленшпігель.— Ці тое будзе далей!

— Сын мой,—сказаў Ламе,—ці не пападземся мы з нашымі прапускамі? У нас няма больш ніякіх дакументаў.

— У мяне ёсць шлюбнае пасведчанне з вялікай васковай пячаткай,—сказаў Уленшпігель,—апрача таго, ёсць пасведчанне аб споведзі. А гэтыя чоткі, якімі мы гандлюем,—аб чым яны гавораць? Май на ўвазе, што мы цяпер—слугі герцага Альбы, ездзім па краіне па яго асобаму распараджэнню, гандлюем свяшчэннымі рэліквіямі і вяртаем ерэтыкаў на ўлонне маткі нашай, каталіцкай, царквы. Мы бываем у благародных паноў, у тлустых абатаў, падслухоўваем іх гутаркі і матаем сабе на вус. Вытры-тка свой носік, дружа!

— Значыць, мы—шпіёны?—спытаў Ламе.

— Як належыць у час вайны,—адказваў Уленшпігель.

— Лепш-бы заняцца нам якой-небудзь карыснай справай, чым бадзяцца па гэтых дарогах,—сказаў Ламе.—

Што карысці служыць панам, якія ходзяць у золаце і аксаміце і ядуць смажаных рабчыкаў на залатой пасудзе! Што мы за гэта атрымліваем? Адны небяспекі, бітвы, голад, холад. А ў паноў—каўбасы, каплуны, тлустыя пуляркі...

— Што, слінкі цякуць?—спытаў Уленшпігель.

— Ах, дзе вы, былыя мае радасці!—казаў далей Ламе.—Дзе вы, гарачыя блінцы, дзе вы, цудоўныя крэмы! Дзе ты, жонка мая!

— Попел паліць маё сэрца і кліча ў бой,—сказаў Уленшпігель.—Ты—іншая справа. Табе не патрэбна помсціць за смерць бацькі і маці, за сваю беднасць, за гора тваіх блізкіх. Вайна палохае цябе. Давай разлучымся. Ты едзь дадому, а я паеду далей.

— Разлучымся?!—спытаў Ламе і раптам спыніў свайго асла.

Асёл Уленшпігеля таксама спыніўся і пачаў жаваць чартапалох.

— Разлучымся?—паўтарыў Ламе.—Калі ты пакінеш мяне, гэта будзе занадта жорстка. Я ўжо страціў жонку. Няўжо я цяпер страчу друга? Гэтага я не вытрымаю. Клянуся табе, я больш ніколі не буду скардзіцца. І калі на тое пайшло,—тут Ламе горда падняў сваю галаву,—я пайду пад кулі. Пайду! І на мечы таксама пайду. Проста на гэтых салдат, якія прагнуць нашай крыві. І калі, смяротэльна паранены, я ўпаду да тваіх ног,—пахавай мяне ты, Уленшпігель. І калі ўбачыш маю жонку, скажы ёй, што я памёр, бо не мог больш жыць на свеце, пакінуты і нелюбімы.

І Ламе заплакаў. Уленшпігель быў расчулены яго вернасцю.

Так яны пад'ехалі да Мааса. Па рацэ адно за адным ішлі гандлёвыя судны. Уленшпігель уважліва сачыў за імі і раптам спыніўся. Недалёка ад берагу стаяла барка, нос якой узнімаўся высока ўгару і быў упрыгожаны фігурай сірэны. У руках у сірэны быў герб, і на ім ззялі тры залатыя літары «Г.І.Х.», што азначала «Гасподзь Ісус Хрыстос».

Уленшпігель спыніўся і заспяваў жаўранкам. З трума вылез нейкі чалавек і заспяваў пеўнем. Уленшпігель падміргнуў незнаёмаму на народ, які сабраўся на беразе, і адказаў крыкам асла. Незнаёмы засмяяўся і таксама зароў па-аслінаму. Аслы Уленшпігеля і Ламе, пачуўшы знаёмыя гукі, таксама паднялі галовы і зараўлі.

Паўз іх ішоў народ. Жанчыны спяшаліся на рынак. Павольна ішлі коні, цягнучы за сабой даўгія канаты: яны паднімалі судны супроць плыні. Верхам на конях ехалі пагоншчыкі.

— Гэты нягоднік здзекуецца з нас,—сказаў Уленшпігель.—Ці не даць яму добрага чосу?

— Няхай ён толькі сойдзе на бераг!—сказаў Ламе.

— Не раю вам звязвацца з гэтым чалавекам,—сказала нейкая жанчына.—Гэта Стэрке Пір [1], славуты асілак. Ён скалечыць вас, не чапайце яго. Няхай раве, калі гэта яму падабаецца.

— Глупства,—сказаў Уленшпігель.—Што нам Стэрке Пір? Мой друг Ламе лёгка падужае двух такіх малайцоў.

— Што ты вярзеш!—сказаў Ламе.

— Я кажу праўду,—адказаў Уленшпігель.—Варта табе раззлавацца, і са Стэрке Пірам будзе скончана.

— Маўчы ўжо!—сказаў Ламе.

— Чаму маўчаць?—гаварыў Уленшпігель.—Твая сіла ўсім вядома!

— І-а,—выў суднаўшчык.

Нейкі хлапчук гадоў дванаццаці вылез да яго на палубу і таксама зароў разам з ім.

— Ну, што ты там топчашся на сваёй барцы, машэннік!—закрычаў Уленшпігель.—Баішся на зямлю сыйсці?

— Што? Баішся?—закрычаў Ламе.

— І-а, і-а,—роў суднаўшчык.—І самі вы аслы, і з вамі ідуць аслы. Калі ласка, паны аслы, на маю барку!

— У цябе не барка, а старое карыта,—адказваў яму Уленшпігель, і Ламе добрасумленна паўтараў за ім:

---

[1] Стэрке Пір па-фламандску—Пётр Асілак.

— Карыта ў цябе, а не барка, гультай ты гэтакі! І плавае яно бокам, па-крабінаму, не па-сапраўднаму.

— Эй ты, кавалак сала!—закрычаў суднаўшчык Ламе.— Што ты там мармычаш сабе пад нос?

Ламе раззлаваўся.

— Маё сала—добрае сала,—крычаў ён,—яно ад добрай ежы, а не ад якой-небудзь хваробы. А вось ты, стары цвік, харчуешся ўсё жыццё паганымі селядцамі ды свечнымі кнатамі. Ад гэтага і косці з цябе лезуць, гультай!

— Ну, будзе бойка,—радасна гаварылі на беразе падарожныя і спыняліся, каб паглядзець, чым скончыцца справа.

У гэты час хлапчук адвязаў ад баркі лодку і, спрытна адпіхваючыся багром, пад'ехаў да берагу.

— Мой гаспадар выклікае вас на бой,—сказаў ён Уленшпігелю і Ламе.—Сядайце ў лодку, я адвязу вас на судно. Паглядзім, чые кулакі мацнейшыя.

— Мы згодны,—адказаў Уленшпігель.

— Мы прыймаем выклік,—горда сказаў Ламе.

Між тым надышоў поўдзень. Рабочыя з плацін, каменшчыкі, суднабудаўнікі высыпалі на бераг. Жонкі прынеслі ім мяса з вараным бобам і глядзелі, як тыя абедаюць. Цяпер усе назіралі за Ламе, смяяліся і пляскалі ў ладкі. Чакалі, калі пачнецца бойка.

— Сын мой,—прашаптаў Ламе Уленшпігелю,—ён-жа скіне нас у ваду.

— Вядома, калі ты дазволіш,—сказаў Уленшпігель.

— Таўстун спалохаўся,—загаварылі рабочыя.

Ламе раззлаваўся.

— Едзем на барку,—рашуча сказаў ён.—Я пакажу ім, як я спалохаўся.

У натоўпе зарагаталі, і кпіны зноў пасыпаліся на Ламе. Але прыяцелі ўжо злезлі са сваіх ослоў і перадалі павады хлапчуку. Уленшпігель узяў багор, пасадзіў Ламе ў лодку і накіраваў яе да баркі. Прычаліўшы, ён падняўся па вяроўцы на судно і непрыкметна прашаптаў суднаўшчыку некалькі слоў. Суднаўшчык пачаў лаяць Ламе рознымі

словамі. Ён называў Ламе абжорай, гультаём, прайдзісветам, старым каплуном, тоўстым ад гультайства.

— Не чалавек ты, а кіт,—крычаў ён Ламе,—сапраўдная рыба-кіт! Колькі бочак варвані выйдзе з цябе, калі я распару тваё бруха!

Ламе, нібы шалёны бык, кінуўся на яго і пачаў лупцаваць яго кулакамі. Але ён быў слабы, як і ўсе тлустыя людзі, а таму не мог моцна ўдарыць. Суднаўшчык рабіў выгляд, што супраціўляецца, сам-жа не чапаў Ламе і даваляў яму біцца, колькі ён хоча.

— Хто-б падумаў, што гэты таўстун такі дужы!—загаварылі на беразе здзіўленыя гледачы.

І раптам усе ўбачылі, што Ламе паваліў Стэрке Піра на палубу, упёрся каленам у яго грудзі і падрыхтаваўся нанесці апошні ўдар.

— Прасі літасці!—грозна крычаў ён.—А не—дык умомант паляціш у мяне ў ваду!

Стэрке Пір закашляўся і падняў рукі, просячы літасці. Ламе велікадушна падняў ворага. Той устаў і, павярнуўшыся да берагу спіной, хітра падміргнуў Уленшпігелю. Уленшпігель курчыўся ад смеху. Ламе, трасучы брухам, горда хадзіў па палубе.

— Няхай жыве пераможца Стэрке Піра!—гаварылі ў натоўпе.—Гэта не чалавек, а жалеза! Вы бачылі, як ён апрацаваў яго кулакамі? А як адным ударам галавы паваліў яго на спіну? Цяпер яны, безумоўна, вып'юць, каб памірыцца. Стэрке Пір пачастуе яго віном і добрай закускай.

Сапраўды, Стэрке Пір сышоў у трум і прынёс адтуль вялікі кубак белага мааскага віна. Потым з'явіліся шклянкі, каўбаса і добрыя сасіскі.

Ламе быў у захапленні. Ён еў за дзесяцёх і ўсё пазіраў на вялікую жалезную трубу, якая тырчэла на палубе. З трубы ішоў густы дым.

— Што гэта ў цябе смажыцца ў труме?—спытаў ён Стэрке Піра.

— Гэта мая баявая кухня,—адказаў той, усміхаючыся.

А на беразе натоўп ужо разыходзіўся—хто дадому, хто на работу,—і ўсюды ішла чутка, што на Маасе з'явіўся новы асілак—таўстун, які ездзіць на асле разам са сваім хударлявым таварышом. Гэты таўстун дужэйшы за Самсона. Сцеражыцеся з ім звязвацца!

Ламе піў і горда пазіраў на Стэрке Піра.

— Мабыць, вашы аслы нудзяцца без гаспадароў,— раптам сказаў Стэрке Пір.

Ён падвёў барку да набярэжнай, сышоў на зямлю, ускінуў на плечы асла і прынёс яго на палубу. Потым без ніякіх намаганняў, нават не засопшыся, ён перацягнуў на палубу другога асла і зноў сеў за стол.

— Вып'ем,—сказаў ён.

Ламе знямеў ад здзіўлення. Як магло здарыцца, што ён, Ламе Гудзак з Даме, перамог гэтага асілка! А раптам ён зараз устане, схопіць Ламе, як куранё, і шпурне яго за борт, каб адпомсціць за сваё паражэнне! Ламе збялеў і скурчыўся. Куды падзеўся яго пераможны выгляд? Цяпер ён маўчаў і нясмела пазіраў на свайго гаспадара.

Але Стэрке Пір усё падліваў яму ў шклянку, і Ламе пакрыху прыняў свой звычайны выгляд. Ён успомніў аб сваёй перамозе і зноў пачаў глядзець горда і самаўпэўнена. Уленшпігель і Стэрке Пір смяяліся, гледзячы на яго.

— Пойдзем, я вам пакажу маю баявую кухню,—сказаў Стэрке Пір.—Ты, мой пераможца, можаш ісці за мной без страху.

— Вядома,—горда сцвердзіў Ламе.

Яны спусціліся ў трум і ўбачылі там мяшкі са збожжам, гарохам і гароднінай. Але суднаўшчык адчыніў дзверы ў маленькую кузню і сказаў:

— Вы—смелыя людзі. Вы ведаеце крык вольнага жаўранка і баявы кліч пеўня. Бачыце гэтую кузню? Такія маленькія кузні ёсць амаль на ўсіх мааскіх суднах. Яны патрэбны для розных дробных работ, і таму на іх ніхто не звяртае ўвагі. Але гэтая цудоўная гародніна, што схавана ў мяне пад падлогай,—яе вы не ўсюды знойдзеце.

Ён падняў пару масніц і дастаў з-пад падлогі звязку аркебузных ствалоў. Потым ён пачаў паказваць іншае ўзбраенне: наканечнікі для коп'яў і алебард, клінкі шпаг, мяшочкі з порахам і кулямі.

— Няхай жывуць гёзы!—ускрыкнуў ён.—Вось яна, наша слаўная баявая кухня! Гэтыя дадаткі для нас усё адно што ножкі барана, гэтыя алебарды—зялёны салат, а гэтыя ствалы—слаўныя шпігавыя костачкі.—Няхай жывуць гёзы!

— Куды мне завезці гэтыя прыпасы?—спытаў ён Уленшпігеля.

— У Німвеген,—сказаў Уленшпігель.—Сяляне з Этсена, Стэфансверта і Рурэмондэ прынясуць табе сапраўднай гародніны і пагрузяць яе на барку. Сяляне будуць свістаць жаўранкам, а ты адказвай ім баявым крыкам пеўня. Пад выглядам гандляра гароднінай ты накіруешся ў Німвеген і з'явішся там да доктара Понтуса, які жыве ў Н'юве-Вааль. Ён скажа табе, што рабіць са зброяй.

— Добра,—сказаў суднаўшчык.—Вып'ем.

Яны зноў падняліся на палубу.

Суднаўшчык напоўніў шклянкі.

— Я п'ю за жаўранка, птушку свабоды,—сказаў ён.

— Я п'ю за пеўня, які кліча на бой,—сказаў Уленшпігель.

— А я п'ю за маю жонку,—сказаў Ламе,—няхай яна ніколі не ведае смагі, мая любімая.

— Калі вы едзеце?—спытаў суднаўшчык.

— Зараз,—сказаў Уленшпігель.

— Шчаслівай дарогі. Вось вам порах і кулі,—сказаў Стэрке Пір.

Ён пацалаваў іх і перанёс на бераг абодвух аслоў.

— Сын мой,—сказаў Ламе, калі яны ад'ехалі ад берагу,—як гэты асілак дазволіў мне пабіць яго?

— Гэта для таго, каб ты праславіўся на ўсю акругу,—сказаў Уленшпігель.—Хто цяпер адважыцца напасці на цябе, на магутнага, непераможнага Ламе, які адным уда-

рам збіў з ног славутага Стэрке Піра! Кожны цяпер баіцца цябе: ты—Ламе-Асілак, ты—Ламе-Багатыр.

— Справядлівыя словы,—сказаў Ламе і выпрастаўся ў сядле.

— Я кажу праўду,—прадаўжаў Уленшпігель.—Паглядзі, з якой цікавасцю глядзяць на цябе гэтыя сяляне. Яны знімаюць перад табой капелюшы і здалёк вітаюць пераможцу. Кланяйся, Ламе, адказвай на паклоны, не пагарджай маладушным натоўпам.

Ламе горда ехаў наперад, кланяючыся направа і налева, нібы кароль. І чутка аб яго храбрасці бегла з паселішча ў паселішча, з горада ў горад і так дакацілася да самага Льежа.

І ўсюды, куды ні прыязджалі Уленшпігель і Ламе,— усюды чуліся спевы жаўранка і крык пеўня адказваў яму. Усюды кавалі зброю для барацьбы за свабоду, адлівалі кулі і перавозілі іх на суднах, праплываючых па Маасу.

А Ламе і Уленшпігель ехалі ўсё наперад, і чуткі аб незвычайнай адвазе Ламе беглі перад імі. Нарэшце Ламе сам паверыў у сваю сілу, зрабіўся гордым і непрыступным і нават гадаваў сабе бараду. І Уленшпігель празваў яго Ламе-Леў.

---

# Раздзел 14. Аб тым, як мярцвяк адпомсціў профасу Спеле за сваю пагібель

У Генце Уленшпігель часта бачыўся з рэфарматамі Якавам Скалапам і Лівенам Сметам і даведваўся ад іх пра ўсе навіны.

Але навіны не радавалі яго. Прынц Оранскі са сваім войскам быў выцеснены з Нідэрландаў. Наёмнікі безупынна патрабавалі грошай і адмаўляліся ваяваць. Прынц са сваімі вернымі салдатамі накіраваўся да Францыі, дзе хацеў злучыцца з гугенотамі. Але тут нямецкія наёмнікі адмовіліся яму падначальвацца, і ён вымушаны быў разлучыцца з імі. Так пакрыху распадалася войска прынца Оранскага. Заставалася адно: вайна на моры.

У гэты час Спеле Рыжы, каралеўскі профас, ездзіў са сваім судзейскім жэзлам па ўсёй Фландрыі, усюды будаваў эшафоты, запальваў кастры і закапваў жыўцом жанчын і дзяўчат. І кароль атрымліваў іх маёмасць.

Аднойчы да Уленшпігеля прыбегла адна знаёмая дзяўчына, якая звалася Баолкін, і, плачучы, расказала яму аб сваім горы.

Яе брат Міхіелькін пасварыўся са старым даносчыкам—Пітэрам дэ-Раозе. З гэтым нягоднікам ніхто ў горадзе не гаварыў ні слова. Усе ўцякалі ад яго як ад чумы. Неяк раз Міхіелькін сустрэўся з ім у гарадскім шынку. Міхіелькін не захацеў быць у адным пакоі з даносчыкам, назваў яго подлай скацінай і загадаў выйсці вон. Той адмовіўся выйсці і пачаў лаяць Міхіелькіна апошнімі словамі. Міхіелькін папярэдзіў, што калі ён зараз-жа не выйдзе, яго выкінуць сілай. Пітэр дэ-Раозе не выходзіў. Тады Міхіелькін, нядоўга думаючы, стукнуў яго разы два па сківіцы і выкінуў з шынка.

Якраз у гэты час профас Спеле з двума сышчыкамі прыехаў у горад. Пітэр дэ-Раозе бегаў за ім, як сабака, паіў яго вінам і кожны дзень наладжваў для яго пірушкі. Хутка ён зрабіўся прыяцелем Спеле і пачаў помсціць Міхіелькіну.

Міхіелькіна абвінавацілі ў ерасі і кінулі ў турму. Двое падкупленых валацуг паказалі, што ён ганьбіў імя божае. Профас Спеле палічыў, што гэтага дастаткова і асудзіў Міхіелькіна на катаванне. Міхіелькіна падвесілі да столі і да ног яго прычапілі па вялізнай гіры. У няшчаснага лопнула на нагах скура, але ён маўчаў. Профас намякнуў яму, што за сто фларынаў ён адпусціць яго на свабоду.

— Лепш смерць,—адказаў Міхіелькін.

Даведаўшыся аб такім злачынстве, натоўпы грамадзян прыйшлі да турмы і заявілі, што Міхіелькін не вінаваты. Яны засведчылі, што Міхіелькін кожную нядзелю ходзіць да абедні, прычашчаецца, і ніхто ніколі не чуў ад яго ніякага богахульства. Усё, што нагаварылі пра яго сведкі,— хлусня і паклёп.

Міхіелькіна вызвалілі, і ілжэсведкі былі пакараны. Пітэр дэ-Раозе таксама павінен быў з'явіцца перад судом, але Спеле ўзяў з яго хабар—сто фларынаў—і адпусціў яго. Праз некалькі дзён бедны Міхіелькін памёр ад заражэння крыві.

— Ах,—гаварыла, плачучы, Баолкін,—хто адпомсціць Спеле за смерць майго брата, той будзе навек маім гаспадаром. Я буду слухацца яго, як сабака.

Попел Клааса паліў грудзі Уленшпігелю. І Уленшпігель вырашыў адпомсціць кату Спеле.

Ён пайшоў у дом Баолкін і ўбачыў там на сцяне партрэт юнака.

— Гэта мой брат,—сказала Баолкін.

Уленшпігель зняў партрэт і доўга глядзеў на яго.

— Ідзі,—сказаў ён Баолкін,—прынясі мне добрай гліны, кубак піва, міску вады і кавалак смажанага мяса.

Мяса будзе для мяне, піва для мяса, вада для гліны, а гліна для маскі.

Снедаючы, Уленшпігель мясіў гліну і, не адрываючыся, глядзеў на партрэт Міхіелькіна. Пасля гэтага ён выляпіў з гліны маску, да таго падобную на партрэт Міхіелькіна, што Баолкін ускрыкнула ад здзіўлення. Маску ён паклаў у печ і, калі яна падсохла, расфарбаваў яе так, што яна зрабілася падобнай на твар нябожчыка. Вочы яе глядзелі цьмяна і панура, і ўсе рысы твара былі скажоны нібы прадсмяротнымі пакутамі. Баолкін, бледная, як смерць, не адрываючыся, глядзела на маску і раптам закрыла твар рукамі.

— Гэта ён,—з жахам прастагнала яна,—гэта ён, мой бедны Міхіелькін.

Скончыўшы з маскай, Уленшпігель выляпіў з гліны дзве акрываўленыя нагі.

— Мне патрэбен памочнік,—сказаў ён Баолкін.

— Ідзі ў шынок «Блакітны Гусь»,—адказала яна.—Гаспадар шынка Іос Лансом быў лепшым другам Міхіелькіна.

Уленшпігель знайшоў Іоса і сказаў яму:

— Я хачу забіць Спеле. Ты павінен мне дапамагчы.

— Добра,—адказаў Іос.—Што патрэбна зрабіць?

— Збяры сваіх сяброў і заўтра ўвечары будзь з імі на Эвергемскай дарозе, недалёка ад дома Спеле. Пастарайцеся схавацца дзе-небудзь у цяні і будзьце ўсе ў чорным адзенні. Як толькі праб'е дзесяць гадзін, Спеле выйдзе з шынка. У гэты час з другога боку пад'едзе фурманка. Глядзіце, не прапусціце яе.

— Усё будзе зроблена,—сказаў Іос, паднімаючы шклянку.—П'ю за вяроўку для Спеле.

— За вяроўку!—сказаў Уленшпігель.

Наступным днём сябры Міхіелькіна выйшлі з шынка «Блакітны Гусь». Каб не прыцягваць увагі, яны паразыходзіліся ў розныя бакі і накіраваліся на Эвергемскую дарогу кожны сваім шляхам. Там яны сустрэліся і схаваліся ў свірне Самсона Баоне, які таксама быў сябрам Міхіелькіна. Усіх іх было семнаццаць чалавек.

Профас Спеле разам са сваімі сышчыкамі ў гэты дзень хадзіў па горадзе і намячаў дамы сваіх будучых афяр. Увечары яны скончылі свой абход і цяпер піравалі ў шынку «Сокал». Разам з імі быў і Пітэр дэ-Раозе, агідны даносчык.

Роўна ў дзесяць гадзін п'яная кампанія вышла з шынка. Сябры Міхіелькіна бачылі іх усіх, бо дзверы свірна былі прыадчынены.

Пітэр дэ-Раозе ледзь стаяў на нагах.

— Эх, профасы, профасы,—мармытаў ён, ікаючы.— Добра вам жывецца на гэтым свеце. Падтрымайце-ж мяне, гультаі! Хіба не добра пачаставаў я вас сёння?

Раптам на дарозе пачулася рыпенне колаў. Насустрач профасу ехала нейкая фурманка.

— Спыніце яе!—крыкнуў Спеле.

Сышчыкі схапілі асла за аброць.

— Фурманка пустая,—сказаў адзін з сышчыкаў.

— Дурань,—сказаў Спеле.—Хіба пустыя фурманкі ездзяць па дарогах? У ёй хто-небудзь хаваецца. Запаліце ліхтар! Падніміце яго вышэй,—тут нічога не відаць.

Спеле палез у фурманку і раптам са страшным крыкам скінуўся далоў.

— Міхіелькін! Міхіелькін! Ратуй нас, божа!

Тут з глыбіні фурманкі паказаўся чалавек, увесь у белым. Ён трымаў у руках акрываўленыя ногі.

— Мярцвяк Міхіелькін!—ускрыкнуў Пітэр дэ-Раозе.— Гора нам, праклятым!

Сябры Міхіелькіна збегліся на шум і з жахам глядзелі на здань іх памёршага друга. А здань махала акрываўленымі нагамі, і мярцвяна бледны твар глядзеў проста на профаса.

— Спеле!—сказала здань глухім голасам.—Профас Спеле! Устань!

Але профас ляжаў на зямлі і не рухаўся.

— Спеле!—паўтарыла здань.—Профас Спеле! Устань, ці я занясу цябе ў пекла!

Спеле падняўся. Валасы яго стаялі дыбам ад жаху.

— Міхіелькін,—прастагнаў ён.—Злітуйся нада мной!

Між тым збегліся гаражане. Запалілі некалькі ліхтароў. Профасу здавалася, што самі чэрці пазіраюць на яго сваімі вогненнымі вачыма.

— Спеле!—сказала здань.—Маліся! Прышла твая гадзіна!

— Не, не, пан Міхіелькін!—закрычаў профас.

— Я не гатоў да смерці! Я яшчэ не пакаяўся ў сваіх грахах!

— Пазнаеш ты мяне?—спытала здань.

— Так, я вас пазнаю. Вы—пан Міхіелькін, пірожнік, які памёр пасля катавання. Гэтыя акрываўленыя ногі тыя самыя, да якіх я загадаў прывесіць па цяжкой гіры. Міхіелькін, даруйце мне. Так навучыў мяне зрабіць Пітэр дэ-Раозе. Ён даў мне за гэта пяцьдзесят фларынаў.

— Кайся!—сказала здань.

— Каюся, пан Міхіелькін, каюся! Толькі схавайце гэтых чарцей—яны зараз схопяць мяне! Я ўсё раскажу. О, як страшна блішчаць гэтыя вогненныя вочы! У Турне я закатаваў пяць невінаватых, у Бруге—чатырох. Я забыўся іх імёны. І ў іншых гарадах грашыў я. Шэсцьдзесят невінаватых асудзіў я на смерць. Што-ж рабіць, пан Міхіелькін! Каралю патрэбны грошы! Мне яны патрэбны таксама. Яны закапаны ў Генце, у старой Гровельс, маёй маці. Я ўсё сказаў. Даруйце, даруйце мне! Праганіце чарцей! Божа, злітуйся нада мной грэшным!

Тут Уленшпігель саскочыў з фурманкі і схапіў нягодніка за горла. Але з натоўпу вышаў кюрэ і сказаў Уленшпігелю:

— Не забівай яго! Няхай лепш ён памрэ ад вяроўкі ката, чым ад рукі здані. Мы паскардзімся на яго герцагу, і яго павесяць. Але скажы нам, хто ты такі?

— Я—бедны фламандскі ліс, які хаваецца ад іспанскіх паляўнічых,—адказаў Уленшпігель.

Спеле паднялі і адвялі ў турму. Хутка пасля гэтага ён быў павешаны. І спадчыну яго атрымаў кароль.

## Раздзел 15. Аб тым, як Уленшпігель сустрэўся з „ляснымі братамі“

Аднойчы ў Петэгемскім лесе Уленшпігель і Ламе заўважылі статак аленяў. Уленшпігель зацягнуў Ламе ў кусты і зарадзіў свой нямецкі аркебуз.

— Глядзі, Ламе,—гаварыў ён, выглядваючы з кустоў,—наперадзе бягуць вялікія старыя алені з вялізнымі галінчастымі рагамі. За імі бягуць прыгожанькія аднагодкі. Яны ўсё пераймаюць у сваіх старэйшых таварышоў. Ці гатоў твой аркебуз? Страляй у другога. Першага я бяру на сябе. Плі! Стары алень паранены. Другому папала ў ляжку. Ну, хутчэй за імі. Яны хутка паваляцца.

Уленшпігель і Ламе пусціліся ў пагоню. Уленшпігель ляцеў, як вецер, і Ламе з яго брухам ледзь паспяваў за ім.

— Стой! Пачакай,—задыхаючыся крычаў ён Уленшпігелю.—Я не магу так. Я павалюся і больш не ўстану. А цябе зловіць ляснік і пашле на шыбеніцу. Алені-ж каралеўская дзічына. Бог з імі—няхай сабе ўцякаюць.

— Бяжым,—крычаў Уленшпігель.—Чуеш, як шумяць іх рогі, чапляючыся за галіны? Бачыш, колькі лістоў пападала на зямлю? Мы зараз іх дагонім!

Раптам з усіх бакоў выскачылі абадраныя ўзброеныя людзі. Забрахалі сабакі і кінуліся за аленямі. Чатыры чалавекі схапілі Уленшпігеля і Ламе і павялі іх углыб лесу. Там, акружаная гушчаром, віднелася вялікая паляна. На паляне гарэлі кастры і тоўпілася мноства народу. Усе мужчыны былі ўзброены—хто шпагай, хто старым арбалетам, хто аркебузам, а хто і проста дубінай.

— Вы «лясныя браты» ці не праўда?—спытаў Уленшпігель.—Вы хаваецеся ад праследаванняў і жывеце ў лесе абшчынай?

Стары, які сядзеў каля кастра і смажыў на патэльні нейкую птушку, паглядзеў на Уленшпігеля.

— Так, мы «лясныя браты»,—сказаў ён.—А хто ты такі?

— Я нарадзіўся ў цудоўнай Фландрыі,—сказаў Уленшпігель.—Сёння я мастак, заўтра селянін, а паслязаўтра— благародны дваранін. Вандрую па свеце, хвалю ўсё добрае, здзекуюся з дурасці.

— Калі ты так многа вандраваў па свеце, ты, вядома, ведаеш, як называюць у Лімбурзе жыхароў Веерта?

— Іх называюць «заклінальнікамі скатаў»,—сказаў Уленшпігель.—Аднойчы яны ўбачылі жывога ската, які скінуўся з фурманкі рыбніка. Скат так страшэнна скакаў па зямлі, што яны палічылі яго за д'ябла. Паслалі па кюрэ. Кюрэ прачытаў заклінанне ад чарцей, узяў ската з сабой і прыгатаваў з яго цудоўную страву. З таго часу жыхароў Веерта называюць «заклінальнікамі скатаў».

З лесу даляцеў сабачы брэх. Потым пачуліся крыкі паляўнічых, заганяючых звера.

— Гэта алені,—сказаў Уленшпігель.—Мы ранілі двух.

— Добры будзе абед,—сказаў стары.—А ці ведаеш ты, як называюць жыхароў Эндховена?

— «Засоўшчыкамі»,—адказаў Уленшпігель.—Аднойчы, калі непрыяцель асадзіў іх горад, яны зрабілі з морквы моцную засаўку і замкнулі ёй вароты. Але на іх бяду ў горад зляцеліся птушкі і пакляvalі моркву. Вароты адчыніліся, і ворагі ўварваліся ў Эндховен. Добра-б і нам расклявать нашы турэмныя засаўкі, каб вызваліцца ад праклятага прыгнёту.

— Гасподзь нам дапаможа!—сказаў стары.

Крыкі ўсё набліжаліся. Ужо чутны быў трэск галін.

— А што, гэта вельмі смачна—аленяе мяса?—спытаў Ламе, задуменна паглядаючы на патэльню.

Сабакі брахалі ўжо каля самага лагера. Раптам на паляну выскачыў адбіты ад статка паранены алень.

— Сцеражыся!—крыкнуў Уленшпігель.

Жанчыны з крыкам кінуліся ўбок. Алень праімчаўся па лагеры, збіў Ламе з ног і зноў знік у лесе.

— Уставай, Ламе,—сказаў Уленшпігель.—Гэты паганы звер недалікатна абышоўся з табой. Ты, здаецца, у крыві, сын мой?

— Ты смяешся, нягоднік!—адказаў Ламе, барахтаючыся сярод кацялкоў з вылітай пахлёбкай.—Глядзі, з мяне кроў цячэ. Ён ударыў мяне рогам проста ў зад. Ён мне ўсе штаны падраў. І гэтая цудоўная смажаная птушка выкінулася з патэльні на зямлю. Ах, як баліць мне! Я ўвесь сцякаю крывёй.

— Добры лекар гэты алень,—сказаў Уленшпігель,—ён выцадзіў з цябе лішнюю кроў і выратаваў ад удара.

— Смейся, гультай!—ускрыкнуў Ламе.—Нікуды больш не пайду з табой. Застануся з гэтымі добрымі людзьмі. Я цягаўся за табой і ў мароз і ў слоту. І табе не шкада твайго старага друга?!

— Глупства твая рана,—сказаў Уленшпігель.—Пакладзі на яе блінец, і ўсё пройдзе. Ці ведаеш ты, якая мянушка ў жыхароў Лувена? Ты, бачу я, не ведаеш гэтага, мой бедны друг. Паслухай, я раскажу табе, каб ты не стагнаў. Іх называюць «кароўімі стралкамі». Аднойчы яны палічылі кароў за непрыяцельскае войска і пачалі па іх страляць. Мы з табой кароў не б'ем, але затое страляем па іпанскіх казлах. Мяса ў іх, праўда, смярдзіць, але затое скура годная на барабаны.

— Пляваць мне на твае барабаны!—сказаў Ламе, падбіраючы з зямлі недасмажаную птушку.—Адчапіся ад мяне, калі ласка.

Ён зноў расклаў агонь, падвесіў да стрыножніка кацялок з пахлёбкай і паставіў патэльню на гарачае вугалле.

У гэты час у лесе затрубіў рог. Сабакі ў адказ гучна забрахалі.

— Сцеражыся,—сказаў Уленшпігель.—Алень недзе недалёка.

— Гэта адбой,—сказаў стары.—Не бойся, Ламе. Аленя ўжо забілі.

— Добрая будзе ежа,—заўважыў Ламе.—Не забудзьце запрасіць мяне на абед. Глядзіце, як у мяне падсмажылася птушка. Праўда, яна крыху хрумсціць на зубах, але гэта таму, што яна скінулася на пясок, калі выскачыў гэты рагаты д'ябал. А леснікоў вы не баіцёся?

— Нас многа,—адказаў стары.—Ляснікі нас не здужаюць. Сяляне-ж нас любяць і нікому не выдадуць. Калі нас абкружыць іспанскае войска, мы хутчэй пераб'ем адзін аднаго, чым аддадзімся ў рукі крывавага герцага.

— Цяпер не час ваяваць на сухазем'і,—сказаў Уленшпігель.—Будзем ваяваць на моры. Вам трэба рухацца на Зеландскія астравы.

— У нас няма грошай,—сказалі «лясныя браты».

— Вось вам тысяча каролусаў ад прынца,—сказаў Уленшпігель.—Ідзіце па берагах рэк і каналаў. Калі ўбачыце судно з надпісам «Г. І. Х.»,—няхай хто-небудзь заспявае жаўранкам. Сябры адкажуць вам крыкам пеўня.

— Так мы і зробім,—сказалі «лясныя браты».

Хутка з'явіліся паляўнічыя і прыцягнулі на вяроўках забітага аленя. Зараз-жа распачалі работу. Аленя аблупілі, выпатрашылі, пасеклі на часткі, і хутка кавалкі мяса пачалі смажыцца на вярцелах.

Навокал кастра сабраліся ўсе—мужчыны, жанчыны, дзеці,—усяго чалавек шэсцьдзесят. Яны дасталі з торбаў хлеб і пачалі абедаць. Ламе так налёг на смажаніну, што нарэшце знямогся і заснуў, прытуліўшыся да дрэва.

Увечары ўсе пахаваліся ў зямлянках, і толькі варта засталася наверсе—вартаваць лагер. Засынаючы, Уленшпігель чуў, як шумяць сухія лісты пад нагамі вартавых.

На наступную раніцу ён выправіўся ў дарогу разам з Ламе. А «лясныя браты» пачалі рыхтавацца да паходу ў мора.

---

## Раздзел 16. Аб тым, як Уленшпігель трапіў у пастку і што з гэтага атрымалася

Уленшпігель і Ламе прадалі сваіх аслоў і ператварыліся ў вандруючых гандляроў. Уленшпігель рабіў з дроту мышалоўкі і птушыныя клеткі і прадаваў іх вакольным сялянам. Ламе зарабляў інакшым шляхам. Адзін знаёмы рэфармат падарыў яму мех, маленькую жароўню, запас мукі і масла. Ламе пёк вельмі добрыя бліны і аладкі, але, на няшчасце, больш за палову з'ядаў сам, па сваёй вечнай пражорлівасці.

Так яны дайшлі да Картрэйка і спыніліся ў шынку «Пчала». Гаспадар «Пчалы» быў верным рэфарматам. Уленшпігель прывёз яму пісьмо ад прынца. Прачытаўшы пісьмо, гаспадар добра накарміў гасцей і даў Уленшпігелю на патрэбы вайны пяцьдзесят каролусаў.

— Будзьце асцярожнымі ў нашым горадзе,—папярэдзіў ён Уленшпігеля.—Тут усюды бадзяюцца каралеўскія шпіёны.

— Мы іх пазнаем,—сказалі Уленшпігель і Ламе.

Сонца ўжо схілялася на захад, калі яны вышлі з шынка. Птушкі спявалі ў ліпах. На парозе дамоў стаялі жанчыны і размаўлялі паміж сабой. Тут-жа, на дарозе, у пылу гулялі дзеці.

— Гавораць, што ў шынку «Радуга», што па дарозе ў Бруге, увечары збіраецца многа жанчын,—сказаў Ламе.—Пайду туды, пашукаю маю бедную жоначку.

— А я агледжу горад і зайду па цябе,—сказаў Уленшпігель.—Глядзі-ж, трымай язык за зубамі! Памятай, што сказаў гаспадар.

— Памятаю,—сказаў Ламе.

Ужо сцямнела, калі Уленшпігель дайшоў да вуліцы Гаршэчнікаў. Раптам ён пачуў пяшчотныя гукі віёлы. У канцы вуліцы паказалася нейкая стройная белая постаць. Граючы на віёле, яна павольна ішла ў далечыню. Зачараваны цудоўным напевам, Уленшпігель пайшоў следам за ёй. Яна павярнулася, паманіла Уленшпігеля і пайшла хутчэй. Уленшпігель прыбавіў кроку, дагнаў яе і хацеў загаварыць. Але яна зацінула яму рот рукой і прашаптала:

— Ідзі за мной. Маўчы.

Яна адкрыла ліхтар, і святло ўпала на яе твар. Уленшпігель не мог ад яго адвесці вачэй: такі ён быў прыгожы. Яны шпарка пайшлі наперад і вышлі на дарогу ў Бругге. Каля шынка «Радуга» красуня спынілася і паманіла Уленшпігеля за сабой. Яны зайшлі ў шынок.

Тут за сталом сядзела шмат дзяўчат у рознакаляровых сукенках. Але тая, што прывяла Уленшпігеля, была прыгажэй за ўсіх, і сукенка яе была з залацістай парчы. Дзяўчаты з зайздрасцю глядзелі на яе.

Уленшпігель сеў за стол і папрасіў віна. Раптам ён убачыў Ламе. Той сядзеў у кутку, піў піва і заядаў яго вяндлінай. Дзве дзяўчыны прычапіліся да яго і патрабавалі закускі. Злосна пыхкаючы, ён адштурхоўваў іх і, спяшаючыся, жаваў кавалак шынкі. Уленшпігель паклікаў яго.

— Дзякуй богу,—сказаў Ламе,—нарэшце ты са мной, Уленшпігель! Піць, гаспадыня!

Уленшпігель выцягнуў кашалёк і зазвінеў чырвонцамі.

— Піць!—сказаў ён.—Піць, пакуль не прап'ю ўсе грошы.

— Вось ты як!—ускрыкнуў Ламе і спрытна выхапіў кашалёк з рук Уленшпігеля.—Гэта мой кашалёк, а не твой! Я сам буду расплачвацца!

Уленшпігель кінуўся на Ламе, і, пакуль яны тузаліся, Ламе непрыкметна гаварыў яму на вуха:

— Слухай... тут сышчыкі... іх чацвёра... ды знадворку

два... хацеў уцякаць... не пусцілі... Красуня ў парчы—шпіёнка.

Вырываючы кашалёк з рук Ламе, Уленшпігель уважліва прыслухоўваўся да яго слоў і не забываўся крычаць:

— Аддай кашалёк, абібок!

— Ты яго не атрымаеш,—адказаў Ламе.

І яны, абхапіўшы адзін аднаго, пакаціліся на падлогу. Раптам у шынок зайшоў гаспадар «Пчалы» і з ім сем дужых малайцоў. Аднак, ён рабіў выгляд, што не ведае сваіх спадарожнікаў. Убачыўшы бойку, ён крыкнуў, як певень, і Уленшпігель адказаў яму спевам жаўранка.

— Што за шум?—спытаў шынкар у гаспадыні.—Хто гэта такія?

— Два абібокі,—адказала яна,—добра было-б разбараніць іх, каб не буянілі.

— Толькі паткніся, папрабуй!—закрычаў Уленшпігель.

— Так, так, толькі паткніся!—закрычаў Ламе.

Тут шынкар падышоў да іх і схапіў Уленшпігеля за каўнер.

— Ты выратуеш нас? Як?—прашаптаў Ламе яму на вуха.

А шынкар калаціў Уленшпігеля і паціху мармытаў:

— Гэтыя сем—свае... мяснікі... дужы народ... Я пайду... мяне ўсе ведаюць... Калі пайду... час, фламандцы, бакалам звінець.. Крышыце ўсё...

— Вось ты як!—сказаў Уленшпігель і ўдарыў шынкара нагой.Той, у сваю чаргу, таксама ўдарыў Уленшпігеля.

— Моцна б'еш, пузан,—сказаў Уленшпігель.

— Будзь упэўнен,—сказаў шынкар і, выхапіўшы кашалёк, шпурнуў яго Уленшпігелю.

— Абібок!—закрычаў Ламе.—Плаці за мяне. Цяпер у цябе ўсе грошы.

— Як-бы не так,—адказаў Уленшпігель.

— Ну і нягоднік!—сказала Стэveніха, гаспадыня шынка.

— Я такі-ж нягоднік, як ты красуня,—адказаў Уленшпігель.

Стэвеніха была надзвычайна брыдкай. На яе высахлым твары тырчэў нос, падобны да дзюбы драпежнай птушкі. Рот глыбока запаў. Два даўгія клыкі высоўваліся з рота. На левай шчацэ цямнела гадкая радзімая пляма.

Дзяўчаты рагаталі і здзекваліся з старой.

— Дай яму выпіць, красуня!—крычалі яны.—Уленшпігель цябе пацалуе за гэта. Не бойся, Уленшпігель, пацалуй яе. Глядзі, якая яна сёння вясёлая.

І, сапраўды, старая смяялася і падміргвала красуні Жыліне, якая прывяла Уленшпігеля.

Гаспадар «Пчалы» выпіў, заплаціў за віно і пайшоў. Сямёра мяснікоў пілі і з ухвалай падміргвалі сышчыкам. Пры гэтым яны смяяліся з Уленшпігеля і знакамі паказвалі, што гатовы расправіцца з ім.

Раптам адзін з мяснікоў устаў і, падміргнуўшы сышчыкам, звярнуўся да Уленшпігеля:

— Любы рэфармат, мы не дадзім цябе ў крыўду. Толькі пачастуй нас як належыць.

Стэвеніха зарагатала. Жыліна смяялася разам з ёй і паказвала Уленшпігелю язык, як толькі ён адварачваўся ўбок.

— Глядзіце на шпіёнку,—гаварылі дзяўчаты адна адной.—Яна сваім хараством завабіла сюды больш за дваццаць сем рэфарматаў. І ўсе яны былі забіты. Жыліна памірае ад шчасця, калі атрымлівае свае сто каролусаў са спадчыны забітага.

Увесь шынок здзекваўся з Уленшпігеля. Уленшпігель маўчаў. Ламе, чырвоны ад злосці, сядзеў побач, і пот буйнымі кроплямі каціўся з яго.

— Ну, красуня,—сказаў Уленшпігель старой.—Падай нам віна і закускі. Ды глядзі, каб усяго хапала!

Дзяўчаты зноў засмяяліся; старая зноў паказала свае клыкі.

Аднак яна схадзіла ў склеп, потым—на кухню і прынесла ўсё, што было патрэбна: вяндліну, каўбасу, яешню

і вялікія бакалы. Бакалы былі на шкляных ножках і звінелі, нібы званочкі.

— За стол!—сказаў Уленшпігель.—Ешце і піце, колькі каму падабаецца.

З радаснай гамонкай кампанія села за сталы. Уленшпігель, Ламе і сямёра мяснікоў селі навокал вялікага стала. Сышчыкі і дзяўчаты занялі два маленькія столікі. Тых сышчыкаў, якія стаялі на вуліцы, таксама паклікалі ў шынок, цяпер яны пілі разам з астатнімі. З іх мяшкоў тырчэлі вяроўкі і наручнікі.

— Не заплаціўшы за пачастунак, ніхто адсюль не выйдзе,—сказала Стэveніха і замкнула ўсе дзверы на ключ.

Жыліна падняла свой бакал і засмяялася.

— Птушка ў клетцы,—сказала яна.—Вып'ем!

— Ты зноў некага прадала, нягодніца?—спыталі яе дзве дзяўчыны—Гена і Марго.

— Не ведаю,—сказала Жыліна.—Вып'ем!

Але дзяўчаты не захацелі піць з ёй.

Жыліна ўзяла віёлу і заспявала:

Я граю на віёле,
Спяваю песні я.
Лясных прывабіць птушак
Віёлачка мая.

Я ўся—як чараўніца,
Прыгожы выгляд мой,
Я сыплю птушкам зерні
Цудоўнаю рукой.

Я сыплю зерні птушкам,
Яны бягуць за мной
Не бачаць яны пасткі,
Не бачаць пад сабой.

Хутчэй-жа, птушкаловы!
Бяжыце да мяне.
І золата ў кішэні,
І птушкам ужо канец!

Жыліна была такой прыгожай, яна так добра спявала сваю песню, што ўсе мужчыны—сышчыкі, мяснікі, Улен-

шпігель, Ламе—сядзелі як зачарованыя і не маглі адвесці ад яе вачэй.

Раптам яна гучна зарагатала.

— Вось як завабліваюць птушак!—крыкнула яна Уленшпігелю.

Уленшпігель, Ламе і мяснікі пераглянуліся.

— Цяпер плаціце мне, пан Уленшпігель,—сказала Стэвеніха.—Ці цэлыя яшчэ ў вас грошы прапаведнікаў?

— Мы не плацім наперад,—панура сказаў Уленшпігель.

— Значыць, я атрымаю грошы з тваёй спадчыны.

— Вампіры кормяцца трупамі,—адказаў Уленшпігель.

— Так,—сказаў адзін з сышчыкаў,—яны забралі ў прапаведнікаў больш за трыста каролусаў. Сёння тое-сёе перападзе Жыліне.

Жыліна заспявала:

Хутчэй-жа, птушкаловы,
Бяжыце да мяне!
І золата ў кішэні,
І птушкам ужо канец!

І, ўсміхаючыся, яна дадала:

— Вып'ем!

— Вып'ем!—сказалі сышчыкі.

— Вып'ем у славу божую,—сказала старая.—Дзверы пазамыканы, вокны ў кратах, птушкі ў клетцы. Вып'ем!

— Вып'ем!—сказаў Уленшпігель.

— Вып'ем!—сказаў Ламе.

— Вып'ем!—сказалі сямёра.

— Вып'ем!—сказалі сышчыкі.

— Вып'ем!—сказала Жыліна, і зноў заспявала яе віёла.—Я прыгожая. Самога архангела завабіла-б я ў пастку сваімі спевамі.

— Вып'ем, калі так!—закрычаў Уленшпігель.—Падай, старая, самага лепшага віна. Хачу, каб агонь прабег па маіх жылах.

— Вып'ем,—сказала Жыліна.—Яшчэ дзесятак такіх пяшкуроў, як ты, і справа будзе зроблена.

Старая падала віна. Сышчыкі пілі і рагаталі. Уленшпігель, Ламе і мяснікі, седзячы за сваім сталом, кідалі дзяўчатам вяндліну, каўбасу, бутэлькі. Тыя лавілі пачастунак наляту і смяяліся.

Старая дастала з шафы свечку і сказала Уленшпігелю:

— Калі ідуць на касцёр, трымаюць у руках сальную свечку. Вось, вазьмі сабе гэтую. Яна табе хутка прыгадзіцца.

— Вып'ем!—сказаў Уленшпігель.

— Вып'ем!—сказалі сямёра.

— Хочаш, каб кат прабіў табе язык распаленым жалезам?—спытала старая.

— Зручней свісцець будзе,—сказаў Уленшпігель.— Вып'ем!

— Прыду паглядзець на цябе, калі будзеш калыхацца на шыбеніцы,—сказала старая.

— Сцеражыся! Вяроўка парвецца, і я скінуся на тваю морду, красуня. Вып'ем!

— А што ты скажаш, калі табе выпякуць кляймо на лобе?

— Скажу, што кат памыліўся. Замест таго, каб засмажыць свінню Стэвеніху, ён абварыў парасё Уленшпігеля. Вып'ем!

— У такім разе цябе прывяжуць да чатырох галер і раздзяруць на часткі.

— Акулы з'ядуць мяне, а тое, што ім не спадабаецца, з'ясі ты, красуня. Вып'ем!

— Вазьмі, Уленшпігель, з'еш свечку. Цёмна будзе ў пекла прабірацца.

— Я добра бачу. Напрыклад, я вельмі добра бачу твой свіны лыч, галубка. Вып'ем!

Раптам Уленшпігель пастукаў сваім бакалам і пачаў роўнамерна біць па сталу далонямі—так, як робяць абойшчыкі, калі раўняюць воўну для цюфякоў.

— Час, фламандцы, бакалам звінець!—сказаў Уленшпігель.

Так крычаць фламандскія гулякі, калі распачынаюць сварку і бойку.

— Час, фламандцы, бакалам звінець!—сказалі хорам мяснікі і таксама ўдарылі аб стол далонямі.

Зрабілася ціха. Жыліна збялела. Старая ўздрыганулася за сваёй стойкай.

— Хіба гэтыя сямёра з імі?—загаварылі сышчыкі паміж сабой.

Але мяснікі падміргвалі ім, каб супакоіць, а самі ўсё мацней паўтаралі за Уленшпігелем:

— Час, фламандцы, бакалам звінець! Час, фламандцы, бакалам звінець!

Уленшпігель біў па сталу ўсё мацней і мацней. Мяснікі таксама. Шклянкі, кубкі, міскі, бутэлькі пачалі памалу скакаць па стале. Уленшпігель біў усё мацней. Пасуда пачала падаць і разбівацца. І ўсё больш роўнамерна і моцна гучэў гэты страшны прыпеў:

— Час, фламандцы, бакалам звінець!

— Ох,—сказала старая,—яны пераб'юць усю пасуду!

Са страху клыкі яе яшчэ больш вылезлі з рота. І шалёнай злосцю загарэлася душа Уленшпігеля. Ламе і мяснікі абкружалі яго, поўныя рашучасці. Не спыняючы свайго аднастайнага спявання, яны схапілі бакалы і пачалі біць імі па стале, пакуль не разбілі іх на кавалкі. Тады яны селі верхам на свае крэслы і выцягнулі свае даўгія нажы. Спяванне рабілася ўсё гучнейшым і гучнейшым, і вось ужо ўсе шыбы ў доме зазвінелі. Як раз'юшаныя чэрці, мяснікі захадзілі па пакоі.

— Час, фламандцы, бакалам звінець!—спявалі яны.

Сышчыкі, калоцячыся ад страху, схапіліся за свае ланцугі і вяроўкі. Але мяснікі, Уленшпігель і Ламе пахавалі нажы і ўзяліся за свае цяжкія дубовыя крэслы. Трасучы імі над галавой, яны кінуліся наперад і пачалі крышыць усё, што трапляла ім пад рукі. Мэбля, шыбы, куфры, міскі, шклянкі, бакалы, бутэлькі—былі разбіты ўшчэнт. Сышчыкаў збілі без усякай літасці, не кранулі адных

толькі дзяўчат. І пры гэтым усе спявалі, размахваючы сваімі крэсламі:

— Час, фламандцы, баклам звінець! Час, фламандцы, бакалам звінець!

Між тым Уленшпігель даў Стэвенісе па вуху і садраў ключы з яе пояса. Потым ён дастаў звязку сальных свечак і загадаў старой есці іх адну за адной.

— Гэтую ты з'ясі за шыбеніцу,—гаварыў ён пры гэтым,—гэтую за кляймо; гэтую за мой прабіты язык; гэтую за галеры, якія раздзяруць маё цела; гэтую за твой шпіёнскі прытулак; а гэтыя астатнія для майго задавальнення.

Дзяўчаты смяяліся, бачучы, як старая стараецца выплюнуць свечку. Толькі Жыліна, бледная, як смерць, нерухома сядзела ў кутку. Вочы яе пагаслі. На вуснах блукала збянтэжаная ўсмешка. Яна трымала перад сабой віёлу і, здавалася, была гатова абараняцца ёй.

Мяснікі звязалі сышчыкаў вяроўкамі і ланцугамі. Тыя не супраціўляліся: яны ведалі, што мяснікі без літасці скрышаць іх сваімі нажамі.

І ўсё той-жа аднастайны напеў гучэў у паветры:

— Час, фламандцы, бакалам звінець! Час, фламандцы, бакалам звінець!

Нарэшце Уленшпігель даў знак спяваць цішэй і сказаў сышчыкам і дзяўчатам:

— Той, хто крыкне,—памрэ.

— Памрэ,—сказалі мяснікі.

— Мы будзем маўчаць,—сказалі дзяўчаты.—Не крыўдзі нас, Уленшпігель!

Толькі Жыліна сядзела скурчыўшыся ў сваім кутку. Яна не ведала, што ёй рабіць, і з жахам прыціскала да сябе сваю віёлу.

— Час, фламандцы, бакалам звінець! — мармыталі сямёра.

— Усе вы ў нашай уладзе,—казаў Уленшпігель.—Ноч цёмная, рака недалёка. Можна і ўтапіцца, калі скінуць з берагу. Гарадскія вароты замкнуты. Калі варта і чула

шум, яна не кранецца з месца. У якім шынку не шумяць добрыя фламандцы? І так, маўчыце,—крыкі вам не дапамогуць. Вы пойдзеце ў Петэгем, каб далучыцца да гёзаў?—спытаў ён мяснікоў.

— Так,— сказалі яны.

— А адтуль да мора?

— Так.

— Ці нельга каго з сышчыкаў узяць да нас на службу?

— Ніклас і Іос ніколі не праследавалі рэфарматаў.

— Нам можна даверыцца,—сказалі Ніклас і Іос.

— Вось вам дваццаць каролусаў,—сказаў Уленшпігель.

— Дваццаць каролусаў!—закрычалі астатнія сышчыкі.—За такія грошы і мы згодны служыць прынцу Оранскаму. Дай нам па дзесяці каролусаў, і мы скажам суддзі ўсё, што ты загадаеш.

— Час, фламандцы, бакалам звінець!—глуха мармыталі сямёра.

— Вас звязанымі прывязуць да гёзаў,—сказаў Уленшпігель,—там убачым, што далей рабіць з вамі. Памятайце, што калі вы надумаецеся ўцякаць, вас павесяць. А калі вас міне вяроўка, то вы не пазбавіцеся ад нажа.

— Мы служым таму, хто добра плаціць,—сказалі сышчыкі.

— Час, фламандцы, бакалам звінець!—паўтаралі сямёра, пастукваючы па стале чарапкамі збаноў.

— Жыліну, старую і трох дзяўчат таксама вазьміце з сабой,—сказаў Уленшпігель.—Калі хто-небудзь з іх паспрабуе ўцякаць, зашыйце таго ў мех і кіньце ў рэчку.

— Ён не забіў мяне!—ускрыкнула Жыліна і кінулася на шыю Уленшпігелю. Дзяўчаты рэўніва сачылі за імі.

— Ён без памяці ад яе,—шапталі яны адна адной.

Пад прыкрыццём начы накіраваліся ў Петэгем. Мяснікі вялі сышчыкаў і дзяўчат і мармыталі, не перастаючы:

— Час, фламандцы, бакалам звінець! Час, фламандцы, бакалам звінець!

На світанні яны ўбачылі лагер. Уленшпігель заспяваў жаўранкам, і крык пеўня адказаў яму. Сышчыкаў і дзяўчат пасадзілі пад варту. Аднак на трэці дзень Жыліну знайшлі мёртвай: сэрца яе было праколата даўгім шылам. Дзяўчаты сказалі, што Жыліну забіла Стэвеніха. Старую судзілі, і яна прызналася ва ўсім. Яна забіла Жыліну таму, што тая адносілася да яе як да сваёй служанкі. Старую павялі ў лес і павесілі.

Між тым два сышчыкі, падкупленыя Уленшпігелем, з'явіліся ў Картрэйк і заявілі суддзям:

— Дарэмна думаюць, што прапаведнікі забіты Уленшпігелем і Ламе Гудзаком. Гэтыя людзі—верныя слугі герцага. Мы самі бачылі іх прапускі. Прапаведнікаў забілі два купцы з Гента—адзін тоўсты, другі хударлявы. У хуткім часе пасля гэтага забойства купцы разграмілі шынок Стэвеніхі і ўцяклі ў Францыю. Мы хацелі іх схапіць, але нам перашкодзілі сямёра мяснікоў, якія сталі на іх бок. Нас схапілі і адпусцілі толькі тады, калі мы былі ўжо ў Францыі. Але ўсё-ж чатыры сышчыкі сочаць за імі і чакаюць ад вас падмацавання, каб схапіць нягоднікаў.

Суддзі далі сышчыкам па два каролусы і падзякавалі іх за верную службу.

А Уленшпігель і Ламе накіраваліся з Петэгема спачатку ў Гент, потым у Бруге. Адтуль Уленшпігель збіраўся ў Даме, дзе бедная Неле даўно ўжо чакала свайго каханага.

---

## Раздзел 17. Аб тым, як у Даме з'явіўся дзівосны воўк

Аднойчы ўночы Неле пабудзілі нейчыя гучныя крыкі. Крыкі чуліся з вуліцы.

Неле кінулася ўніз і адчыніла дзверы. Насустрач ёй бегла Катліна.

— Ратуй мяне!—крычала яна.—Ратуй мяне! Там воўк! Воўк!

Далёка, у полі, пачулася гучнае выццё. Дрыжучы ад страху, Неле запаліла ўсе свечкі і моцна абняла маці.

— Што здарылася?—спытала яна.

Катліна шалёнымі вачыма паглядзела на агонь і сказала:

— Вось і загінулі чэрці. Воўк, воўк вые ў полі.

— Куды ты хадзіла?—спытала Неле.

— Ганс крычаў арлом,—сказала Катліна.—Я вышла. Ён сказаў: «Выпі гэтага чараўніцкага напітку». Я выпіла. Ён павёў мяне да канала і сказаў: «Катліна, я хутка прынясу табе семсот каролусаў, і ты аддасі іх Уленшпігелю. Вось табе два каролусы на сукенку. Хутка я дам табе цэлую тысячу». «Тысячу!—сказала я.—Тады я буду багатая». «Так,—сказаў ён.—А ці няма іншых багатых жанчын у Даме?» «Я не ведаю»—сказала я. «Даведайся і скажы мне ў наступны раз»,—сказаў ён.

«Рабілася холадна. Туман слаўся над палямі. Сухія галінкі падалі з дрэваў на дарогу. Месяц бліშчэў. Вада ў канале свяцілася безліччу агеньчыкаў. «Гэта ноч ваўкалакаў,—сказаў Ганс.—Усе грэшныя людзі вышлі сёння з пекла. Трэба тры разы перахрысціцца левай рукой і ска-

заць: «Соль! Соль! Соль!» Тады яны табе нічога не зробяць».

«Ганс пайшоў. Я засталася адна, бразгаючы сваімі каролусамі. Раптам бачу: вылез на бераг воўк і пайшоў па насыпу. Морда зялёная, шэрсць белая і сухія травінкі заблыталіся ў ёй. Я крыкнула: «Соль! Соль! Соль!» і тройчы перахрысцілася. Але воўк не спужаўся. Я кінулася ўцякаць. Ён—за мной. І ледзь было не дагнаў мяне. Я чула, як ён ляскае зубамі за маёй спіной, і думала: вось зараз схопіць за плячо. Але я бегла хутчэй за яго. На рагу вуліцы Чаплі я ўбачыла начнога вартаўніка з ліхтаром. «Не бойся, Катліна, я правяду цябе дадому»,—сказаў ён. «Воўк! Воўк!»—мармытала я. Вартаўнік узяў мяне за руку і павёў. І рука яго таксама дрыжэла ад страху».

Пакрыху Катліна супакоілася і заснула. Праз слёзы глядзела Неле на бедную дурніцу. Яна разумела, ад якой страшнай небяспекі выратавалася Катліна. Гэты дзівосны воўк ужо даўно з'явіўся ў Даме. Дарога ў Бруге і ў Гент зрабілася небяспечнай. Варта каму-небудзь выйсці з горада, асабліва з грашыма,—і з ім усё было скончана. Наступным днём на дарозе знаходзілі здрантвелы труп. Труп звычайна быў распрануты дагала, і шыя яго перакушана даўгімі вострымі зубамі.

Дактары і цырульнікі казалі, што гэта зубы вялізнага ваўка.

— Вядома,—гаварылі яны,—пасля ваўка з'яўляюцца рабаўнікі і распранаюць бедную афяру.

Шмат разоў выпраўлялі людзей на пошукі. Абшуквалі ўсю акругу. Але ўсё было дарэмна. Ні ваўка, ні рабаўнікоў не знаходзілі.

А праз некалькі дзён зноў які-небудзь багаты гаражанін, які паехаў з горада без праважатых, гінуў без следу. Ніхто не ведаў, што з ім здарылася. І вось, селянін суседняй вёскі, выехаўшы ў поле, раптам заўважыў на зямлі воўчы след. Селянін ішоў па слядах, і сабака прыводзіў яго на падазронае месца. Ён пачынаў капацца ў зямлі

і адкапваў чалавечы труп, пакусаны страшнымі зубамі. І шыйныя хрыбеткі яго былі заўсёды пераламаны.

Селянін заяўляў аб гэтым гарадскому суддзі. Суддзя са сваім пісцом, старшыня і лекар выязджалі на месца злачынства, апазнавалі труп і не ведалі, што падумаць аб гэтым страшным злачынстве. Ніхто не мог зразумець, чаму гэты воўк, які загрызае людзей з голаду, ніколі не есць чалавечага мяса.

Жыхары былі так напалоханы, што ўночы ўжо не выходзілі са сваіх дамоў.

Нанялі некалькі салдат, вядомых сваёй адвагай, і паслалі іх шукаць ваўка.

Аднойчы ўначы салдаты размясціліся на марскіх дзюнах, каля Гейста. Адзін з іх—моцны, дужы хлапец—зарадзіў свой аркебуз і пайшоў у абход. За яго ніхто не баяўся. Усе ведалі, што гэта чалавек дужы і смелы. Вядома, ён лёгка падужае ваўка, калі сустрэне яго па дарозе.

Калі ён пайшоў, салдаты расклалі касцёр і пачалі піць гарэлку.

— Эй!—крычалі яны таварышу.—Плюнь на ваўка! Ён даўно ўцёк. Ідзі, вып'ем.

Але той нічога не адказаў.

Раптам яны пачулі прадсмяротны чалавечы крык.

— Трымайся!—закрычалі яны і кінуліся на дапамогу, выпярэджваючы адзін аднаго.

Але яны доўга не маглі знайсці свайго таварыша. Аднаму здавалася, што крык чуўся з даліны, другому здавалася, што ён даляцаў з дзюн.

Нарэшце, абшукаўшы з ліхтарамі даліну і дзюны, яны знайшлі цела забітага. Ногі ў яго былі перабіты, а шыя перакушана страшнымі зубамі.

Салдат ляжаў на спіне, і рука яго сударгава сціскала шпагу. Аркебуз ляжаў на пяску. Тут-жа непадалёк ляжалі тры адсечаныя пальцы. Чые яны былі—невядома. Кашалёк з грашмі быў украдзены.

Яны паднялі на плечы труп свайго таварыша, узялі яго

пачэсную шпагу і слаўны яго аркебуз і ў глыбокім маўчанні накіраваліся ў горад. Тут сустрэў іх галоўны суддзя разам з гарадской вартай.

Лекар агледзеў адсечаныя пальцы і знайшоў, што яны належаць старому, які ніколі не займаўся ручной працай. Скура на пальцах была далікатная, а пазногці даўгія, быццам у суддзі ці папа.

На наступную раніцу суддзя, пісец, старшыні і салдаты пайшлі ў дзюны, дзе быў забіты дазорны. Там у траве яшчэ відаць былі кроплі крыві. На пяску былі відаць нейчыя сляды. Яны вялі да мора і там гінулі. Страшэнны воўк знік бясследна.

---

## Раздзел 18. Аб тым, як Уленшпігель вярнуўся ў Дамэ

Пачаліся гарачыя летнія дні. Мора было ціхае і спакойнае. Сонца ззяла пасярод распаленага неба. Мухі гулі над каналам; карпы, выскакваючы з вады, лавілі іх і перакульваліся ў паветры. Стралой імчаліся доўгакрылыя ластаўкі. Цёплая ззяючая пара ўзнімалася над палямі.

Вось званар з'явіўся на званіцы і прабіў дванаццаць гадзін. Бразгатлівыя гукі надтрэснутага звона заціхлі ў воддалі. Жанчыны ў чырвоных чэпчыках выйшлі за плецень і пачалі гукаць мужэй абедаць.

Ужо здалёк заўважыў Уленшпігель высокую чатырохвугольную вежу сабора богамацеры.

— Сын мой,—сказаў Ламе.—У гэтым горадзе і гора тваё і любоў твая...

Уленшпігель маўчаў.

— Хутка я ўбачу мой стары домік,—сказаў Ламе,—а магчыма—адшукаю і жонку маю.

Уленшпігель не адказаў ні слова.

— Каменнае ў цябе сэрца,—сказаў Ламе,—нячулы ты чалавек, Уленшпігель! Тут ты правёў усе свае дзіцячыя гады. Цені бедных тваіх бацькоў устаюць перад табой. І ты не радуешся, не сумуеш. Што зрабілася з тваім сэрцам? Паглядзі на мяне. У мяне нават жывот дрыжыць ад хвалявання!

Але тут Ламе глянуў на Уленшпігеля. Бледны, як смерць, Уленшпігель ішоў з нізка схіленай галавой. Губы яго дрыжэлі. З вачэй каціліся буйныя слёзы.

І Ламе змоўк.

У глыбокім маўчанні ўвайшлі яны ў горад і пайшлі па вуліцы Чаплі. Вакол не было ні душы: усе пахаваліся ад паўднёвай спёкі. Адны сабакі, высалапіўшы языкі, ляжалі каля парогаў.

Падышлі да доміка Клааса. Цяпер у ім жыў другі вугальшчык.

— Пазнаеш ты мяне?—спытаў яго Уленшпігель.— Я хачу зайсці да цябе на хвіліну.

— Так,—сказаў вугальшчык,—ты—Уленшпігель, сын пакутніка. Заходзь і будзь як у сваім доме.

Уленшпігель зайшоў на кухню, потым падняўся ў пакой Клааса і Сэоткін і горка заплакаў. Калі ён сышоў уніз, вугальшчык прапанаваў яму піва і сыра. Але Уленшпігель паказаў знакам, што ён не можа ні піць, ні есці, і пайшоў разам з Ламе далей.

Так падышлі яны да доміка Катліны. Быў час абеду. На стале стаяла міска варанага гароху, змешанага з фасоллю. Катліна ела. Неле стаяла побач і налівала ў яе міску воцатнай падліўкі, якую яна толькі што зняла з агню.

Тут адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшоў Уленшпігель. Неле ўскрыкнула і паставіла гаршчок з падліўкай проста ў міску Катліны. А тая жавала гарох, біла сябе па ілбе і гаварыла:

— Згасіце агонь! Галава гарыць!

І смеючыся і плачучы ад шчасця, Неле кінулася на шыю Уленшпігелю. Уленшпігель абняў яе, і так яны стаялі і плакалі разам.

— Тыль! Тыль!—уся ў слязах паўтарала Неле.—Любы мой! Няўжо ты вярнуўся?

Раптам яна ўбачыла Ламе, які моўчкі чакаў каля дзвярэй.

— Гэта хто такі?—спытала яна.—Дзе я магла бачыць гэтага таўстуна?

— Гэта мой друг,—сказаў Уленшпігель.—Ён страціў сваю жонку і цяпер вандруе разам са мной.

— Я цябе ведаю,—сказала Неле,—ты жыў на вуліцы Чаплі. Твая жонка хаваецца ў Бруге. Яна жыве як затворніца—набожна і благачасціва. Аднойчы я спытала яе, чаму яна пайшла ад свайго мужа. «Такая воля божая,—адказвала яна,—больш я не магу да яго вярнуцца».

Ламе нахмурыўся і панура глядзеў на падліўку. І толькі адна Катліна, нічога не заўважаючы, лавіла лыжкай фасолю і паўтарала свае бязглуздыя скаргі.

---

## Раздзел 19. Аб тым, як Уленшпігель злавіў дзівоснага ваўка

Здарылася так, што адна пятнаццацігадовая дзяўчынка пайшла праз дзюны з Гейста ў Кноке. Яна пайшла ўдзень, і ніхто за яе не баяўся, бо воўк толькі ўначы нападаў на падарожных. Дзяўчынка несла ў сваім мяшочку чатыры залатых каралусы. Яе маці, Торыя Пітэрсен, вінавата была гэтыя грошы свайму дзядзьку, Яну Рапену, і цяпер хацела аддаць свой доўг. Дзяўчынка—яе звалі Беткін—надзела сваё самае прыгожае ўбранне і весела пайшла ў дарогу.

Увечары яна дадому не вярнулася. Маці спачатку ўстрывожылася, але потым падумала, што дзяўчынка засталася пераначаваць у дзядзькі, і супакоілася.

Наступным днём мясцовыя рыбакі вярталіся з мора. Яны выцягнулі на бераг сваю лодку, пагрузілі рыбу на каламажкі і павезлі яе ў Гейст, на рынак. Праязджаючы па дзюнах, яны заўважылі на пяску акрываўлены труп дзяўчынкі. Рыбакі падышлі бліжэй і ўбачылі на шыі сляды доўгіх вострых зубоў. Дзяўчынка ляжала на спіне. Вочы яе былі шырока адплюшчаны. Прадсмяротны крык нібы застыў на яе губах.

Рыбакі накрылі дзяўчынку плашчом і прынеслі яе ў горад. Лекар агледзеў труп і абвясціў гаражанам, што дзяўчынку загрыз не просты воўк, а злы абароцень, які прыняў абліčча ваўка.

— Маліце бога, каб ён збавіў ад гэтай напасці зямлю фландрскую,—сказаў лекар.

З гэтага дня ва ўсім графстве—асабліва ў Даме, Гейсте і Кноке—былі ўведзены спецыяльныя царкоўныя службы для збаўлення краіны ад злога абаротня.

Цела дзяўчынкі было выстаўлена ў царкве, і жанчыны плакалі, гледзячы на яе скалечаную шыйку. А маці дзяўчынкі крычала як вар'ятка:

— Я знайду забойцу і загрызу яго ўласнымі зубамі!

Яна пайшла ў дзюны разам са сваім мужам і двума братамі. Зноў абшукалі ўсю акругу, але ваўка нідзе не знайшлі.

Галоўны суддзя горада Даме сабраў грамадзян на сход і загадаў кожнаму запасціся зброяй.

— Мы павінны пералавіць усіх жабракоў і валацуг,—заявіў суддзя.—Яны ходзяць услед за абаротнем і рабуюць мерцвякоў. Здаровых валацуг трэба накіроўваць на каралеўскія галеры, старых-жа і калек адпускаць на волю.

Пачалі затрымліваць жабракоў, але нічога падазронага ў іх не знайшлі.

Тады Уленшпігель прышоў да галоўнага суддзі і сказаў:

— Я хачу забіць гэтага абаротня!

— Ты так упэўнены ў сваіх сілах?—запытаў суддзя.

— Попел Клааса паліць маё сэрца,—сказаў Уленшпігель. Дазвольце мне два дні папрацаваць у грамадскай кузні.

— Працуй,—сказаў суддзя.

Уленшпігель пайшоў у кузню і цішком ад усіх выкаваў з жалеза вельмі добрую пастку. І ні адна душа не ведала, што ён там робіць.

Надышла субота. У гэты дзень абароцень часцей за ўсё нападаў на падарожных. Уленшпігель вышаў з Даме. Пад плашчом ён нёс пастку. Апрача таго, ён узяў з сабой нож і добры арбалет.

У Даме ён сказаў:

— Я іду на паляванне за чайкамі. Трэба сабраць пуху

для жонкі пана галоўнага суддзі. Яна хоча зрабіць сабе новую падушку.

Усе былі ўпэўнены, што ён пайшоў на паляванне за чайкамі.

Па дарозе ў Гейст ён вышаў да мора. Мора бушавала. Вялізныя хвалі біліся аб бераг. Рыбацкія судны былі выцягнуты на пясок. Вецер свісцеў і ірваў рыбацкія прылады.

— Гора нам з гэтым ветрам!—сказаў Уленшпігелю знаёмы рыбак.—Яшчэ ўночы мора было спакойным, а пасля ўзыходу сонца раптам расхвалявалася. Аб лоўлі няма чаго і думаць!

Уленшпігель узрадаваўся. Рыбакі засталіся дома. Яны прыдуць да яго на дапамогу, калі будзе патрэбна.

У Гейстэ Уленшпігель зайшоў да кюрэ і перадаў яму пісьмо галоўнага суддзі.

— Ты—смелы хлапец,—сказаў яму кюрэ, прачытаўшы пісьмо,—але ведай, што воўк нападае на ўсіх, хто ідзе адзін. Хутка вечар. Чуеш, як ён вые на могілках? Не хадзі, сын мой! Пашкадуй сваю маладосць!

— Попел паліць маё сэрца,—сказаў Уленшпігель.

— Калі ты цвёрда вырашыў,—сказаў кюрэ,—дык чакай яго на той сцежцы, якая вядзе да могілак. Яна абсаджана дротам і такая вузкая, што два чалавекі ледзь размінуцца на ёй.

— Туды я і пайду,—сказаў Уленшпігель.—А вы, пан кюрэ, паведаміце пра гэта Торыі Пітэрсен, яе мужу і братам. Няхай яны, добра ўзброеныя, збяруцца ў царкве. Калі я крыкну чайкай,—значыць, я убачыў абаротня. Біце тады ў набат і бяжыце да мяне на дапамогу.

— Хай будзе па-твойму!—сказаў кюрэ.—Хочаш павячэраць?

— Хачу,—сказаў Уленшпігель.

Кюрэ даў яму хлеба, піва і сыра. Уленшпігель павячэраў і вышаў з дому.

Мора ўсё яшчэ бушавала. Чорныя хмары імкліва імчаліся па небе. Вецер свістаў у дзюнах.

Уленшпігель спусціўся ў даліну і, хістаючыся, пайшоў па сцежцы да могілак. Ён ішоў, спатыкаючыся, як п'яны, нешта напяваў сабе пад нос, голасна ікаў, спыняўся і рабіў выгляд, што яго ванітуе, як апошняга п'яніцу. У той-жа час ён уважліва сачыў за ўсім, што рабілася навокал яго.

І вось пры яркім святле месяца ён убачыў вялізны цень ваўка, які павольна пасоўваўся да могілак.

Уленшпігель зрабіў выгляд, што спатыкнуўся, і паставіў пастку на сцежку, дзе павінен быў прайсці абароцень. Потым ён зарадзіў арбалет і, ікаючы, пайшоў далей. Праз дзесяць крокаў ён спыніўся. У гэтую хвіліну вочы яго былі зарчэй, а слух танчэй, чым у драпежнага звера, калі ён сочыць здабычу. Ён бачыў, як чорныя хмары з шалёнай хуткасцю імчацца па небе, а там па сцежцы рухаецца прысадзістая воўчая постаць. Ён чуў, як бушуе мора, як жаласна вые вецер, як рыпяць чарапашынкі пад цяжкімі крокамі звера.

Уленшпігель схапіўся за дрэва, пастаяў так, а потым цяжка паваліўся на зямлю, быццам п'яныя ногі не маглі яго больш трымаць. Праз хвіліну ляснула жалеза, аглушальна ляпнула пастка, і жаласны крык чалавека даляцеў да Уленшпігеля.

«Яму прышчаміла пярэднія лапы,—падумаў Уленшпігель.—Вось ён паднімаецца і хоча вызваліцца ад пасткі. Дарэмныя надзеі!

Уленшпігель стрэліў і папаў страшыдлу ў нагу.

— Ён паранены,—сказаў сабе Уленшпігель і крыкнуў чайкай.

У тую-ж хвіліну пачуліся гукі набата. Народ кінуўся на дапамогу Уленшпігелю.

Першымі прыбеглі Торыя, маці забітай Беткін, яе муж і брат.

— Няўжо злоўлены?—пыталі яны.

— Паглядзіце на сцежку,—адказаў Уленшпігель.

— Дзякуй богу,—сказалі яны і перахрысціліся.

Раптам абароцень загаварыў жаласным голасам:

— Злітуйся нада мной, Уленшпігель.

— Ён гаворыць чалавечым голасам,—з жахам загаварыў народ.—Гэта сам д'ябал! Ён ведае імя Уленшпігеля!

— Злітуйся,—казаў далей голас,—не губі мяне, Уленшпігель! Рукі мае ў пастцы. Я сыходжу крывёй. Злітуйся! Няхай сціхне праклятты звон!

— Я ведаю гэты голас!—закрычаў Уленшпігель.— Ты—рыбнік, забойца Клааса, страшыдла, якое загрызла дзяўчынку! Не бойцеся, сябры! Гэта старшыня рыбнікаў. Праз яго загінула няшчасная Саоткін.

І, выцягнуўшы нож, Уленшпігель схапіў рыбніка за горла.

— Не чапай яго,—закрычала Торыя,—бяры яго жыўцом! Няхай заплоціць нам за нашы пакуты! На агонь яго! У распаленыя абцугі яго!

І яна, як вар'ятка, рвала яго валасы і драпала пазногцямі яго твар. А той кідаўся па сцежцы з пасткай на руках і крычаў ад болю і страху:

— Злітуйцеся! Злітуйцеся! Адвядзіце яе! Яна заб'е мяне!

Раптам Торыя заўважыла на дарозе вялікую брабанцкую вафельніцу з даўгімі ручкамі. Торыя падняла яе з зямлі, і вафельніца расчынілася ў яе руках. У сярэдзіне вафельніцы да жалезных дошчачак былі прыроблены даўгія вострыя зубы. Калі вафельніца расчынялася, яна нагадвала сабой жалезную пашчу пякельнага страшыдла.

Торыя схапіла вафельніцу і, лязгаючы ёй, кінулася на рыбніка. Рыдаючы, яна кусала рыбніку рукі, ногі і крычала:

— Так ты катаваў маю Беткін, праклятты! Кайся забойца! Соладка табе? Бачыш, як цячэ твая кроў? Адчуваеш жалезныя зубы? Гэта божая пашча, забойца!

І яна кусала рыбніка, пакуль адзін стары не адабраў у яе вафельніцу.

Тут прыбеглі з Гейста рыбакі—мужчыны і жанчыны. Некаторыя прынеслі з сабой ліхтары і пылаючыя факелы.

— Папаўся, забойца!—крычалі яны.—Кажы, дзе ты схаваў нарабаванае золата?

— Злітуйцеся!—адказваў рыбнік.—У мяне няма ні граша. Я ўвесь зыходжу крывёй! Памілуйце!

— Пamажце яго раны выгойлівай маззю,—крычала Торыя.—На павольным агні скончыць ён сваё ганебнае жыццё! І рукі яму адарвуць распаленымі абцугамі! Ён заплоціць за нашы пакуты!

Яна зноў кінулася на яго і раптам, страціўшы прытомнасць, павалілася на зямлю.

Між тым Уленшпігель вызваліў рыбніка ад пасткі і заўважыў, што на яго правай руцэ нехапае трох пальцаў. Рыбніка звязалі вяроўкамі, паклалі ў кош з-пад рыбы і ўсім натоўпам накіраваліся ў Даме, асвятляючы дарогу факеламі і ліхтарамі.

Пасля крыкаў і стогнаў надышло цяжкое маўчанне. Чуваць было, як прарывіста дыхае Торыя, як цяжка крочуць мужчыны, як шуміць бушуючае мора.

З сумам назіраў Уленшпігель, як імчацца па небе чорныя хмары, як свецяцца грэбні бушуючых хваль. І рыбнік, бледны і акрываўлены, злосна глядзеў на яго, лежучы ў сваім кашы.

У Даме іх сустрэў натоўп народу. Ужо ўсе ведалі, што абароцень злоўлены. Усе хацелі бачыць забойцу. Вялізная працэсія са спевамі пайшла па вуліцах гораду.

— Слава Уленшпігелю!—крычаў народ.—Няхай жыве наш герой Уленшпігель!

І працэсія рухалася далей.

І калі яны праходзілі перад домам галоўнага суддзі, той вышаў насустрач і сказаў:

— Ты пераможца! Гонар і слава герою!

— Попел Клааса гарэў на маім сэрцы,—адказаў Уленшпігель.

— Ты атрымаеш палову яго маёмасці,—сказаў суддзя.

— Раздайце тым, каго ён рабаваў,—сказаў Уленшпігель.

Прыбеглі Неле і Ламе. Неле плакала ад радасці, смялася і цалавала свайго каханага. Ламе, як мядзведзь, скакаў навокал яго, ляпаў яго па жывату і прыгаварваў:

— Вось гэта чалавек! Вось гэта я разумею! Вось ён які—мой друг Уленшпігель! У вас такіх няма, панове добрыя!

Але рыбакі перасмейваліся паміж сабой і ўсяляк здзекваліся з яго бруха.

---

## Раздзел 20. Аб тым, як пакаралі рыбніка

На наступны дзень гарадскі звон склікаў народ на вялікае судзілішча. Суддзі сядзелі на чатырох дзёрнавых лаўках пад густой ліпай, якую народ называў «дрэвам правасуддзя». Прывялі рыбніка. Ён ні ў чым не хацеў прызнацца. Яму паказалі тры адсечаныя пальцы. Рыбнік не прызнаваўся ні ў чым.

— Я стары і бедны,—гаварыў ён.—Злітуйцеся нада мной!

— Ён забіваў нашых дзяцей,—крычаў народ.—Судзіце яго без літасці, паны суддзі.

— Што ты глядзіш на нас сваімі вачыма!—крычалі жанчыны.—Мы не баімся цябе! О звер люты! За што ты забіваў нашых дзетак?

— Я няшчасны, бедны стары,—паўтараў рыбнік.—Адпусціце мяне, паны суддзі!

Але ўсе, нават суддзі, смяяліся з яго няшчырых слёз. Рыбніка прысудзілі да катавання.

У турме кат надзеў на яго боты з сырой скуры.

— Прызнавайся, які д'ябал штурхнуў цябе на гэтыя злачынствы?—спытаў суддзя.

— Я сам і ёсць гэты д'ябал,—адказваў рыбнік.—Скіньце боты, я ўсё раскажу вам. У дзіцячыя гады я быў брыдкім хлопчыкам. Усе лічылі мяне дурнем, і ніхто не хацеў гуляць са мной. Я рос у адзіноцтве. Я ненавідзеў усіх людзей. Я зайздросціў тым, у каго былі сябры і таварышы. Таму я і на Клааса данёс, што ўсе ў горадзе любілі гэтага вугальшчыка. Я-ж любіў адны толькі грошы. І чым старэй-

шым я рабіўся, тым больш хацелася мне адпомсціць людзям за маю брыдкасць. Аднойчы ў Брабанце я ўбачыў вафельніцу і вырашыў, што з яе атрымаецца вельмі добрая жалезная пашча. О, тыгры бязлітасныя, чаму я не магу пакусаць вас ёй! За што вы здзекваецеся з мяне?

— Дзе ты жывеш і чым займаешся?—спытаў суддзя.

— Я жыву ў Рамскапеле,—адказваў рыбнік.—Адтуль я хаджу ў Бланкенберге, Гейст і нават у Кноке. У гэтай самай вафельніцы я пяку выдатныя вафлі па-брабанцку і прадаю іх на плошчы. Чаму мяне ніхто не пазнаваў? Таму, што я мазаў твар фарбай і фарбаваў валасы ў рыжы колер. Адкуль у мяне гэтая скура? Я забіў у Мальдэгенскім лесе двух ваўкоў, садраў з іх скуру і сшыў іх. Я сшыў абедзве скуры разам, каб можна было захінуцца да пят. Скура ляжала ў мяне ў скрыні, у гейстскіх дзюнах. Там-жа я хаваў нарабаванае дабро. З часам я спадзяваўся прадаць яго за добрыя грошы.

— Падсуньце яго да агню,—сказаў суддзя.—Кажы, дзе ты хаваеш сваё золата.

— Я не чараўнік, нашто вы мяне катуеце!—закрычаў рыбнік.—Я вам нічога не скажу. О! як балюча маім нагам! Я ўсё скажу, паны суддзі! Золата ляжыць у маім склепе, у Рамскапеле, у шкатулцы. Адсунь мяне ад агню, кат пракляты! У шкатулцы падвойнае дно, там схавана золата. Яно перакладзена воўнай, каб не звінела. Адсуньце мяне, я ўсё сказаў.

Рыбніка адсунулі ад агню. Ён злосна ўсміхнуўся.

— Ты чаго?—запытаў суддзя.

— Лягчэй зрабілася,—сказаў рыбнік.

— Адкуль ты ўзяў сваю вафельніцу з зубамі?—запытаў суддзя.

— Гэта звычайная брабанцкая вафельніца,—сказаў рыбнік.—Толькі я пракруціў у ёй дзірачкі, каб можна было ўвінчваць зубы. На світанні я зноў вывінчваў іх. Сяляне вельмі любілі мае вафлі. Яны называлі іх «вафлі з пупырышкамі», бо калі зубы вывінчаны, дзіркі выціскаюць на цесце маленькія пупырышкі.

— Раскажы, як ты нападаў на сваіх бедных афяр,— сказаў суддзя.

— Я бадзяўся па дзюнах і выглядваў здабычу,—адказаў рыбнік.—Часцей за ўсё я нападаў па суботах, калі ў Бруге бывае вялікі кірмаш. Калі міма праходзіў селянін сумны і маўклівы, я не нападаў на яго. У кашальку ў яго было пуста. Калі-ж селянін ішоў вясёлы і пасвістваў, я нечакана кідаўся на яго ззаду, пракусваў яму шыю і адбіраў грошы.

Рыбніка зноў адвялі пад судебную ліпу і абвясцілі прысуд.

Як бязлітасны забойца, злодзей і богахульнік, ён быў прысуджаны да смерці на кастры. Перад гэтым кат павінен быў адсячы яму правую руку.

— Вось яна—адплата!—крычала Торыя.—У агонь забойцу праклятага!

— Няхай жывуць паны суддзі!—крычаў народ.

На наступны дзень з самага ранку рыбніка павялі на кару. На плошчы каля кастра ён убачыў Уленшпігеля.

— Затрымайце яго!—закрычаў рыбнік.—Ён таксама забойца! Дзесяць гадоў назад ён хацеў утапіць мяне за тое, што я данёс на яго бацьку. Але я тады верна служыў яго вялікасці.

З вежы сабора богамацеры пачуўся пахавальны звон.

— Гэта нас з табой праводзяць!—крычаў Уленшпігелю рыбнік.—Бо і ты-ж будзеш павешаны! Ты таксама забойца!

— Рыбнік хлусіць!—крыкнуў народ.—Хлусіш ты, забойца пракляты!

— Калі-б ён утапіў цябе ў канале, ты не забіў-бы маю дзяўчынку, крывапівец!—крычала Торыя і кідала ў рыбніка каменнямі.

Уленшпігель не гаварыў ні слова.

— Ён кінуў мяне ў канал,—казаў далей рыбнік.— Я ледзь вылез з вады, схапіўшыся за лодку. Я прамок да ніткі і ледзь дайшоў дадому. Там я ляжаў у ліхаманцы два тыдні. Ніхто не даглядаў мяне. Я ледзь не памёр.

— Ніхто не бачыў гэтага,—сказаў Ламе.

— Так, так, ніхто гэтага не бачыў!—крычала Торыя.— У агонь ката! Перад смерцю ён хоча загубіць яшчэ аднаго чалавека! Маўчы, Уленшпігель, не прызнавайся! Маўчы, нават калі ты сапраўды хацеў утапіць яго. У яго няма сведак!

— Сапраўды ты хацеў забіць яго?—спытаў Уленшпігеля суддзя.

— Я кінуў у ваду забойцу маіх бацькоў,—сказаў Уленшпігель.—Попел майго бацькі паліў маё сэрца.

— Ён прызнаецца!—закрычаў рыбнік.—Цяпер ён такама памрэ. Дзе яго шыбеніца? Дзе кат? Чуеш, як звоняць па табе званы, забойца?

— Нашто было прызнавацца, Уленшпігель?—казалі жанчыны.—Ніхто-ж гэтага не бачыў! Цяпер ты памрэш!

А рыбнік смяяўся, падскакваў ад радасці і размахваў сваімі акрываўленымі рукамі.

— Ён памрэ, нягоднік!—гаварыў ён.—Туды яму і дарога, забойцу праклятаму! Справядліў бог! Хапайце яго, паны суддзі!

— Не, ён не памрэ,—сказаў суддзя.—Праз дзесяць год за забойства ў Фландрыі не караюць. Уленшпігель зрабіў злачынства, таму што хацеў адпомсціць за смерць сваіх бацькоў. Закон не будзе праследаваць Уленшпігеля.

— Няхай жыве закон!—закрычаў натоўп.

І, сцяўшы зубы, рыбнік заплакаў ад бяссільнай злосці.

Кат адсек яму правую руку і раздзьмуў касцёр.

І рыбнік памёр, выючы як воўк.

---

## Раздзел 21. Аб тым, як Уленшпігель і Ламе зрабіліся „марскімі гёзамі“

Уленшпігель і Ламе прышлі ў Эмдэн, дзе стаялі караблі прынца. Эскадру яны не засталі: па загаду адмірала Трэлона яна ўжо вышла ў мора. Толькі адзін карабль стаяў у гавані. Ён яшчэ не скончыў свайго снаражэння.

Бадзяючыся па наберажнай, Уленшпігель аднойчы сустрэў нейкага незнаёмага. Гэта быў важны дваранін з ваяўнічым тварам і дапытлівымі вачыма. Уленшпігель спыніўся перад ім і зняў капялюш.

— Хто ты такі?—спытаў незнаёмы.

— Я Тыль Уленшпігель, сын Клааса, спаленага за веру.

Уленшпігель засвістаў жаўранкам, і незнаёмы адказаў яму крыкам пеўня.

— Я адмірал Трэлон,—сказаў ён.—Чаго ты ад мяне хочаш?

Уленшпігель расказаў яму аб сваіх прыгодах і аддаў пяцьсот каролусаў, якія ён сабраў сярод рэфарматаў на ваенныя патрэбы.

— А што гэта за таўстун?—спытаў Трэлон, паказваючы на Ламе.

— Мой таварыш і друг,—сказаў Уленшпігель.—Абодва мы хочам біцца за вызваленне радзімы пад вашым начальствам.

— Вы смелыя хлопцы,—сказаў Трэлон.—Бяру вас на мой карабль.

Праз тры тыдні, скончыўшы снаражэнне судна, Трэлон вышаў у мора. Быў месяц люты. Пачыналіся маразы.

Карабль зайшоў у Вірынген і ўжо не здолеў выйсці назад: мора замерзла.

Зараз-жа вясёлыя канькабежцы акружылі яго. Юнакі ў аксамітных куртках, дзяўчаты ў уборах, затканых золатам, плаўна коўзаліся па лёдзе то адзін за адным, то парамі. Яны то ўцякалі, то прыбягалі назад, смяяліся, спявалі, забягалі ў балаганы, убраныя сцягамі, і закусвалі там чым прыдзецца: камбалой, яйкамі, гарачымі блінцамі. І лёд навокал рыпеў пад палазамі саначак, якія на распушчаных парусах хутка ляцелі па затоцы.

Аднойчы Уленшпігель зайшоў у маленькі шынок на набярэжнай. У шынку падышла да яго нейкая маладая, прыгожанькая служанка і запытала:

— Скажы мне, куды падзеўся твой прыгожы, таўсты прыяцель? Я часта бачыла яго разам з табой.

— Ламе?—сказаў Уленшпігель.—Ён швэндаецца па крамках, есць крутыя яйкі, капчоных вугроў і ўсё, што ні трапляе яму з ежы. Пры гэтым ён шукае сваю знікшую жонку.

— Як ён сябе адчувае? Вясёлы ці сумны?

— Сыты— вясёлы, галодны—сумны. Табе трэба ад яго што-небудзь?

— Я ведала яго жонку,—сказала служанка.—Яна пайшла за яго замуж, але потым была прысуджана да вялікага пакаяння. Нядаўна яна даведалася, што яе муж зрабіўся ерэтыкам. Цяжка гэта было перажыць яе хрысціянскаму сэрцу. Беражы яе мужа! Ахоўвай яго ў бітвах; даглядай яго, калі ён будзе паранены. Яна загадала мне папрасіць цябе аб гэтым.

— Ламе мой друг,—сказаў Уленшпігель.

— Ах,—сказала яна,—чаму вы не вяртаецеся да ўлоння маткі нашай, каталіцкай царквы?

— Яна з'ядае сваіх дзяцей,—сказаў Уленшпігель і вышаў з шынка.

У другі раз, калі Уленшпігель зноў зайшоў закусіць, прыгожанькая служанка цяжка ўздыхнула і прамармытала:

— Бедны Ламе! Бедны Уленшпігель!

— Аб чым ты ўздыхаеш?—запытаў ён.

— О, нашто вы зрабіліся ерэтыкамі?—сказала яна.— Не будзь гэтага, вы трапілі-б у рай. Ды і ў гэтым жыцці я выратавала-б вас ад пагібелі.

Яна падышла да дзвярэй і прыслухалася.

— Што ты слухаеш?—спытаў Уленшпігель.—Як снег ідзе?

— Не.

— Як вецер вые?

— Не,—паўтарыла яна.

— Можа быць, маракі расшумеліся на вуліцы?

— Смерць надыходзіць,—сказала яна.

— Смерць?!—спытаў Уленшпігель.—Што ты хочаш сказаць?

— Яны ўжо блізка,—сказала яна.

— Хто блізка?

— Салдаты Сімонен-Боля. Яны гатовы напасці на вас ва ўсякую хвіліну. Таму тут і ўхажваюць за вамі, што хочуць напасці на вас знянацку. Ах, чаму я так позна даведалася аб гэтым!

— Не плач,—сказаў Уленшпігель. — Не выходзь з шынка.

— Не выдавай мяне!—сказала яна.

Уленшпігель аббег усе шынкі і папярэдзіў маракоў, што рыхтуецца напад. Маракі кінуліся да карабля. Хутка карабль быў гатоў да бою.

— Бачыш ты гэтую жанчыну ў чорнай сукенцы з чырвонай вышыўкай?—спытаў Уленшпігель у Ламе.—Яна стаіць на набярэжнай і хавае твар у фальбонкі свайго белага чэпчыка.

— Адчапіся,—сказаў Ламе,—я спаць хачу!

Ён закруціўся ў плашч і лёг на палубе. Між тым жанчына пабегла да карабля і падала Уленшпігелю нейкую баначку.

— Гэта гаючая мазь,—сказала яна.—Вазьмі яе. Яна згадзіцца табе і твайму другу.

Пачуўшы яе голас, Ламе ўскочыў на ногі.

— Жонка! Жонка мая!—закрычаў ён і хацеў саскочыць на лёд.

— Так, так, твая верная жонка!—адказала яна і кінулася к берагу.

Нейкі салдат схапіў Ламе за плашч і ўтрымаў яго на палубе. Ламе біўся, крычаў, плакаў, але салдат не адпускаў яго.

— Цябе павесяць, калі ты ўцячэш,—гаварыў ён.

— Жонка мая, жонка мая!—крычаў Ламе.—Калі яна бога любіць больш, чым уласнага мужа, дык нашто-ж яна паказваецца мне на вочы! А калі яна мяне любіць, дык нашто ўцякае, нягодніца?

Між тым салдаты Сімонен-Боля паказаліся на беразе. Яны прывезлі з сабой гарматы і ўзяліся страляць цяжкімі ядрамі.

Аднак Трэлон адбіў атаку. Непрыяцельскія ядры разбілі ўвесь лёд—і цяпер да карабля падыйсці было вельмі цяжка.

Пад вечар пайшоў цёплы дождж, а ўночы наляцеў заходні вецер. Мора хвалявалася пад лёдам. Лёд трашчэў і ламаўся. Вялізныя крыгі налязалі адна на адну, сутыкаліся і з сілай білі аб карабль. Заставацца на лёдзе зрабілася небяспечна. На світанні Трэлон загадаў паставіць парусы і, як толькі разышоўся туман, выплыў у адкрытае мора.

---

## Раздзел 22. Аб тым, як быў выкрыты Іос Дамап, чорны д'ябал

Надышоў месяц студзень. Ударылі маразы. Дрэвы стаялі голыя, нерухомыя, засыпаныя снегам. Усюды віднеліся сляды кацiных лап: гэта кошкі палявалі на вераб'ёў. Чорны дым узнімаўся над дахамі. Зімовая цішыня запанавала ў Даме.

Раптам у гэтай цішыні пачуліся гукі ражкоў. Па вуліцы прабег гарадскі скараход з бубянцамі на поясе.

— Вось едзе пан вярхоўны суддзя горада Даме! — крычаў ён.

Неле і Катліна выйшлі на вуліцу. У воддалі на высокім кані ехаў чалавек у чорным аксамітным плашчы, абшытым собалем. На ім быў шыты золатам камзол і мяккія боты, падбітыя футрай. Гэта быў вярхоўны суддзя горада Даме.

Услед за ім ехала світа. Паны былі раскошна апрануты, і плашчы іх былі ўпрыгожаны футрай таксама, як у вярхоўнага суддзі. Даўгія стравусавыя пёры калыхаліся над капелюшамі.

Бліжэй за ўсіх да вярхоўнага суддзі ехаў кавалер у зялёным камзоле, у чорным аксамітным плашчы і чорным капелюшы з даўгімі пёрамі. Нос у яго быў кручкаваты, нібы ў ястраба, твар бледны і брузглівы. Ён размаўляў з вярхоўным суддзёй і здаваўся яго блізкім прыяцелем.

Калі світа праязджала паўз вокны, Катліна раптам ускрыкнула і кінулася насустрач да бледнага кавалера. Яна схапіла за аброць яго каня і закрычала:

— Ганс! Ганс! Я не ведала, што ты прыедзеш! Які ты

прыгожы ў сваім аксамітным камзоле? Ці прынёс ты мне семсот餘 каролусаў? Чаму ты не крычыш па-арлінаму?

Вярхоўны суддзя супыніўся.

— Што трэба ад мяне гэтай жабрачцы?—спытаў бледны кавалер.

Ён крануў свайго каня, але Катліна моцна трымала яго за аброць.

— О, не пакідай мяне!—закрычала яна.—Успомні свае абяцанні! Я так доўга чакала цябе, любы мой!

— Ідзі прэч!—сказаў кавалер.

Ён прышпорыў свайго каня, і Катліна, выпусціўшы аброць, павалілася на зямлю. Конь ударыў яе капытом і разбіў ёй галаву да крыві.

— Сударь, вы ведаеце гэтую жанчыну?—запытаў вярхоўны суддзя.

— Не, не ведаю,—адказаў кавалер.—Мабыць, гэта якая-небудзь вар'ятка.

— Калі яна вар'ятка, то я не вар'ятка!—сказала Неле, выходзячы наперад.—Пан вярхоўны суддзя, гэты чалавек ведаў Катліну. Ён забіў нашага сабаку і ўкраў семсот каролусаў, якія належылі Клаасу, беднаму пакутніку.

— Ганс, павяліцель мой!—плакала акрываўленая Катліна.—Чаму ты зрабіўся такі жорсткі? Успомні тыя часы, калі ты забіў на грэблі свайго таварыша. Тады ты быў дабрэйшым са мной.

— Хто гэты забіты?—спытаў вярхоўны суддзя.

— Не ведаю,—адказаў кавалер,—але якая нам справа да гэтай жабрачкі! Едзем!

Між тым сабраўся народ. Гаражане і сяляне абкружылі Катліну.

— Правасуддзе, пан вярхоўны суддзя, правасуддзе!—крычалі яны.

— Раскажы, што ты ведаеш,—сказаў вярхоўны суддзя, звяртаючыся да Неле.

— Гэты чалавек, што едзе побач з вамі,—сказала Неле,—шмат разоў прыходзіў да Катліны і выдаваў сябе за д'ябала, яе павяліцеля. Ён выманьваў у яе грошы і ўсяляк ашукваў няшчасную. Разам з адным сваім прыя-

целем ён украў у нас семсот каролусаў. Потым ён забіў прыяцеля і забраў сабе ўсе грошы.

— Гэта хлусня!—сказаў коннік.

— О, не,—адказала Неле.—Усе бачаць, як ты збялеў ад страху. Скажы, чаму больш не свіціцца твой твар? Хіба ты ўжо не націраеш яго сваёй валшэбнай маззю? Гэта ты давёў да смерці бедную Саоткін! Праз цябе зрабіўся жабраком сын яе Уленшпігель! Цябе спаляць на кастры, вядзьмар пракляты!

— О Ганс,—гаварыла Катліна,—ты абяцаў узяць мяне з сабой на шабаш. Чаму ты не прынёс свайго цудоўнага зелля?

— Маўчы, праклятая ведзьма!—сказаў коннік.—Ведаць не ведаю, аб чым ты там мармычаш!

— А хто крычаў арлом?—казала далей Неле.—Хто прывёў з сабой свайго друга Гільберта? А добра я яго тады падрапала!

— Неле злая,—гаварыла Катліна,—не слухай яе, Ганс, любы мой. Гэта праўда, што Гільберт быў благі. Але яго ўжо няма ў жывых. Чарвякі даўно яго з'елі.

— Правасуддзе, пан вярхоўны суддзя, правасуддзе!—крычаў народ.

— Панове,—сказаў вярхоўны суддзя дваранам.—З прычыны абвінавачвання ў забойстве і, асабліва, у чараўніцтве, я вымушан затрымаць пана Іоса Дамана, не гледзячы на яго дваранскія прывілеі. Пан Іос, дазвольце мне вашу шпагу!

— Пан вярхоўны суддзя,—ганарліва заявіў Іос Даман.—Вы парушаеце законы Фландрыі. Без суда вы не маеце права арыштаваць двараніна. Панове, прашу вас, абараніце мяне.

Некаторыя з дваран агалілі шпагі.

— Панове,—сказаў вярхоўны суддзя,—іменем караля загадваю вам укласці вашы шпагі ў ножны. Інакш вы будзеце асуджаны, як мяцежнікі.

Дваране паслухаліся.

— Правасуддзе, пан вярхоўны суддзя, правасуддзе!—крычаў народ.—Няхай ён аддасць сваю шпагу!

Даману прышлося злезці з каня і перадаць суддзі шпагу. Зараз-жа да яго падыйшлі два сержанты і адвялі злачынцу ў турму.

На наступны дзень вярхоўны суддзя і яго памочнікі пайшлі на грэблю шукаць магілу забітага.

Даведаўшыся аб гэтым, Неле сказала Катліне:

— Ганс загадаў табе прынесці руку Гільберта. Сёння ўвечары ён прыдзе да нас і прынясе семсот каролусаў.

Катліна ўзяла нож і пайшла на грэблю. Неле, суддзя і яго памочнікі пайшлі следам за ёй.

Узлезшы на насып, Катліна стала на калені і тройчы крыкнула, заклікаючы добрага духа. Потым яна ўзяла ў Неле рыдлёўку, перахрысціла яе тры разы і высекла на снягу абрысы труны.

— Адыйдзі, злы дэман, ахоўнік трупаў!—голасна сказала яна і абвяла труну вялікім кругам.

Потым яна пачала заклінаць забітага:

— Дарагі д'ябал Гільберт! Ганс, мой уладар і павяліцель, загадаў мне адрэзаць тваю правую руку. Я павінна яго слухацца. Не злуйся на мяне за тое, што я парушаю спакой тваёй магілы. Даруй мне дзеля бога і святых яго мучанікаў.

Пасля гэтых слоў Катліна разгрэбла снег, разбіла рыдлёўкай мёрзлы дзёран і адкапала цела забітага. Яно ляжала ў пяску і таму вельмі добра захавалася. Толькі твар яго быў ненатуральна белы, нібы вапна. Забіты быў у шэрым камзоле і ў такім-жа плашчы. Камзол яго быў заліты крывёй. Проста пад сэрцам, усаджаны да самай рукаяткі, у целе забітага тырчэў шырокі кінжал.

Катліна адрэзала ў нябожчыка правую руку і паклала яе ў торбу. Пасля гэтага суддзя загадаў зняць з нябожчыка адзенне і ўзяць з магілы кінжал і шпагу.

— Гэта таксама Ганс загадаў?—спытала Катліна.

— Так,—сказаў вярхоўны суддзя.

Калі цела было распранута, усе ўбачылі, што яно не згніло, але высахла і зрабілася як дрэва. Яго зноў засыпалі пяском і ўзяўшы з сабой адзенне, пайшлі ў горад.

Праходзячы паўз турмы, вярхоўны суддзя сказаў Катліне:

— Ідзі туды. Ганс чакае цябе ў гэтым доме.

Неле хацела ўтрымаць вар'ятку, але тая закрычала:

— Пайду да Ганса, майго ўладара!

І радасна пабегла ў вароты турмы. І вароты з цяжкім грукатам зачыніліся за ёй.

---

## Раздзел 23. Аб тым, як катавалі Катліну і яе павяліцеля

На наступны дзень пачалася адліга—снег растаў, і лугі заліло вадой. Лавы з дзёрну пад судовай ліпай стаялі адталыя і мокрыя. Судовае паседжанне пачалося пад спецыяльнай драўлянай павеццю. Густы натоўп народу акружыў яго з усіх бакоў.

Прывялі абвінавачваемых. Іос Даман быў у дваранскай вопратцы. Рукі яго былі вольныя. У Катліны-ж рукі былі звязаны, і вопратка на ёй была турэмная.

Іос Даман заявіў, што ён забіў свайго прыяцеля Гільберта шпагай на паядынку.

— Ён заколаты кінжалам,—сказалі суддзі.

— Ён ляжаў на зямлі і доўга не паміраў,—сказаў Іос Даман.—Тады я злітаваўся над ім і прыкалоў кінжалам. Але ўсё гэта было больш за дзесяць гадоў назад. За такія злачынствы ў Фландрыі праз дзесяць гадоў не караюць.

— Ты—чараўнік?—спытаў суддзя.

— Не, я звычайны чалавек,—сказаў Іос Даман.

Пачалі допыт Катліны. Але яна з захапленнем глядзела на свайго павяліцеля і не адказвала ні слова.

— Ёй няма ў чым прызнавацца, пан суддзя,—сказала Неле.—Яна-ж не чараўніца, а вар'ятка.

— Каго мы абвінавачваем у чараўніцтве?—сказаў суддзя.—Таго, хто займаецца рознымі чартоўскімі справамі. Іос Даман прыносіў Катліне валшэбную мазь і абяцаў узяць яе з сабой на шабаш. Апрача таго, ён рабіў так, што твар яго свіціўся. Катліна-ж слухала яго ва ўсім: яна лічыла яго сваім павяліцелем, націралася яго цудоўнай

маззю, аддавала яму свае грошы. На падставе ўсяго гэтага лічу, што абвінавачваемыя павінны быць аддадзены на катаванне.

Старшыні маўчалі. Яны думалі, што Катліна не заслугоўвае катавання.

— Праўда,—сказаў суддзя,—гэта жанчына нікога не забіла і нікому не зрабіла шкоды. Але яна, безумоўна, зрабіла-б гэта, калі-б таго патрабаваў яе павяліцель. Яна-б магла наганяць хваробы на жывёл, псаваць масла ў маслабойцы, есці чалавечае мяса, забіваць бязвінных дзяцей і рабіць мноства іншых агідных спраў. Я патрабую, каб Іос Даман і Катліна былі аддадзены на катаванне.

І суддзі вырашылі катаваць у пятніцу, праз два дні.

Абвінавачваемых зноў адвялі ў турму. Каб не даваць ім спаць, да кожнага з іх было прыстаўлена па два вартаўнікі. Аднак Катліну вартаўнікі не чапалі і далі ёй выспацца. Што-ж да Іоса Дамана, то яго моцна білі, як толькі ён заплюшчваў вочы.

Яны галадалі ўсю сераду і ўвесь чацверг. У чацверг увечары ім прынеслі салёнага мяса і кубак салёнай вады з селітрай. У пятніцу раніцой зняволеныя крычалі ад смагі. Тады іх павялі на катаванне.

Іх пасадзілі адно супроць аднаго і прывязалі да лавы вузлаватымі вяроўкамі. Іос Даман пачаў засынаць. Варта накінулася на яго і моцна збіла.

— Не біце яго, панове!—гаварыла Катліна.—Ён-жа зрабіў толькі адно злачынства—забіў Гільберта. Але-ж гэта было дзесяць год назад. Я хачу піць, і ён таксама. Дайце яму спачатку. Вады! Вады! Піць!

— Здохні, ведзьма агідная!—сказаў Іос.—Кіньце яе ў агонь, паны суддзі! Піць!

— І так, ты ні ў чым не хочаш прызнавацца?—спыталі суддзі.

— Няма ў чым мне прызнавацца,—сказаў Іос.—Вы ведаеце ўсё.

— А ты, жанчына?

— Вось яна, магільнікава каламажка,—сказала Катліна.—Яна вязе мяне да чыстай халаднаватай ракі. Глядзі,

Ганс, якая вада. Не, гэта не вада, а агонь. Развяжыце вяроўкі! Піць!

— Яна вар'ятка,—сказаў адзін са старшынь.—Трэба спыніць катаванне.

— Яна такая-ж вар'ятка, як я,—сказаў Іос Даман.—Колькі ты не прыкідвайся вар'яткай, не мінуць табе кастра, ведзьма праклятая!

— Ты чараўнік?—зноў спыталі яго суддзі.

— Не,—адказаў ён.

— Што гэта за цёмная пляма ў цябе на плячы? Хіба гэта не знак д'ябла?

— Гэта радзімая пляма. Яна ў мяне з дзіцячых год.

— Зараз мы гэта ўбачым,—сказалі суддзі.

Кат прынёс доўгую іголку і ўваткнуў яе ў пляму. Крыві не было. Суддзі збялелі.

— Ён д'ябал!—сказалі яны.—Вось пэўны доказ.

— Так, ён д'ябал,—сказала Катліна,—але ён добры д'ябал. Святы Якаў, яго павяліцель, выпусціў яго з пекла.

— Сціхні, ведзьма, ты губіш мяне!—сказаў Іос Даман.—Паны суддзі, паглядзіце на мяне ўважліва. Хіба я падобны да д'ябла? У мяне такое-ж цела, як у вас, і рукі і ногі такія-ж. Кат, скінь з мяне боты!

Кат, бледны ад страху, скінуў з яго боты.

— Паглядзіце,—сказаў Іос Даман,—хіба гэта казліныя капыты, якія бываюць у д'ябла? Не, гэта звычайныя чалавечыя ногі! Ва ўсім вінавата гэта жанчына. Гэта яна сама ўкрала семсот каролусаў і забіла сабаку. Паколькі грошы павінны былі перайсці да імператара, выходзіць, што гэтая жанчына аграбіла самаго імператара.

— Што ты скажаш у сваю абарону?—спытаў суддзя ў Катліны.

Але Катліна не адрываючыся, глядзела на Іоса Дамана і ціха мармытала:

— Позна ўжо! Хутка ты закрычыш па-арлінаму! У мяне рука Гільбера, Ганс, мой павяліцель!

— Піць! Піць!—раптам закрычала яна.—Прыміце агонь! Прыміце агонь!

І яна страціла прытомнасць.

— Развяжыце яе,—сказаў суддзя.—Дайце ёй напіцца.

Катліне далі шклянку халоднай вады, і яна з прагнасцю выпіла ўсю ваду да кроплі. Ёй далі яшчэ шклянку, і яна пабегла з ёй да Іоса Дамана. Але кат схапіў яе за руку і вырваў шклянку. Катліна паваліліся на падлогу і заснула.

— Я таксама хачу піць,—шалёна закрычаў Іос,—чаму вы не даеце мне вады? Я пераб'ю вас, мужыччо праклятае! Я—дваранін! Не чапайце мяне! Піць!

— Адвядзіце яго ў турму,—сказаў суддзя.—Не давайце яму піць і спаць, пакуль ён не прызнаецца ў сваім чараўніцтве.

Іоса Дамана адвялі ў турму. Усю ноч цягнулася катаванне. І, не гледзячы на свае пакуты, Іос Даман ні ў чым не прызнаўся.

---

## Раздзел 24. Аб тым, як Іос Даман і Катліна скончылі сваё існаванне

Надышла вясна. Ліпа правасуддзя пакрылася маладымі лісточкамі. Зноў загуў гарадскі звон, і суддзі паселі на зялёныя лавы. Народ сабраўся навокал ліпы. Неле была выклікана на суд, як сведка.

Іос Даман быў бледны ад заўсёдашняй смагі і бяссоння. Катліна ад слабасці не магла стаяць на нагах. Яна паказвала рукой на сонца і паўтарала:

— Згасіце агонь! Галава гарыць!

Дваране, сябры і знаёмыя Іоса Дамана, стаялі тут-жа. Яны былі пакліканы як сведкі.

— Дзяўчына Неле,—сказаў суддзя,—знайшла ў святочнай спадніцы сваёй маткі, у маленькай зашытай кішэньцы, запіску Іоса Дамана. У сумцы забітага Гільберта Рэйвіша я знайшоў другое пісьмо, напісанае на пергаменце. Я захаваў гэтыя пісьмы, каб прачытаць іх на паседжанні суда. Спадзяюся, што яны дапамогуць нам апраўдаць ці абвінаваціць Іоса Дамана так, як гэта належыць па закону і справядлівасці. Вось пергамент, знойдзены ў сумцы забітага. Я не чапаў яго і не ведаю, ці можна яго прачытаць.

Суддзя паклаў на стол скрутак пергамента, які зліпся ад часу. Старшыні спрабавалі разгарнуць яго, але пергамент не разгортваўся. Суд прышоў у замяшанне. Іос Даман злосна засмяяўся.

Адзін са старшынь сказаў:

— Пакладзём пергамент у ваду, а потым высушым яго на агні. Тады ён разгорнецца.

Прынеслі ваду. Кат расклаў вялікі касцёр. Блакітны дым падняўся да неба праз зялёныя галіны ліп правасуддзя.

— Не мачыце пісьма,—сказаў другі старшыня.—Калі яно напісана растворам нашатыра, вы змыеце ўсе літары.

— Не,—сказаў лекар,—літары не змыюцца. Вада толькі размочыць пергамент.

Сапраўды, пергамент у вадзе размок, і яго лёгка разгарнулі.

— Цяпер патрымаем яго над агнём,—сказаў лекар.

— Пан лекар гаворыць правільна,—сказала Неле.— Глядзіце, як збялеў забойца. Ногі яго дрыжаць ад страху.

— Маўчы ты, маленькая чартоўка!—сказаў Іос Даман.— Ты хочаш смерці двараніна, але гэта табе не ўдасца! Пергамент згніў: ён больш за пятнаццаць год праляжаў у зямлі.

— Не, пергамент не згніў,—сказаў суддзя.—Сумка забітага была падбіта шоўкам, а шоўк у зямлі не гніе. Чарвякі не дабраліся да пергамента.

Пачалі падаграваць пергамент на агні.

— Вось ужо відаць літары,—сказала Неле.—Пан суддзя, загадайце чытаць пісьмо.

У гэту хвіліну Іос Даман падскочыў да лекара і хацеў выхапіць у яго пергамент. Але Неле схапіла яго за руку і закрычала:

— Ты не кранеш гэта пісьмо, забойца! У ім напісаны твой смяротны прысуд! Толькі цяпер пачаліся твае пакуты, мы-ж больш за пятнаццаць год пакутуем праз цябе, пракляты! Чытайце, паны суддзі!

— Чытайце!—крычалі жанчыны.—Праўду гаворыць Неле. Чытайце, панове суддзі!

І пісец прачытаў:

«Гільберту, сыну Вілема Рэйвіша, кавалеру, Іос Даман, кавалер, шле прывітанне.

«Дарагі дружа, не прагульвай тваіх грошай у карты, косці і іншыя гульні. Я навучу цябе, як можна выйграць напэўна. Зробімся чарцямі, будзем ашукваць жанчын і дзяўчат і адбіраць у іх грошы. У Германіі я зарабіў гэтым рамяством пяць тысяч рыксдалераў. Жанчыны—дурніцы:

яны гатовы аддаць нам апошняе. Каб зрабіцца падобным да д'ябла, натры свой твар фосфарам: ён свіціцца, калі вільготны. Праўда, пах у яго непрыемны, але жанчыны падумаюць, што гэта пах пекла. Аб сваім прыходзе паведамляй крыкам арла.

«Хутка мы пойдзем да Катліны. У яе ёсць дачка Неле, прывабная дзяўчынка. Можаш лічыць яе тваёй. Яе маці аддала мне ўсё, што мела: дваццаць тры залатых каролусы. Але яна хавае грошы, якія засталіся ад Клааса, ерэтыка, спаленага ў Даме: семсот каролусаў, якія па закону належаць канфіскацыі. Але кароль Філіп не здолее накласці сваю лапу на гэтыя грошыкі. Іх месца—у маім кашальку. Катліна пакажа мне, дзе схаваны скарб, і я падзялюся з табой. Я атрымаю тры чвэрткі, ты атрымаеш астатняе.

«Яшчэ адна парада: нікому не кажы, што цябе завуць Рэйвіш. Калі жанчыну схопяць, яна, не ведаючы нас, не зможа нас выдаць. Такім чынам, за работу, дружа мой. Шчасце ўсміхаецца маладым людзям, як любіў гаварыць Карл V, памёршы імператар».

— Вось якое пісьмо,—сказаў пісец, скончыўшы чытаць.—Яно падпісана: «Іос Даман, кавалер».

— Смерць забойцу!—закрычаў народ.—У агонь чараўніка праклятага! На шыбеніцу злодзея!

— Не крычыце!—сказаў суддзя.—Мы павінны строга і бесстаронна разгледзець справу гэтага чалавека. Слухайце, старшыні, я прачытаю другое пісьмо, знойдзенае ў святочнай спадніцы Катліны:

«Любая ведзьмачка! Вось рацэпт мазі, які я нядаўна даведаўся ад самой жонкі Люцыфера. З дапамогай гэтай мазі ты зможаш пераносіцца на сонца, месяц і зоры нябесныя, зможаш размаўляць з духамі і лётаць па ветры—над сёламі і гарадамі. Расцяры ў роўных частках беляну, опій, сок канапель, беладону і дурнап'ян,—і мазь будзе гатова.

«Калі ты хочаш, я вазьму цябе з сабой на шабаш. Толькі не будзь такой скупой, якой была ўчора. Чаму ты сказала, што ў цябе няма дзесяці фларынаў? Я ведаю,

што яны ў цябе ёсць. Апрача таго, я ведаю, што ты хаваеш скарб і не гаворыш мне ні слова пра гэта. Твой д'ябал Ганс».

— Смерць чараўніку!—закрычаў народ.

— Параўнайце пісьмы,—сказаў суддзя.—Ці адным почыркам яны напісаны?

Пісьмы параўналі. Яны было напісаны адным почыркам.

Тады суддзя звярнуўся да дваран і спытаў іх:

— Ці прызнаеце вы гэтага чалавека за Іоса Дамана, двараніна з горада Гента?

— Так!—сказалі яны.

— Ці ведалі вы пана Гільберта, сына Вілема Рэйвіша, двараніна?

З натоўпу выступіў адзін генцкі дваранін, па імю ван-дэр-Зікелен.

— Я ведаю Вілема Рэйвіша, двараніна,—заявіў ён.— Пятнаццаць год назад у яго знік сын дваццаці трох гадоў ад нараджэння. Гэта быў вялікі абібок і гуляка, але яму ўсё прабачалі па яго маладосці. З таго часу аб ім не было ніякіх вестак. Пакажыце мне шпагу, кінжал і сумку забітага.

Агледзеўшы гэтыя рэчы, сведка заявіў:

— На эфесах шпагі і кінжала я бачу герб рода Рэйвіша: тры срэбраныя рыбіны на блакітным полі. Той-жа герб вышыты на сумцы забітага. А гэта што за кінжал?

— Гэты кінжал быў утыркнуты ў цела нябожчыка,— сказаў суддзя.

— На ім герб Дамана,—сказаў сведка,—зубчатая вежа на срэбным полі.

— Ён кажа праўду,—сказалі іншыя сведкі,—гэта гербы Рэйвіша і Дамана.

— І так,—сказаў суддзя,—Іос Даман—чараўнік, забойца і раскрадальнік каралеўскай маёмасці.

— Вы не маеце права называць мяне чараўніком!— крыкнуў Іос Даман.—У вас няма доказаў! Я проста прыкідваўся д'яблам, і ў гэтым уся мая віна. Твар я мазаў звычайным фосфарам, а мазь, якую я даваў гэтай жан-

чыне, зусім не шкодная, а снатворная і дурманячая. Калі гэта жанчына націралася ёй, яна засынала і бачыла ў сне розную чартаўшчыну. Гэтая жанчына і ёсць сапраўдная ведзьма. Яна была ўпэўнена, што я д'ябал, і тым не менш выконвала ўсе мае патрабаванні. На касцёр яе, панове суддзі!

— Панове суддзі, не слухайце гэтага зладзюгу!—сказала Неле, абдымаючы сваю маці.—У яго толькі адно жаданне—загубіць Катліну. Ён імкнецца ўпэўніць вас, што яна чараўніца. Але бог зрабіў яе вар'яткай, і ў гэтым усё яе няшчасце. Ужо больш за пятнаццаць год пакутуе яна і душой і целам. Не губіце яе, панове суддзі!

— Неле нядобрая,—сказала Катліна.—Не слухай яе, Ганс, мой павяліцель.

— Памілуйце Катліну!—крычаў народ.

Суд прысудзіў пазбавіць Іоса Дамана дваранства і спаліць яго на павольным агні. Кара адбылася на плошчы перад ратушай на наступны дзень. Іос Даман памёр, праклінаючы Катліну, суддзяў і госпада бога.

Катліну вырашылі выпрабаваць вадой у Бругскім канале. Калі яна не будзе тануць, то яе спаляць як ведзьму; калі-ж яна патоне, то будзе апраўдана і пахавана ў царкоўным садзе.

На наступны дзень Катліну апранулі ў чорную палатняную кашулю, далі ёй у рукі васковую свечку і павялі на выпрабаванне. Перад ёй са спевамі пахавальных малітваў ішлі канонік сабора багамацеры, яго вікарыі і царкоўны служка з вялікім крыжам у руках. Ззаду ішлі суддзя горада Даме, старшыні, пісцы, стражнікі, профас і кат з двума сваімі памочнікамі.

Катліна была паслухмянай, як ягнё. Нічога не падазраючы, яна ішла наперад і мармытала:

— Згасіце агонь! Галава гарыць!

— Няхай мяне кінуць разам з ёй!—крычала Неле, але жанчыны моцна трымалі яе і не пускалі да маці.

Вялізны натоўп народу сабраўся на беразе канала. Рэзкі вецер дзьмуў з мора. Ішоў дробны град. Каля самага берагу стаяла вялікая барка. Катліну прымусілі

спусціцца ў барку; кат са сваімі памочнікамі пайшлі за ёй. Жанчыны плакалі і туліліся адна да адной. Мужчыны голасна наракалі.

Вось профас узмахнуў «жэзлам правасуддзя». Кат падняў Катліну і кінуў яе ў ваду.

— Ганс! Ганс! На дапамогу!—паспела крыкнуць яна і зараз-жа пайшла да дна.

— Яна не ведзьма!—закрычаў народ.

Зараз-жа некалькі чалавек кінуліся ў ваду і выцягнулі Катліну. Яна была ў непрытомнасці. Яе аднеслі ў шынок і паклалі каля агню. Катліна апрытомнела і, ляскаючы ад холаду зубамі, прамовіла:

— Ганс, дай мне твой шарсцяны плашч!

І зноў страціла прытомнасць. На трэці дзень яна памерла ад гарачкі і была пахавана ў царкоўным садзе.

---

## Раздзел 25. Першыя перамогі

Нарэшце шчасце ўсміхнулася гёзам. Яны ўзялі Брыль, потым Харкум і, нарэшце, Монс, які праславіў імя Гітуа-дэ-Шамона, слаўнага французскага гугенота. У графа Людвіга Насаускага ў гэтым горадзе было многа сяброў. Яны адчынілі яму гарадскія вароты і спусцілі пад'ёмны мост. Але конніца гёзаў затрымалася ў суседнім лесе. Яшчэ хвіліна прамаруджання—і грамадзяне паднімуць мост. Тады Людвіг Насаускі сам ускочыў на каня і разам са сваімі сябрамі паімчаўся да горада. Мост пачаў ужо паднімацца. І вось, у апошні момант Гітуа-дэ-Шамон прышпорыў свайго каня і, нібы птушка, узляцеў на мост, які пачаў ужо паднімацца. Мост апусціўся, падаспела конніца, і горад быў узяты.

Караблі гёзаў насіліся па моры і навадзілі жах на іспанцаў. Гэта быў незвычайны флот. На мачтах караблёў развіваліся вышытыя шоўкам і срэбрам каталіцкія харугвы. Салдаты хадзілі ў мітрах, у шоўкавых расах, з царкоўнымі посахамі ў руках. Гэта былі суровыя, ваяўнічыя людзі, прывыкшыя да паходаў і баёў. І дзіўна было бачыць на іх гэтыя фантастычныя царкоўныя аблачэнні.

У манастыроў адбіралі ўсё, што магло згадзіцца на вайне: грошы, адзенне, харчы. Грошы ішлі на ваенныя выдаткі. Адзенне і прыпасы гёзы пераносілі на свае караблі.

Ламе Гудзак залазіў у манастырскія кладоўні і набіваў мяхі каўбасамі, шынкамі і віннымі бутэлькамі. На карабль ён вяртаўся, абвешаны гусямі, індычкамі, каплунамі.



куранятамі, і пры гэтым вёў за сабой на вяроўцы некалькі манастырскіх цялят і свіней.

— Так павінна быць на вайне!—урачыста абвяшчаў ён.

Уленшпігель служыў кананірам. Ён вельмі добра вывучыў сваю справу. Трэба было бачыць, як ён наводзіў сваю гармату на іспанскі карабль, як прыцэльваўся, як разбіваў непрыяцельскія барты і збіваў мачты.

На капелюшы ён насіў срэбраны поўмесяц з надпісам: «Лепш служыць Турку, чым Папе». І ніхто ніколі не бачыў яго сумным і панурым. Песні і жарты не сыходзілі з яго вуснаў.

Аднойчы, у дзень узяцця Харкума, калі карабль стаяў на прычале, нейкая дзяўчына ўзышла на палубу і кінулася на шыю Уленшпігелю.

— Тыль,—гаварыла яна рыдаючы,—не гані мяне, любы мой! Яны забілі Катліну. Толькі ты адзін у мяне застаўся.

І Неле расказала Уленшпігелю, як памерла Катліна.

і, гледзячы адзін на аднаго, яны моўчкі плакалі, успамінаючы аб няшчаснай пакутніцы.

Гёзы абкружылі іх.

— Хто ты, дзяўчына?—пыталі яны.

— Я Неле, яго нявеста. Я прыехала да яго з Фландрыі.

— Ты жэнішся, Уленшпігель?—пыталіся яны.

— Так, я жанюся,—адказваў Уленшпігель.

Да іх падышоў Трэлон.

— Ты жэнішся, маленькі фламандзец?—спытаў ён.— Значыць, ты пакінеш нас, ці-ж не так?

— Не, судар,—сказаў Уленшпігель.—Я застануся на караблі.

— А ты, дзяўчына, што будзеш рабіць без мужа?

— Калі дазволіце, судар, я ў вас буду дудачнікам,— сказала Неле.

— Добра,—сказаў Трэлон.—Ты малайчына! Вось табе два фларыны на вяселле.

Ламе смяяўся ад радасці і гаварыў:

— У мяне ёсць яшчэ тры фларыны. Хадзем у «Залаты Грабеньчык», згуляем вяселле. Я плачу за ўсіх. Няхай жывуць гёзы!

З'явіўся свяшчэннік і абвянчаў Уленшпігеля і Неле. Увечары ў «Залатым Грабеньчыку» была вялікая ўрачыстасць. Ламе еў за дзесяцёх і весяліўся. І гёзы прынеслі ў падарунак маладой ваенную дудку і новую салдацкую вопратку.

Праз некалькі дзён караблі гёзаў вышлі ў адкрытае мора. Зноў пачалося паляванне на іспанскія судны. Але іспанцы зрабіліся асцярожней: здабыча ўсё больш рэдка траплялa гёзам. Павольна і аднастайна цягнуліся дні.

Аднойчы, у жніўні, Уленшпігель і Неле сядзелі на палубе і грэліся на сонейку. Уверсе на марсе сядзеў дазорны і пасвістваў, гледзячы па баках.

— Нічога не відаць?—пытаў яго Трэлон.

— Нічога,—адказваў той.

Ламе панура сядзеў убаку і ўздыхаў.

— Чаму ты такі сумны, Ламе?—спытала Неле.

— Ты ўсё худзееш, сын мой!—сказаў Уленшпігель.

— І худзею, і сумую,—адказаў Ламе.—Вам добра, вы знайшлі адзін аднаго. А як мне! Мая жонка, мабыць, смяецца з мяне. Але я не магу без яе жыць. Толькі яна адна можа мяне суцешыць.

— Ці кавалачак смажаніны, праўда?—сказаў Уленшпігель.

— Так,—адказаў Ламе.—Але-ж мяса даўно ўжо вышла на нашым караблі. На каралеўскіх караблях чатыры разы ў тыдзень даюць ялавічыну і тры разы рыбу. Усё ў іх ёсць: і піва, і хлеб, і пахлёбка, і масла, і сыр, і гарчыца, і боб, і гарох, і крупы, і сала, і дровы, і вугаль. А ў нас? Адны селядцы ды пракісшае піва. Дзе вы, нашы бедныя радасці?

— Зараз я табе скажу, дзе нашы радасці,—адказаў Уленшпігель.—У Парыжы ў ноч святога Варфаламея каталікі выразалі дзесяць тысяч рэфарматаў. Сам кароль страляў у свой народ. Прачніся, фламандзец, бярыся за сякеру; вось дзе твае радасці! Бі іспанцаў! Бі каталікаў! Забудзь на час пра сваё абжорства! Яны навальвалі на каламажкі жывых і мёртвых, звозілі іх да ракі і скідалі ў ваду. І жывых і мёртвых—аднолькава, чуеш ты, Ламе? Дзевяць дзён была чырвонай Сена, і груганы хмарамі лёталі над горадам. Тысячы афяр патрабуюць помсты. Чуеш ты, Ламе?

— Я не скарджуся, сын мой,—сказаў Ламе, устаючы.— Для вольных сэрцаў і селядзец—рабчык, а вадкае піва— мальвазія.

Пад вечар мора пацямнела. Цяжкія хмары абклалі неба. Надышла ноч—чорная і бязрадасная. Недзе далёка чуліся раскаты грому.

І раптам у гэтай цемры, зусім блізка, з'явіліся маленькія чырвоныя аганькі. Гэта былі ліхтары дваццаці двух іспанскіх караблёў.

Уленшпігель ударыў у звон.

— Іспанцы! Іспанцы!—закрычаў ён.—Ідуць на Флісінген!

І сігнал яго зараз-жа паўтарылі на астатніх караблях.

— У імя прынца, наперад!—скамандаваў адмірал дэ-Люме.

— У імя прынца Оранскага і пана адмірала, наперад!— закрычаў віцэ-адмірал Эвон Пітэрсон Ворт.

— У імя прынца Оранскага і пана адмірала, наперад!— паўтарылі капітаны на ўсіх караблях.

Забілі барабаны, зараўлі трубы. І ўсе караблі— «Брыль», «Іоганна», «Лебедзь», «Гёз», «Вільгельм Маўклівы» і іншыя—кінуліся наўздагон за іспанцамі.

Займалася раніца—туманная і халодная. Першыя прамені сонца нясмела бліснулі на гарызонце.

Карвет Трэлона «Брыль» разам з «Іоганнай», «Лебедзем» і «Гёзам» захапілі чатыры іспанскіх караблі. Іспанцы без ніякага жалю былі выкінуты за борт. Каштоўны груз гёзы перанеслі на свае караблі. У іспанскіх суднах пассякалі мачты, абарвалі парусы і пакінулі гэтыя пакалечаныя судны ў моры на волю лёсу. Трэба было спяшацца ў пагоню за астатнімі.

Вецер дзьмуў з боку Антверпена. Парусы надзьмуваліся, быццам тлустыя шчокі манахаў. Нахіляючыся да вады бартамі, караблі хутка ляцелі наперад.

Пагоня працягвалася да Мідэльбурга. Тут пачалі сражацца. З сякерамі ў руках гёзы кінуліся на непрыяцельскія судны і сутыкнуліся з ворагам урукапашную. Палубы былі завалены трупамі, кроў цёмнымі струменямі цякла ў ваду. Берагавыя фарты пачалі страляць па караблях, але гёзы паспелі перацягнуць да сябе порах, гарматы, кулі, мяхі з мукой і падпаліць непрыяцельскія судны. Пасля гэтага яны павярнулі назад і паімчаліся да Флісінгена.

І полымя вялізнага пажару яшчэ доўга калыхалася за іх спіной.

---

# Раздзел 26. Асада Гаарлема

Узімку дон Фрэдэрык, крывавы наследнік герцага Альбы, падступіў да Гаарлема, горада свабоды. Ён прывёў з сабой трыццаць пяць атрадаў іспанцаў, дваццаць два атрады валонаў, восемнаццаць атрадаў немцаў, восемсот коннікаў і мноства гармат. Уленшпігель, Ламе і сто марскіх гёзаў заселі ў сценах Гаарлема. Іх караблі крэйсіравалі па Гаарлемскім возеры.

Гаарлем быў дрэнна ўмацаваны. Крэпасць была нікуды няварта. Сцены папсаваліся ад часу. Равы зараслі травой. Але горад парашыў абараняцца да канца. Мужчыны, жанчыны, дзеці—усе ўзяліся за работу. Адны капалі равы, другія насілі каменні, трэція рамантавалі вежы і ўмацаванні. Горад сяк-так падрыхтаваўся да абароны.

Пачалася асада. Іспанскія гарматы з дня ў дзень грамілі горад. Праз некалькі дзён у сцяне ўтварылася шырокая прабоіна. Іспанцы пайшлі на прыступ. Яны мінулі равы і падышлі ўжо да сцяны, але тут іх сустрэлі гарматы асаджаных. Ланцужныя ядры, палаючыя прасмоленыя абручы, камні, бярвенні, кіпячая смала—усё гэта ў адзін момант абрушылася на іспанцаў, і тыя, не вытрымаўшы, адступілі. Паўтары тысячы трупаў запоўнілі роў. Гаарлемскія званы абвясцілі гораду, што першы прыступ адбіты.

На другі прыступ іспанцы не адважыліся. Пачалі капаць падкоп. Але гаарлемцы загадзя дазналіся аб гэтым і павялі з крэпасці сустрэчны падкоп, крыху глыбей іспанскага. Праз некалькі дзён гаарлемцы пачулі над галавой стук рыдлёвак і чалавечыя галасы. Заклалі міну і падпалілі кнот. Чатырыста іспанцаў узляцелі ў паветра.

Іспанскі падкоп быў зруйнованы. І гаарлемскія званы зноў узвясцілі перамогу.

Кожную ноч у горад прыходзілі абозы з хлебам і порахам. Прынц Оранскі чым мог дапамагаў асаджаным. Ён рабіў гэта так умела, што іспанцы доўгі час ні аб чым не здагадваліся. Горад пакрыху ўмацоўваўся. Замест адной крэпаснай сцяны стала дзве. Жанчыны ўтварылі асобы атрад, і на чале яго стала Кенан Гаселер, якой было каля пяцідзесяці гадоў ад нараджэння. Жаночы атрад адважна біўся нароўні з мужчынамі.

Але лёс быў супроць Гаарлема. Караблі гёзаў былі разбіты на Гаарлемскім возеры. Войска Оранскага, высланае на дапамогу, таксама пацярпела няўдачу. А час ішоў. Ужо цэлых поўгода цягнулася асада: тысяча гаарлемцаў усё яшчэ трымалася супроць дзесяцітысячнага іспанскага войска.

Летам у горадзе пачаўся сапраўдны голад. Людзі ўпалі ў роспач. Вырашылі выйсці з горада: наперадзе—аркебузіры, каб прабіцца праз непрыяцельскі ланцуг, за імі жанчыны, дзеці і гарадскія службовыя асобы пад аховай астатняй пяхоты. І раптам прышло пісьмо ад іспанцаў. Дон Фрэдэрык прапаноўваў здацца. Ён абяцаў захаваць жыццё ўсім абаронцам Гаарлема. Што гэта было—ратунак ці ашуканства? Але разважаць было позна. Гаарлем здаўся.

Уленшпігель, Ламе і Неле пераапрануліся нямецкімі салдатамі і схаваліся разам з іншымі гаарлемцамі ў аўгусцінскім манастыры. Усяго іх было шэсцьсот чалавек.

— Я не чую ні шуму, ні крыкаў,—сказаў Ламе.

— Ох, жонка мая!—сказаў Ламе.—Няўжо я ніколі цябе не ўбачу? Няўжо нямецкая вопратка не выратуе нас?

Уленшпігель пакруціў галавой. Ён не верыў у ратунак.

— Сёння мы памрэм,—шапнуў Уленшпігель Ламе.

— За дзвесце сорак тысяч фларынаў горад адкупіўся ад разгрома,—сказаў Уленшпігель.—На працягу дванаццаці дзён грамадзяне павінны заплаціць сто тысяч наяўнымі, і праз тры месяцы—астатняе. Але забойствы, вядома, будуць. Чуеш, як робяць шыбеніцы?

— Ах, Тыль, якая я галодная!—сказала Неле.

— З галоднымі лягчэй справіцца,—шапнуў Уленшпігель Ламе.—Так гаворуць іспанцы.

— Якая я галодная!—паўтарыла Неле.

Манастыр быў абкружаны іспанцамі. Увечары прышлі салдаты і раздалі па аднаму хлебу на шасцёх.

— Трыста валонскіх салдат павешаны на рынку,—сказалі яны.—Хутка і да вас дойдзе чарга.

На наступны дзень увечары яны зноў прынеслі па аднаму хлебу на шасцёх.

— Адсечаны галовы чатыром знатным гаарлемцам,—сказалі яны.—Дзвесце сорак дзевяць салдат звязаны па два і кінуты ў мора. Тлустыя будуць крабы ў гэтым годзе!

Прайшоў цэлы тыдзень. Аднойчы Неле спытала Уленшпігеля:

— У мяне прамоклі ногі. Што гэта такое?

— Кроў,—сказаў Уленшпігель.

Увечары салдаты прышлі зноў з адным хлебам на шасцёх.

— Трыста салдат і дваццаць сем грамадзян вырашылі ўцячы з-пад варты,—расказвалі яны.—Усе яны злоўлены і ім адсечаны галовы. Там, дзе нехапае вяровак, звяртаюцца да сякеры.

На другі дзень кроў зноў пацякла ў манастыр. З'явіліся салдаты, але ўжо без хлеба. Яны моўчкі глядзелі на гёзаў і гаварылі між сабой:

— Тыя пяцьсот салдат, якім учора адсеклі галовы, выглядалі значна лепш, чым гэтыя. Але гэта-ж гёзы, жабракі. Ім так і належыць—паміраць з голаду.

Сапраўды, гёзы так згаладаліся, што былі падобны больш да зданяў, чым да жывых людзей.

У пяць гадзін вечара прышлі салдаты і прынеслі зняволеным хлеба, сыру і піва.

— Вось пір перад карай,—сказаў Ламе.

У дзесяць гадзін вечара вароты манастыра адчыніліся. Чатыры атрады іспанцаў стаялі на плошчы перад манастыром. Палонных пастроілі па чатыры чалавекі ў рад і павялі на шыбенічнае поле.

Вуліцы былі мокрыя ад крыві. На сценах дамоў цямнелі вялікія крывавыя плямы. Хмарамі лёталі груганы. Сонца заходзіла. На светлым небе выблісквалі першыя зоркі.

Раптам аднекуль здалёк пачуліся жаласныя стогны.

— Гэта гёзы,—сказалі іспанцы.—Яны замкнуліся ў форце Фейку. Цяпер яны паміраюць з голаду.

— Мы таксама хутка памром,—сказала Неле і заплакала.

— Попел Клааса паліць маё сэрца,—сказаў Уленшпігель.

Палонных вывелі за горад.

— Ах,—сказаў па-фламандску Ламе,—дайце мне сілы! Сілы дайце мне! Я схаплю крывавага герцага і прымушу яго глытаць усе гэтыя шыбеніцы, калоды, дыбы, пакуль ён не лопне! Я прымушу яго выпіць усю гэту кроў, якую ён праліў у нашым горадзе! І калі ён здохне, д'ябал будзе карміць яго трупамі, і так ва векі вякоў!

— Амінь,—сказаў Уленшпігель.

— Тыль, ты нічога не чуеш?—спытала Неле.

Яны прыслухаліся. У баку ад дарогі, у высокім жыце, бразнула зброя. Факелы бліснулі ў тумане. Грымнуў аглушальны залп.

— Няхай жывуць гёзы!—пачуўся крык.

І вось яны з'явіліся з усіх бакоў. З коп'ямі наперавес яны беглі па сцежцы знізу і па схіле гары спускаліся з сякерамі ў руках.

— Няхай жывуць гёзы!—закрычалі Ламе і Уленшпігель.

— Яны нясуць нам зброю,—сказала Неле.—Бяры, Ламе, бяры, любы! Няхай жывуць гёзы!

— Няхай жывуць гёзы!—крыкнулі палонныя і са зброяй у руках кінуліся на іспанцаў.

Аркебузы білі без промаху. Асветленыя факеламі, іспанцы валіліся адзін за адным.

— Няхай жывуць гёзы!—крычаў атрад збавіцеляў.

— Няхай жывуць гёзы!—крычаў Уленшпігель.—Іспанцы абкружаны! Бі іх, бі без літасці! Скончана справа! Няма жывых ніводнага. Збірай рэчы і бягом у Энкгейзен! Ці ўсе гатовы?

— Усе,—закрычалі палоннікі.—Няхай жывуць гёзы!

На ўзмор'і гёзы захапілі некалькі барак і ўцяклі ў Энкгейзен. Адтуль Уленшпігель, Ламе і Неле перабраліся на свае караблі і зноў вышлі ў адкрытае мора.

---

## Раздзел 27. Аб тым, як Ламе Гудзак зрабіўся кокам на слаўным караблі „Брыль“

Па акіяне каля вусця Шэльды, пад сонцам і пад даждЖом зімой і летам, нібы вялікія вольныя птушкі, насіліся караблі гёзаў. Фліботы, буеры, шкуны на ўсіх парусах ляцелі наперад. І на носе ў іх тырчэлі даўгія кулеўрыны, пагражаючы іспанцам сваім смертаносным агнём.

Ламе павесялеў. Часта, сабраўшы партыю паляўнічых, ён сходзіў з ёй на бераг па здабычу. Весела было глядзець, як яны вярталіся са свайго палявання. Буйную жывёлу вялі на вяроўках, а то і проста за рогі. Авечак гналі цэлым статкам. Гусей падганялі дубцамі. Курэй, куранят, каплуноў цягнулі ў мяхах і потым паднімалі з лодак баграмі.

На караблях пачыналася пірушка.

— Якая добрая падліўка,—прыгаварваў Ламе,—які цудоўны пах! Ён падымаецца да неба, і паны анёлачкі нюхаюць яго не перастаючы.

Аднойчы на гёзаў наскочыў цэлы гандлёвы флот з Лісабона. Камандзір флота не ведаў, што Флісінген ужо ўзяты гёзамі, і таму ішоў без усякіх перасцярог.

Флот зараз-жа абкружылі і загадалі караблям кінуць якары. Барабаны і дудкі далі сігнал: «На абардаж». Купцы адказалі стрэламі. Яны рашылі абараняць сваё дабро са зброяй у руках.

Тады гёзы распачалі страляніну. Іх аркебузіры, схаваўшыся каля грот-мачты за вялікімі драўлянымі шчытамі, стралялі без промаху. Купцы падалі, як мухі.

— Наперад! — закрычаў Уленшпігель. — Нас чакае багатая здабыча. Вось каштоўныя каменні, вось цукар, мускат, гваздзіка, імбір, рэалы, дукаты—слаўныя новенькія чырвонцы. Мы акупілі нашы выдаткі. На абардаж! Наперад!

Гёзы кінуліся на іспанцаў. Уленшпігель і Ламе, нібы львы, насіліся па караблях. Неле дудзіла на сваёй дудцы і хавалася за драўлянымі шчытамі. Хутка ўвесь флот быў захоплены.

Падлічылі страты. У іспанцаў была забіта тысяча чалавек, у гёзаў—трыста. Сярод гэтых трохсот быў кухар з карабля «Брыль».

— Пан капітан,—сказаў Уленшпігель Трэлону,—дазвольце мне пагутарыць з маракамі.

— Гутары,—сказаў Трэлон.

Уленшпігель вышаў наперад і сказаў:

— Пан капітан, сябры і таварышы! Сёння мы атрымалі ад іспанцаў нямала смачнай ежы і розных прысмакаў. Вось перад вамі стаіць мой друг Ламе. Ён лічыць, што наш бедны нябожчык—царства яму нябеснае—быў не дужа вялікі майстар наконт смажаніны. Давайце прызначым Ламе на яго месца. Ён накорміць нас райскай смажанінай.

— Згодны,—сказалі маракі.—Няхай Ламе будзе карабельным кокам. Дайце яму драўляны апалонік. Ён будзе разліваць ім пахлёбку, а таксама ваяваць з юнгамі, калі яны залезуць у яго кухонныя ўладанні.

— Пан капітан, сябры і таварышы,—сказаў Ламе.—Вы бачыце, я плачу ад радасці, бо зусім не заслугоўваю такога вялікага гонару. Але калі такое ўжо ваша рашэнне, то я прымаю на сябе высокае званне кухоннага прафесара на слаўным караблі «Брыль». Толькі пры гэтым прашу вас даць мне самыя вышэйшыя кухонныя правы. Я буду строга сачыць за тым, каб кожны еў сваю порцыю і не чапаў порцыі другога. І калі гэта здарыцца, я не дапушчу адбыцца такому агіднаму ўчынку па ўсёй сваёй сіле, праву і закону.

— Няхай жыве Ламе!—крычалі маракі.—І сіла, і права, і закон будуць на тваім баку!

— І яшчэ ёсць у мяне да вас адна ніжэйшая просьба,— казаў далей Ламе.—Вы бачыце, што я чалавек тлусты, вялікі і аб'ёмісты. Бруха маё вялікае, і страўнік заўсёды патрабуе ежы. Мая бедная жонка—хай зверне мне яе гасподзь бог!—заўсёды давала мне па дзве порцыі замест адной. Не адмаўляйце-ж і вы мне ў гэтай міласці.



— Брава, Ламе,—ускліи́кнулі Трэлон, Уленшпігель і ўсе астатнія маракі,—ты будзеш атрымліваць па дзве порцыі!

Тут Ламе засумаваў і сказаў:

— Бедная мая жонка! Слаўная мая красуня! Што можа суцешыць мяне, калі цябе няма са мной! Хіба што ўспаміны аб тваёй бажэственай кухні, аб тваіх цудоўных піроожных і крэмах.

— Трэба прынесці прысягу, сын мой,—сказаў Уленшпігель.—Дайце сюды вялікі драўляны апалонік і медны кацёл.

Калі прынеслі пасуду, Ламе ўзяў апалонік у правую руку, левую паклаў на кацёл і ўрачыста прамовіў наступнае:

Клянуся госпадам богам, якога заклікаю штогадзінна, клянуся захоўваць вернасць пану прынцу Оранскаму, па празванню Маўкліваму, нашаму слаўнаму палкаводцу.

«Клянуся захоўваць вернасць пану дэ-Люме, адміралу,

камандуючаму нашым благародным флотам, і пану Трэлону, віцэ-адміралу і капітану карабля «Брыль».

«Клянуся захоўваць усе правілы і звычаі вялікіх кухароў старажытнасці, што пакінулі нам цудоўныя кнігі аб вялікім кухонным майстэрстве, у якім ёсць выдатныя гравюры і малюнкі.

«Клянуся, захоўваючы ўсе гэтыя правілы гатаваць мяса, дзічыну і іншую ежу, якую пашле нам фартуна, і карміць імі вышэйназванага пана Трэлона, капітана, яго памочніка, майго друга Уленшпігеля і ўсіх вас, судоўшчыкі, боцманы, лоцманы, салдаты, кананіры, запальшчыкі, паж капітана, лекар, трубач, матросы і ўсе іншыя.

«Калі-ж мяса будзе сыраватым і птушка дрэнна падсмажыцца, калі суп будзе нятлусты, а падліўка нясмачная, калі мой абед не насыціць вас і не развесяліць ваша сэрца,—тады я адмоўлюся ад маёй благароднай пасады і па ўласнай волі пакіну мой кухонны трон.

Хай дапаможа мне гасподзь бог і ў гэтым жыцці і ў будучым!»

— Няхай жыве наш кок!—крыкнулі маракі.—Няхай жыве кароль кухні, імператар смажаніны! Па нядзелях ён будзе атрымліваць тры порцыі замест двух!

Так Ламе зрабіўся кокам на караблі «Брыль». І пакуль яго супы гаталіся ў каструлях, ён горда стаяў у дзвярах і, нібы скіпетр, трымаў у руках свой вялізны драўляны апалонік.

І кожную нядзелю ён атрымліваў тры абеды.

Калі пачыналася бітва, ён лічыў за лепшае заставацца ў сваёй падліўкавай лабараторыі. Толькі зрэдку ён падымаўся на палубу, страляў некалькі разоў і зноў бег уніз— назіраць за сваімі падліўкамі. Матросы хутка палюбілі Ламе. Але ніхто не меў права з'яўляцца да яго на кухню, бо ён тады страшэнна гневаўся і моцна біўся сваім драўляным апалонікам.

І ўсе называлі яго за гэта Ламе-Леў.

---

## Раздзел 28. Аб тым, як жыў Філіп, кароль іспанскі

А ў Іспаніі, у Эскурыяле, жыў кароль Філіп, і вечны гнятлівы смутак не пакідаў яго.

Ён маліў бога аб сусветных перамогах: ён хацеў перамагчы Англію, заваяваць Францыю, умацаваць сваю ўладу ў Нідэрландах, захапіць Мілан, Геную, Венецыю, зрабіцца ўладаром мораў і панаваць ва ўсім свеце.

І заўсёды яму было холадна. Нічога не магло яго сагрэць. Не дапамагалі ні віно, ні агонь, які заўсёды гарэў у каміне. Кароль думаў пра свайго сына, дон-Карлоса, які хацеў ехаць у Нідэрланды на змену герцагу Альбе.

«Ён хоча сам панаваць у Нідэрландах», думаў кароль, і нянавісць да сына расла ў ім з кожным годам. Але ён нікому не гаварыў пра гэта.

Прыдворныя не ведалі, каго больш баяцца—караля Філіпа ці яго сына, дон-Карлоса. Дон-Карлос сам кідаўся на слуг і біў іх да крыві. Кароль нікога не караў сам: ён лічыў за лепшае рабіць гэта праз трэціх асоб. Адна думка пра тое, што людзі пакутуюць па яго волі, давала яму невытлумачальную асалоду.

Слугі палохаліся, бачачы, з якой нянавісцю кароль і прынц глядзяць адзін на аднаго. Гаварылі, што ў Эскурыяле хутка будзе нябожчык.

Сапраўды, дон-Карлоса абвінавацілі ў здрадзе і кінулі ў турму. Ён прабаваў уцячы праз акно, але толькі параніў сабе твар прутамі кратаў. Турэмшчык падаў яму на абед вінных ягад. Дон-Карлос з'еў іх і пад вечар памёр у страшэнных пакутах.

— Кароль Філіп адслужыў урачыстую месу і загадаў пахаваць сына ў палацнай капліцы. Развітваючыся з інфантам, кароль быў пануры, як заўсёды, але не плакаў.

Зноў у Эскурыяле пацягнуліся дні—панурыя і сумныя.

Часта Філіп граў на сваім жывым клавесіне. У ім былі замкнуты каты. Галовы іх выстаўляліся з круглых дзірак, прарobленых над клавішамі. Калі кароль удараў па клавішы—даўгое астрыё ўтыкалася ў цела ката, і жывёла крычала ад болю. Але Філіп не смяяўся.

Больш за ўсё яму хацелася скончыць з Елізаветай, каралевай англійскай, і пасадзіць на яе месца Марыю Сцюарт, верную дачку каталіцкай царквы. Ён пісаў аб гэтым папе рымскаму, і папа абяцаў усяляк дапамагаць Філіпу. Але папа быў бедны, як царкоўны пацук. Абяцанкі засталіся абяцанкамі.

Тады Філіп паслаў у Англію чатырох забойцаў: спачатку двух італьянцаў, потым двух шатландцаў. Яны павінны былі закалоць каралеву Елізавету. Але забойцаў у час выкрылі, і яны скончылі свае дні на шыбеніцы.

Бачачы, што ўсе яго замыслы не ўдаюцца, Філіп яшчэ больш злаваўся.

Яму прыносілі вялікую жалезную скрынку з высокімі сценкамі. У скрынку саджалі мышэй і пацукоў. Кароль ставіў скрынку на агонь і цешыўся, назіраючы за няшчаснымі звяркамі. Пацукі кідаліся па скрынцы, вішчэлі і, нарэшце, здыхалі ў страшэнных пакутах. І кароль з прагнасцю, не адрываючыся, глядзеў на іх.

Калі кароль даведаўся аб перамогах гёзаў, ён быў ужо слабым, агідным старым. Смерць ужо грызла яго цела, і пад скурай яго гняздзіліся чарвякі. Хворы і жорсткі, ён блукаў па сваім замку і нідзе не знаходзіў супакою. І нават калі зара ўставала над зямлёй, калі сонца залівала яго замак сваім цудоўным ззяннем,—кароль быў сумны, пануры і ў сэрцы сваім не адчуваў ніякай радасці.

Так пасмяяўся лёс з гэтага бязлітаснага ката, прыгнятальніка вольных народаў.

---

## Раздзел 29. Аб тым, як быў пакараны Дырык Слосе, здраднік

Ужо ўвесь марскі бераг быў у руках гёзаў—пачынаючы з Нюпора і далей праз Остэндэ, Бланкенберге, астравы Зеландскія, вусце Шэльды, вусце Мааса, вусце Рэйна і аж да Гельдэрна. Астравы Тэсель, Фліланд, Тэрсхелінг, Амеланд, Ротум, Боркум былі вызвалены з-пад іспанскага панавання. Гёзы захапілі Дэльфт, Дордрэхт, Ротэрдам, Кампен, Своле, графства Зютфенскае. Толькі Амстэрдам, Схаонтовен і Мідэльбург былі яшчэ пад уладай праціўніка.

Такім чынам, у руках гёзаў была амаль уся Галандыя, паўночная і паўднёвая, і ўся Зеландыя. І вось краіна пры-шла ў рух: захвалявалася Фландрыя, закіпеў Брабант. Жніво паспела для сярпа. Няхай жывуць гёзы!

У снежні месяцы караблі гёзаў крэйсіравалі ў Зюйдэрзее.

Аднойчы адмірал запрасіў усіх капітанаў на свой карабль і сказаў Уленшпігелю:

— У падзяку за тваю верную службу і заслугі перад радзімай прынц прызначае цябе капітанам карабля «Брыль». Вось пергамент з тваім прызначэннем.

— Дзякую вас, пан адмірал,—адказаў Уленшпігель.— Буду капітанстваваць, наколькі сіл хопіць, і пастараюся выгнаць з Нідэрландаў усіх іспанскіх капітанаў, каб зноў наша радзіма зрабілася вольнай і незалежнай.

— Вельмі добра!—сказаў адмірал.

Пасля гэтага ён звярнуўся да ўсіх камандзіраў і заявіў:

— Паны амстэрдамцы збіраюцца асадзіць Энкгейзен. Мы павінны перашкодзіць ім у гэтай справе. Іх судны яшчэ

не вышлі з Ійскага канала. Будзем крэйсіраваць каля берагу і загародзім ім дарогу. Калі хоць адно судно высуне нос у Зюйдэрзее, біце яго без усякай літасці

— Без літасці!—адказалі камандзіры.—Няхай жывуць гёзы!

Вярнуўшыся на свой карабль, Уленшпігель сабраў на палубе ўсіх салдат і матросаў і абвясціў ім рашэнне адмірала.

— Нашы крыллі — карабельныя парусы, — сказалі матросы,—нашы рукі—абардажныя крукі. Няхай жывуць гёзы!

Флот вышаў у мора і пачаў крэйсіраваць у мілі ад Амстэрдама. Без дазволу гёзаў ніхто не мог ні выйсці з горада, ні падыйсці да яго з мора.

Пяць дзён ліў дождж. На шосты дзень неба праяснілася. Дзьмуў рэзкі, халодны вецер. Амстэрдамцы маўчалі.

— Ведаеш, сын мой,—сказаў Уленшпігель Ламе,—недарма маўчаць амстэрдамцы. Яны нешта прыдумляюць.

— Я ўжо думаў аб гэтым,—сказаў Ламе. Нездарма вада ў мяне мерзне ў бочках, каўбасы пакрыліся намаразззю, а масла зрабілася цвёрдае, як камень.

— Калі мора замерзне,—сказаў Уленшпігель,—яны падвязуць па лёдзе сваю артылерыю і разгромяць нас.

Ён паехаў на адміральскі карабль і расказаў адміралу аб сваіх апасеннях.

— Вецер дзьме з Англіі,—сказаў адмірал.—Пойдзе снег. Марозу не будзе.

Уленшпігель вярнуўся назад.

Уночы пайшоў густы снег, але потым з боку Нарвегіі наляцеў ледзяны вецер, і мора адразу замерзла. Цяпер амстэрдамцы маглі падыйсці па лёдзе і падпаліць судны. Адмірал загадаў салдатам падрыхтаваць канькі—на выпадак, калі трэба будзе біцца вакол караблёў. Кананірам было загадана падкаціць ядры да лафетаў, зарадзіць гарматы і трымаць кнаты напагатове.

Але сем дзён прайшло, і амстэрдамцы не з'явіліся. На восьмы дзень Уленшпігель загадаў выдаць салда-

там трайную порцыю віна, каб людзі як належыць сагрэліся перад бітвай.

— Ах,—сказаў Ламе,—у нас няма нічога, апрача сухароў і кіслага піва.

— Няхай жывуць гёзы!—закрычалі салдаты.—Хопіць перад бітвай і поснай папойкі.

— Не хутка будзе гэта бітва,—сказаў Ламе.—Амстэрдамцы спачатку збяруцца каля каміна, вып'юць па некалькі кубкаў віна, прыгатаванага з мадэрскім цукрам,—хай пашле яго і нам гасподзь бог!—потым пачнуць разважаць і вырашаць да поўначы, што нядрэнна сабрацца заўтра і абмеркаваць пытанне—нападаць на нас ці не нападаць на гэтым тыдні. Назаўтра яны зноў збяруцца, зноў вып'юць віна з мадэрскім цукрам—хай пашле яго і нам гасподзь бог!—і вырашаць, што спачатку трэба высветліць—вытрымае лёд ці не вытрымае, калі паслаць да караблёў атрад артылерыі. Іх мудрацы вымераюць таўшчыню лёду і складуць на пергаменце падрабязнае заключэнне. Прачытаўшы яго, амстэрдамцы даведаюцца, што лёд ужо ў поўлокця таўшчыні і, значыць, дастаткова моцны, каб вытрымаць вагу атрада з гарматамі і палявой артылерыяй. Зноў збяруцца яны на параду і тут спакойна, цярпліва, за шматлікімі кубкамі гатаванага віна, прыдуць да заключэння, што нядрэнна было-б захапіць нашы караблі і прысвоіць сабе тыя багацці, якія мы адбілі ў лісабонцаў...

— Складана гаворыш,—сказаў Уленшпігель.—Але паглядзі т-ка на горад. Што гэта за людзі, якія бегаюць там, размахваючы ліхтарамі?

— Холадна ім, вось яны і бегаюць,—сказаў Ламе і дадаў, жаласна ўздыхаючы:—Усё з'едзена. Няма больш ні мяса, ні дзічыны, ні віна. Адны толькі сухары і кіслае піва. Усе, хто мяне любіць, за мной!

— Ты куды?—закрычаў Уленшпігель.—Ніхто не мае права пайсці з карабля! Назад!

— Сын мой,—сказаў Ламе,—цяпер ты наш капітан, і я абавязаны табе падпарадкавацца ва ўсім. Але сам падумай: пазаўчора мы з'елі апошнюю каўбасу. На двары ма-

роз. Кухонны ачаг цяпер усё адно што сонца для верных таварышоў. Што можа развесяліць нас, калі ён стаіць халодны і беспрытульны? Сын мой, паглядзі на аганькі, што мігцяць на беразе, на суседняй ферме. Ведаеш, хто там жыве? Адзін фрысландскі судаўшчык, па імю Дырык Слосе. Калі Энкгейзен быў яшчэ ў руках іспанцаў, ён завабіў туды пана Дандло і яшчэ восемнаццаць рэфарматаў і перадаў іх герцагу Альбе. Рэфарматы былі пакараны смерцю ў Бруселі, на Конным рынку. Дырык Слосе атрымаў за гэта ад герцага дзве тысячы фларынаў. На гэтыя грошы ён купіў сабе гэту ферму, поле і мноства жывёлы.

— Попел Клааса паліць маё сэрца!—сказаў Уленшпігель.

— Дай мне дзесяткі два салдат,— сказаў Ламе.—Я захаплю здрадніка.

— Я сам буду вашым начальнікам,—сказаў Уленшпігель.—За мной, сябры!

Салдаты кінуліся за Уленшпігелем.

— Не ўсе, не ўсе,—сказаў Уленшпігель.—Хопіць дваццаць чалавек. Астатнія застануцца ахоўваць карабль. Кіньце жрэбій—каму ісці, каму заставацца.

Кінулі жрэбій, і дваццаць чалавек смелякоў прымацавалі канькі. Вецер свісцеў і гнаў па лёдзе снежныя віхуры. Нячутна беглі гёзы. Толькі канькі павісквалі пад нагамі.

На беразе было цёмна і бязлюдна. Затаіўшы дыханне, гёзы абкружылі ферму. Уленшпігель загадаў салдатам схавацца ў свіран. Салдаты схаваліся. Не было чуваць ні гуку.

Уленшпігель падышоў да дома і моцна пастукаў у дзверы. Забрахалі сабакі. Уленшпігель пастукаў яшчэ раз. Гаспадар выглянуў з акна.

— Хто там?

— Пан дэ-Бусю загадаў табе зараз-жа з'явіцца ў Амстэрдам!—сказаў Уленшпігель.

— Пакажы пропуск!—сказаў гаспадар, адчыняючы дзверы.

— Тут пропуск!—сказаў Уленшпігель і разам з гезамі кінуўся ў дом здрадніка.

— Ты—Слосе, які выдаў пана Дандло і восемнаццаць рэфарматаў,—сказаў ён гаспадару.—Дзе тыя грошы, якія ты атрымаў за здрадніцтва?

— У мяне нічога няма,—сказаў гаспадар.—Злітуйцеся нада мной, панове гёзы!

— Дзе ў цябе свечкі?—спытаў Ламе.

— Вунь там вісяць на сцяне,—сказаў гаспадар.

Запалілі свечку.

— Холадна,—сказаў адзін з гёзаў.—Запалім у каміне! Вось добрая распалка!

І ён паказаў на паліцу, дзе стаялі гаршкі з пасохлымі кветкамі. Салдат выцягнуў з гаршка крайнюю кветку, гаршчок упаў, і па падлозе рассыпаліся бліскучыя залатыя фларыны.

— Дык вось дзе твае грошы!—закрычалі гёзы.

Яны вытраслі зямлю з гаршкоў і знайшлі ў іх дзесяць тысяч фларынаў.

Гаспадар плакаў і клікаў на дапамогу. Збегліся работнікі. Яны хацелі было дапамагчы гаспадару, але гёзы хутка звязалі іх усіх.

— Дзе ключы ад кароўніка і аўчарні?—спытаў Ламе.

— Вы будзеце павешаны, рабаўнікі праклятыя,—сказаў гаспадар.

— Прышла гадзіна расплаты,—сказаў Уленшпігель.— Падавай ключы!

— Бог адпомсціць за мяне,—сказаў гаспадар, аддаючы ключы.

Спустошыўшы ферму, гёзы пайшлі назад. Яны гналі перад сабой вялізны статак кароў, свіней і бараноў. Бачонкі з півам і віном везлі на маленькіх санках. У кашах і мяхах цягнулі жывую і бітую птушку. Жывёла мычэла, куры кудахталі, лёд весела рыпеў пад канькамі.

— Я карабельны кок,—сказаў Ламе.—За мной, дзеці мае! Мы атрымалі слаўную перамогу. Не давайце быкам разбягацца! Цягніце іх за рогі! Вось мы і дома! Спускайце блокі, сябры! Падвязвайце быкоў за жывот! Падымайце!

Вось дык мяса нам дасталося! Кідайце гусей проста ў трум! Адтуль не паўцякаюць. А хто скруціць ім шыю? Сам карабельны кок. Няхай жывуць гёзы!

Дырыка Слосе разам з яго работнікамі прывялі на адміральскі карабль. Палоннікі дрыжэлі ад страху і малілі аб літасці.

На шум вышаў адмірал Ворст.

— Гэта што за людзі?—спытаў ён.—Што табе ад мяне патрэбна, Уленшпігель?

— Гэта Дырык Слосе, здраднік,—сказаў Уленшпігель,—ён выдаў іспанцам восемнаццаць нашых таварышоў. Сёння ўночы мы пачысцілі яго ферму. Гэтыя чырвонцы раслі ў яго кветкавых гаршках. Усяго тут дзесяць тысяч.

— Вы не мелі права пакідаць карабль,—сказаў адмірал Ворст,—але дзеля вашага поспеху я вам дарую. Гэты мех з грашыма нам вельмі спатрэбіцца. Вы, па нашых марскіх звычаях, атрымаеце трэцюю частку здабычы. Другая трэцця частка будзе перадана флоту, а трэцця—яго высокасці прынцу Оранскаму. Здрадніка павесіць.

Загад адмірала быў выкананы. Потым гёзы высеклі ў лёдзе палонку і кінулі туды цела здрадніка.

— Ці не трава ўжо вырасла вакол караблёў?—сказаў адмірал Ворст.—Я чую, як мычаць каровы, як бляюць авечкі і як сакочуць куры.

— Гэта наша кухонная здабыча,—сказаў Уленшпігель.—Вы, пан адмірал, атрымаеце самыя смачныя кавалачкі.

Потым, звярнуўшыся да работнікаў Дырыка Слосе, Уленшпігель заявіў:

— Вы, хлапцы, калі хочаце ісці назад, заплаціце за сябе выкуп. Калі-ж хочаце застацца з намі і зрабіцца вернымі гёзамі, заставайцеся. Мы праводзім час у бойках і пірушках. Нам патрэбны адважныя таварышы.

І работнікі засталіся на караблі Уленшпігеля.

У гэтыя і ў наступныя дні на караблях ішоў безупынны пір.

— Няхай жывуць гёзы!—гаварыў Уленшпігель.—Наша сэрца гарыць любоўю да свабоды, наш страўнік прагне

непрыяцельскай смажаніны. Еш, колькі ўлезе! Пі віно ворага! Няхай жывуць гёзы!

Неле таксама піла з залатога келіха і, расчырванеўшыся ад ветру, грала на сваёй дудцы. І, не гледзячы на холад, гёзы цэлыя дні піравалі, седзячы на палубе.

Аднойчы ўвечары гёзы заўважылі на беразе нейкі рух. Бліснулі факелы, бразнула зброя. Потым факелы згаслі, і надышла цемра.

Адмірал загадаў быць напагатове. Агні на караблях загасілі. Салдаты і матросы ляглі на палубе і падрыхтавалі свае сякеры. Кананіры з кнатамі ў руках сталі каля гармат. Гарматы былі заражоны, але страляць без каманды адмірала ніхто не меў права. Адмірал хацеў падпусціць непрыяцеля на сто крокаў. Тады, пасля каманды, караблі павінны былі распачаць смяротны агонь з усіх гармат і знішчыць праціўніка на блізкай адлегласці.

Запанавала поўная цішыня.

— Смерць таму, хто скажа хоць адно слова!—папярэдзіў адмірал Ворст.

— Смерць таму, хто скажа хоць адно слова!—паўтарылі капітаны.

Зноў цішыня.

— Чуеш, як перамаўляюцца між сабой амстэрдамцы?— бязгучна шаптаў Уленшпігель на вуха Ламе.—Чуеш, як рыпіць лёд? Яны хутка бягуць на сваіх каньках. Мабыць, думаюць, што мы спім. Вось запальваюцца факелы. Цягнуць крукі і лесніцы. Іх тысяча чалавек, калі не больш.

— Сто крокаў!—крыкнуў адмірал Ворст.

— Сто крокаў!—паўтарылі капітаны.

Грымнуў залп з усіх гармат. На лёдзе пачуліся жаласныя стогны.

— Яны ўцякаюць!—сказаў Уленшпігель. — Глядзіце, факелы аддаляюцца.

— За імі!—загадаў адмірал.

— За імі!—паўтарылі капітаны.

Але пагоня не мела поспеху; ворагі ўцякалі хутчэй за зайцаў.

У наступную раніцу Ламе выбег на палубу і сказаў Уленшпігелю:

— Дзе гэты адмірал, які не хацеў слухаць сваіх прадраканняў? Адвядзі мяне да яго!

— Ідзі сам, калі хочаш,—сказаў Уленшпігель.

Ламе замкнуў кухню на ключ і пайшоў на адміральскі карабль.

— Пан адмірал,—сказаў Ламе, наблізіўшыся да Ворста.—Ці не дазволіце вы скромнаму карабельнаму коку выказаць сваю думку?

— Кажы, сын мой,—сказаў адмірал.

— Ваша светласць,—сказаў Ламе,—вада тае ў бочках, птушка зрабілася далікатнай, з каўбас сышла намаразь, масла размякла, соль зрабілася вільготнай. Хутка пойдзе дождж. Мы будзем выратаваны, ваша светласць.

— Хто ты такі,—спытаў адмірал Ворст.

— Я Ламе Гудзак, кухар з «Брылі»,—адказаў ён.— Калі-б вялікія астраномы чыталі па зорках гэтак-жа добра, як я па маіх падліўках, яны-б сказалі вам, што ў гэтую ноч будзе адліга з бурай і дажджом. Але адліга працягнецца нядоўга.

Ламе вярнуўся на свой карабль і каля поудня заявіў Уленшпігелю:

— Я аказаўся прарокам! Глядзі, як пацямнела неба. Вецер завывае, льецца цёплы дождж. Больш як на фут вады над лёдам!

Увечары, у час прыліву, на Зюйдзерзее трэснуў лед. Вялізныя крыгі насіліся па хвалях і білі ў карабль. Адмірал загадаў адыйсці ад Амстэрдама. Караблі гёзаў зняліся з месца і пайшлі ў Энкзейзен.

---

## Раздзел 30. Аб тым, як Ламе адкармліваў антверпенскага каноніка

Хутка караблі атрымалі загад: падняцца па Шэльдзе да Антверпена і захапіць там непрыяцельскія судны. Загад быў выканан бліскуча: былі захоплены ўсе судны, нават тыя, якія стаялі ў парту. Сярод белага дня гёзы ўвайшлі ў горад, вызвалілі ўсіх палонных і захапілі многіх знатных грамадзян, каб атрымаць за іх потым добры выкуп.

— Сын адмірала ў манастыры,—сказаў Уленшпігель Ламе.—Пойдзем адшукаем яго.

Яны знайшлі юнака ў кампаніі з тоўстапузым манахам, які, крычучы і лаючыся, намагаўся звярнуць яго ва ўлонне святой каталіцкай царквы. Ламе схапіў манаха за капюшон і пагнаў яго па вуліцах горада.

— Ты заплоціш за сябе сто фларынаў выкупу,—крычаў Ламе.—Хутчэй паварочвайся, пузан! Што ў цябе, свінцом наліты ногі, ці што? Ды рухайся-ж ты, тоўстае бруха! Яшчэ хутчэй, тлустая ўтроба!

— Я іду, пан гёз, я іду,—задыхаючыся гаварыў манах.—Але, не гледзячы на ўсю павагу, якую я адчуваю да вашага аркебуза, я павінен вам сказаць, што і ваша бруха дрыжыць ад тлушчу.

— Як ты адважваешся, агідны манах, параўноўваць свой манастырскі тлушч з маім добрым працоўным фламандскім тлушчам!—закрычаў Ламе, штурхаючы манаха.—Бяжы бягом, а не дык я заб'ю цябе, як сабаку!

Але манах не мог бегчы: ён задыхаўся ад задышкі. Ды і Ламе, па-праўдзе кажучы, ледзь паспяваў за ім. Так яны і дабраліся да карабля.

Праз некалькі дзён з Ламе здарылася няшчасце. У баі пад Алькмарам яго паранілі сякерай у ляжку. Ламе ледзь дацягнуўся да карабля і злёг у сваёй кухні. Манах, не бачачы свайго ўладара, пачаў задзіраць на караблі нос.

— Вы паскудныя, карослівыя сабакі,—гаварыў ён гёзам, разгульваючы па палубе.—Вы адышлі ад улоння маці нашай святой каталіцкай царквы і цяпер заблыталіся ў грахах і разбоях. Ведайце, што калі-б мяне не было на гэтым праклятым карыце,—мора даўным даўно праглынула-б вас, разам з вашымі гарматамі і капітанам. Вялік гасподзь! Ён не кіне вас у агонь пякельны, але прымусіць замерзнуць на дне марскім. І я ўбачу з нябёсаў вашы замерзлыя трупы, ліловыя як буракі і белыя, як рэпа—ад нясцерпнага холаду. Будзе гэта! Будзе! Будзе!

Матросы здзекваліся з яго і кідалі ў яго сухім гарохам. Але манах, бачачы, што яго не збіраюцца вешаць, не сунімаўся.

— Мала вас палілі святыя інквізітары!—крычаў ён.— Мала вас палілі, чарвякоў праклятых! Раней караблі яго вялікасці стаялі новенькія і чысценькія, цяпер-жа іх запаскудзілі вы, чарвякі смярдзючыя! Але пачакайце! Кароль дабярэцца да вас і знішчыць да канца вашу смярдзючую заразу. Я плюю на вас, вось што!

— Ці доўга мы тут будзем цярпець гэтага абібока?— загаварылі гёзы.—Каму прыемна слухаць яго лаянку! Павесім яго, і справа скончана.

Прынеслі вяроўку. Да мачты прыставілі лесніцу. Тут толькі манах зразумеў, што яго справа кепская.

— Злітуйцеся нада мной, панове гёзы!—пачаў прасіцца ён.—Гэта сам дэман гаварыў ва мне, а не я, ваш бедны палонны. Даруйце мне! Калі хочаце, заткніце мне рот анучай. Хоць гэта і вельмі непрыемна для мяне, але вяроўка яшчэ горш.

Манаха пацягнулі да мачты. Ён брыкаўся і прарэзліва пішчэў.

Уленшпігель у гэты час сядзеў на кухні і перавязваў Ламе яго рану.

— Сын мой,—сказаў Ламе,—абібокі сцягнулі з хлева

свінню і збіраюцца зарэзаць яе без майго дазволу. Чуеш, як яна пішчыць? О, каб я мог падняцца з ложка!

Уленшпігель вышаў на палубу. Манах кінуўся да яго і паваліўся на калені.

— Пан капітан,—крычаў ён,—выратуйце мяне ад вяроўкі, малю вас! Злосны дэман спакусіў мяне, і я нагаварыў такіх рэчаў, якіх ніколі і не думаў. Памілуйце мяне, пан гёз!

На палубу вышаў Ламе—у адной бялізне.

— Значыць, гэта не свіння пішчэла, а манах,—сказаў ён.—Уленшпігель, сын мой, і вы, сябры, адпусціце гэтага чалавека. Ён мне патрэбен для адной вельмі важнай справы. Зробім для яго на палубе невялікую клетку, такую, каб у ёй можна было толькі сядзець і спаць,—як гэта робяць для каплуноў. Я сам буду карміць яго. І калі ён не будзе есці столькі, колькі я захачу,—тады ён будзе павешаны!

— Будзе павешаны!—сказалі Уленшпігель і гёзы.

— Што ты хочаш рабіць са мной, таўстун?—спытаў манах.

— Убачыш потым,—сказаў Ламе

Манаха пасадзілі ў клетку, а Ламе зноў спусціўся ў свой прытулак.

— Ведаеш навіну?—сказала яму Неле.—Да нашага флота далучыўся новы карабль. На ім нехта кожны дзень грае на віёле.

— Не чуў,—сказаў Ламе.—Чаго ты смяешся, сын мой?

— Там спявалі фламандскую песню,—сказаў Уленшпігель.—Голас мне здаўся такім пяшчотным і сумным.

— Ох!—сказаў Ламе, устаючы з ложка.—Яна таксама спявала і грала на віёле.

— Ляжы спакойна,—сказала Неле.—Калі ты будзеш ускакваць, твая рана адкрыецца, і ты памрэш.

— Ну і што-ж?—адказаў ён.—І памру! Я стаміўся жыць без маёй жонкі. І вы яшчэ перашкаджаеце мне, карабельнаму коку, уставаць з ложка і клапаціцца аб сваёй кухні.

— Ламе,—сказала Неле,—слухайся нас ва ўсім, і мы цябе вылечым.

— Так,—сказаў Ламе,—але я не дапушчу, каб які-небудзь брудны, смаркаты абібок панаваў у гэтай кухні і лазіў сваімі паскуднымі пальцамі ў мае падліўкі. Я заб'ю яго маім драўляным апалонікам!

— Але табе патрэбен памочнік,—сказаў Уленшпігель.— Ты-ж хворы...

— Памочнік!—ускрыкнуў Ламе.—Мне—памочнік! І гэта гаворыш мне ты, каго я так доўга і смачна карміў! Якая няўдзячнасць. Вось цяпер адкрыецца мая рана. Хто-ж будзе гатаваць вам абед? Хто будзе смажыць манастырскіх пулярак?

— Самі справімся на кухні,—сказаў Уленшпігель.

— На кухні!—ускрыкнуў Ламе.—Ты гадзішся для таго, каб піць і есці,—але працаваць на кухні—не, ты не здольны на гэта. Пакінь мяне, сын мой, карабельным кокам, інакш я памру ад нуды на сваім ложку.

— Ну, хай будзе па-твойму,—сказаў Уленшпігель.— Калі-ж ты не ачуняеш, я замкну кухню, і мы будзем есці адны сухары.

— Ах, сын мой,—сказаў Ламе, плачучы ад радасці.— Ты добры, як божая матка!

З гэтага дня Ламе пачаў пакрыху папраўляцца.

Кожную суботу ён даўгой папружкай вымяраў талію манаха. У першую суботу ён сказаў:

— Чатыры футы.

Пасля гэтага ён вымераў сваю талію і хмурна дадаў:

— Чатыры з паловай.

Да восьмай суботы манах зрабіўся таўшчынёй у чатыры тры чвэрткі фута. Ламе засмяяўся ад задавальнення.

— Што табе ад мяне патрэбна, таўстун?—злосна спытаў у яго манах.

Ламе высунуў яму язык і нічога не адказаў.

Ён карміў манаха не менш за сем разоў у дзень.

— Вось тлустая фасоль на фландрскім масле,—гаварыў ён, падаючы яму міску.—Ты не еў у сваім манастыры нічога падобнага. Еш і папраўляйся.

— Вось брусельскія блінцы,—гаварыў ён пры другой закусцы.—Яны добра падсмажыліся. Масла так і цячэ з іх.

— Я не хачу есці,—гаварыў манах.

— Не, трэба есці!—адказваў Ламе.—Гэта-ж не грачнёвыя блінцы, а пшанічныя. Вось у цябе ўжо чатыры падбародкі, айцец мой. Хутка і пяты з'явіцца. Еш!

— Пакінь мяне ў спакоі, таўстун,—гаварыў манах.

— А на шыбеніцу хочаш?—крычаў Ламе.—Еш без размоў! Зараз я прынясу табе яшчэ пюрэ з гарошку са слаўнымі грэнкамі.

Ён прыносіў міску з гарохам і гаварыў:

— Я дадаў у гэты гарох клёцак. Праўда, яны крыху цяжкія для стрававання, але затое ад іх вельмі таўсцеюць. Еш удостач. Чым больш з'ясі, тым больш прынясеш мне задавальнення. Не адварачвайся, калі ласка, і не глядзі на гэтую ежу з такой агідай. Лепш есці, чым гойдацца на шыбеніцы. Пакажы-тка тваю ляжку! Ого, як патаўсцела! Два футы сем дзюймаў у абхваце! Таўсцей за ўсякую шынку!

Праз гадзіну ён зноў вяртаўся да манаха.

— Вось табе дзевяць галубоў,—гаварыў ён.—Я паклаў у іх кавалачак масла, крыху дёртага муската і гваздзікі. Пакаштуй, пальчыкі абліжаш.

На пятую закуску ён даваў яму рыбы.

— З'еш рыбкі,—гаварыў ён.—Пяты падбародак ужо расце ў цябе. Злева ён прыкметней, чым справа. Трэба, каб твой правы бок падкарміўся. На шостую закуску я табе прынясу тушаных малюскаў з сельдэрэем, мускатам і гваздзікай. Бачыш, як я клапачуся аб табе! Ты павінен любіць і паважаць мяне, нібы роднага бацьку. Што ты ўтаропіў на мяне свае вочы? Здзічэў ты, ці што? Хутка я прынясу табе місачку піўнога супа. Ён з мукі, цукру і карыцы. Гэта для таго, каб тлушч у цябе зрабіўся яшчэ больш далікатны і яшчэ больш хваляваўся пад скурай. Але ўжо ноч на дварэ! Спі з мірам! Будзь пэўны, што заўтра чакае цябе дзіўная ежа і твой друг Ламе, які не забываецца падкарміць цябе ў час.

— Ідзі і дай мне памаліцца богу!—гаварыў манах.

— Маліся ва ўсе насавыя закруткі,—адказваў Ламе.— Больш спіш—больш таўсцееш.

У маі месяцы рана Ламе адкрылася. Ліхаманка зваліла яго на ложак. Ён упрасіў Уленшпігеля вынесці яго на палубу і пакласці побач з клеткай манаха. Уленшпігель згадзіўся, але загадаў прывязаць Ламе да ложка. Ён баяўся, каб Ламе ў час прыступа хваробы не скінуўся ў мора.

Дзьмуў цёплы ветрык. Ярка свяціла сонца. Ламе ляжаў у трызні і, прыслухоўваючыся да плёску хваль, прыгаварваў:

— Суп кіпіць, сын мой! Суп кіпіць! Не забудзьце прыправіць яго карэннямі.

Калі ён апрытомніваў, дык глядзеў на манаха і паказваў яму язык.

— Ты абражаеш мяне, таўстун,—гаварыў манах.

— Не,—адказваў Ламе.—Я цябе адкармліваю. Як я рад, што ты таўсцееш!

Праз некалькі дзён Ламе запатрабаваў, каб на палубу паставілі вялікія вагі. Уленшпігель падняў Ламе і пасадзіў у адну шальку вагоў. У другую шальку пасадзілі манаха. Як толькі манах шлёпнуўся ў сваю шальку, Ламе паляцеў у паветра і весела закрычаў:

— Што, бачылі? Я—пушынка ў параўнанні з ім! Я ўзляцеў у паветра, нібы маленькая птушка. Зніміце-тка яго з вагоў, каб я мог выйсці. Цяпер пасадзіце яго зноў і пакладзіце гіры. Колькі ён важыць? Трыста чатырнаццаць фунтаў. Цяпер зважце мяне. Колькі? Дзвесце дваццаць? Ну, старая тлустая ўтроба, хто з нас цяпер таўстун?

---

## Раздзел 31. Аб тым, як красуня Калекен звярнулася да свайго супруга

Аднойчы на світанні Уленшпігель прачнуўся ад моцнага крыку.

— На дапамогу!—крычаў Ламе.—На дапамогу! Трымайце яе! Разрэжце мае вяроўкі!

Уленшпігель выскачыў на палубу.

— Чаго ты крычыш?—спытаў ён.—Я нічога не бачу.

— Гэта яна!—крычаў Ламе.—Бачыш шлюпку, якая плыве да нашага новага карабля? У ёй мая жонка! Спыні яе, Уленшпігель!

Неле паднялася на палубу.

— Неле, разрэж мае вяроўкі,—сказаў ёй Ламе.—Бачыш, як перавязана мая рана? Гэта яна перавязала яе, мая жонка. Вунь яна стаіць у шлюпцы. О, нашто яна зноў пайшла ад мяне!

Неле паклала руку на яго лоб.

— У яго ліхаманка,—сказала яна.

— Не, я паправіўся,—сказаў Ламе. — Дайце мне шлюпку. Разрэжце вяроўкі.

Уленшпігель перарэзаў вяроўкі. Ламе кінуўся да шлюпкі і ў адзін момант спусціў яе. У шлюпку селі— Уленшпігель, Неле, Ламе і яшчэ адзін вясляр. Ударылі вёслы, і шлюпка паімчалася да новага карабля, які стаяў у гавані, далёка ад іх.

— Як ты ўбачыў яе?—спытаў Уленшпігель.

— Я спаў,—сказаў Ламе,—і раптам чую—як быццам нейчая шлюпка ўдарыла ў карабельны борт. «Хто там?»— спытаў матрос. «Сябры», адказаў яе пяшчотны ўсхваля-

ваны голас. «Камандзір флібота «Іаганна» жадае гаварыць з Ламе Гудзаком», дадаў нейчы другі голас, мужны і грубы. Матрос скінуў ім лесніцу. І вось я бачу, як яна, апранутая ў мужчынскае адзенне, падыходзіць да мяне, цалуе мяне, плача і прыгаварвае: «Бедны мой мужанёк, не злуйся на мяне. Я дала абяцанне, што ніколі не падыйду да цябе, але я не магу выканаць гэтага. Ужо некалькі разоў я прыязджала сюды, калі ты быў у непрытомнасці, і перавязвала тваю рану. Я-ж вылечыла цябе, ці-ж не праўда, мой любы? Лягчэй табе? Пусці-ж мяне, я павінна ехаць. Ён можа ўбачыць мяне. Я баюся яго. Не злуйся, бывай». І яна пайшла, не гледзячы на мае слёзы і стогны. Ах, чаму я быў звязаны гэтымі праклятымі вяроўкамі!

Ламе і грабец усё мацней налягалі на вёслы. Наперадзе на ясным небасхіле віднеліся стройныя мачты новага флібота.

— Бачыш, яна стаіць на палубе і грае на віёле!—сказаў Ламе.

Убачыўшы шлюпку, капітан флібота загадаў кінуць з палубы лесніцу. Ламе, нібы кот, ускочыў на лесніцу, ледзь не скінуўся ў мора, але ўстрымаўся і хутка ўзлез на палубу.

— Ламе, не падыходзь да мяне!—закрычала яго жонка.—Я дала абяцанне, Ламе!

— Гэта Калекен Гебрэйхтс!—ускрыкнула Неле.—Красуня Калекен!

— Што ты нарабіла?—гаварыў Ламе, абдымаючы жонку.—Што з табой здарылася? Чаму ты зноў хочаш пакінуць мяне?

— Слухай,—сказала яна,—я дала абяцанне богу. Мяне навучыў гэтаму брат Карнеліс Адрыансен, прапаведнік.

— Што?—ускрыкнуў Ламе.—Гэты тлусты таракан, які вечна праклінае рэфарматаў? Гэты нягоднік, які заўсёды расхвальвае інквізіцыю і папскія законы? Так вось хто ён такі—гэты нягоднік!

— Не зневажай чалавека божага!—сказала Калекен.

— Чалавека божага!—сказаў Ламе.—Ведаю я гэтага божага чалавека! Гэта брудная, подлая жывёла. О, чаму

мая красуня Калекен трапіла яму ў лапы! Не падыходзь да мяне, я кіну цябе ў мора!

— Слухай, я раскажу табе, як гэта здарылася,—сказала Калекен.—Брат Адрыянсен, ты сам ведаеш,—наш лепшы прапаведнік. Я пайшла яго паслухаць. Ён гаварыў, што духоўнае жыццё і бясшлюб'е—вышэй за ўсё на свеце. Яны даюць нам царства нябеснае. Манах так красамоўна гаварыў, што ўсе мы—жанчыны, дзяўчаты, удовы—паверылі яму. Мы—замужнія жанчыны—далі абяцанне пайсці ад сваіх мужоў; дзяўчаты і ўдовы вырашылі ніколі не выходзіць замуж. Брат Адрыянсен узяў у нас клятву, што мы будзем спавядацца толькі ў яго; я дала яму абяцанне. У Бруге, каля манастыра мінарытаў жыла адна жанчына, па імені Кале дэ-Нажаж. За адзін залаты каролус у месяц яна давала багамолкам прытулак і ежу. Я пасялілася ў яе і пачала кожны дзень хадзіць у манастыр, каб умацаваць сябе ў нашай святой рэлігіі.

— Ох,—плакаў Ламе.—І гэтая агідная свіння выслухоўвала тваю нявінную споведзь!

— Але я заўсёды любіла цябе,—казала далей Калекен.—Памятаеш Бруге? Я бачыла ў акно, як ты праехаў у каламажцы разам з Уленшпігелем. Я пабегла следам за вамі. Вы прадалі каламажку і піравалі. У калідоры я падбегла да цябе і моцна цябе пацалавала. Ты быў п'янаваты і нічога не заўважаў. Памятаеш?

— Дзе цяпер гэты манах?—панура спытаў Ламе.

— Благія людзі абвінавацілі яго ў розных злачынствах. Брат Адрыянсен пакінуў Бруге і перабраўся ў Антверпен. Мне сказалі, што ты ўзяў яго ў палон.

— Што!—закрычаў Ламе. — Манах, якога я адкармліваю!..

— Ён!—сказала Калекен і затуліла твар рукамі.

— Сякеру!—зароў Ламе.—Дайце мне сякеру! Я засяку гэтую скаціну! Шлюпку мне! Дзе шлюпка?

— Не дазволю табе крыўдзіць палоннага!—сказала Неле.

Усе зноў спусціліся ў шлюпку і паляцелі назад.

— Ты цяпер мяне не кінеш?—спытаў Ламе ў жонкі.

— Не,—адказала яна.

Ламе павесялеў.

— Добра,—сказаў ён.—Я толькі выпушчу яго з клеткі.

На караблі Ламе адамкнуў клетку і хацеў выцягнуць манаха на палубу. Але той не пралазіў у дзверы. Ламе хацеў праштурхнуць яго бокам, але гэта таксама не ўдалося.

— Прыдзецца ламаць клетку,—сказаў Ламе.—Ад'еуся каплун.

Клетку зламалі. Мігаючы атупелымі вочкамі, манах вышаў на палубу. У гэтую хвіліну хваля пракацілася пад караблём, і манах шлёпнуўся на палубу.

— Што, крыкун?—сказаў Ламе.—Цяпер ты ўжо не лаеш бедных гёзаў? Калі цябе пакінуць яшчэ на год у клетцы, ты больш не здолееш з яе выйсці. Шчокі твае калоцяцца, як свіны студзень; ты ўжо не крычыш больш, а толькі хрыпіш ды аддуваешся.

— Сціхні, таўстун!—сказаў манах.

— Таўстун! — зароў Ламе.—Я Ламе Гудзак, што значыць Мех Дабра, а ты, нягоднік,—Мех Бруду, Мех Абжорства, Мех Подласці. Вочы ў цябе заплылі, сала пад скурай не менш чым на чатыры пальцы. Гэта я выкарміў цябе, страшыдла! Гавораць, што ўдар прыходзіць з сёмым падбародкам. Чакай яго, паскуднік: у цябе ўжо пяць з паловай.

— Слухайце, гёзы,—казаў ён далей, звяртаючыся да таварышоў.—Слухай, Уленшпігель, слухай, Неле, дзіця маё. Я адыходжу ад вас і пасялюся з жонкай у Флісінгене. Там у мяне ёсць такая-сякая маёмасць Некалі вы пакляліся мне зрабіць усё, што я ў вас папрашу.

— Слова гёзаў,—сказалі таварышы.

— У такім выпадку,—сказаў Ламе,—паглядзіце на гэтага машэнніка. Гэта брат Адрыянсен з Бруге. Ён займаецца тым, што адбівае жонак ад іх законных мужоў. Я пакляўся, што ён памрэ тут ад атлусцення. Зрабіце яму вялікую клетку і карміце яго па дванаццаць разоў на дзень. Давайце яму тлустую і салодкую страву. Ён ужо як бык,

але хутка будзе, як слон і запоўніць сваёй тушай усю клетку.

— Мы адкормім яго,—сказалі гёзы

— А цяпер,—сказаў Ламе манаху,—я развітваюся з табой, абібок. Тлусцей і чакай удара. Вось я забіраю з сабой жонку і іду. Што, мычыш ад злосці, страшыдла?

— Як!—закрычаў манах.—Ты ідзеш да мужа! Ідзеш, не пашкадаваўшы мяне, беднага мучаніка, які настаўляў цябе ў веры Хрыстовай! Будзь проклята! Няхай зямля спаліць твае ногі, няхай цукар здасца табе соллю, няхай хлеб будзе для цябе горш за печны попел. Будзь ты тройчы праклята святой тройцай і сем разоў каўчэгам завета. Няхай споведзь будзе для цябе пракляццем, а прычасце—атрутай смяртэльнай. Няхай кожная пліта паднімецца ў царкве і скажа табе: «Гора табе! Праклята ты і асуджана на пакуты вечныя!».

Ламе рагатаў, слухаючы прапаведніка, а Калекен павалілася на калені і крычала:

— О, знімі з мяне пракляцце! Знімі пракляцце, малю цябе!

— Знімі пракляцце!—сказаў Ламе.

— Не зніму, таўстун,—сказаў манах.

— Вяроўку сюды!—закрычаў Ламе.—Знімай пракляцце, ці будзеш павешаны.

— Будзеш павешаны!—сказалі гёзы.

— Ну,—сказаў манах.—Ідзі, нягодніца, ідзі з гэтым таўстуном! Знімаю з цябе пракляцце, але гасподзь і яго святыя будуць сачыць за табой.

— Ён задыхаецца,—сказаў Ламе.—Хутка з ім будзе ўдар. Бывайце, сябры. Стойце моцна за справу свабоды!

Ён пацалаваўся з усімі і сеў у лодку разам з Калекен.

— Бывай, друг!—крычалі салдаты і матросы, махаючы капелюшамі.—Бывай, Ламе!

Яны сумленна выканалі сваё абяцанне і без адпачынку адкормлівалі манаха. Калі яго выкупілі з палону, у ім было трыста семнаццаць фунтаў і пяць унцый фландрскай вагі.

Гэта быў самы тоўсты настаяцель ва ўсіх фландрскіх манастырах.

## Раздзел 32. Заключны

Крывавы герцаг Альба пакінуў Нідэрланды. Праз некалькі гадоў пасля яго ад'езду на чале краіны сталі генеральныя штаты.

Дваране-католікі і дваране-рэфарматы заключылі паміж сабой згоду, каб дапамагаць адзін аднаму ў барацьбе супроць іспанцаў. Але гэтая згода была толькі на паперы. Разлад і ўнутраное бязладдзе раздзіралі краіну. Грошы, прызначаныя на ўтрыманне арміі, зніклі невядома куды. Пятнаццаць тысяч грамадзян, пацярпеўшых ад іспанскага суда, павінны былі атрымаць назад сваю канфіскаваную маёмасць. Але час ішоў, і яны нічога не атрымлівалі. Бельгія была разгромлена валонамі і пакутвала пад іспанскім ярмом. Народ наракаў і праклінаў здраднікаў.

Нарэшце генеральныя штаты сабраліся ў Гаазе, каб судзіць караля Філіпа.

— Кожнаму вядома,—гаварыў старшыня сходу,—што гасудар краіны павінен любіць сваіх падданых і абараняць іх ад усякага гвалтоўя. Калі ён гэтага не робіць, яго трэба лічыць не гасударом, а тыранам. Кароль Філіп кінуў на нас чатыры арміі і змучыў нашу краіну. Якое належыць яму пакаранне паводле нашых законаў?

— Хай будзе звергнуты!—сказалі прысутныя.

— Філіп парушыў свае клятвы. Ён забыўся на паслугі, якія мы яму зрабілі. Ён забыўся аб перамогах, якія мы яму дапамагалі атрымаць. Ён разграбіў нашу маёмасць. Ён увёў у нашай краіне іспанскую інквізіцыю.

— Хай будзе звергнуты, як кат і рабаўнік,—сказалі прысутныя.

— Мы хочам захаваць усе свае вольнасці,—казаў далей старшыня.—Мы стаім за цвёрды мір і свабоду веры. Ад Філіпа-ж мы не бачылі нічога, апрача грабяжоў, канфіскацый і пакаранняў.

— Хай будзе звергнуты, як забойца, які задумаў загубіць краіну!—сказалі прысутныя.

Каралеўскія пячаткі былі паламаны, і Нідэрланды былі абвешчаны свабоднай краінай, незалежнай ад Іспаніі. Толькі адна Бельгія засталася пад уладай Філіпа.

Уленшпігель у гэты час жыў непадалёк ад мора ў вартавой вежы Неерэ. Ён сачыў, каб іспанцы зноў не ўрваліся ў нідэрландскія землі. Яго арліныя вочы бачылі на шмат міль навокал, і кожную хвіліну ён гатовы быў ударыць трывогу.

Магістрат плаціў яму па фларыну ў дзень, і, апрача гэтага, выдаваў яму па два кубкі піва, па мяшку фасолі і сухароў і па тры фунты мяса ў тыдзень.

Так жылі яны ўдвух з Неле. У далечыні перад імі ляжалі вольныя Зеландскія астравы, унізе цямнелі лясы, віднеліся замкі і крэпасці. І на моры, удоўж берагоў, плавалі караблі гёзаў, ахоўваючыя ўзбярэжжа.

Часта ўночы паднімаліся яны на вяршыню вежы і сядзелі там, успамінаючы аб мінулых бітвах. Мора то адлівала, то прылівала к берагу, і хвалі яго свіціліся фасфарычным святлом. Унізе на лугах, дзе некалі грымелі бітвы, цяпер blішчэлі балотныя агеньчыкі, бледныя і заміраючыя.

— Гэта душы забітых блукаюць над зямлёй,—спалохана гаварыла Неле.

Аднойчы, пасля бяссоннай ночы, прыгрэты праменнямі сонца, Уленшпігель заснуў ля падножжа вежы.

Неле прышла яго будзіць, але ён не рухаўся і быў нібы мёртвы. Жах апанаваў Неле. Прайшлі дзве ночы і яшчэ дзень. Уленшпігель не прачынаўся. Прыгнечаная горам Неле сядзела каля Уленшпігеля і не адрываючыся глядзела яму ў твар.

На другі дзень раніцой недзе блізка пачуліся гукі званочка. На дарозе паказаўся селянін з рыдлёўкай на плячы.

За ім ішлі бургамістр, двое старшынь і, нарэшце, кюрэ са святымі дарамі ў руках. Служка трымаў над яго галавой вялікі раскрыты парасон.

Яны ішлі спавядаць адважнага Якабсена, які некалі зрабіўся гёзам, а цяпер, збіраючыся паміраць, зноў вяртаўся ва ўлонне святой каталіцкай царквы.

Бургамістр спыніўся і спытаў Неле:

— Дзяўчына, што ты робіш каля гэтага нябожчыка?

— Я малюся за майго друга,—адказала Неле.—Ён памёр раптоўнай смерцю, быццам забіты маланкай. Я таксама хачу памерці разам з ім.

— Гёз Уленшпігель памёр!—радасна закрычаў кюрэ.— Мужык, капай хутчэй магілу! Мы закапаем яго пад гэтай вежай.

— Добра,—са слязмі сказала Неле,—тут пясок, значыць, цела друга майго застанецца непашкоджаным.

І, ашалеўшы ад гора, яна павалілася на зямлю і, рыдаючы, цалавала свайго Уленшпігеля.

— Дзякуй богу!—весела паўтараў кюрэ.—Няма больш вялікага гёза!

Бургамістр і старшыні сумна глядзелі на нябожчыка.

Селянін выкапаў магілу, апусціў у яе Уленшпігеля і засыпаў пяском. Усе сталі на калені. Кюрэ пачаў чытаць заўпакойную малітву.

Раптам пясок закалыхаўся, і з яго паказалася галава Уленшпігеля. Чхаючы, Уленшпігель выскачыў з ямы і схапіў кюрэ за горла.

— Інквізітар!—закрычаў ён.—Ты хаваеш мяне жывога! Дзе Неле? Хто ты такі?

— Вялікі гёз уваскрос!—у жаху закрычаў кюрэ і кінуўся ўцякаць, падняўшы расу.

Неле кінулася да Уленшпігеля.

— Пацалуй мяне, любая,—сказаў ён.

Селянін уцякаў услед за кюрэ. Служка, кінуўшы крэсла і парасон, бегла за селянінам. Бургамістр і старшыні, заткнуўшы ад страху вушы, ляжалі ў траве і стагналі.

Уленшпігель падышоў да іх і, страсянуўшы, паставіў іх на ногі.

— Хіба можа памерці Уленшпігель, дух нашай слаўнай радзімы?—сказаў ён.—Хіба можна пахаваць Неле—сэрца нашай маці Фландрыі? Не! Заснуць яны могуць, але памерці—ніколі! Хадзем, Неле.

І яны пайшлі, спяваючы вясёлую песню. І ніхто не ведае, калі яны праспявалі яе ў апошні раз.

---

## ЗМЕСТ

### *ЧАСТКА ПЕРШАЯ*

**Маладыя гады Уленшпігеля**

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### Паўстанне гёзаў

